В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль, С. Р. Рачэўскі

# Беларуская мова

Вучэбны дапаможнік для 6 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай
мовамі навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2009

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
К78

А ў т а р ы:

**В. П. Красней** («Паўтарэнне вывучанага ў 5 класе», «Самастойныя і службовыя часціны мовы», «Назоўнік», «Прыметнік», форзацы);

**Я. М. Лаўрэль** («Беларуская мова — нацыянальная мова беларускага народа», «Лічэбнік», «Дзеяслоў», «Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага за год»);

**С. Р. Рачэўскі** («Займеннік»)

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (кандыдат педагагічных навук, дацэнт *У. П. Саўко*);
метадыст аддзела грамадска-гуманітарнай адукацыі Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі *В. Л. Душэўская*

**Умоўныя абазначэнні:**

 — правіла;

 — для азнаямлення;

 — звярніце ўвагу;

 — заданні павышанай цяжкасці;

 — дадатковыя заданні;

 — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;

 — правесці фанетычны разбор слова;

 — зрабіць марфалагічны разбор слова;

 — зрабіць сінтаксічны разбор сказа;

 — разабраць слова па саставе;

 — правесці лексічны разбор слова;

 — дамашняе заданне

ISBN 978-985-465-596-3

*Роднае слова!*
*Ты нам тлумачыш усе дзівы свету.*

Цётка

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Адной з істотных адзнак кожнага народа з'яўляецца яго мова. Беларускі паэт Францішак Багушэвіч пісаў, што мова — гэта «адзежа душы» чалавека. Яна ўніверсальная форма выяўлення, існавання і захавання духоўнай культуры нацыі. Па мове людзі пазнаюць, якой нацыянальнасці чалавек.

Доўгі, слаўны, але нялёгкі шлях прайшла наша мова перш чым стаць нацыянальнай мовай беларускага народа, дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь.

Вялікай падзеяй у культурным жыцці беларусаў было з'яўленне першай друкаванай кнігі на роднай мове. Яе выдаў у 1517 г. наш славуты вучоны Францыск Скарына. Геніяльнае скарынаўскае пачынанне было прадоўжана яго паслядоўнікамі — Сымонам Будным і Васілём Цяпінскім.

Вялікую ролю ў развіцці беларускай нацыянальнай мовы адыгралі творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Кузьмы Чорнага і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Беларуская мова як дзяржаўная адкрывае для кожнага грамадзяніна суверэннай Беларусі шырокі шлях да ведаў, спрыяе фарміраванню яго асобы.

Любоў да сваёй Радзімы, народа пачынаецца з любові да роднай мовы. Мова яднае нас у народ, які носіць прыгожае, светлае, гордае імя — беларусы.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чаму мова — бясцэнны скарб народа?

2. Хто і калі выдаў першую беларускую друкаваную кнігу? Чаму гэта лічыцца вялікай падзеяй у жыцці беларусаў?

3. Творы якіх беларускіх пісьменнікаў адыгралі вялікую ролю ў развіцці беларускай мовы?

4. Чаму трэба вывучаць і шанаваць родную мову?

## § 1. Беларуская мова як адлюстраванне нацыянальнага бачання свету

**1.** Прачытайце верш. Назавіце сказ, якім выказана асноўная думка. Які сэнс укладвае аўтар у апошні сказ?

### Родная мова

Родная мова, цудоўная мова!
Ты нашых думак уток і аснова!
**Матчын** дарунак ад самай калыскі —
ты самацветаў* яскравая нізка.
Кожны з іх барвы дзівосныя мае,
вечным агнём зіхаціць — не згарае.
Ты мне заўсёды была дапамогай,
дзе б і якой ні хадзіў я дарогай.

*У. Дубоўка*

● Як вымаўляецца выдзеленае слова? Чаму?

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

Слова *нацыя* ўвайшло ва ўсеагульнае карыстанне ў другой палове XVIII ст. з лацінскай мовы «нацыё» — племя, народ. Яно ўжывалася часцей за ўсё ў значэнні «нацыянальнасць». Зараз слова ***нацыя*** абазначае ўстойлівую супольнасць людзей, узнікшую на базе супольнасці мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу, які праяўляецца ў супольнасці культуры. Гэта яшчэ і дзяржава, і краіна.

**2.** Прачытайце тэкст. Чаму для тлумачэння слова аўтар прыводзіць сказы і фразеалагізмы з гэтым словам?

Вызначце сказ, які перадае асноўную думку тэксту. А як бы вы адказалі на пытанне: чаму адны і тыя ж паняцці ў розных мовах перадаюцца часам словамі з зусім іншым сэнсам?

Гэты мой знаёмы шчыры чалавек — немец. Ён вывучае славянскія мовы. Госць просіць адказаць: ці ў беларускай таксама ёсць і ўжываюцца, як у рускай, *напрямик, прямо* (ісці).

Прыгадваю яму: *простка, напраcткі, проста, простая, праставаць.*

...Рака тут круга дае, ну, крука робіць, то як па рацэ — далекавата. А ёсць *простка,* па ёй можна і маторкаю; простка — усё адно як другая, толькі маленькая рака. *З Прыпяці ў Прыпяць ідзе, але проста. Простая дарога.*

...*Як хто ведае, то сюдою напраcткі блізка.*

...*Хто дарогу прастуе, той дома не начуе.*

...*Напраcткі пагубляеш дзянькі.*

Госць чуе слова *журавіна* (журавінка), адразу ж яго занатоўвае.

Яму хочацца атрымаць і разабраць хоць бы адно ўстойлівае спалучэнне з *журавінаю.* І, пачуўшы, паўтарае: *«Ах ты, мая журавіначка!»* Бярэ з паліцы «Фразеологический словарь русского языка», знаходзіць фразеалагізм: *Вот так клюква!* Сэнс — выказванне расчаравання, здзіўлення (як і беларускія — *вось табе і гацаца! вось табе і маеш! на табе!*).

Рэаліі адны, а фразеалагізмы розныя *(Паводле Ф. Янкоўскага).*



Кожны народ па-свойму ўспрымае навакольны свет. Самабытнасць народа, яго нацыянальная адметнасць, яго характар, мараль, этыка* найбольш выразна адлюстроўваюцца ў мове.

**3.** Прачытайце тэкст. З якой мэтай ён напісаны? Каму адрасуецца? Да якога стылю належыць? З якой мэтай тры першыя сказы аўтар пачынае аднолькава? Назавіце іншыя моўныя (лексічныя і сінтаксічныя) сродкі, якія адпавядаюць мэце тэксту.

Янка Купала прыйшоў у жыццё і літаратуру з вялікай гістарычнай місіяй*. Ён прыйшоў, каб сказаць свайму народу: ты — добры і шчыры, ты — вялікі і таленавіты, але ты станеш яшчэ больш вялікім і магутным, калі лепей сябе пазнаеш і мацней у сябе паверыш.

Янка Купала прыйшоў, каб сказаць усяму чалавецтву: звярніце ўвагу на мой народ — старажытны славянскі народ. Паглядзіце, якія цуды зроблены яго рукамі, якімі незлічонымі скарбамі багаты ягоны край. Загляніце ў душу гэтага народа, паслухайце, якія дзівосныя легенды і казкі складзены ім, якія непаўторна-самабытныя песні гучаць на яго зямлі, якая прыгожая і мілагучная яго мова... *(Н. Гілевіч)*.

**4.** Да якога стылю і жанру належыць тэкст? Абгрунтуйце сваю думку. Назавіце моўныя сродкі з тэксту, характэрныя гэтаму стылю.

## Як мужык у пана абедаў

Жыў на свеце пан. І быў ён надта ганарысты, сквапны. З роўнымі сабе панамі знацца не хацеў, а з простымі людзьмі трымаўся па-хамску.

Неяк зайшла ў мужыкоў гаворка пра пана. Адзін мужык і кажа:

— А я сёння буду абедаць у пана.

Смяюцца з яго, дзівака, а ён сваё:

— Паабедаю!

Пайшоў мужык у лес, злавіў вожыка. Дачакаўся, калі пан сеў абедаць, і заходзіць да яго.

— Чаго табе, мужык, трэба? — злосна запытаў пан.

А мужык паказаў яму вожыка і распавядае:

— Ішоў я па дарозе і падабраў вось што! Паказаў людзям, ды ніхто не ведае, што за зверына! Мужыкі народ цёмны, а пан вучоны. Вось і вырашыў я зайсці да вас, пане, запытаць.

Пан, каб паказаць сваю вялікую вучонасць, адказаў папольску:

— То еж.

— Што? — як заўсёды перапытаў мужык.

— Еж, — паўтарыў пан.

Тады мужык зняў шапку і сеў за стол.

— Дзякуй, паночку! І сапраўды я яшчэ не абедаў.

— Не, не! — закрычаў пан. — Гэта вожык.

— Што? — зноў перапытаў мужык.

— Вожык гэта! Вожык!

— Ой, паночку, не хвалюйся! Я хоць і мужык, але ўмею трымаць і відэлец і ножык.

Пан толькі махнуў рукою:

— Ат, глухі мужык!

● Падрыхтуйце інсцэніроўку тэксту. Якія словы аўтара ў рэпліках пры гэтым трэба апусціць? Чаму?

**5.** Прачытайце тэксты. Чым яны падобныя? Чым адрозніваюцца? Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Родная мова — люстэрка жыцця народа».

1. **Лапці**

Некалі бедным вяскоўцам скураныя боты, чаравікі і туфлі былі не па кішэні. Таму плялі лапці, насілі іх усе, дарослыя і дзеці. Насілі ў будні і ў святы! Насілі пры доме, у полі і на лузе.

Лапці плялі з лыка, лазовай кары, бяросты ці пянькі. Лыка дралі найчасцей з маладой ліпы, сушылі ў клеці або на гарышчы хаты. Потым яго размочвалі ў цёплай вадзе і плялі лапці.

Круглы год насілі кавярзні — лапці з глыбокім закрытым наском і запяткам. А лапці-шчарбакі плялі без наска і задніка: адна падэшва з лыкавымі петлямі для абор спераду і па баках. Насілі іх улетку, у сухое надвор'е. Мяккія скураныя лапці называлі пасталы.

Лапці выйшлі з ужытку. Але яны засталіся ў нашай мове *(«Вясёлка»)*.

● Скажыце, калі і чаму так гавораць: «Абуць у лапці», «На лапці не аб'ехаць», «Плесці кашалі з лапцямі».

2. **Павець**

Калёсы і сані трэба было недзе хаваць ад непагадзі, дажджу і снегу. У хлеў іх не зацягнеш, заміналі. І нашы продкі знайшлі для іх прыдатнае месца ў двары — пад павеццю.

Павець — пляцоўка пад страхою на слупах. Крылася яна саломаю, а пазней — гонтаю* або дранкаю*. Павець называлі яшчэ абозняю, або вазоўняю, калі там стаялі калёсы — вазы і сані. А там, дзе складваліся дровы, павець мела сваё найменне — дрывотня *(«Вясёлка»).*

## § 2. Літаратурная мова і народныя гаворкі

**6.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Назавіце моўныя сродкі з тэксту, характэрныя гэтаму стылю. Складзіце план і вусна перадайце змест.

Як адна з найбольш развітых моў, беларуская мова існуе ў некалькіх формах: літаратурнай (вуснай і пісьмовай), народна-гутарковай, дыялектнай. Кожная з іх мае свае адметнасці ў лексіцы, фанетыцы, граматыцы. Але аднолькавасць зыходных гукаў, слоў і формаў робіць іх зразумелымі на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Літаратурная мова абслугоўвае ўсе сферы жыцця нацыі. Вызначаецца слоўнікавым багаццем, развітасцю, апрацаванасцю і ўнармаванасцю сваіх формаў.

Сфера ўжывання гутарковай мовы абмежавана бытавымі зносінамі. Яна менш унармаваная, чым літаратурная мова.

**7.** Прачытайце.

Аснову беларускай літаратурнай мовы склалі цэнтральныя, або сярэднебеларускія, народныя гаворкі. Але гэта не значыць, што ўсе асаблівасці цэнтральных гаворак з'яўляюцца зараз нарматыўнымі і агульнанароднымі. У літаратурную мову, як вышэйшую форму існавання мовы нацыі, з гэтых гаворак увайшлі тыя асаблівасці, якія характэр-

ныя для ўсіх ці большасці народных гаворак Беларусі (напрыклад, зацвярдзелыя ***ж, ч, ш, р***; моцнае аканне; пераход ***г, к, х*** не толькі ў ***ж, ч, ш,*** але і ў ***з, ц, с***; аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова; наяўнасць ***ў***, прыстаўных гукаў і інш.).

Літаратурная мова і народныя гаворкі цесна ўзаемазвязаны. Літаратурная мова ўвесь час папаўняецца словамі з народных гаворак. Разам з тым літаратурная мова ўплывае на народныя гаворкі, збліжае іх.

● Да якога тыпу маўлення належыць тэкст? Назавіце часткі, якія адпавядаюць будове тэксту гэтага тыпу.

● Якія народныя гаворкі пакладзены ў аснову беларускай літаратурнай мовы?

● Якія асаблівасці беларускай мовы характэрныя для большасці беларускіх гаворак?

● Як звязаны літаратурная мова і народныя гаворкі?

**8.** Прачытайце тэкст, запісаны на мове народных гаворак.

Паехаў мужык у горад за аўсом длі каня, толькі што выйіхаў зь дзярэўні, конь стаў заварачваць назат к дому. Мужык ударыў каня пугай. Ён пашоў і думаіць пра мужыка: «Куды ён, дурак, міне гоніць; луччы п дамоў». Ні даіжджая да горада, мужык відзіць, што каню цяжка па гразі, зьвярнуў на маставую, а конь верніць прэчь ат маставой. Мужык ударыў пугай і таргануў каня *(Паўночна-ўсходнія гаворкі)*.

Паехаў мужык у горад за аўсом каню. Як толькі выехаў з села, конь пачаў павернаць назад дадому. Мужык уліменіў каня пугай. Ён пайшоў і думае пра мужыка: «Куды ён, дурань, мене гоніць; хай бу ж дадому». Не даежджаючы гораду, мужык бачыць, што каню важка па гразі, звернуў на шасейку, а конь верне прэч ад шасейкі. Мужык уліменіў пугай і сепнуў каня *(Паўднёва-заходнія гаворкі)*.

Пойіхав мужык на місто за овсом ля коня. Оно выйіхав с сыла, кынь став ворочаты назад дадому. Мужык вытяв коня бычём. Вын пошов і думае про мужыка: «Куды вын, дурэнь, мынэ жынэ. Ліпш бы додому». Ны дойіж-

джаючы до міста, мужык бачыть, што коневы тяшко по калу, вын звырну на брук, а кынь ворочае назад ад бруку. Мужык вытяв бычем і тузнув коня *(Палеская група гаворак).*

● Якія лексічныя, фанетычныя і граматычныя адрозненні вы заўважылі?

**9.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль. Каму адрасуецца тэкст? З якой мэтай напісаны?

Добра разумець адзін аднаго людзі могуць, калі яны ўжываюць словы з агульнапрынятым значэннем, формай, націскам і г. д., гэта значыць захоўваюць нормы літаратурнай мовы. Так, трэба гаварыць і пісаць: *заўсёды, заўжды, увесь час,* а не *заўшэ, цёгле,* як гэта можна пачуць у некаторых мясцінах Беларусі. Марфалагічная норма патрабуе, каб дзеясловы *ісці, несці, весці* ў літаратурнай мове ў 2-й асобе множнага ліку цяперашняга часу мелі націск на канчатку: *ідзяце́, несяце́, ведзяце́.* А дзеясловы *смяяцца, здзекавацца, кпіць* і падобныя спалучаліся з назоўнікамі пры дапамозе прыназоўніка ***з:*** *смяяцца з недахопаў, нельга здзекавацца з жывёліны, не кпі з таварыша (А. Каўрус).*

● Чаму неабходна захоўваць нормы літаратурнай мовы?

**10.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Назавіце характэрныя гэтаму стылю словы, формы слоў, якія ёсць у тэксце.

### Скрыпач і воўк

Быў у нас у сяле скрыпач Ахрэм. Яшчэ змалку навучыўся ён на скрыпцы граць, і роўнага яму не было, як іграў. А людзям таго і трэба. Вось прыйшла восень, пачаліся вяселлі — вота ж і клічуць Ахрэма то туды, то сюды.

Вота ж аднаго разу паклікалі яго ў другое сяло іграці. Вядомае дзела, вяселле скора не робіцца.

Прыйшлося Ахрэму вяртацца адтуль позна ўночы. Ісці трэба было лесам. Праз лес ішла ездавая дарога, каторую трэба было абмінаць. Ахрэм і думае: «Пайду проста сцежкаю — усё ж бліжэй будзе». Дый пайшоў.

Ноч была і так цёмная, а то яшчэ ў лесе. Ішоў ён, ішоў ды неяк заблукаўся, ды разам як праваліцца, як шубоўтне кудысь пад зямлю! Упаў і не так пабіўся, як налякаўся. Што яно такое?

Падумаўшы — дагадаўся: у лесе было шмат ваўкоў і шкоды было ад іх нямала, дык і стралялі, і лавілі. А лавілі іх так: выкапаюць яму глыбокую, дзе воўчых слядоў найболей, прыкрыюць тонкім галлём і травою прытрусяць, за ямаю яшчэ часам і прынаду паложаць. Як воўк прынаду счуе і пабяжыць да яе, ды ў яму і праваліцца. Вота ж у такую яму патрапіў і Ахрэм.

Як дагадаўся Ахрэм, дык трохі ад сэрца і адлягло. Калі чуе — у яме штось як завые! Ахрэм так і пахаладзеў. Глянуў — ажна процiў яго як бы дзве свечачкі гараць. Ахрэм ведаў, што ў воўка ўпоцемку вочы свецяцца і што гэта ваўчок папаўся ў ямку і сядзіць.

І думае Ахрэм: «Гэта ён цяпер спалохаўся, дык не чапае, а як ачухаецца, то з костачкамі з'есць мяне. Што рабіць? А ну, хіба на скрыпачцы зайграю».

Воўку, мабыць, спадабалася ігра, — пачаў ён пад музыку выць. Скрыпач грае, а воўк вые.

Ніколі яшчэ ён так шчыра не іграў, бо думаў, што як кіне іграць, то воўк зараз да яго ды з'есць.

Калі гэта адна струна — дзын! — дый парвалася. А Ахрэм усё іграе. Потым парвалася і другая струна. А Ахрэм усё іграе.

Калі пачалося на свет займацца, у скрыпцы засталася ўсяго адна струна.

Хто ведае, што было б, але раніцай ішоў лесам стралец. Ён пачуў, як іграе скрыпка і вые воўк. Падышоў да ямы і выбавіў Ахрэма.

З таго часу больш ужо Ахрэм ніколі понач сцежкаю нацянькі не хадзіў, бо казаў, што не хоча болей на воўчым вяселлі іграць *(К. Каганец).*

● Вызначце кампазіцыйныя часткі тэксту (уступ — завязка — развіццё дзеяння (кульмінацыя) — развязка — эпілог). Складзіце план і сцісла перакажыце змест тэксту літаратурнай мовай.

# ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў V КЛАСЕ

## § 3. Тэкст, яго стылі і тыпы

**11.** Прачытайце сказы пад лічбамі 1 і 2. Вызначце, на якую яны тэму. У якім выпадку сказы з'яўляюцца тэкстам? Абгрунтуйце сваю думку.

1. Да болю кранаюць журботныя развітальныя крыкі жураvoў. Стаяць апошнія пагодлівыя дні бабінага лета. Птушкі ляцяць невысока. Журавы прыхапілі з сабой лета і нясуць яго на крылах усё далей і далей. І вось у адну з раніц заўважаю ў небе клін жураvoў. Доўга стаю на адным месцы. Птушкі знікаюць, а я ўсё яшчэ нібы бачу і чую іх.

2. Стаяць апошнія пагодлівыя дні бабінага лета. І вось у адну з раніц заўважаю ў небе клін жураvoў. Птушкі ляцяць невысока. Да болю кранаюць журботныя развітальныя крыкі жураvoў. Доўга стаю на адным месцы. Птушкі знікаюць, а я ўсё яшчэ нібы бачу і чую іх. Журавы прыхапілі з сабой лета і нясуць яго на крылах усё далей і далей.

Да якога стылю адносіцца тэкст? Які загаловак можна яму даць?

Вызначце, якой сувяззю (паслядоўнай ці паралельнай) звязаны паміж сабой сказы ў тэксце.

Прачытайце тэкст яшчэ раз і запішыце яго па памяці.

**12.** Прачытайце і вызначце, што складае змест аднаго і другога тэкстаў. З якой мэтай яны створаны? Які тэкст з'яўляецца апісаннем?

1. Скрыпка з'явілася ў беларусаў ужо ў XVI стагоддзі, амаль на сто гадоў раней, чым у рускіх. Ні адно вяселле, ні адно свята не праходзіла без скрыпача. Рэпертуар народ-

ных скрыпачоў даволі разнастайны і ўключае традыцыйныя і сучасныя песні і танцы, вясельныя маршы. У музычным побыце сустракаюцца скрыпкі фабрычныя і самаробныя.

2. Скрыпка — струнны смычковы музычны інструмент, які мае 4 струны. Агульная даўжыня скрыпкі — 600 мм. У яе авальны корпус з выразамі па баках. Складаецца ён з дзвюх злёгку выпуклых драўляных пласцін — дэк, змацаваных абечкам*. Верхняя дэка мае дзве рэзанатарныя адтуліны. Паміж імі пад струнамі размешчана закругленая падстаўка.

**13.** Прачытайце тэкст і вызначце яго тэму. Які загаловак можна яму даць? Да якога стылю і тыпу маўлення ён адносіцца? Дакажыце гэта.

Я прылёг на сухі мох каля старой бурай сасны і задумаўся. Раптам з-пад жоўтых галінак папараці выслізнула ліса.

На фоне маладых зялёных елачак рыжае футра гарыць, як агонь, падкрэсліваючы белую грудку і чорныя ногі. Блішчаць ясныя бурштынавыя* вочы. Вострая мордачка лісы прынюхваецца да зямлі.

Лёгкім[ф] трушком ліса перабегла палянку, спынілася каля старой яліны, крыху прыўзняла пярэднюю лапу. Гнуткая постаць лісы застыла. Вострыя чорныя вушы насцярожаны. Толькі кончык пушыстага хваста ледзь варушыцца.

«Мышкуе», — зразумеў я.

Раптам чорныя, нібы аксамітныя, лапкі яе ўзняліся ўгору, рыжы хвост з белым кончыкам мільгануў у паветры. Ліса падскочыла, схапіла мыш і знікла між дрэў *(Паводле В. Вольскага)*.

- Па чым аўтар вызначыў, што ліса мышкуе?
- Спішыце тую частку тэксту, у якой расказваецца пра мышкаванне лісы. Ці можна гэтую частку тэксту назваць апісаннем? З якой мэтай аўтар увёў яго ў апавяданне?
- Падрыхтуйце вуснае апісанне лісы.

**14.** Прачытайце тэкст і вызначце яго стыль.

На школьным калідоры прагучаў званок. Вучні заварушыліся, пачалі збіраць кніжкі і сшыткі. Скончыўся апошні ўрок.

— Яшчэ не ўсё, дзеці, — сказаў настаўнік, — сёння нам трэба папрацаваць.

— Пётр Рыгоравіч, а што будзем рабіць? — не ўтрымаўся, каб не спытаць, Федзя Гаўрылкін.

— Будзем садзіць дрэўцы *(А. Галуза)*.

- Растлумачце знакі прыпынку ў сказах з простай мовай.
- Напішыце тэкст тыпу апісання аб тым, як вы садзіце дрэўцы.



**15.** Прачытайце тэкст і растлумачце, чаму ён так названы. Каму ён адрасаваны і з якой мэтай? Падзяліце тэкст на сэнсавыя часткі.

## Думкі

Не саромейся, беларус, размаўляць па-свойму — на роднай мове бацькоў і дз..доў сваіх. Беражы сваю мову, беражы свае песні, свае ка..кі, звычаі і ўсё роднае — гэта спа..чына дз..доў і в..лікі нац..нальны здабытак. Толькі тады цябе ўсе будуць паважаць як чалавека, калі будзеш сам сябе паважаць — калі не а..мовішся ад свайго нац..нальнага здабытку. А першы нац..нальны здабытак — гэта родная мова. Толькі ў роднай мове, добра зразумелай мове, чалавечы розум ра..віваецца і ў..багачае духоўную і эканамічную культуру. Быць беларусам — гэта значыць працаваць для свайго краю, для свайго народа і развіваць сваю культуру і мастацтва. Таксама паважаць і ўсе іншыя нацыі — свайго не цурайся і чужому вучыся *(З. Бядуля)*.

Спішыце, пачынаючы кожную частку з чырвонага радка і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

## § 4. Словазлучэнне і сказ

**16.** Прачытайце тэкст і скажыце, які сказ выражае яго асноўную думку. Ахарактарызуйце гэты сказ паводле мэты выказвання і інтанацыі. Выпішыце па два словазлучэнні наступнай будовы: «наз. + наз.», «прым. + наз.», «дзеясл. + наз.», «дзеясл. + прысл.».

Пачыналася восень. Яшчэ горача свяціла сонца, зусім па-летняму дрыжала сіняватая смуга* над пыльнай дарогай, у кустах крушыны свісталі вясёлыя дразды. Буяла яшчэ на лугавінах зялёная атава, у палісадніках наперагонкі хваліліся сваёй някідкай прыгажосцю вяргіні і астры. Але ўсёўладная восень неадступна цікавала за гэтымі апошнімі праявамі хмельнага летняга жыцця. Яна ўжо заслала суцэльным залацістым абрусам палі збажыны, злёгку пасерабрыла шаты разгалістых прыдарожных бяроз, а паветра напаіла той празрыстасцю і чысцінёй, якая бывае толькі цёплай лагоднай восенню *(І. Навуменка)*.

**17.** Разгледзьце схему і скажыце, якія віды сказаў існуюць у залежнасці ад мэты выказвання, інтанацыі, наяўнасці або адсутнасці даданых членаў сказа, колькасці граматычных асноў.




● Па якіх прыметах характарызуюцца сказы?

**18.** Прачытайце сказы і ахарактарызуйце іх па мэце выказвання і інтанацыі. У чым асаблівасць інтанавання кожнага сказа? Растлумачце знакі прыпынку ў канцы сказаў.

1. Ад роднай мовы, ад роднай нацыі не адцураюся, не адракуся! *(П. Панчанка)*. 2. Над кожнаю магілай брацкай мы кветкі памяці кладзём *(П. Панчанка)*. 3. З якіх жа фарбаў гэта мова, што маці ў спадчыну дала? *(В. Хаўратовіч)*.

**19.** Прачытайце сказы з адпаведнай інтанацыяй. Назавіце звароткі і скажыце, якімі часцінамі мовы яны выражаны. Растлумачце знакі прыпынку пры зваротках і ў канцы сказаў.

1. Беларусь! Твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня *(М. Багдановіч)*. 2. Мой родны кут, як ты мне мілы! *(Я. Колас)*. 3. Ніколі, Радзіма, чужой не была ты, ніколі журбой не прыходзіла ў сны *(М. Арочка)*. 4. Хто падпаліў цябе, восень? *(Н. Загорская)*.

**20.** Спішыце, падбіраючы адпаведныя паводле сэнсу прыметнікі да выдзеленых назоўнікаў. Падкрэсліце граматычную аснову ў сказах першага абзаца. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Прыйшла ў наш край ... **восень.** Сады і лясы змяняюць паступова сваю ... **вопратку** на ... **ўбранне.** Сярод ... **лапак** ялін і сосен зіхаціць ... **лісце** бяроз, ліп, клёнаў, вольхі, арэшніку.

Над полем у ... **небе** не чуваць ужо ... **спеву** жаваранка. Не відаць у садах ні берасцянкі, ні чыжыка, ні шпакоў. Даўно ўжо няма ... **салаўя.** Прыціх ... **верабей.**

Становіцца ... **вада** ў рэчках і азёрах *(Паводле В. Вольскага)*.

**21.** Параўнайце сказы левага і правага слупкоў і скажыце, у якіх з іх ёсць словы з абагульняльным значэннем. Які знак прыпынку і дзе ён ставіцца, калі абагульняльнае слова знаходзіцца:

а) перад аднароднымі членамі;

б) пасля аднародных членаў?

| | |
|---|---|
| 1. Адлятаюць у вырай ластаўкі, шпакі, жаваранкі, буслы, жураўлі. | 1. Адлятаюць у вырай пералётныя птушкі: ластаўкі, шпакі, жаваранкі, буслы, жураўлі. |
| 2. Міша акінуў вокам і агарод, і поле, і лес. | 2. Міша ўсё акінуў вокам: і агарод, і поле, і лес. |
| 3. І вуліцы, і двары ўслала рознакаляровае лісце. | 3. І вуліцы, і двары — усё ўслала рознакаляровае лісце. |
| 4. І залатое поле пшаніцы, і зялёны лес, і ціхаплынную рэчку ўбачыла Таня. | 4. І залатое поле пшаніцы, і зялёны лес, і ціхаплынную рэчку — усе гэтыя мясціны ўбачыла Таня. |

**22.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне і пастаноўку знакаў прыпынку.

Беларусь сін..вокая... Такі паэтычны вобраз узнік ад блакітнага колеру кветак ільну. Лён — нац..нальнае бага..е р..спублікі. З яго мя..кага, ша..кавістага ср..брысташэрага валакна ткалі розныя вырабы: ручнікі, посцілкі, палатно для адзе..я.

Сучасныя майстры мастацкіх промыслаў вырабляюць з ільноваланка забаўныя нац..нальна-своеасаблівыя сув..ніры: фігуркі жней, пастушкоў, касцоў, ваданосак. Ср..брыстыя ніткі льну па-рознаму перагінаюцца, перавязваюцца ў розных месцах, дапаўняюцца каляровымі ніткамі, тасьмою, драўлянымі д..талямі. Сучасныя сув..нірныя лялькі з ільноваланка — натуральны працяг і разві..ё народных традыцый *(Паводле Я. Сахуты)*.



**23.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. Спішыце, пастаўце адпаведныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

Позняя восень. Нізка над зямлёй навіслі цяжкія цёмныя хмары. Некалькі дзён запар імжыць дробны дождж.

Навокал сыра холадна няўтульна. Дрэвы хмызнякі лясны подсціл усё набрыняла* вільгаццю. Паветра насычана пахам прэлага лісця і грыбоў. Стракатым тоўстым дыванам засцілае зямлю лісце розных колераў жоўтае аранжавае пурпуровае бурае пунсовае. Даўжэй за ўсіх захоўваюць зялёную афарбоўку бэз вольха вярба *(«Звязда»)*.

## § 5. Гукі беларускай мовы

**24.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго жанр, тэму і асноўную думку. Якія моўныя адзінкі названы ў вершы і якую ролю яны выконваюць у мове?

Мова…
Родная мова
У марах, песнях і снах.
Мае ў ёй кожнае слова
Свой колер, і смак, і пах.
Зліваюцца гукі ў словы
І ў рэчышча роднай мовы,
Як рэкі ў мора, цякуць.
І думкі мае плывуць
На хвалях і дзён, і начэй
Да сэрцаў людскіх і вачэй.

*А. Грачанікаў*

● Назавіце словы, якія рыфмуюцца, і гукі, якімі «перагукваюцца» і якімі адрозніваюцца гэтыя словы.

● Зрабіце гукавы запіс апошняга сказа.

У з о р: *зліваюцца* — [з′л′івай′уцца].

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. На якія два разрады падзяляюцца гукі беларускай мовы?
2. Чым адрозніваюцца галосныя гукі ад зычных?
3. Назавіце галосныя гукі і літары, якімі яны абазначаюцца на пісьме.
4. Якія бываюць зычныя гукі?
5. Якія зычныя гукі заўсёды цвёрдыя?
6. Як абазначаецца мяккасць зычных гукаў на пісьме?
7. Якія зычныя гукі на пісьме абазначаюцца дзвюма літарамі?

**25.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і асаблівасць будовы. Знайдзіце і выпішыце пяць слоў, у якіх гукаў менш, чым літар. Чым гэта тлумачыцца?

Усплывае ў памяці далёкая ранняя пагодлівая восень.

Маці выбірае бульбу. Я зграбаю бульбянішча, зношу яго і падпальваю сухімі сасновымі трэскамі. Віецца дымок над зямлёй і растае ў блакіце.

І раптам над нашай сядзібай*, выплыўшы з-за лесу, вяслуе жураўліны клін. Я ніколі так блізка не бачыў гэтых загадкавых птушак.

Я бягу па вільготнай траве за жuравамі і крычу: «Вяртайцеся вясной на Белую Русь!» *(Паводле У. Саламахі)*.

**26.** Прачытайце тэксты. Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

1. Адзін з відаў **фіялкі**, што расце ў Паўднёвай Амерыцы, носіць назву **віёла** дамейкіна. Дамейку належыць адкрыццё невядомага мінерала, які атрымаў назву ў гонар вучонага — дамейкіт *(«Звязда»)*.

2. У парку адбываўся маладзёжны вечар з **феерверкам**. На галоўных **алеях** гарэлі ліхтарыкі. Шумны натоўп у масках і касцюмах імкнуўся да **атракцыёнаў**, да танцавальнай пляцоўкі, да **стадыёна** *(У. Караткевіч)*.

● У чым асаблівасць вымаўлення выдзеленых слоў?

**27.** Прачытайце тэкст. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары ў іншамоўных словах. У чым асаблівасць вымаўлення і напісання падобных слоў?

Адборачны конкурс праходзіў на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Хваляваліся ўсе: і маладыя праф..сійныя артысты, самадзейныя танцоры і кіраўнікі будучага ансамбля. Ствараўся новы праф..сійны кал..ктыў, р..пертуар якога будзе складацца на аснове танцавальнага фальклору Беларусі.

Многія жадалі працаваць у новым кал..ктыве. Конкурс праходзіў у два туры.

Праз дзень ужо ўсе ведалі: пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі створаны праф..сійны фальклорна-хар..аграфічны ансамбль «Харошкі», які радуе ўсіх нас ужо больш за 30 гадоў *(«Бярозка»)*.

● Растлумачце знакі прыпынку ў другім сказе.

● Раскажыце пра вядомы вам танцавальны або песенны калектыў (ансамбль, хор, гурт).

## § 6. Слова, яго лексічнае значэнне

**28.** Прачытайце тэксты і скажыце, пра якое асноўнае прызначэнне слова ў мове гаворыцца ў першым тэксце і пра якую ролю слова ў мове гаворыць паэт.

1. Кожны прадмет, усякая з'ява, усё жывое і нежывое на зямлі ды ў свеце мае сваю, адметную назву. Вольныя птахі і звяры ў дрымучых нетрах, чыстыя зоры і пакручастыя рэкі, дрэвы і кветкі, горы і акіяны.

Свае непаўторныя назвы ёсць у адмысловых* рэчах, створаных рукамі і розумам чалавека. У дарогах, па якіх ходзіць, у машынах, на якіх ездзіць. І сам ён, чалавек, нясе праз жыццё імя, дадзенае яму бацькамі *(«Раніца»)*.

2. Раптам прыходзіць думка,
Думка шукае слова.
Слова спяшаецца — знае:
Трэба яму несці думку.

*М. Дукса*

**29.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку. Каму адрасаваны гэты тэкст і з якой мэтай?

Шэрагу раслін у беларускай мове ўласцівы два найменні: адуванчык — дзьмухавец, падарожнік — трыпутнік, зверабой — светаяннік, казялец — люцік, аер — плюшнік, васілёк — валошка, чыстацел — падтыннік, стакротка — маргарытка...

Назвы-сінонімы, утвораныя народам на падставе жыццёвага вопыту і штодзённых назіранняў за жывой прыро-

дай, не толькі падкрэсліваюць спецыфічныя асаблівасці той ці іншай расліны, але і значна ўзбагачаюць слоўнікавы арсенал роднай мовы. Найменні беларускай флоры — неад’емная частка нашага лексічнага багацця *(Т. Стахейка)*.

● Якія словы называюцца сінонімамі?

● У якіх сінанімічных парах абедзве назвы з’яўляюцца агульнаўжывальнымі, а ў якіх адна назва агульнаўжывальная, а другая — дыялектная?

**30.** Спішыце тэкст, падкрэсліце ў ім словы з пераносным лексічным значэннем. Назавіце прамыя лексічныя значэнні гэтых слоў (пры неабходнасці выкарыстайце тлумачальны слоўнік).

1. Нанізала раніца росы на танюткія стрэлы травы *(Я. Колас)*. 2. На вуліцы каля клёнаў Алёша з Кацяй назбіралі лісця, і цяпер у іхніх руках восеньскім золатам гарэлі букеты *(М. Парахневіч)*. 3. Бярозка ў люстры возера любуецца сваёй зялёнаю каронаю, распушчанай касой *(А. Александровіч)*. 4. Лета цэлае ніва спела, красавалі потым дажынкі ў вянку *(К. Кірэенка)*.

● Паспрабуйце вусна перабудаваць сказы, не ўжываючы слоў з пераносным значэннем. У якім сказе прыродная з’ява адлюстроўваецца вобразна і маляўніча, а ў якім толькі паведамляецца пра яе? З якой мэтай выкарыстоўваюцца ў мове словы з пераносным значэннем?

У з о р. *Як снег, кіпеў вішнёвы сад (Р. Барадулін). — Так цвіў вішнёвы сад, што быў падобны ён на белы снег.*

**31.** Прачытайце і вызначце сэнс вершаваных радкоў. Выпішыце словы-антонімы. Якія з іх з’яўляюцца антонімамі з прамым лексічным значэннем, а якія — з пераносным?

1. Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай.
Я не нахлебнік твой. Я на зямлю
Не для таго прыйшоў, каб жменяй поўнай
Уцехі браць. Я — аддаваць люблю.

*Н. Гілевіч*

2. У кожнага свая вясна і восень,
Свой сакавік, свой лістапад,
Свая над кожным неба просінь,
Свой час набыткаў, потым страт.

*А. Кавалюк*

⊙ **32.** Разгледзьце малюнкі і вызначце, якія фразеалагізмы меў на ўвазе мастак. Складзіце з гэтымі фразеалагізмамі сказы, запішыце іх і падкрэсліце ўсе члены сказа.









**33.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Да выдзеленых у тэксце слоў падбярыце сінонімы.

Так, на све..е вельмі многа пр..гожых м..сцін, добрых людзей, шчырых с..броў. Мабыць, нічога лепшага за іх на све..е няма. Аднак, дзе б я ні быў, якія б цуды ні здзіўлялі, перад маімі вачыма заўсёды ззяла прам..ністае св..тло майго роднага м..стэчка. Там жылі бацькі і бацькі маіх бацькоў, там я сам упершыню захапі..ся **шчодрай** сонечнай прам..ністасцю, **пахам кветак** на ша..ковых мурожных лугах, спевам жаўранка пад высокім сінім небам. Вось так і хочацца пр..гадаць кожны куточак, кожную сц..жынку, узгорачак і лагчынку, дзе пад люстрам блакітнага нашага азярка зіхацяць празрыстыя воблакі.

Напэўна, кожнаму здаецца, што няма нідзе на свеце такога хараства, якое ты ўбачыў яшчэ ў маленстве і якое **зачаравала** цябе назаўсёды *(Паводле М. Хведаровіча)*.

## § 7. Марфемная будова слова. Асноўныя спосабы словаўтварэння

**34.** Прачытайце і вызначце стыль тэксту. Спішыце і падкрэсліце словы, якія паўтараюцца ў тэксце. Ці можна лічыць паўтарэнне гэтых слоў памылкай? Як вы думаеце, з якой мэтай аўтар ужывае адны і тыя ж словы?

О, гэта пружанская зямля, што ўся звініць песнямі, дзе іх болей, чым жаўранкаў у сінім небе над пружанскай раллёй! Спяваюць сінія роўныя лясы, спяваюць салаўі ў альховых зарасцях, спяваюць у залатым вячэрнім сонцы пчолы, спяваюць лянотныя рэкі і сама зямля. Што здзіўляцца, што нарадзіўся тут хлопчык, якому суджана было стаць гонарам нашай музычнай культуры, энтузіястам і мужным абаронцам беларускай песні. Вартавым пры яе скарбніцы стаў Рыгор Раманавіч Шырма.

Усё жыццё сваё ён паклаў на тое, каб жыла, каб пераможна звінела песня наша. Усё жыццё. Кожнае імгненне ягонае *(Паводле У. Караткевіча)*.

- Якія словы, што паўтараюцца ў тэксце, маюць адну і тую ж граматычную форму, а якія — розныя граматычныя формы?
- Якая частка слова ўтварае розныя граматычныя формы?
- Дакажыце, што *спяваюць* і *спеўны, жыла* і *жыццё* — розныя словы.

**35.** Растлумачце значэнне слоў кожнага рада. Разбярыце іх па саставе.

Лес, лясок, лясны, ляснік, лесніковы, леснічоўка, узлесак;
сад, садок, садовы, садзіць, пасадзіць, пасадка, перасадзіць;
белы, бель, белізна, бялюткі, бялець, бяліць, пабяліць.

- З якіх значымых частак могуць складацца словы?
- Чаму гэтыя часткі называюцца значымымі? Дакажыце гэта на прыкладзе слоў аднаго рада.

**36.** Прачытайце тэкст і вызначце яго тэму. Які загаловак можна яму даць?

Цымбалы вядомы на Беларусі з XVI стагоддзя. Выкарыстоўваюцца звычайна ў ансамблі з іншымі інструментамі: скрыпкай, бубнам, кларнетам, жалейкай, гармонікам. На цымбалах зрэдку іграюць сола*. У народным побыце гэты інструмент суправаджае вяселлі, танцы, абрады.

У Беларусі вядзецца прафесійнае навучанне ігры на цымбалах, склалася прафесійная выканаўчая школа. Лепшыя беларускія цымбалісты вядомы ў краіне і за мяжой *(Паводле Н. Яканюка)*.

● Ці даводзілася вам бачыць цымбалы? Апішыце гэты музычны інструмент, выкарыстоўваючы наступныя словы і словазлучэнні: *струнны, ударны, драўляны корпус, трапецападобная форма, стальныя струны, іграць, драўляныя палачкі, гучанне, моцны, звонкі.*

**37.** Спішыце і ў выдзеленых словах пазначце прыстаўкі.

Ад лета засталіся адны ўспаміны. У прыродзе даўно панавала восень: **пажаўцелі, зазалаціліся** ліпы, **загарэліся** клёны, сталі **страсаць** на зямлю залатыя свае лісточкі. Таполі **страцілі** сваю ранейшую яркую зелень, сталі шараватыя, як жалезныя, **скідалі** долу сваё цвёрдае тоўстае лісце. Хутка **скарачаўся** дзень, неба часцей і часцей стала засцілацца хмарамі *(У. Дамашэвіч)*.

**38.** Выпішыце аднакаранёвыя словы і вызначце спосаб іх утварэння. Пры вызначэнні спосабу ўтварэння пастаўце словы ў пачатковай форме (Н. скл. адз. л.).

Узор: *буслянятам, бусляня ← бусел.*

1. Ёсць добрае буслінае каханне.
Буслянка — гэта школа выхавання:
Як жыць, дружыць
І ў вырай адлятаць...
І нам з буслоў не сорам прыклад браць.
*П. Панчанка*

2. Яшчэ на травах не абсохлі росы,
Шчэ птушачка не чысціла пяра,
А ўжо звіняць-гамоняць сенакосы —
На тое сенакосная пара.

*С. Басуматрава*

3. Сышоў, як кажуць, з поля плуг,
Час касавіцы надышоў,
Прыйшлі на луг браты.

*В. Жуковіч*

● Якімі спосабамі ўтвараюцца словы?

● Чаму ў сказе пад лічбай 3 паэт выкарыстаў аднакаранёвыя словы з рознымі прыстаўкамі? Чаму ў першых двух словах пасля прыстаўкі пішацца літара ***ы***, а ў трэцім — ***й***?



**39.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Выкарыстайце тое слова і ў той форме, якая адпавядае сэнсу сказа. Растлумачце свой выбар.

1. Вырастаюць, што ні месяц *(дом, домік)* — аграмадзіны цэлыя. 2. Ціхія вулкі ўсё яшчэ чакалі таго часу, калі на месцы аджыўшых свой век драўляных *(дом, домік)* пачнуць узвышацца шматпавярховыя *(дом, домік)*. 3. *(Гліняныя, глiністыя)* свісцёлкі нясуць два ганчары. 4. Сярод зімы *(снегавой, снежнай, сняжыстай)*, сярод вясны *(ветраны, ветравы, вятрысты)* я вырасла, каб сэрцам адчуць цяпло зямлі.

# МАРФАЛОГІЯ І АРФАГРАФІЯ

## § 8. Самастойныя і службовыя часціны мовы

**40.** Азнаёмцеся са схемай часцін мовы на форзацы.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Колькі часцін мовы ў беларускай мове?
2. На якія групы яны падзяляюцца?
3. Якія часціны мовы самастойныя, а якія — службовыя?

**41.** Прачытайце тэкст Я. Сіпакова і вызначце яго асноўную думку. Каму ён адрасуецца і з якой мэтай?

Кніга — гэта заўсёды роздум. Яна абавязкова змушае думаць.

Дружба з кнігаю — занятак вельмі інтымны. Яна патрабуе ўсяго чытача: і яго думак, і яго настрою, і яго роздуму, і яго суперажывання, і яго эмоцый. Часам — слёз. А часам — і смеху.

● Прыкладаў якіх часцін мовы няма ў тэксце гэтага практыкавання?

**Марфалогія** — раздзел навукі аб мове, у якім словы вывучаюцца як часціны мовы.

**Часціны мовы** — гэта такія разрады слоў, якія характарызуюцца пэўнымі агульнымі лексічнымі значэннямі, марфалагічнымі прыметамі і сінтаксічнымі функцыямі.

**42.** Прачытайце і вызначце стыль тэксту.

Усе часціны мовы падзяляюцца на самастойныя і службовыя.

Да самастойных часцін мовы адносяцца словы, якія называюць прадметы, дзеянні, прыметы, колькасці ці ўказваюць на іх, напрыклад: *вясна, чалавек, рабіць, чытаць, вясёлы, весела, пяць, ён, такі* і інш. З самастойных слоў складаюцца словазлучэнні і сказы. Да самастойных слоў можна паставіць пытанне. У сказе яны з'яўляюцца членамі сказа.

Службовыя часціны мовы ўключаюць словы, якія не называюць ні прадметаў, ні прымет, ні дзеянняў і не ўказваюць на іх, а толькі выражаюць розныя адносіны паміж імі. Яны «абслугоўваюць» самастойныя словы, дапамагаюць ім спалучацца адно з другім у словазлучэннях і ў сказах: *ісці **ў** школу; бацька **і** сын; Мы вучымся **ў** шостым класе.* Да службовых слоў і выклічніка нельга паставіць пытанне, і яны не з'яўляюцца членамі сказа.

Што новага вы даведаліся пра самастойныя і службовыя часціны мовы?

**43.** Складзіце з прыведзеных слоў сказы і запішыце іх у такім парадку, каб атрымаўся тэкст. Да якога тыпу мовы можна яго аднесці?

Ёсць, сяло, Моталь, вялікае, і, прыгожае, Палессі, на.

Праславілі, прыгожымі, майстрыхі, мясцовыя, ручнікамі, сяло.

Больш, па, канцах, выразны, узор.

Карункамі, завяршаюцца, ручнікі.

Срабрыста-белае, выткана, ручніка, поле, «у ёлачку».

Яно, чырвонымі, перабіваецца, удоўж, палоскамі, і, упоперак.

Кожны, мае, элемент, узору, назву; «кветкі», «зубры», «ліст», «сякач», «жучкі» і інш.

Вызначце, словы якіх часцін мовы ёсць у запісаным тэксце.

**44.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Каму ён адрасаваны і з якой мэтай? Выпішыце асобнымі слупкамі па пяць назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

У кожнага чалавека, які меў шчасце некалі нарадзіцца на нашай зялёнай — такой маленькай і такой неабдымнай — зямлі, абавязкова ёсць свой гожы, ласкавы і шчымліва-непаўторны край, які ў вялікім і шырокім паняцці Радзімы звычайна займае невялікае звыклае месца. Такі **край** — заўсёды твой цэлы свет. І як буйна вырастае ён у тваёй душы, як шырыцца і запаланяе цябе ўсяго высакароднай гордасцю, **светлай** радасцю ўжо нават адным толькі напамінаннем пра сябе.

Ёсць такі край і ў мяне.

Гэты край, гэтая мая Поўнач — узгоркавая, азёрная, ільняная Віцебшчына, а ў ёй яшчэ больш блізкая, яшчэ больш свая — Аршаншчына *(Я. Сіпакоў)*.

● Уявіце, што ў ваш клас прыйшоў новы вучань, бацькі якога прыехалі з іншай краіны. Што б вы расказалі яму пра свой край, знаёмыя мясціны?

**45.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. Што вы думаеце пра захапленне юнага філатэліста*?

Вы ведаеце дзень нараджэння **паштовай** маркі? Не кожны назаве 6 мая 1840 года. Гэта дзень, калі ў Англіі з'явілася першая ў свеце марка з партрэтам каралевы Вікторыі. Першая марка была без зубцоў. Яе копія ёсць у маёй **калекцыі**. А ўсяго ў мяне 545 марак.

Тэматыка маёй калекцыі разнастайная: і тэхніка, і спорт, і раслінны свет, і жывёльны... Увесь свет — у маім альбоме *(«Раніца»)*.

● Вызначце вядомыя вам марфалагічныя прыметы выдзеленых слоў. Якая значымая частка слова выражае яго марфалагічныя прыметы?

У з о р: *чалавек — м. р., адз. л., Н. скл.; ласкавы — м. р., адз. л., Н. скл.*



**46.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце словы самастойных часцін мовы.

О Беларусь, мая калыска,
Жыццё маё, прытулак мой!
З гар..чаю любо..ю ні..ка
Схіляюся перад табой.

Зямны паклон табе, Ра..іма,
Тваім п..лям, тваім л..сам,
Тваім гасцінцам і шляхам!

*П. Глебка*

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў апошнім сказе.

# НАЗОЎНІК

## § 9. Назоўнік як часціна мовы

**47.** Прачытайце тэкст-разважанне і вызначце яго тэму. Якія словы з тэксту могуць быць яго загалоўкам? Каму і з якой мэтай ён адрасаваны?

Што такоё жыццё? Дзеля чаго даецца яно чалавеку?

Узыходзіць і заходзіць сонца... Святло — цемра, дзень — ноч...

За адным пакаленнем людзей ідзе яшчэ і яшчэ пакаленне. Што значым усе мы ў гэтым няспынным і вечным кругазвароце? У чым сэнс чалавечага існавання, жыцця?.. Што ведаем мы пра нашых бацькоў, дзядоў, прадзедаў, свой род, сваіх продкаў, пра іх жыццё-быццё, іхнія думкі і мары, клопат і дбанне*? *(Паводле Б. Сачанкі)*.

- Назавіце словы, якія абазначаюць прадметы і адказваюць на пытанні х т о? ш т о? Якой часцінай мовы яны з'яўляюцца?
- Якое асноўнае прызначэнне назоўнікаў у мове?
- Раскажыце пра свой род, сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

**Назоўнік** — гэта часціна мовы, якая абазначае прадмет і адказвае на пытанні х т о? ш т о?: *чалавек, сталяр, дом, кніга, радасць, канчатак, сонца* і інш.

Агульнае граматычнае значэнне назоўніка — гэта значэнне прадмета. Прадметам у марфалогіі называецца не толькі канкрэтны прадмет, рэч, расліна, з'ява і г. д., але і любая жывая істота, гэта значыць усё тое, пра што можна спытаць х т о г э т а? або ш т о г э т а?: *Янка, Беларусь, касманаўт, любоў, свабода, боль, вецер, шпак* і інш.

Назоўнікі адносяцца да аднаго з трох родаў — мужчынскага, жаночага ці ніякага, змяняюцца па ліках і склонах.

Пачатковай формай назоўніка з'яўляецца форма назоўнага склону адзіночнага ліку.

Назоўнікі ў сказе часцей за ўсё з'яўляюцца дзейнікам ці дапаўненнем: *Кранала песня сэрца і душу мелодыяй лірычнай і глыбокай* (С. Шушкевіч).

Назоўнікі могуць спалучацца з прыметнікамі і іншымі назоўнікамі ва ўскосных склонах. У выніку ўтвараюцца словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага слова: *рабінавая гронка, песня салаўя.*

З а ў в а г а. Калі прыметнік стаіць пасля назоўніка ў форме назоўнага склону, то такое спалучэнне назоўніка з прыметнікам утварае сказ, у якім прыметнік з'яўляецца выказнікам: *Гронка рабінавая. Гасцінец шырокі.*

**48.** Прачытайце і вызначце асноўную думку верша.

Люблю свой край, зялёны і спакойны.
Сіваваронкі дрэмлюць на слупах.
Над хатамі — вясёлыя шпакоўні,
А ў хатах аржанога хлеба пах.
Усё вакол знаёмае да болю:
Збягаюць незабудкі да вады,
Сядае важна бусел на таполю,
Ад ластавак абвіслі правады...
За ноч сплывае сонца за жытное,
Свой невад туманы павалаклі...
Святое, не прыдуманае, тое,
Чаго не знойдзеш на чужой зямлі.

*Г. Бураўкін*

● Выпішыце назоўнікі і скажыце, што яны абазначаюць. Якія з іх адказваюць на пытанне х т о?, а якія — на пытанне ш т о?

**49.** Прачытайце і вызначце, да якіх часцін мовы адносяцца выдзеленыя словы. Назавіце сярод іх назоўнікі, якія абазначаюць прымету як прадмет.

х т о? ш т о?
я к і? ч ы й?
ш т о р а б і ц ь?
ш т о з р а б і ц ь?

1. Пшаніца **спее**, пад сонцам яна як вылітая з медзі *(П. Пестрак)*. 2. Між **спелага** жыта **сінее** валошка *(Я. Колас)*. 3. Будзіць промень знямелую **сінь**, зазвінеўшы дрыготкай струною *(Т. Мельчанка)*. 4. Тым дзіўна, хто прыйдзе аднекуль: лён **сіні** ў палях да пляча, **сінеча** ў азёрах і рэках, і вечна — у дзявочых вачах *(М. Калачынскі)*. 5. Зноў зіма паслала снежныя кілімы, зажурыла **беллю** паплавы, лугі *(П. Трус)*. 6. На ўсходзе ўжо пачынала **бялець** неба *(У. Дамашэвіч)*.

● Вызначце марфалагічныя прыметы выдзеленых слоў.

**50.** Прачытайце выразна сказы. Скажыце, у якіх сказах выдзеленыя назоўнікі з'яўляюцца звароткам, а ў якіх — дзейнікам. Якую склонавую форму маюць назоўнікі, што выступаюць у ролі звaротка?

| | |
|---|---|
| 1. Квітней, **жыццё**, на ўсёй зямлі, як першы летні дзень *(Э. Агняцвет)*. 2. Праслаўім, **сябры**, перамогу, якую здабыў наш народ *(З. Бядуля)*. 3. **Сонца!** Красуй над зямлёю, самай у свеце прыгожаю *(А. Астрэйка)*. | 1. Амаль усё яго **жыццё** звязана з лесам *(І. Шамякін)*. 2. **Сябры** прарочылі Петрусю вялікую будучыню *(І. Навуменка)*. 3. **Сонца** нясмела і ленавата ўставала з-за лесу *(Я. Брыль)*. |

● Як вымаўляецца зваротак у сказе і якімі знакамі прыпынку ён выдзяляецца?

**51.** Складзіце і запішыце сказы, каб прыведзеныя словы ў адным сказе былі звароткам, а ў другім — дзейнікам.

Школа, мама, Беларусь.

**52.** Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі як члены сказа. Якімі членамі сказа могуць быць назоўнікі?

1. Міхась — брыгадзір, а Сяргей — камбайнер *(М. Хведаровіч)*. 2. Гаманіла[л] неба з лугам, гаманіла з лугам сінь *(У. Дубоўка)*. 3. Радзіма — матка, чужына — мачаха *(Прымаўка)*. 4. Слёзы радасці стаялі ў дзедавых вачах *(К. Чорны)*.

● Паміж якімі членамі сказа стаіць працяжнік у 1-м і 3-м сказах? Назоўнікамі якога склону выражаны дзейнік і выказнік у гэтых сказах?

Калі дзейнік і выказнік выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне, то паміж імі ставіцца працяжнік. Калі ў складзе выказніка ёсць слова *гэта*, працяжнік ставіцца перад ім: *Кніга — крыніца ведаў. Кніга — гэта крыніца ведаў.*



**53.** Спішыце. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце дзейнік і выказнік у першых трох сказах.

1. Зямля маці а праца бацька. 2. Агонь найстрашнейшы злодзей. 3. Мікуцічы гэта вялікае сяло каля Нёмана. 4. Што хутарок — то гаварок, што сяльцо — то слаўцо. 5. Гультай і лянота сябры: адзін без аднаго жыць не могуць. 6. Дзед рыбак славуты *(З. Бядуля)*. 7. Мір гэта і праца і шчасце і радасць *(М. Гамолка)*. 8. А жыццё настаўнік строгі *(П. Панчанка)*.

## § 10. Назоўнікі агульныя і ўласныя, адушаўлёныя і неадушаўлёныя

**54.** Прачытайце тэкст і зрабіце вывад, што абазначаюць агульныя і ўласныя назоўнікі.

На Беларусі каля 21 000 рэк. Ёсць рэкі вялікія і малыя, шырокія і вузкія, глыбокія і мелкія, суднаходныя і несудна-

ходныя, хуткаплынныя і спакойныя, з рознымі відамі рыб і раслін і г. д. Але ўсе яны з'яўляюцца прыроднымі вадаёмамі, што пастаянна цякуць па пракладзеных вадой рэчышчах ад вытоку ўніз да вусця. Таму пра кожную з іх можна сказаць, што гэта рака. Значыць, слова *рака* — гэта агульная назва тысяч розных рэк.

Калі ж неабходна сказаць пра якую-небудзь асобную раку, то ў такім разе ёй даецца асобная назва, напрыклад: Дняпро, Прыпяць, Нёман, Вілія, Бярэзіна, Сож, Ясельда. Кожная з такіх назваў з'яўляецца ўласнай назвай асобнай ракі. З яе дапамогай адна рака вылучаецца з мноства іншых рэк.

● Якія іншыя ўласныя назоўнікі вы можаце назваць?

**Агульныя назоўнікі** — гэта назвы аднародных прадметаў, з'яў, паняццяў: *горад, месяц, дождж, чалавек, механік, кніга, тэатр.*

**Уласныя назоўнікі** — гэта імёны і прозвішчы людзей, клічкі жывёл, назвы гарадоў, вёсак, рэк, фабрык, калгасаў, часопісаў, літаратурных твораў і інш.: *Міхась, Каліноўскі, Мінск, Талашоўка, Піна,* фабрыка *«Спартак»,* часопіс *«Вясёлка»,* апавяданне *«Сваякі»,* спартыўнае таварыства *«Дынама».*

У якасці ўласных назваў могуць выступаць не толькі асобныя словы, але і словазлучэнні: *Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Белавежская пушча.* У сказе такія назвы з'яўляюцца адным членам сказа.

Уласныя назоўнікі пішуцца з вялікай літары. Пры гэтым назвы заводаў, фабрык, калгасаў, газет, літаратурных твораў, кніг, кінафільмаў, параходаў і інш. бяруцца ў двукоссі.

З а ў в а г а. Калі ў назве ёсць слова *імя,* то яна ў двукоссе не бярэцца: *калгас імя Заслонава, станцыя імя Вавілава.*

**55.** Прачытайце і вызначце стыль тэксту. Выпішыце асобнымі групамі дзесяць агульных назоўнікаў і ўсе ўласныя назоўнікі. Скажыце, што абазначаюць уласныя назоўнікі.

Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі ў Мінску быў адкрыты ў 1957 годзе замест музея, знішчанага ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Храналагічны дыяпазон экспанатаў вельмі характэрны: ад ручнога рубіла да касмічнага карабля. Тут знаходзіцца і скафандр слаўнага сына беларускага народа лётчыка-касманаўта Пятра Клімука. У снежні 1973 года ён здзейсніў свой першы зорны палёт на караблі «Саюз-13». Экспазіцыі расказваюць пра гісторыю беларускага народа, яго багатую культуру, гераічнае мінулае, сённяшні дзень рэспублікі *(«Раніца»)*.

**56.** Прачытайце тэкст і назавіце ўласныя назоўнікі.

Зоя Уладзіміраўна Васілец — ветэран вайны і працы. Вучні запрасілі яе на збор, прысвечаны Міжнароднаму дню міру.

Напярэдадні пазванілі са школы, нагадалі:

— Так, значыць, у суботу. У дзве гадзіны. Не забудзеце?

— Што вы! — адказала Зоя Уладзіміраўна. — Прыйду. Абавязкова.

Яна збіралася расказаць вучням пра іх равеснікаў, юных франтавікоў, партызанаў. Сама яна была байцом партызанскага атрада імя Сільніцкага.

● Калі б вам даручылі напярэдадні патэлефанаваць Зоі Уладзіміраўне, пра што і як бы вы з ёй гаварылі?

**57.** Прачытайце і растлумачце правапіс уласных назоўнікаў.

> ***Радзі́ма***
> ***Ба́цькаўшчына***

Мая Айчына —
Поле, нівы,
Над Нёманам зялёны гай,
Прыгожы Брэст і Мінск шумлівы —
Уся Беларусь ад краю ў край.

*П. Броўка*



**58.** Спішыце сказы і падкрэсліце ўласныя назоўнікі. Што яны абазначаюць і чаму некаторыя з іх узяты ў двукоссе?

1. Пакуль сонца не згасне, будзе жыць Беларусь! *(П. Панчанка)*. 2. Янка Купала напісаў у Ляўках вершы «Алеся», «Хлопчык і лётчык» *(«Звязда»)*. 3. Першы палёт у космас Уладзімір Кавалёнак здзейсніў на караблі «Саюз-25» у кастрычніку 1977 года. 4. З-за рэчкі ціснуцца каровы. Ідзе паперадзе Красуля, за ёю Лысая, Рагуля *(Я. Колас)*.

**59.** Разгледзьце малюнак і скажыце, якая пара года на ім адлюстравана. Назавіце ўсё, што вы на ім бачыце. Запішыце ў адзін слупок назоўнікі, якія адказваюць на пытанне к т о?, а ў другі — якія адказваюць на пытанне ш т о?



Усе назоўнікі падзяляюцца на адушаўлёныя і неадушаўлёныя.

Назоўнікі, якія абазначаюць людзей, жывёл, птушак, а таксама іншых жывых істот і адказваюць на пытанне к т о?, адносяцца да **адушаўлёных**: *сястра, аграном, вожык, дзяцел, пчала, мурашка*.

Назоўнікі, якія абазначаюць з'явы прыроды, расліны, розныя прылады, пачуцці, а таксама іншыя нежывыя прадметы і адказваюць на пытанне ш т о?, адносяцца да **неадушаўлёных**: *снег, вярба, каса, тэлевізар, футбол, смеласць, смех*.

З а ў в а г а. Да адушаўлёных адносяцца назвы фантастычных і міфалагічных істот *(лясун, русалка)*, цацак *(заяц, козлік)*.

**60.** Выпішыце ў адзін слупок неадушаўлёныя назоўнікі, а ў другі — адушаўлёныя.

Паляшук вылучае шчыры (гэта значыць чысты) бор і няшчыры, змешаны з бярозамі, асінамі, іншымі дрэвамі. У бары заўсёды крычаць, пералятаюць з галіны на галіну дразды, сойкі, пырхаюць курапаткі, цецерукі, бегаюць лісы, зайцы, вавёркі, вожыкі... У бары растуць надта ж прыгожыя чорнагаловыя баравікі. Можна знайсці тут і рыжыка, і махавіка, і лісічку, і сыраежку... Наогул, увесь палескі лес надта ж багаты на птушак, звяроў, грыбы, ягады... *(Паводле Б. Сачанкі).*

**61.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце адушаўлёныя назоўнікі.

«Ніхто не забыты і нішто не забыта!» — словы гэтыя гучаць як клятва. Таму н..стомна ідуць па месцах былых баёў ч..рвоныя следапыты. Яны запісваюць ра..казы сведкаў, а..шукваюць дакументы, в..дуць гутаркі з вет..ранамі вайны. Свой абавязак бачаць у тым, каб в..рнуць імёны н..вядомым салдатам.

Ч..рвоныя следапыты ўстанавілі больш за 20 тысяч раней нев..домых імён воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны *(«Раніца»).*

● Каго абазначаюць адушаўлёныя назоўнікі ў гэтым тэксце?

Адушаўлёныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб, называюцца **асабовымі**. Да іх адносяцца назвы асоб:

● па сацыяльнай і нацыянальнай прыналежнасці: *селянін, фермер, беларус, літовец*;

● па роду дзейнасці, прафесіі: *доктар, дэпутат, трактарыст, студэнт, сталяр*;

● па роднасці, сваяцтву: *брат, сястра, дзядзька*;

● па розных якасцях: *балагур, весялун, хітрун.*

**62.** Запішыце асобнымі групамі назоўнікі, якія абазначаюць асоб: а) па роду дзейнасці, прафесіі; б) па нацыянальнай прыналежнасці; в) па месцы жыхарства; г) па якасцях характару.

Армянка, багацей, брат, вясковец, геолаг, грузін, дзівак, дзядзька, дзяўчына, дружбак, жартаўнік, індыянка, калгаснік, кітаец, лыжнік, марак, мастачка, палачанін, паляшук, паляк, патрыёт, паэт, пенсіянер, піянер, пляменнік, рабочы, сваяк, селянін, сібірак, смяльчак, спявак, чыгуначнік, юнак.

● З адным словам кожнай групы складзіце і запішыце сказ.

**63.** Разгледзьце табліцу і скажыце, формы якіх склонаў супадаюць у адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў у множным ліку.

| Назоўны склон | Родны склон | Вінавальны склон |
|---|---|---|
| х т о? ш т о? | к а г о? ч а г о? | к а г о? ш т о? |
| ***будаўнік*** [***і***] *працуюць* | *брыгада* ***будаўнік*** [***оў***] | *вітаць* ***будаўнік*** [***оў***] |
| ***вераб’*** [***і***] *скачуць* | *чародка* ***вераб’*** [***ёў***] | *убачыў* ***вераб’*** [***ёў***] |
| *стаяць* ***стал*** [***ы***] | *многа* ***стал*** [***оў***] | *паставіць* ***стал*** [***ы***] |
| *цікавыя* ***верш*** [***ы***] | *тэмы для* ***верш*** [***аў***] | *чытаць* ***верш*** [***ы***] |

Вінавальны склон адушаўлёных назоўнікаў у множным ліку супадае з формай роднага склону: *сустрэў* ***сяброў,*** *убачыў* ***ласёў.***

Вінавальны склон неадушаўлёных назоўнікаў у множным ліку супадае з формай назоўнага склону: *узяў* ***кнігі,*** *убачыў* ***кветкі.***

**64.** Спішыце. Раскрываючы дужкі, пастаўце назоўнікі ў вінавальным склоне множнага ліку.

1. Антаніна Міхайлаўна забрала *(грыб)* і стала перабіраць *(Я. Колас)*. 2. Дзве бабулі кладуць у сумкі для ўнуч-

кі малой *(ласунак)* *(Г. Каржанеўская)*. 3. Праца ніколі *(чалавек)* не раз'ядноўвае *(І. Шамякін)*. 4. Янка прывёў *(таварыш)* на сонечнуюᶠ паляну *(П. Рунец)*.



**65.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце асабовыя назоўнікі.

1. Як маленькую сяброўку, ляльку любіць Каця *(А. Александровіч)*. 2. У парку гр..меў аркестр, ля атракц..наў стаялі гаманлівыя натоўпы *(Т. Хадкевіч)*. 3. За астачай мёду ў кветках прыл..цеў пчаліны рой *(А. Александровіч)*. 4. Самадзейныя артысты лёгка і прыгожа танцавалі «Юрачку». 5. Міхась аддаў каня за дзве пешкі і перайшоў у атаку. 6. Чорны плюшавы мішка с..дзеў на тумбачцы *(Я. Брыль)*.

## § 11. Назоўнікі канкрэтныя і абстрактныя

**66.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Які загаловак вы далі б вершу?

Выпішыце асобнымі слупкамі:

а) назоўнікі, якія спалучаюцца са словамі *два, тры* і г. д.;

б) назоўнікі, якія не спалучаюцца са словамі *два, тры* і г. д.

І ніколі душа не
натолена:
То смяецца,
То плача тугой...
Запалонілі песні з-пад Століна,



Разліліся,
Як рэкі вясной.
Што ні песня —
то ластаўка з выраю,
То жытоў перашэпт
у цішы,
Галасістая,
цёплая,
шчырая —
Светлы смутак і радасць душы.
Беларуская песня
Чароўная,
Без цябе б я душой не дайшоў
Да рачулкі,
Што шчасцем няпоўная,
І да сэрца тваіх спевакоў.

*В. Хайратовіч*

● Ці можна на малюнку адлюстраваць тое, што называецца словамі *радасць, смутак, туга, шчасце*?

Агульныя назоўнікі падзяляюцца на канкрэтныя і абстрактныя.

**Канкрэтныя** назоўнікі абазначаюць прадметы, з'явы, жывыя істоты, якія існуюць у рэчаіснасці: *дзяцел, дом, дрэва, ластаўка, спявак, сцежка, чалавек.* Адметная марфалагічная прымета канкрэтных назоўнікаў — змяненне іх па ліках *(аловак — алоўкі, конь — коні)*, здольнасць спалучацца са словамі *два, тры* і г. д. *(два сталы, тры алені)*.

Да **абстрактных** адносяцца такія назоўнікі, якія абазначаюць розныя пачуцці, адчуванні, уласцівасці, якасці: *радасць, туга, задавальненне, назіральнасць, горыч.* Такія назоўнікі, як правіла, маюць форму адзіночнага ліку і таму не спалучаюцца са словамі *два, тры* і г. д.

**67.** Прачытайце верш. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Выпішыце ў адзін слупок пяць канкрэтных назоўнікаў, а ў другі — усе абстрактныя. Растлумачце свой выбар.

Чароўны ты, мой край, любой парою:
Ласкавым летам, сцюжнаю зімой,
Палоніш казачнай сваёй красою
І сэрца поўніш светлаю журбой.

Мне хочацца прайсці па сцежках росных,
Па беразе пясчаным — басаном,
І слухаць, слухаць, як гамоняць сосны,
Калі начуе ў іхніх кронах дождж.

Праводзіць ластавак у край далёкі
І з нецярпеннем зноўку іх чакаць,
І адшукаць сваю на небе зорку,
І сэрца краю роднаму аддаць.

*С. Каробкіна*

**68.** Прачытайце і дайце загаловак тэксту. Спішыце і падкрэсліце абстрактныя назоўнікі.

Восень... Перад зімовым спачынам зямля вызваляецца ад жыццёвых клопатаў. Прырода святкуе сваю свабоду. Паветра зрабілася лёгкім і чыстым, зоркі ў небе сталі больш яркімі, далягляды адкрыліся. Ужо і пазалота дрэў апала на зямлю. Усё стаілася ў загадкавым чаканні — ні напружання, ні трывогі. Мудрасць восені — гэта мудрасць сталага чалавечага жыцця. Яно ўжо не чакае цяпла і маладога азарту, але няспешна асэнсоўвае пражытае *(«Беларусь»)*.



**69.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце назоўнікі і зверху канкрэтныя пазначце літарай ***к***, абстрактныя — літарай ***а***.

Яшчэ ў сівую даўніну высока ц..ніліся мір, спакой, стваральная праца. А для гэтага трэба было ладзіць добрыя адносіны з с..седзямі.

Пам..ркоўнаць — адметная рыса беларускага народа. Яна ўключае такія рысы характару і паводзін, як сп..койны вытрыманы нораў, добрыя адносіны да с..седзяў. А з другога боку — пачуццё асабістай годнасці, любоў да сваёй з..млі, н..навісць да ворагаў, гато..насць з самаадданасцю, а, калі трэба, і з самаахвярнасцю бараніць родныя м..сціны *(«Беларусь»)*.

## § 12. Назоўнікі зборныя і рэчыўныя

**70.** Прачытайце словы кожнага слупка.

| | | | |
|---|---|---|---|
| ліст | лісты | лісце, лістота | золата |
| вучань | вучні | вучнёўства | мёд |
| птушка | птушкі | птаства | шоўк |

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Словы якіх слупкоў паказваюць на колькасць прадметаў, асоб і г. д.?
2. Якія словы абазначаюць сукупнасць аднародных прадметаў, асоб як адно цэлае?
3. Якія словы абазначаюць рэчывы?
4. Якія назоўнікі спалучаюцца са словамі *два, тры* і г. д., а якія не спалучаюцца?

Назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць аднародных прадметаў ці асоб як адно цэлае, называюцца **зборнымі:** *калоссе, насенне, моладзь.* Зборныя назоўнікі ўжываюцца толькі ў форме адзіночнага ліку і не спалучаюцца са словамі *два, тры* і г. д.

Назоўнікі, якія называюць рэчывы аднароднага саставу, называюцца **рэчыўнымі:** *срэбра, нафта, кісларод, малако, хлеб, морква, аспірын, лебяда, сукно* і інш. Рэчыўныя назоўнікі маюць адну форму ліку: часцей адзіночнага (*малако, вугаль, тлушч* і інш.), радзей — множнага (*духі, крупы, суніцы* і да т. п.).

**71.** Прачытайце. Вызначце, якія з выдзеленых назоўнікаў паказваюць на колькасць, а якія — на сукупнасць прадметаў як адно цэлае. Якія з іх з'яўляюцца зборнымі?

1. Ціха сыплюцца праз пальцы каштанаў звонкія **лісты** *(М. Танк)*. 2. Не ведаю, што **дрэвы** адчуваюць, але дрыжаць **лісцём,** як іх сякуць *(А. Бачыла)*. 3. Гарэлі ў печы добрыя сухія **дровы** *(Ф. Янкоўскі)*. 4. Змарыліся **крылы**, і сціхлі шпакі *(Я. Пушча)*. 5. Нудна махалі **крыллем** над кустом вароны *(К. Чорны)*. 6. Збожжа прагна лавіла ўзнятымі **каласамі** сонечнае **праменне** *(Ц. Гартны)*. 7. Схілілася налітае ядраным **зернем калоссе** *(А. Васілевіч)*. 8. Сонца **промні** зыркія* варушыць, **ніткі** залацістыя прадзе[сн] *(П. Панчанка)*.

**72.** Прачытайце. Выпішыце спачатку рэчыўныя, а пасля — зборныя назоўнікі.

1. Чапляючыся крыллем за нізкія хмары, над самым Жыцькавам ляцелі ў вырай журавы *(Я. Сіпакоў)*. 2. Забілі фантаны нафты, падняліся буравыя вышкі на Палессі *(Т. Хадкевіч)*. 3. А сосны сочаць і струменяць густы духмяны пах смалы *(Я. Колас)*. 4. Злятала з прыдарожных бяроз апошняе лісце *(І. Шамякін)*. 5. Паляцяць зноў пчолы з пасек па салодкі сок *(К. Кірэенка)*. 6. У барах, у ельніках, у старых алешніках мы часта бачым стракатых дзятлаў *(«Бярозка»)*.

⊙ **73.** Прачытайце. Назавіце рэчыўныя назоўнікі. Скажыце, што яны абазначаюць і чым адрозніваюцца ад зборных назоўнікаў.

Яшчэ не восень, але ўжо і не лета. Лугі пакошаны, збажына зжата. Тут і там стаяць залацістыя, яшчэ не пачарнелыя сцірты* саломы, вастраверхія стагі сена.

Я ў такую пару любіў хадзіць па гародзе, садзе. Цвіце жоўтым запозненым цветам агурэчнік, гарбузнік. Круглеюць стручкі фасолі, гароху, бобу. Чырванеюць, гараць полымем памідоры, шамаціць укроп. На яблынях саладзеюць

яблыкі, на грушах мякчэюць грушы, на слівах жаўцеюць ці дымна сінеюць слівы *(Паводле Б. Сачанкі)*.



**74.** Спішыце і падкрэсліце зборныя назоўнікі. Чым адрозніваюцца яны ад канкрэтных назоўнікаў?

1. Ужо жоўтаю сцяною стаіць спелае жыта, паціху шапаціць калоссе, развітваецца з полем *(П. Галавач)*. 2. Яблыні выпростваюць замлелае пад яблыкамі голле, а яблыкі ружовымі духмянымі сонцамі кладуцца ў скрыні на свежую жытнюю салому *(Я. Брыль)*. 3. А ўвосень зямля аж жаўцела пад дубамі ад жалудоў, пад арэшнікам — ад арэхаў *(Б. Сачанка)*. 4. Прыедзе дзядзька Андрэй дык насыпле дзятве цукерак. Кожнаму — у абедзве рукі *(М. Ракітны)*.

## § 13. Афіцыйны стыль

**75.** Прачытайце і вызначце тэму кожнага тэксту.

1. Усё адбылося нечакана.

Іра выйшла на вуліцу, каб памыць бульбу. І ўбачыла: гарыць дом калгаснага механізатара Аляксандра Аўдзеенкі. На дзвярах вісеў замок, а ў хаце крычалі дзеці.

Тры разы кідалася адважная дзяўчынка ў палаючы дом. Задыхаючыся ў дыме, шукала дзяцей, выносіла іх на двор. З маленькай Аленкай на руках выскачыла праз акно: дзверы закрыў агонь.

2. За мужнасць і за самаахвярнасць, праяўленыя пры выратаванні дзяцей у час пажару, ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь узнагародзіць Мірановіч Ірыну Аляксееўну медалём «За адвагу на пажары».

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якому тэксту ўласцівы афіцыйнасць, дакладнасць, сцісласць?

2. Якія з гэтых тэкстаў з’яўляюцца дакументамі?

Разнавіднасць маўлення, з дапамогай якой афіцыйна ў сціслай і дакладнай форме паведамляюцца канкрэтныя факты пра тыя ці іншыя з'явы, падзеі, адносіцца да **афіцыйнага стылю.**

Афіцыйны стыль выкарыстоўваецца ў справаводстве, у галіне права і заканадаўства. Да жанраў гэтага стылю адносяцца законы, указы, пастановы, загады, заявы, аб'явы і інш.

Для афіцыйнага стылю характэрны:

1) канкрэтнасць і дакладнасць;

2) адсутнасць эмацыянальнасці, вобразнасці;

3) словы-назвы розных афіцыйных асоб, устаноў, дакументаў;

4) ужыванне слоў толькі ў прамым значэнні.

**76.** Прачытайце тэкст.

А р т ы к у л 31. **Мова аб'яў і паведамленняў.**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і да т. п. выконваюцца на беларускай або рускай мове.

*Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь»*

● Дакажыце, што гэты тэкст адносіцца да афіцыйнага стылю.

**77.** Уявіце сабе, што вы вырашылі запісацца ў гурток авіямадэлістаў, ці ў конна-спартыўную секцыю, ці музычную школу. Які дакумент вам для гэтага спатрэбіцца?

Напішыце даведку паводле гэтага ўзору.

**Даведка**

Выдадзена Летніку Алесю Пятровічу ў тым, што ён з'яўляецца вучнем 6 класа сярэдняй школы № 2 горада Петрыкава.

Даведка выдадзена для прадстаўлення ў Гомельскі абласны Дом творчасці.

*Дырэктар школы* *І. Я. Ляўчук*

**78.** Прачытайце аб'яву і вызначце, з якіх частак складаецца гэты афіцыйны дакумент.

*Аб'ява*

*1 кастрычніка,*
*а 15 гадзіне,*
*у кабінеце біялогіі*
*адбудуцца заняткі гуртка*
*юных аматараў прыроды.*

*Тэма:*
*Птушкі нашага краю.*
*Запрашаюцца*
*вучні 5–6 класаў.*

*Стараста гуртка М. Лябёдка*



● Назавіце словы з гэтага тэксту, уласцівыя афіцыйнаму стылю. Да якіх часцін мовы яны адносяцца?

● Складзіце тэкст аб'явы пра пасяджэнне гуртка беларускай мовы.

**79.** Прачытайце і скажыце, з якога дакумента ўзяты прыведзеныя словы. Пра што, на вашу думку, ідзе ў ім гаворка (пра сход ці вечарыну)?

Адбудзецца, актавая зала, запрашаюцца, на парадку дня.

**80.** Прачытайце тэкст і дакажыце, што ён адносіцца да афіцыйнага стылю.

Паважаны Некрашэвіч У. В.

Паведамляем, што на Ваша імя паступіла накладным плацяжом кніга «Беларуская мова: Энцыклапедыя».

Кнігу можна атрымаць у паштовым аддзяленні № 127 г. Мінска з 9.00 да 16.00 штодзённа, акрамя нядзелі, па адрасе: вул. Б. Хмяльніцкага, 34.

● Чаму гэты тэкст адносіцца да паведамлення?

● Якія структурныя часткі ў ім можна выдзеліць?

**81.** Выпішыце з тэкстаў практ. 76—80 уласныя назоўнікі. Што яны абазначаюць і з якой мэтай выкарыстоўваюцца?



**82.** Складзіце тэкст паведамлення ўдзельнікам раённага злёту юных натуралістаў. Напішыце адрас, на які б вы паслалі паведамленне аднаму з удзельнікаў злёту юных натуралістаў (гл. узор).

Ад каго *Васілевіча Івана Мікалаевіча*
Адкуль *в. Ціхановічы, Лагойскі раён, Мінская вобл., 223137*







Каму *Кавалёву Пятру Іванавічу*
Куды *вул. Гагарына, д.8, кв. 2, г. Лунінец, Брэсцкая вобл.*

## § 14. Род назоўнікаў

**83.** Прачытайце радкі з верша А. Вольскага «Жывая граматыка». Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы і скажыце, што яны абазначаюць.

Гусь уранні выйшла з хаты,
важна тупае лужком...
А я гусі не баюся,
а я з гусі пацвялюся*!
Тут **яна** як с-с-сыкане...
ды ў атаку на мяне...
**Гусь — яна? Жаночы род!**
Ах, я бедны, небарака.
Ззаду гусь, а тут — **сабака.**
**Ён** пільнуе агарод...
**Ён**? Ага, — **мужчынскі род!**
Азірнуўся, ажно бачу:
тут яшчэ і **кацяня**!
— Мяў, — гаворыць мне **яно**...
Раз **яно** — **ніякі род!**

*ён, мой*
*яна, мая*
*яно, маё*

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якога роду бываюць назоўнікі?

2. З якімі словамі можна спалучыць назоўнікі, каб вызначыць род?

3. У якім родзе ўжываюцца назоўнікі *гусь, сабака, кацяня* ў рускай мове?

**84.** Падбярыце да назоўнікаў прыметнікі і запішыце словазлучэнні. Назавіце галоўнае слова і род назоўнікаў.

Дзіця, дзядзька, дэталь, жаль, жыццё, моладзь, насенне, полымя, салавейка, цюцька, чарніла.

● З двума назоўнікамі складзіце сказы са звароткам. Абазначце ў дужках род, лік і склон назоўнікаў.

**85.** Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі і абазначце іх род.

Красавіцкім ранкам можна пачуць у пушчы глушца. Ён такуе на суку высокага дрэва каля балота. Звесіўшы крылы ўніз, распускае хвост веерам і выцягвае наперад шыю, а галаву задзірае ўгору. Глушэц* любіць такаваць на досвітку, калі вакол цёмна і лес яшчэ не абудзіўся. Такуючы, ён нічога не чуе, нічога не заўважае, бо цалкам захоплены спевам. Таму і называюць яго глушцом *(В. Вольскі)*.

**86.** Разгледзьце табліцу і вусна дапоўніце яе вядомымі вам назвамі свойскіх і дзікіх птушак. Скажыце, як размяркоўваюцца гэтыя назвы па родах. Наколькі пашыраны парныя назвы птушак?

| Адзіночныя назвы | | Парныя назвы | |
|---|---|---|---|
| муж. род | жан. род | муж. род | жан. род |
| — | *сарока* | *глушэц* | *глушыца* |
| *дзяцел* | — | *певень* | *курыца* |

⊙ **87.** Пастаўце дзеясловы ў прошлым часе і запішыце сказы. Вызначце род назоўнікаў.

У з о р. *Гусь (ж. р.) паплыла.*

Боль *(суняцца)*. Вятрыска *(завываць)*. Ласяня *(бегчы)*. Палын *(расці)*. Санаторый *(адкрыцца)*. Рунь *(зазелянець)*.

**88.** Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову. Вызначце род назоўнікаў у рускай і беларускай мовах.

Аккуратная запись, горькая полынь, длинная тень, золотая медаль, каменный уголь, молодой жеребёнок, солнечный день, высокий тополь, широкая степь.

**89.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Вызначце род выдзеленых назоўнікаў.

1. Думаў я, пройдуць зімы і вёсны, сціхне ў грудзях маіх **боль** н..выносны *(П. Броўка)*. 2. С..ння на кухні дз..журыць Люся, **санінструктар,** мал..дшы **с..ржант** медыцынскай службы *(В. Быкаў)*. 3. Мес..ц с..ежку ў **дубняк** залівае халодным праменнем; не магу я ніяк з уласным асвойтацца* **ценем** *(А. Куляшоў)*. 4. Ля парога стаяў Віктар у кірзавых ботах, з **шынялём** на руцэ *(А. Кулакоўскі)*.

Некаторыя назоўнікі, якія абазначаюць прафесіі, званні, пасады, маюць толькі форму мужчынскага роду, хоць могуць адносіцца і да асоб жаночага полу: ***сакратар*** Кавалёў — ***сакратар*** Кавалёва, ***слесар*** Журбін — ***слесар*** Журбіна, ***сяржант*** Забалоцкі — ***сяржант*** Забалоцкая.

Прыметнікі з такімі назоўнікамі ўжываюцца ў мужчынскім родзе, а дзеясловы прошлага часу — у мужчынскім ці ў жаночым родзе ў залежнасці ад полу асобы: ***малады*** *аграном Анатоль Валошка* ***аглядаў*** *пасевы;* ***маладый*** *аграном Алена Валошка* ***аглядала*** *пасевы.*

**90.** Прачытайце і скажыце, у якім родзе можна ўжыць прыведзеныя ў дужках прыметнікі і дзеясловы прошлага часу ў наступных сказах. Абгрунтуйце свой адказ.

1. Удумлівым і карпатлівым мастацкім пошукам запоўнены дні *(малады, маладая)* дызайнера* Ганны Максімаўны *(«Звязда»)*. 2. Да канца ўрока аставалася хвілін восем, калі ў клас *(зайшоў, зайшла)* дырэктар Ніна Фёдараўна *(А. Асіпенка)*. 3. «Я *(новы, новая)* аграном і *(прыйшоў, прыйшла)* у ваш калгас, бо ён уваходзіць у мой участак», — сказала Васіліна *(Т. Хадкевіч)*.



**91.** Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі і абазначце іх род.

Чумакоў быў гараджанінам і любіў горад. У лесе, на рацэ ён адчуваў сябе чужым і адзінокім. Ён не разумеў мовы дрэў і птушак, кветак і траў. У душы ён пасмейваўся з тых, для каго кожная кветка, кожная травінка была цэлым светам, мела свой колер, пах. Не разумеў тых, хто ў замілаванні айкаў і войкаў над кожным грыбам, заміраў каля чаромхі ў квецені. Хто мог гадзінамі расказваць, як віруюць рыбкі ў рацэ, як зіхаціць раса на павуцінні, як пранізліва курлычуць у асеннім небе журавы... Жыццё надта кароткае, разважаў ён, каб траціць яго на розныя глупствы *(Паводле М. Герчыка)*.

- Ці падзяляеце вы думкі Чумакова?
- Як вы адчуваеце сябе ў лесе ці на рэчцы (возеры)?

## § 15. Назоўнікі агульнага роду

**92.** Прачытайце тэкст і скажыце, ці правільна папраўляў брат сястрычку.

— Пара снедаць, Мішка! — пачуўся голас маці. Але Мішку так хацелася спаць, што ён і не паварушыўся.

Тады прыбегла сястрычка і стала яго дакараць:

— Ой, якая ты соня, Мішка! Спознішся ў школу.

— Не якая, а які соня. Я ж хлопец, — папраўіў Мішка і саскочыў з ложка.

Некаторыя назоўнікі, якія заканчваюцца на ***-а (-я)***, па форме нагадваюць словы жаночага роду, але могуць абазначаць асоб і жаночага, і мужчынскага полу, напрыклад: ***такі плакса*** *Андрэй,* ***такая плакса*** *Анюта,* ***такі задавака*** *Косця,* ***такая задавака*** *Ніна.*

Падобныя назоўнікі адносяцца да агульнага роду.

Назоўнікі агульнага роду пры скланенні набываюць канчаткі 1-га скланення, калі абазначаюць асоб жаночага полу.

Калі ж такія назоўнікі абазначаюць асоб мужчынскага полу, то ў родным склоне набываюць канчаткі 1-га, а ў давальным, месным і творным склонах — 1-га (калі націск падае на канчатак) і 2-га скланення (калі націск падае на аснову).

| Ж. р. ***плакса, соня*** | М. р. ***пла́кса, со́ня; сірата́, старшыня́*** |
|---|---|
| Р. ***-ы, -і*** | Р. ***-ы, -і*** |
| Д. ***-е, -і*** | Д. ***-у, -ю; -е́, -і́*** |
| Т. ***-ай (-аю), -яй (-яю)*** | Т. ***-ам, -ем; -о́й (-о́ю), -ёй (ёю)*** |
| М. ***-е, -і*** | М. ***-у, -ю; -е́, -і́*** |

Прыметнікі дапасуюцца да назоўнікаў агульнага роду або ў мужчынскім, або ў жаночым родзе: *Іван —* ***вядомы*** *запявала, Ганна —* ***вядомая*** *запявала.*

Дзеясловы прошлага часу таксама ставяцца ў форме мужчынскага ці жаночага роду: ***прыйшоў*** *задавака Іван,* ***прыйшла*** *задавака Іна.*

**93.** Прачытайце сказы і назавіце назоўнікі агульнага роду. Значэнне якога роду маюць гэтыя назоўнікі ў кожным сказе? Якія словы дапамаглі вам гэта вызначыць?

1. Наш узводны запявала — хлопец бойкі і вясёлы *(Х. Жычка)*. 2. «Ох і прыдзіра вы, Васіліна», — дабрадушна-жартоўным тонам сказаў Лясовіч *(Т. Хадкевіч)*. 3. «Як жыццё, ціхоня?» — мелькам глянуўшы на Веру, спытаў Васіль *(Л. Гаўрылкін)*. 4. Слаўка — пуставей і выскаля-

ка. А Вася... Гэты — ціхоня, чырванее ні з таго ні з сяго *(П. Рабянок)*. 5. Аднак жа і пасля сходу парадкі не вельмі змяніліся, а яе пачалі зваць выскачкай *(Р. Сабаленка)*. 6. «Хадзем памыю хоць, мурза ты», — усміхнулася маці сыну *(Л. Арабей)*. 7. Уладзіслаў добры, толькі крыўляка *(І. Шамякін)*.

**94.** Прачытайце. Вызначце род агульных назоўнікаў. Спішыце, дапісваючы канчаткі. Растлумачце іх выбар.

1. «Ніна наша ў дарозе сон.. зрабілася», — з затоеным сумам сказала Варвара Максімаўна *(П. Кавалёў)*. 2. У дзяўчынкі на вачах нагарнуліся слёзы, але яна не плакала, бо не была румз.. *(А. Рылько)*. 3. Дзядзька Нічыпар яшчэ з большым азартам паказваў свае здольнасці мясцовага самавучк.. *(А. Кулакоўскі)*. 4. І расце Кастусь няўмек.. *(М. Чарот)*. 5. Ляснічы без дроў зімуе. Недацёп.. так.., ці што? *(В. Карамазаў)*. 6. Ксенія Фёдараўна прайшла суровую школу сялянскага жыцця, бо з двухгадовага ўзросту засталася сірат.., выхоўвалася ў сялянскай сям'і *(В. Куляшова)*.

⊙ Праскланяйце ў адзіночным ліку словы *дзяўчынка румза, хлопчык румза.*

**95.** Прачытайце сказы. Якое значэнне роду маюць выдзеленыя назоўнікі? Знайдзіце два назоўнікі з няправільна ўжытымі канчаткамі.

1. Юрку здавалася, што ў яго нічога па-людску не выйдзе, і ён будзе выглядаць **недарэкам** *(У. Карпаў)*. 2. «Чакай, не будзь **задавакай**», — пайшоў следам за Андрэйкам Міхась *(П. Кавалёў)*. 3. Раней яна, Паліна Фёдараўна, лічыла Вікторыю Аркадзьеўну і ганарыстай, і **задавакай**, і ўсё гэта праз тое, што яны не ведалі адна адну *(М. Паслядовіч)*. 4. Гаспадыня мая любіць парадак, вялікая **чысцёха** *(Г. Далідовіч)*. 5. Яшчэ тыдзень назад ён быў бяздомным **бадзягай**, які не ведаў, што яго чакае заўтра *(У. Дамашэвіч)*.

● У якім стылі часцей выкарыстоўваюцца назоўнікі агульнага роду?



**96.** Спішыце, дапісваючы канчаткі ў выдзеленых словах.

1. А вось гэты тлусты пан, відаць, **вялік..** абжора *(І. Шамякін)*. 2. «Стары я, браткі, **недалэг..** раблюся», — разважае стары машыніст Андрэй Сапун *(М. Лынькоў)*. 3. Хоць Натцы ішоў толькі сёмы год і дома яна была **страшэнн..** плакса, здачы даваць яна ўмела *(А. Васілевіч)*. 4. Выкладчык у нас строгі. Любіць, каб яго лекцыі на памяць ведалі. **Так..** прыдзіра *(Л. Гаўрылкін)*. 5. Сымон быў **кругл.. сірат..** *(Б. Сачанка)*. 6. «А што, хіба я нездаляка **як..**? Не магу кармушку зрабіць?» — загарачыўся Міхась *(А. Капусцін)*.

## § 16. Змяненне назоўнікаў. Лік і склон назоўнікаў

**97.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Выпішыце спачатку назоўнікі, якія ўжыты ў адзіночным ліку, а затым — назоўнікі ў множным ліку.

У незапамятны час жыў на зямлі просты вясковы каваль. Быў ён майстрам на ўсе рукі. Як сапраўдны патрыёт свайго краю, у гады ліхалеццяў каваў воінам мячы. У мірны час — косы і сякеры. Аднойчы прыйшлі да яго сяляне і сказалі, што настаў час сеяць хлеб. Але не было жалеза. І тады стары каваль перакаваў меч на плуг. І шчаслівы быў, што дапамог людзям.

Чалавек — каваль свайго шчасця *(«Беларусь»)*.

● Растлумачце напісанне ***ыё*** ў слове *патрыёт*.

**98.** Назавіце намаляваныя прадметы. Скажыце, ці змяняецца форма ліку назоўніка, калі вы называеце адзін прадмет ці некалькі прадметаў.





**99.** Складзіце вусна сказы з наступнымі словамі. Ці змяняюцца гэтыя словы па ліках?

бацькі́ чалавек пельмені
людзі моладзь чарніла

Сярод назоўнікаў ёсць словы, якія не змяняюцца па ліках. Некаторыя з іх маюць толькі форму адзіночнага ліку *(гарох, золата, мёд)*, а некаторыя — толькі форму множнага ліку *(апілкі, сані, канікулы)*.

У назоўнікаў, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, не вызначаецца род і скланенне.

**100.** Выпішыце ў адзін слупок назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў форме адзіночнага ліку, а ў другі — назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку. Скажыце, што абазначаюць гэтыя назоўнікі: рэчывы, прадукты харчавання, якасці і ўласцівасці, парныя прадметы, спартыўныя гульні, геаграфічныя назвы.

Азія, акуляры, Арменія, Баранавічы, Беларусь, ветлівасць, волава, воля, вугаль, Грузія, Карпаты, кісель, крупы, лейцы, Мазыр, малако, нажніцы, Нёман, пласкагубцы, радасць, смех, футбол, шахматы.



Нязменныя назвы дзяржаў адносяцца да жаночага роду, а нязменныя назвы гарадоў — да мужчынскага.

**101.** Складзіце спіс назваў населеных пунктаў вашай мясцовасці і пазначце іх лік. Зменнай ці нязменнай граматычнай прыметай з'яўляецца лік гэтых назоўнікаў.

**102.** Спішыце. Назоўнікі, якія маюць формы адзіночнага і множнага ліку, абазначце зверху *адз.-мн.*, толькі адзіночнага — *адз.*, толькі множнага — *мн.*

Зямля бацькоў!
Радзімы ціхі кут!

Ты бераг мой,
Я ад цябе не ўтою
Ні болю, ні сумненняў, ні пакут,
Ні шчасця і ні радасці зямное.
*А. Бачыла*

● Праскланяйце пісьмова ў адзіночным ліку назоўнікі *зіма, мароз, радасць*. Супадаюць ці адрозніваюцца склонавыя канчаткі гэтых назоўнікаў?

У беларускай мове 6 склонаў. Назоўны склон называецца **прамым**, таму што яго форма не залежыць ад сувязі з іншымі словамі ў сказе ці словазлучэнні. Назоўнік у назоўным склоне з'яўляецца ў сказе дзейнікам ці звароткам.

Формы назоўнікаў астатніх склонаў залежаць ад сувязі з іншымі словамі, таму яны называюцца **ўскоснымі**.

Змяненне назоўнікаў па склонах называецца **скланеннем**. У залежнасці ад канчаткаў у назоўным склоне адзіночнага ліку і граматычнага роду абсалютная большасць назоўнікаў размяркоўваецца па трох тыпах скланення: першае, другое і трэцяе скланенне.

**103.** Разгледзьце схему і скажыце, у залежнасці ад чаго назоўнікі падзяляюцца на тры скланенні.



**104.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту ўсе назоўнікі (за выключэннем слова *вачэй*) і абазначце скланенне паводле ўзору.

У з о р: *над Прыпяццю (Прыпяць — ж. р., □, 3-е скл.).*

Зямля Беларусі!
Табой мы сагрэты,
Ніколі не сходзіш ты з нашых вачэй.
О, як ты прыгожа над Нёманам, лета!
Чаборам, рамонкам, мядункавым цветам
І водарам ясных купальскіх начэй.
Па вішнях і яблынях сонца разліта,
Яно над кустамі парэчак, малін;
Блішчаць сенажаці травой-аксамітам,
Хвалюецца возерам спелае жыта,
І шум канюшыны ўзлятае з лагчын.

*П. Броўка*

Каб высветліць скланенне, назоўнік патрэбна паставіць у форме назоўнага склону адзіночнага ліку і вызначыць род і канчатак.

Каб вызначыць склон назоўніка ў сказе, патрэбна:

1) знайсці слова, ад якога залежыць назоўнік;

2) задаць ад гэтага слова да назоўніка склонавае пытанне.

Напрыклад, у сказе *Вясновым водарам дыхаюць палі, лугі, сады* назоўнік *водарам* залежыць ад дзеяслова *дыхаюць* — *дыхаюць водарам*; задаём склонавае пытанне — *дыхаюць* ч ы м? Ч ы м? — гэта пытанне творнага склону. Значыць, *водарам* — гэта форма назоўніка творнага склону.

**105.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту. Выпішыце назоўнікі ў пачатковай форме і ў дужках абазначце скланенне. Назоўнікі, якія не ўжываюцца ў множным ліку, падкрэсліце.

Кастрычнік... Як паўнапраўны гаспадар восені, ён наглуха зачыняе летнія дзверы. Замірае раслінны свет. Ад-

ляцелі ў вырай птушкі, а мясцовыя старажылы — цецерукі, глушцы, рабчыкі — таксама не падаюць голасу.

Ужо не сустрэнеш буслоў — гэтых прыгожых птахаў. Але прыйдзе вясна, засінеюць рэкі і азёры, абудзяцца лясы і лугі, раскрые насустрач сонцу цікаўныя вочкі жоўтая лотаць — і буслы вернуцца ў наш сіне-зялёны край, у родную старонку. Гэта іх радзіма.

Гэта і наша Радзіма. А белыя гордыя птахі — яе сімвал. Сімвал міралюбства, дабрыні і сілы, ціхага някідкага хараства, якое даспадобы ўсім *(«Радзіма»)*.



**106.** Выпішыце па тры назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду разам з тымі словамі, з якімі яны ўтвараюць словазлучэнні. Абазначце галоўнае слова, а таксама род, лік, склон і скланенне назоўнікаў.

У з о р: *зайсці ў хату (ж. р., адз. л., В. скл., 1-е скл.).*

Сілу песні чалавек адчувае даўно. Песня вучыла народ, клікала яго да дзеяння, да змагання, вяла ў бой за свае правы, за волю.

Песня непасрэдна абуджае пачуцці, змушае нанава перажываць радасць, крыўду, нянавісць. Праз песню чалавек разумее тую праўду, тую ідэю, якая даносіцца словамі. Мэта песні — будзіць і ўзбагачаць духоўнае жыццё чалавека *(Паводле Р. Шырмы)*.

## § 17. Асновы назоўнікаў. Асаблівасці правапісу канчаткаў назоўнікаў 1-га скланення (у давальным і месным склонах адзіночнага ліку)

**107.** Разгледзьце табліцу і скажыце, на якія зычныя можа канчацца аснова назоўнікаў.

| Аснова назоўніка канчаецца на зычныя | | | |
|---|---|---|---|
| цвёрдыя | мяккія | зацвярдзелыя ***ж, дж, ч, ш, р, ц*** | ***г, к, х*** |
| *сасн* [а] | *вол* [я] | *сэрц* [а] | *дарог* [а] |
| *сын* [ ] | *радасць* [ ] | *шыр* [ ] | *рэх* [а] |

**108.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Пры спісванні выдзеліце аснову і канчатак агульных назоўнікаў паводле ўзору. Ахарактарызуйце аснову кожнага назоўніка.

Узор. *Каму з беларус* *аў* ...

Вязынка! Каму з беларусаў не вядомая назва ..этай в..скі, дзе з'яві..ся на свет нац..янальны геній Янка Купала. Тысячы людзей з навако..я і дал..кага заме..а наведваюць шт..год гэты куток беларускай з..млі, каб удыхнуць гл..ток купалаўскага паветра, пакланіцца радзіме п..сняра, с..рцам прычасціцца да яго в..лікай спадчыны *(«Звязда»)*.

**109.** Пісьмова праскланяйце ў адзіночным ліку назоўнікі *ніва, пушча, зямля, рука.* Запішыце іх скланенне і выдзеліце канчаткі. У якіх склонах назоўнікі маюць аднолькавыя канчаткі?

**110.** Разгледзьце табліцы і скажыце, ад чаго залежаць склонавыя канчаткі назоўнікаў 1-га скланення

| Склон | Назоўнікі з асновай на | | |
|---|---|---|---|
| | цвёрды зычны | зацвярдзелы зычны | мяккі зычны |
| Д. | *вярб е*<br>*бяроз е* | *мяж ы*<br>*паліц ы* | *зямл і*<br>*песн і* |
| М. | *на вярб е*<br>*на бяроз е* | *на мяж ы*<br>*на паліц ы* | *на зямл і*<br>*аб песн і* |

| Склон | Назоўнікі з асновай на ***г, к, х*** | | |
|---|---|---|---|
| Д. | *наз е*<br>*дароз е* | *руц э*<br>*фабрыц ы* | *страс е*<br>*чаромс е* |
| М. | *на наз е*<br>*аб дароз е* | *на руц э*<br>*аб фабрыц ы* | *на страс е*<br>*аб чаромс е* |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

[г]//[з′]
[к]//[ц]
[х]//[с′]

1. Якія назоўнікі 1-га скланення ў давальным і месным склонах пішуцца з канчаткамі ***-е, -э, -ы, -і***?

2. З якімі гукамі чаргуюцца [г], [к], [х] у давальным і месным склонах адзіночнага ліку?

Правапіс канчаткаў назоўнікаў 1-га скланення залежыць ад зычнага асновы і месца націску.

У давальным і месным склонах назоўнікі маюць канчаткі:

***-е*** — назоўнікі з асновай на цвёрды зычны і на [г], [х] (пры абавязковым чаргаванні [г]//[з′] і [х]//[с′]): *сасн-а — сасн**е**, на сасн**е**; кніг-а — кніз**е**, па кніз**е**; чаромх-а — чаромс**е**, у чаромс**е***;

***-э́*** — назоўнікі з асновай на [к] (пры абавязковым чаргаванні [к]//[ц] і націскам на канчатку): *рак-а́ — рац**э́**, у рац**э́***;

***-і*** — назоўнікі з асновай на мяккі зычны: *зямл-я — зямл**і**, на зямл**і***;

***-ы*** — назоўнікі з асновай на зацвярдзелыя зычныя і на [к] (пры абавязковым чаргаванні [к]//[ц] і націскам на аснове): *гру́ш-а — гру́ш**ы**, на гру́ш**ы**; ле́йк-а — ле́йц**ы**, у ле́йц**ы***.

**111.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс канчаткаў.

Гуляць на *(вуліца)*, працаваць у *(тундра)*, сказаў *(сястра)*, сядзець на *(канапа)*, служыць *(Радзіма)*, жыць у *(вёска)*, на роднай *(зямля)*, дом пры *(дарога)*, служыць *(Бацькаўшчына)*, радавацца *(удача)*.



**112.** Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў.

### Альбуць

На звычайнай лясной *(паляна)* — звычайная старая л..снікова хата. У гэтай *(хата)* прайшло дз..цінства паэта. Па гэтай *(трава)* пад дубамі, па пя..чанай *(дарога)*, па грыбных верасах хадзілі яго но..кі. Вакол *(сяліба)* дазорам стаяць в..кавыя дубы. Над *(крона)* аднаго, у *(вышыня)*, — белае воблака ў сонцы.

Радасна, дзіўна ад *(думка)*, што іменна пра гэтую *(мясціна)* паэт пісаў за кратамі *(турма)*: «Мой родны кут...» *(Паводле Я. Брыля)*.

## § 18. Асаблівасці правапісу канчаткаў назоўнікаў 2-га скланення (у родным і месным склонах адзіночнага ліку)

**113.** Разгледзьце табліцы.

| Склон | Назоўнікі з асновай на | | |
|---|---|---|---|
| | цвёрды зычны | зацвярдзелы зычны | мяккі зычны |
| Р. | *стал*[а]<br>*шум*[у]<br>*раён*[а]<br>*паэт*[а] | *сэрц*[а]<br>*абшар*[у]<br>*стрыж*[а]<br>*дождж*[у] | *пол*[я]<br>*ячмен*[ю]<br>*кавал*[я]<br>*ча*[ю] |

| Склон | Назоўнікі з асновай на ***г, к, х*** | | |
|---|---|---|---|
| Р. | *стог*[а]<br>*забег*[у]<br>*насарог*[а]<br>*снег*[у] | *замк*[а]<br>*воск*[у]<br>*вожык*[а]<br>*крык*[у] | *кажух*[а]<br>*шлях*[у]<br>*рэх*[а]<br>*поспех*[у] |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія канчаткі маюць назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне адзіночнага ліку?

2. Ад чаго гэта залежыць?

У залежнасці ад лексічнага значэння і характару зычнага асновы назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку маюць канчаткі ***-а (-я)*** ці ***-у (-ю)***.

Большасць назоўнікаў, у тым ліку ўсе асабовыя, маюць канчаткі ***-а (-я)***: *Міхас[я] Чарот[а], вучн[я], млын[а], вуле[я], гектар[а], дн[я], вальс[а].*

Канчатак ***-у (-ю)*** маюць назоўнікі, якія абазначаюць:

● матэрыялы і рэчывы: *алюміні[ю], воск[у], чыгун[у], кле[ю]*;

● зборныя прадметы: *лес[у], га[ю], груз[у], сад[у]*;

● з'явы прыроды: *ветр[у], гром[у], агн[ю]*;

● прасторавыя паняцці: *абшар[у], верх[у], шлях[у], кра[ю]*;

● уласцівасці, дзеянні, пачуцці: *абавязк[у], бол[ю], гнев[у], адпачынк[у], бо[ю], марш[у], апетыт[у], жал[ю].*

Назоўнікі ніякага роду маюць канчаткі ***-а (-я)***: *возер[а], сял[а], калосс[я], пол[я].*

**114.** Спішыце, раскрываючы дужкі і ўтвараючы словазлучэнні. Запішыце іх паводле ўзору. Растлумачце правапіс канчаткаў.

Але:
***аўс[а́]***
***хле́б[а]***

У з о р: *паласа* (ч а г о?) *лес[у]*.

Белы ад *(іней)*, бохан *(хлеб)*, вядро *(цэмент)*, жадаць *(шчасце)*, захіліцца ад *(вецер)*, зайсці да *(сябар)*, намяло *(снег)*, поле каля *(лес)*, сабраць многа *(галлё)*, медаль беларускага *(плывец)*.

**115.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Назоўнікі пастаўце ў патрэбнай форме. Растлумачце выбар канчаткаў.

1. Мае сябры заслужанымі сталі майстрамі *(лес)*, *(вугаль)* і сталі *(С. Грахоўскі)*. 2. Школу *(жыццё)* Сымонка пачаў праходзіць, маючы шэсць гадоў ад *(нараджэнне)* *(З. Бядуля)*. 3. Тут, пры *(сцяна)* старога *(лес)*, ішла града маладога *(ельнік)* *(К. Чорны)*. 4. І ў ажыўшых жылах *(клён)* сок салодкі, сок зялёны да *(галлё)* уверх пацёк *(К. Буйло)*. 5. Мне валошкай вышыла матуля з беленага *(кужаль*)* кашулю *(В. Вітка)*. 6. Літаратуру лічаць мастацкім летапісам жыцця *(народ)*.

● Назавіце антонімы ў трэцім сказе. Падбярыце сінонім да слова *валошка*.

**116.** Разгледзьце табліцы.

| Склон | Назоўнікі з асновай на | | |
|---|---|---|---|
| | цвёрды зычны | зацвярдзелы зычны | мяккі зычны |
| М. | *на стал[е]*<br>*у шум[е]*<br>*аб раён[е]* | *у сэрц[ы]*<br>*на абшар[ы]*<br>*аб стрыж[ы]* | *у пол[і]*<br>*у ячмен[і]*<br>*аб кавал[ю]* |

| Склон | Назоўнікі з асновай на ***г, к, х*** | | |
|---|---|---|---|
| М. | *на стоз[е]*<br>*у забег[у]*<br>*аб насарог[у]* | *на замк[у]*<br>*аб воск[у]*<br>*аб вожык[у]* | *у кажус[е]*<br>*на шлях[у]*<br>*аб рэх[у]* |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія канчаткі маюць назоўнікі 2-га скланення ў месным склоне адзіночнага ліку?

2. Ад чаго гэта залежыць?

У месным склоне адзіночнага ліку назоўнікі 2-га скланення маюць канчаткі ***-е, -ы, -і, -у, -ю***. Правапіс канчаткаў залежыць ад зычнага асновы і значэння назоўнікаў:

***-е*** — маюць неадушаўлёныя назоўнікі з цвёрдай асновай і асновай на [г], [х] (калі гэтыя гукі чаргуюцца з [з′], [с′]): *шум — у шум****е****, бераг — на берaз****е****, верх — на верс****е****;*

***-ы*** — маюць назоўнікі з асновай на зацвярдзелыя зычныя: *дождж — на даждж****ы****, гушчар — у гушчар****ы****, палац — у палац****ы****;*

***-і*** — маюць назоўнікі з асновай на мяккі зычны: *алень — на ален****і****, край — у кра****і****;*

***-у*** — маюць назоўнікі з асновай на [к] і на [г], [х], калі яны не чаргуюцца з [з′], [с′]: *пясок — у пяск****у****, перад мітынгам — на мітынг****у****, шлях — на шлях****у****.*

Канчатак ***-у, -ю*** маюць назоўнікі, якія абазначаюць асобу чалавека, імёны і прозвішчы людзей: *сусед — пры сусед****у****, герой — пры геро****ю****, Алег Несцяровіч — пры Алег****у**** Несцяровіч****у****, Андрэй Каваль — пры Андрэ****ю**** Кавал****ю****.*

З а ў в а г а. Назоўнікі са значэннем асобы, імёны і прозвішчы людзей могуць ужывацца і з канчаткам ***-е***: *аграном — пры агранам****е****, Сымон — пры Сымон****е****.*

**117.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Абазначце канчаткі назоўнікаў і растлумачце іх правапіс.

Выступіць на *(сход, мітынг, фестываль)*, гняздо на *(дуб, ясень)*, жыць пры *(Адам, Міхась Бондар)*, працаваць у *(магазін, цэх)*, птушкі ў *(гай, кустоўе, бярэзнік)*, сустрэцца ў *(Брэст, Мінск, Гомель)*.



**118.** Спішыце, дапісваючы канчаткі назоўнікаў.

На ўзгорк.., ля адхон.., пракідаўся падбел, пахла леташняй апалай лістот.. . Па зямл.. ішоў красавік.

Коля Гойшык ляжаў у гушчар.. і чакаў зручнага момант.., каб рыўком кінуцца на чыгуначнае палатно. Але такога момант.. не было. На чыгунц.. — пільная ахова.

Шэсць варожых эшалонаў на рахунк.. маладога мсціўц.. .

Нарэшце з бок.. Броннай Гары пачуўся цяжкі^ф грукат гружанага састав.. . Гойшык зрываецца з месц.. і паўзе, паўзе. А потым... *(Паводле Я. Пархуты).*

● Што вы ведаеце пра жыццё і подзвіг Колі Гойшыка?

## § 19. Асаблівасці правапісу канчаткаў назоўнікаў 3-га скланення (у творным склоне адзіночнага ліку)

**119.** Прачытайце і вызначце асноўную думку верша. Назавіце назоўнікі 3-га скланення. Праскланяйце іх у адзіночным ліку, запішыце і абазначце канчаткі.

У свеце знаюць смутак Лідзіцэ
І Арадур у горкай скрусе.
А партызанкай першай лічыцца
Зямля бяссмертнай Беларусі.
У нас усе бары і ельнікі —
Музеі славы несмяротнай.
Вы знайце гэта, пераемнікі
Вялікай доблесці народнай.
Не забывайце сцежкі даўнія,
Што мсціўцы вытапталі ў лесе,
Калі праз ночы легендарныя
Вам светлы дзень насустрач неслі.

*Н. Гілевіч*

**Р.** ↘
**Д.** → *-ы, -і*
**М.** ↗
**Т.** → *-у, -ю*

*Сібі́р'ю*
*Сві́р'ю*
*ве́рф'ю*

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якіх склонах адзіночнага ліку назоўнікі 3-га скланення маюць аднолькавыя канчаткі?

2. Якія канчаткі маюць гэтыя назоўнікі ў творным склоне?

У творным склоне адзіночнага ліку канчаткі назоўнікаў 3-га скланення залежаць ад зычнага асновы:

***-у*** — маюць назоўнікі з асновай на зацвярдзелыя зычныя: *бездараж — бездаражж*[**у**], *печ — печч*[**у**], *мыш — мышш*[**у**];

***-ю*** — маюць назоўнікі з асновай на мяккі і цвёрды зычны: *даль — далл*[**ю**], *міласць — міласц*[**ю**], *Об — Об'*[**ю**], *любоў — любоў*[**ю**].

З а ў в а г а. Калі апошні зычны асновы стаіць пасля галоснага, то ён падаўжаецца: *бель — бе**лл***[ю], *рунь — ру**нн***[ю]; а калі стаіць пасля зычнага, то не падаўжаецца: *вернасць — вернас**ц***[ю], *радасць — радас**ц***[ю].

Не падаўжаюцца зычныя ***б, р, ф.*** Пасля іх перад канчаткам ***-ю*** пішацца апостраф: *Об — Об'*[**ю**], *Сібір — Сібір'*[**ю**], *верф — верф'*[**ю**].

**120.** Прачытайце. Назавіце назоўнікі 3-га скланення, вызначце іх склон і канчатак.

Іван адкінуў руку і нечакана адчуў далонню росную прахалоду травы[сн]. Хлопец сеў, расплюшчыў вочы, азірнуўся. Ён прыемна здзівіўся ад нябачнай, амаль казачнай прыгажосці альпійскага маку. Буйныя, узгадаваныя вялікай шчодрасцю прыроды мільёны кветак пераліваліся ўрачыстаю чырванню *(Паводле В. Быкава)*.

**121.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Назоўнікі пастаўце ў патрэбным склоне і растлумачце выбар канчаткаў.

1. Чорнай *(гладзь)* рачной ціха месяц плыве *(Л. Паўлікава)*. 2. Раніцай над *(Прыпяць)* стаяла кволае марыва* туманаў, і рака была ахутана імглой[сн] *(У. Краўчанка)*. 3. Аляксей Паўлавіч сустрэў сваіх знаёмых, як заўсёды, з *(радасць)* *(П. Рунец)*. 4. Дарога *(спіраль)* віецца *(А. Бялевіч)*. 5. Спелай густой *(чырвань)* гарэлі рабіны — знак на снежную зіму *(В. Адамчык)*.

**122.** Складзіце невялікі тэкст тыпу апавядання «Сустрэча з вожыкам». Выкарыстайце прыведзеныя словазлучэнні.

Сярэдзіна восені, сонечны дзень, празрыстае паветра, чароўны лес, апошнія фарбы лета, жоўта-залацістае лісце, ярка-чырвоныя гронкі, вузкая сцежка, клубок з лісця, шырокі пень, куст ядлоўцу, высцілаць гняздо.



**123.** Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне. Пазначце скланенне, лік і склон гэтых назоўнікаў паводле ўзору.

Узор. *Рыгор Шырма стаіць з добрай усмешкай (1-е скл., адз. л., Т. скл.) перад хорам (2-е скл., адз. л., Т. скл.).*

Любоў Рыгора Раманавіча Шырмы да *(песня)* абудзілася яшчэ ў *(маленства)*. Тады раскрылася душа *(мастак)* насустрач першароднай *(прыгажосць)* той *(песня)*, якая нараджалася *(душа і сэрца)* беларускага *(народ)*. У гэтай *(песня)* ён адчуваў хараство беларускага *(слова)*, прыгажосць роднага *(неба)*, сасновага *(бор)*, ціхай *(рачулка)*, свайго мілага *(край)* з яго непаўторнымі гукамі, фарбамі, краявідамі *(Паводле Я. Радкевіча)*.

## § 20. Асаблівасці правапісуканчаткаў назоўнікаў у множным ліку (у родным і творным склонах)

**124.** Разгледзьце табліцу.

| Склон | Назоўнікі | | |
|---|---|---|---|
| | 1-га скланення<br>*сасна, вішня, лінія, вёска, гульня* | 2-га скланення<br>*матор, стол, вока, вучань, поле, конь* | 3-га скланення<br>*рэч, ноч, аповесць, даль, гусь* |
| Н. | ***-ы, -і*** | ***-ы, -і*** | ***-ы, -і*** |
| Р. | ***-аў, □, -яў*** | ***-аў, -оў, -эй***<br>***-яў, -ёў, -ей*** | ***-аў, эй, -ей***<br>***-яў, -ей*** |
| Д. | ***-ам, -ям*** | ***-ам, -ям*** | ***-ам, -ям*** |
| В. | як Н. або Р. | як Н. або Р. | як Н. або Р. |
| Т. | ***-амі, -ямі*** | ***-амі, -ямі*** | ***-амі, -ямі*** |
| М. | ***-ах, -ях*** | ***-ах, -ях*** | ***-ах, -ях*** |

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці ёсць адрозненні ў склонавых канчатках назоўнікаў розных скланенняў у множным ліку?
2. Ці залежаць склонавыя канчаткі назоўнікаў у множным ліку ад характару асновы і націску?

**125.** Прачытайце. Вызначце скланенне і склон выдзеленых назоўнікаў і ахарактарызуйце аснову. Растлумачце правапіс канчаткаў.

1. Не ведаю, якім вузлом навекі я прывязан да старых **сосен** за сялом, да **яблынь, груш** і **вязаў** *(А. Пысін)*. 2. Сярод залацістых **палёў** і зялёных **садоў** вузкай шэрай істужкай сцелецца гасцінец *(Я. Колас)*. 3. Не ўцякай ад **спраў** у цяжкі час *(А. Бачыла)*. 4. Ніхто не ведаў аб ваяцкіх **здольнасцях** дзеда Талаша *(Я. Колас)*. 5. Не забывайце толькі імён і **адрасоў** сваіх **азёр** і **рэк,** і **траў,** і **дрэў,** і **птушак,** калі не хочаце, каб вас яны забылі *(М. Танк)*.

У родным склоне множнага ліку назоўнікі 1-га скланення маюць нулявы канчатак і канчаткі ***-аў, -яў.***

**Нулявы канчатак** маюць усе назоўнікі, якія канчаюцца на ***-ія, -ыя,*** усе назоўнікі з асновай на [к] і некаторыя назоўнікі, аснова якіх канчаецца адным зычным: *арм**ія*** — *армій*□, *станц**ыя*** — *станцый*□, *рука* — *рук*□, *жанчына* — *жанчын*□.

Канчаткі ***-аў, -яў*** звычайна маюць назоўнікі, асновы якіх канчаюцца збегам зычных: *бітва* — *бітв**аў***, *кузня* — *кузн**яў***.

Некаторыя назоўнікі могуць ужывацца як з нулявым канчаткам, так і з канчаткам ***-аў*** ці ***-яў***: *сасна* — *сосен*□ і *сосн**аў***, *вішня* — *вішань*□ і *вішн**яў***, *ахвяра* — *ахвяр*□ і *ахвяр**аў***.

З а ў в а г а. Калі назоўнікі на ***-ня*** ў родным склоне множнага ліку ўжываюцца з нулявым канчаткам, то на канцы пішацца мяккі знак: *яблы**ня*** —*яблынь*□, *кніга**рня*** — *кнігарань*□.

**126.** Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі 1-га скланення і абазначце іх асновы і канчаткі паводле ўзору. Растлумачце правапіс гэтых назоўнікаў.

У з о р: *сясцёр*□, *будоўл*|*яў*|.

1. Край паэм, адвечных песень, казак — дарагая сэрцу Беларусь *(П. Трус)*. 2. На схіле лета прырода як бы выстаўляе напаказ безліч сваіх фарбаў і красак *(І. Навуменка)*. 3. Ляжыць да нашых ціхіх хат сцяжынак і дарожак шмат, дзе, можа, і ты калісьці ўзрос пад гоман сосен і бяроз *(П. Броўка)*.

**127.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце выбар канчатка.

Якая яна, мая зямля? Гэта залатыя палі збажыны з сінімі *(вочкі) (васількі)*, светлыя ад *(бярозы)* гаі, што аглух-

лі ад птушынага звону. Гэта бясконцыя жылы *(рэкі)*, у якіх плешчуцца бабры і рыбы на захадзе сонца. І гэта амаль адзінаццаць тысяч *(азёры)*, чыстых, як усмешка дзіцяці *(У. Караткевіч)*.

● Падкрэсліце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.

Назоўнікі 2-га скланення ў родным склоне множнага ліку звычайна маюць канчаткі:

***-аў, -яў*** — не пад націскам: *крок* **аў**, *жаданн* **яў**;

***-оў, -ёў*** — пад націскам: *бар* **оў**, *га* **ёў**, ***пал*** **ёў**;

***-эй, -ей*** — назоўнікі *вач* **эй**, *вуш* **эй**, *пляч* **эй**, *гасц* **ей**, *кон* **ей**.

Некаторыя назоўнікі могуць ужывацца і з нулявым канчаткам і з канчаткам ***-аў***: *балота* — *балот* □ і *балот* **аў**.

**128.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Падкрэсліце словазлучэнні з назоўнікамі, якія стаяць у дужках, выдзеліце канчаткі гэтых назоўнікаў.

1. Дзівуйся, радуйся на свет, на белы цвет *(ігрушы)* і *(вішні)* *(А. Астрэйка)*. 2. Ад хараства лясной нізіны не мог я адарваць *(вочы)* *(Я. Журба)*. 3. Цячэ рака праз шум травы, праз паплавы паміж *(палі)* і *(мурагі)* *(П. Броўка)*. 4. Любіў *(коні)* Цімох і ўмеў іх гадаваць *(Л. Гаўрылкін)*.

**129.** Спішыце, дапісваючы канчаткі.

### Казка

З ранку да вечара стараліся вавёрачкі. У дупл.. дрэў назапасілі арэх.., а на сучк.. грыб.. насушылі. Толькі адна вавёрачка да зім.. не рыхтавалася. Скакала з галін.. на галіну, весялілася. Думала, пэўна, што лету і канца не будзе.

● Як бы вы напісалі працяг казкі?

Назоўнікі 3-га скланення ў родным склоне множнага ліку звычайна маюць канчаткі ***-эй, -ей***: *нач* ***эй***, *гус* ***ей***.

Некаторыя назоўнікі маюць канчаткі ***-аў, -яў***: *рэч* ***аў***, *дал* ***яў***, *верф* ***яў***.

Назоўнікі з націскам на аснове могуць ужывацца з канчаткамі ***-ей*** і ***-яў***: *арце́л* ***ей*** і *арце́л* ***яў***, *сенажа́ц* ***ей*** і *сенажа́ц* ***яў***, *скро́н* ***ей*** і *скро́н* ***яў***.

**130.** Утварыце формы роднага склону множнага ліку і запішыце асобнымі слупкамі (1-е, 2-е, 3-е скланенне). Канчаткі выдзеліце. Якія словы могуць ужывацца з рознымі канчаткамі?

Адлегласць, алея, багацце, возера, госць, косць, крыло, печ, птушка, пушча, радасць, рука, рысь, сцірта, трава, узгор'е, чарэшня.

У творным склоне назоўнікі ўсіх трох скланенняў маюць канчаткі ***-амі, -ямі***: *бяроз* ***амі***, *дам* ***амі***, *печ* ***амі***, *песн* ***ямі***, *пал* ***ямі***, *арцел* ***ямі***.

Некаторыя назоўнікі 2-га і 3-га скланенняў могуць ужывацца і з канчаткам ***-мі*** (тады перад канчаткам пішацца мяккі знак): *кон* ***ямі*** і *конь* ***мі***, *касц* ***ямі*** і *касць* ***мі***.



**131.** Спішыце. Падкрэсліце назоўнікі множнага ліку, абазначце іх скланенне і склон, выдзеліце канчаткі.

Пісьменнік стварае ў кнігах свой свет. Насяляе яго людзьмі, птушкамі, звярамі. Пракладае, дзе лічыць патрэбным, дарогі, рэкі, садзіць сады, лясы, будуе хаты, вёскі, гарады. Варта толькі пачаць складаць у словы тыя значкі, што называем мы літарамі, словы ў сказы — і свет гэты ажывае, напаўняецца гукамі, пахамі, колерамі. Мы нібы ўрастаем у твор, жывём разам з героямі тым жыццём, якім жывуць і яны *(Паводле Б. Сачанкі)*.

## § 21. Скланенне прозвішчаў і назваў населеных пунктаў на *-оў, -ёў, -аў, -еў, -ін, -ын*

**132.** Разгледзьце табліцу. Параўнайце канчаткі прозвішчаў і назваў населеных пунктаў і сфармулюйце вывад аб напісанні канчаткаў гэтых назоўнікаў у творным і месным склонах.

| Склоны | Канчаткі прозвішчаў | Канчаткі назваў населеных пунктаў |
|---|---|---|
| Н. | *Куляшоў, Сілін* | *Магілёў, Шумілін* |
| Р. | ***-а*** | ***-а*** |
| Д. | ***-у*** | ***-у*** |
| В. | ***-а*** | □ |
| Т. | ***-ым*** | ***-ам*** |
| М. | ***-у*** | ***-е*** |

Прозвішчы на ***-оў, -ёў, -аў, -еў, -ін, -ын*** у творным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак ***-ым***, а назвы населеных пунктаў — канчатак ***-ам***: *з пісьменнікам Лыньков**ым**, паэтам Пысін**ым**; пад Крычав**ам**, Жлобін**ам***.

У месным склоне прозвішчы маюць канчатак ***-у***, назвы населеных пунктаў — канчатак ***-е***: *пры Быкав**у**, Лыньков**у**, Кармунін**у**; у Крычав**е**, Лоев**е**, Валожын**е**, Жлобін**е***.

**133.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце словы ў адпаведным склоне. Растлумачце выбар канчаткаў.

1. Ёсць пад *(Шклоў)* малінавы рай, там каліна з малінай спляліся *(А. Пысін)*. 2. Асабліва моцным было сяброўства Аркадзя *(Куляшоў)* з Кайсынам *(Куліеў)* і Давідам *(Кугульцінаў)* *(В. Куляшова)*. 3. Штаб фронту мы адшукалі пад *(Магілёў)* *(П. Панчанка)*. 4. Над *(Крошын)* кожную раніцу чулася песня каваля *(Я. Пархута)*.

**134.** Складзіце спіс вучняў класа і назваў населеных пунктаў вашай мясцовасці на *-оў, -ёў, -аў, -еў, -ін, -ын*. Пабудуйце некалькі сказаў, ужываючы гэтыя ўласныя імёны ў форме творнага склону адзіночнага ліку.

## Марфалагічны разбор назоўніка

Парадак разбору

1. Часціна мовы. Агульнае значэнне.
2. Пачатковая форма.
3. Марфалагічныя прыметы: нязменныя (агульны ці ўласны, адушаўлёны ці неадушаўлёны, асабовы ці неасабовы, канкрэтны ці абстрактны, зборны, рэчыўны; род; скланенне) і зменныя (склон, лік).
4. Сінтаксічная роля.

Узор разбору

*У пакоі наступіла цішыня.*

***Вусны разбор***

(У) *пакоі* — назоўнік, абазначае прадмет (што?) *пакой*; пачатковая форма — *пакой*; агульны, неадушаўлёны, неасабовы, канкрэтны; мужчынскага роду; другога скланення; ужыты ў месным склоне, адзіночным ліку. У сказе з’яўляецца акалічнасцю.

***Пісьмовы разбор***

(У) *пакоі* — назоўнік, прадмет; п. ф. *пакой*; агульны, неадушаўлёны, неасабовы, канкрэтны; м. р.; 2-е скл.; М. скл., адз. л.; акалічнасць.



**135.** З наступных слоў складзіце і запішыце сказы. Пастаўце кожнае слова ў адпаведнай склонавай форме і растлумачце правапіс канчаткаў прозвішчаў і назваў населеных пунктаў. Зрабіце пісьмовы марфалагічны разбор выдзеленых слоў.

1. Над, Барысаў, у сіні, бязвоблачны, неба, ляцяць, у вырай, журавы. 2. Віталь, пазнаёміцца, з Міхась, Ладысеў,

на злёт, юны, натураліст. 3. Беларускі кампазітар Мікалай Чуркін, быць, запісаны, больш за 3000, народны, песня і танец. 4. Пры, Паўлухін, Андрэйка, з крыўда, у голас, сказаць, сябра: «Юрка, трэба працаваць як належыць!»

## § 22. Рознаскланяльныя назоўнікі

У беларускай мове ёсць назоўнікі, якія пры змяненні па склонах набываюць канчаткі розных скланенняў. Такія назоўнікі адносяцца да рознаскланяльных. Да іх належаць:

1) назвы маладых істот: *дзіця (-ё), бусляня (-ё), птушаня (-ё)* і інш.;

2) тры назоўнікі на -***мя***: *імя, племя, стрэмя*;

3) назоўнікі мужчынскага роду з канчаткам -***а*** (-***я***): *стараста, дзядуля.*

**136.** Разгледзьце табліцу і скажыце, у якіх склонавых формах пры скланенні назоўнікаў — назваў маладых істот у адзіночным ліку з'яўляецца суфікс -***яц***-, а ў множным — суфікс -***ят***-?

| Склоны | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| Н. | *куран[я](-ё)* | *куранят[ы]* |
| | *дзіц[я](-ё)* | *дзец[і]* |
| Р. | *кураняц[і]* | *куранят[ ]* |
| | *дзіцяц[і]* | *дзяц[ей]* |
| Д. | *кураняц[і]* | *куранят[ам]* |
| | *дзіцяц[і]* | *дзец[ям]* |
| В. | *куран[я](-ё)* | *куранят[ ]* |
| | *дзіц[я](-ё)* | *дзяц[ей]* |
| Т. | *куран[ём]* | *куранят[амі]* |
| | *дзіц[ём]* | *дзець[мі] (дзяць-мі)* |
| М. | *(аб) кураняц[і]* | *(аб) куранят[ах]* |
| | *(аб) дзіцяц[і]* | *(аб) дзец[ях]* |

Назоўнікі — назвы маладых істот у адзіночным ліку маюць канчаткі:

***-я*** ці ***-ё*** — у назоўным і вінавальным склонах: *плыве качан****я*** *(качан****ё****), бачу кача-н****я*** *(качан****ё****)*;

***-і*** — у родным, давальным і месным склонах, пры гэтым перад канчаткам з'яўляецца суфікс ***-яц-***: *качаняц****і***;

***-ём*** — у творным склоне: *качан****ём***.

Назоўнік *дзіця* можа ўжывацца ў творным склоне з канчаткамі ***-ём*** і ***-ем***: *дзіц****ём*** і *дзіц****ем***.

Ва ўсіх склонах множнага ліку гэтыя назоўнікі, за выключэннем *дзіця*, маюць суфікс ***-ят*** і канчаткі 2-га скланення.

Назоўнік *дзіця* ў родным і вінавальным склонах мае канчатак ***-ей***, а ў творным — канчатак ***-мі***: *дзяц****ей***, *дзець****мі*** *(дзяць****мі****)*.

**137.** Утварыце ад наступных слоў назоўнікі — назвы маладых істот і запішыце іх паводле ўзору. Адзін назоўнік праскланяйце вусна ў адзіночным і множным ліку.

Узор: *ліса* — *лісяня* — *лісяняты*.

Алень, воўк, гусь, журавель, зубр, курыца, лось, сабака, мядзведзь, сава.

**138.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне і ліку. Выдзеліце ў іх канчаткі.

1. *(Бусел)* клякочуць, *(бусляня)* пішчаць жалобна, як *(шчаня)*, насы закідваюць угору і просяць есці ў сваю пору *(Я. Колас)*. 2. Буслы садзіліся на бярозу, рамантавалі гняздо, у якім выводзілі і гадавалі *(бусляня)*. 3. Хлопчык сядзіць з жывым *(кацяня)* на каленях *(В. Карамазаў)*. 4. Ніколі і ніводнай маці сваіх не выплакаць пакут па родным і чужым *(дзіця)* *(С. Грахоўскі)*.

- Вусна зрабіце марфалагічны разбор назоўнікаў з трэцяга сказа.

**139.** Разгледзьце табліцу скланення назоўнікаў на -***мя***. Звярніце ўвагу, у якіх склонах з’яўляецца суфікс -***ен***- (-***ён***-).

| Склоны | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| Н. | *імя, племя* | *імі (імёны), плямёны* |
| Р. | *імя, племя* | *імяў, плямён□* |
| | *(імені, племені)* | *(імёнаў, плямёнаў)* |
| Д. | *імю, плему* | *імям (імёнам),* |
| | *(імені, племені)* | *плямёнам* |
| В. | як Н. | як Н. |
| Т. | *імем, племем* | *імямі (імёнамі),* |
| | *(іменем, племенем)* | *плямёнамі* |
| М. | *(у) імі, племі* | *(у) імях (імёнах),* |
| | *(імені, племені)* | *плямёнах* |

Назоўнікі *імя́, племя, стрэмя* ў адзіночным ліку могуць скланяцца без суфікса -***ен***- і з гэтым суфіксам у родным, давальным, творным і месным склонах.

У множным ліку назоўнікі *імя* і *стрэмя* могуць скланяцца без суфікса -***ён***- і з гэтым суфіксам ва ўсіх склонах, а назоўнік *племя* — толькі з суфіксам -***ён***-.

**140.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце словы ў патрэбным склоне і ліку. Растлумачце наяўнасць ці адсутнасць суфіксаў -***ен***-, -***ён***- і выбар канчатка.

1. *(Імя)* Купалы і Коласа даўно сталі сімваламі беларускай зямлі, беларускага народа *(Н. Гілевіч)*. 2. З *(імя)* Дуніна-Марцінкевіча звязаны першыя крокі беларускага тэатральнага мастацтва *(ЛіМ)*. 3. Трэба шырэй весці пошук *(імя)* загінуўшых, каб увекавечыць іх памяць *(«Спадчына»)*. 4. Алесь толькі прыўставаў вышэй на *(страмёны)*, калі конь пралятаў над канавай *(У. Караткевіч)*. 5. Недзе

ў плячы сядзеў наканечнік атручанай стралы, ад якога страціў сваё некалі магутнае здароўе[м] лепшы воін ляснога *(племя)* дрыгавічоў *(В. Іпатава)*.

**141.** Уважліва разгледзьце табліцу. Звярніце ўвагу на аснову слоў, месца націску і зрабіце вывад, ад чаго залежаць склонавыя канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду на ***-а (-я)***. Уякіх склонах назоўнікі маюць розныя канчаткі.

| Склоны | Назоўнікі з націскам на аснове | | | Назоўнікі з націскам на канчатку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | *ста́раста, дзяду́ля, дзя́дзька, Гры́ша, Ва́ся* | | | *старшына́, старшыня́, Кузьма́* | |
| Н. | ***-а*** | ***-я*** | ***-а*** | ***-а*** | ***-я*** |
| Р. | ***-ы*** | ***-і*** | ***-і*** | ***-ы*** | ***-і*** |
| Д. | ***-у*** | ***-ю*** | ***-у*** | ***-е*** | ***-і*** |
| В. | ***-у*** | ***-ю*** | ***-у*** | ***-у*** | ***-ю*** |
| Т. | ***-ам*** | ***-ем*** | ***-ам*** | ***-ой (-ою)*** | ***-ёй (-ёю)*** |
| М. | ***-у*** | ***-ю*** | ***-у*** | ***-е*** | ***-і*** |

Назоўнікі з націскам на аснове ў давальным і месным склонах ужываюцца з канчаткамі ***-у (-ю)***, як назоўнікі 2-га скланення: *дзяду́л**ю***, *Я́нк**у***, *Пе́ц**ю***.

Назоўнікі з націскам на канчатку ўжываюцца з канчаткамі ***-е, -і***, як назоўнікі 1-га скланення: *старшын**е́***, *Кузьм**е́***, *старшын**і́***.

У творным склоне назоўнікі з націскам на аснове ўжываюцца з канчаткамі 2-га скланення ***-ам, -ем***: *ваяво́д**ам***, *ста́раст**ам***, *дзяду́л**ем***, *Пе́ц**ем***; з націскам на канчатку — з канчаткамі 1-га скланення ***-ой (-ою), -ёй (-ёю)***: *старшын**о́й** (**-о́ю**)*, *Кузьм**о́й** (**-о́ю**)*, *старшын**ёй** (**-ёю**)*.

**142.** Праскланяйце (вусна) у адзіночным ліку наступныя назоўнікі. Назавіце канчаткі і растлумачце іх напісанне у давальным, месным і творным склонах.

Бацька, вучань Андрэйка, стараста Косця, суддзя Лука.

**143.** Спішыце словазлучэнні, раскрываючы дужкі. Пастаўце назоўнікі ў патрэбным склоне.

Пайсці з *(Пеця)*, сустрэцца з *(Саўка)*, перадаць *(старшыня)*, падараваць кнігу *(Косця)*, сказаць *(Віцька)*, прыснілася *(бацька)*.



**144.** Спішыце, раскрываючы дужкі.

1. Гутарка з бацькамі пра вучобу была кароткай, а вось як яна пойдзе са *(старшыня)* калгаса, Віктара вельмі хвалявала *(І. Дуброўскі)*. 2. Іван тую зіму жыў у **мястэчку** ў *(дзядзька)* і вучыўся ў сямігодцы *(В. Быкаў)*. 3. На момант *(старшына)* стала шкада вучонага, не прызвычаенага да нягод ваеннага жыцця *(В. Быкаў)*. 4. Лемяшэвіч усведамляў, што без **дапамогі** *(Даніла Платонавіч)* яму, навічку, прыйшлося б вельмі цяжка *(І. Шамякін)*.

● Зрабіце пісьмовы марфалагічны разбор выдзеленых назоўнікаў.

## § 23. Нескланяльныя назоўнікі

**145.** Прачытайце сказ і назавіце назоўнікі.

Хлопчык не ведаў, што птушачка, якую ён трымаў у руках, называецца калібры *(Л. Арабей)*.



● Утварыце і запішыце розныя скланавыя формы слоў *хлопчык, птушачка, рука.* Паспрабуйце ўтварыць такія ж формы назоўніка *калібры.*

**146.** Разгледзьце малюнкі і скажыце, што на іх адлюстравана. Складзіце паводле гэтых малюнкаў некалькі сказаў. Змяняюцца ці не змяняюцца па склонах назоўнікі *шымпанзэ* і *таксі*?




Некаторыя назоўнікі ў беларускай мове не змяняюцца і таму ва ўсіх склонах маюць адну і тую ж форму: *новае* ***паліто,*** *новага* ***паліто,*** *новаму* ***паліто*** і г. д. Такія назоўнікі адносяцца да нескланяльных, а іх склонавае значэнне выяўляецца па сувязі з іншымі словамі ў сказе: *слухаць* (ш т о?) ***радыё*** (В. скл.), *перадаваць* (п а ч ы м?) *па* ***радыё*** (М. скл.).

Да нескланяльных назоўнікаў адносяцца:

1) агульныя і ўласныя (імёны, прозвішчы, геаграфічныя назвы) назоўнікі іншамоўнага паходжання, якія заканчваюцца на галосны гук: *метро, фае, шымпанзэ, рагу, лібрэта**, *Джардана Бруна, Дзюма, Суліко, Перу, Місісіпі*;

2) беларускія прозвішчы, якія заканчваюцца на ***-іх (-ых)*** і на ***-о*** пад націскам: *у Алесі Барав**ых**, з Пецем Хільк**о**, з Веранікай Хільк**о***;

3) прозвішчы, якія заканчваюцца на зычны гук і адносяцца да асоб жаночага полу: *падручнік Веры Гурэві**ч**, сустрэў Таню Руса**к***;

4) складанаскарочаныя назвы, утвораныя з пачатковых літар слоў поўнай назвы: *паступіў у* ***БДУ***, *студэнты* ***БНТУ***.

**147.** Прачытайце. Выпішыце нескланяльныя назоўнікі. Скажыце, што яны абазначаюць і чаму не змяняюцца па ліках і склонах.

1. У тэхнічным бюро над чарцёжным сталом схіліліся інжынер Мікола Станкевіч і прараб Алена Кавальчук *(«Звязда»)*. 2. Вясной ён справіў сабе новую апратку: галіфэ і кароткую гімнасцёрку, якую пашылі ў атэлье *(В. Быкаў)*. 3. Надзя па голасе пазнала Майку Светлік *(М. Лынькоў)*. 4. Анатолем Багатыровым створаны п'есы для фартэпіяна, скрыпкі, альта, кантрабаса *(ЛіМ)*. 5. Паходня зняў з сябе асенняе паўпаліто і шапку і, павесіўшы іх у шафу, вярнуўся да стала *(Т. Хадкевіч)*. 6. У адным сваім інтэрв'ю Васіль Быкаў сказаў: «Вайна не адпускае нас, ветэранаў[м], яшчэ страляе ў кожнага з нас» *(ЛіМ)*. 7. Сёлета ВНУ прымуць у сваю сям'ю каля сарака тысяч першакурснікаў.

**148.** Спішыце. Вызначце род і склон нескланяльных назоўнікаў і дапішыце канчаткі дапасаваных да іх паясняльных слоў.

1. Вера Паўлаўна пазірала ў акно і лавіла сябе на думцы, што ёй хораша сядзець у цёпл.. купэ *(А. Асіпенка)*. 2. Вялік.. плецен.. з саломы пано Тамары Паўлоўскай экспанавалася ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах *(ЛіМ)*. 3. Валодзя быў апрануты ў добр.. шарсцян.. паліто *(І. Новікаў)*. 4. У паркеце адсвечваліся ножкі крэслаў, халодныя грані калонаў, гронкі вясёлкав.. бра *(Я. Скрыган)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў апошнім сказе.



**149.** Спішыце, раскрываючы дужкі і змяняючы ці пакідаючы без змен імя і прозвішча.

1. Спатрэбілася Паходню і прагавітая цяга да новага *(Зося Валынец)*, і асцярожная разважлівасць[сл] *(Трахім Грыняк)*, і маўклівая аглядка *(Піліп Струшня)*, і свежыя веды маладога агранома *(Васіліна Валошка)* *(Т. Хадкевіч)*. 2. «Вам да каго?» — спытала жанчына. — «Да *(Васько*

*Галіна)» (А. Асіпенка).* 3. Вера Паўлаўна паспрабавала абараніць *(Міхась Васько) (А. Асіпенка).* 4. Дагаварыцца аб справе з *(Сайка Мільгун)* узяўся разважлівы Бруй *(Я. Колас).*

## § 24. Спосабы ўтварэння назоўнікаў

**150.** Разгледзьце на форзацы табліцу «Словаўтварэнне» і назавіце асноўныя спосабы ўтварэння назоўнікаў.



Нулявы суфікс у мове прынята абазначаць знакам ∅: *падпісаць — подпіс∅.*

**151.** Прачытайце тэкст і вызначце яго тэму. Які загаловак можна яму даць? Вызначце, як утвораны выдзеленыя словы.

Два разы ў год рабіны на поўны голас заяўляюць аб сабе. Спачатку гэта бывае ў маі, калі дрэўцы ахінаюцца белым вэлюмам* **квецені**, затым у **кастрычніку**, калі іх тонкае голле ззяе пурпурам спелых гронак ягад.

Асабліва ўражваюць рабіны глыбокай восенню. Лісце з іх і іншых дрэў апала. **Узлесак** пачарнеў і зусім страціў бы сваю прывабнасць, калі б на галінках рабін, нібы незвычайныя **лямпачкі**, не свяціліся сонечнай **чырванню** гронкі *(Паводле І. Сіляўкі).*

● Зрабіце вусны марфалагічны разбор назоўнікаў *лямпачкі, чырванню.*

**152.** Выпішыце ў пачатковай форме назоўнікі з памяншальнымі і памяншальна-ласкальнымі суфіксамі і графічна пакажыце, як яны ўтвораны.

Узор: *зязюлька ← зязюля.*

1. На дробным лісточку расінку аднойчы сустрэў светлячок *(М. Танк).* 2. У небе хмарачкі дзянныя плылі, як гускі маладыя, чародкай белай над лугамі *(Я. Колас).*

3. А, дзядзька, дзядзечка, саколік! Насып мне ягад у прыполік* *(Я. Колас)*. 4. Спі, маленькі мой сыночак, вочкам не міргні *(Я. Купала)*.

● Разбярыце па саставе слова *лісточак* і скажыце, чаму ў ім два памяншальна-ласкальныя суфіксы.

**153.** Прачытайце тэкст, вызначце асноўную думку і дайце загаловак. Што асаблівага ў кожнай пары года адзначыў аўтар? Чым бы вы дапоўнілі яго назіранні?

Кожны чалавек павінен ведаць жыццё, з'явы прыроды ва ўсе поры года такімі, якія яны ёсць.

Вясну з яе першай зелянінай, яе ласкавым гаючым сонцам, гоманам птушак пасля прылёту з выраю.

Лета з шырокім разводдзем збажыны, маланкі з громам і перунамі і цяжкую да поту працу сельскіх жыхароў.

Восень з яе імглістым дажджом, павуціннем у дні бабінага лета, курлыканнем журавоў над пустымі палямі.

⊙ Як бы вы прадоўжылі тэкст, што б сказалі пра зіму?
● Ад 4—5 назоўнікаў (на выбар) утварыце словы з памяншальна-ласкальным значэннем.



**154.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Пры спісванні пасля выдзеленых слоў у дужках запішыце, як яны ўтвораны (ад якога слова і якім спосабам).

Узор: *на ўсходзе (усход ← усходзіць; бяссуфіксны)*.

Як і ўсе апошнія дні **верасня**, пачатак **кастрычніка** выдаўся ц..плы, ясны, б..зветраны. Лес не прыхапілі яшчэ **замаразкі**, і ў ц..плых **сховах** яго лезлі р..зныя грыбы. Трапляліся грузды, куркі, **махавікі**, ці **падарэхавікі**, і зрэдку **баравікі** і **чырвонагаловікі**.

У такія асеннія дні трэба быць толькі ў лесе, каб а..чуць, як х..раша жыць на све..е, калі нават і такой вось парою можаш радавацца разам з з..млёю яе **хараству**! *(Паводле І. Новікава)*.

## § 25. Правапіс назоўнікаў з суфіксамі *-ак, -ык (-ік), -ачк-, -ечк-*

**155.** Утварыце словы з дапамогай суфіксаў ***-ак, -ык (-ік)*** і запішыце паводле ўзору ў два слупкі.

Узор: *садок + ак → садочак* [к]//[ч], *нож + ык → нажык.*

Агурок, слон, дубок, дудар, малаток, малюнак, кош.

● Праскланяйце па адным слове з кожным суфіксам і скажыце, у якім суфіксе пры скланенні выпадае галосны гук.

● Сфармулюйце вывад: што неабходна зрабіць, каб не памыліцца ў напісанні суфіксаў ***-ак, -ык (-ік)***?

Неабходна адрозніваць суфіксы ***-ак*** і ***-ык (-ік)***. Калі пры змяненні назоўніка галосны ў суфіксе выпадае, то ў слове пішацца суфікс ***-ак***: *дубоч**ак*** (*дубочка, дубочку* і г. д.). Калі ж галосны ў суфіксе не выпадае, то пішацца суфікс ***-ык (-ік)***: *дубч**ык*** (*дубчыка, дубчыку* і г. д.).

**156.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і абгрунтуйце сваё меркаванне. Растлумачце напісанне суфіксаў ***-ак (-ок)*** і ***-ык (-ік)*** у выдзеленых словах.

Пачатак снежня. **Надвячорак.** Падзьмуў калючы **ветрык** і ачысціў неба ад хмар. На небасхіле выглянула скупое чырвонае сонца. **Марозік** падсушыў зямлю.

А на світанку зноў наплыла хмара і пасыпаў **сняжок.** Наваколле стала белае-белае. Пасвяжэла паветра. У цішыні адчувалася штосьці загадкавае, чароўнае. Зазімак *(Паводле Я. Крамко).*

**157.** Спішыце, устаўляючы патрэбную літару, і растлумачце ўмову яе напісання.

1. Ты ж ідзі ў навуку, толькі, брат, вучыся. Дык, глядзі ж, сыноч..к, шчыранька вазьміся! 2. Дзядок узяў сякеру

і мяшоч..к і на луг пашыбаваў. Падаў мякенькі сняжоч..к, холад злёгку прабіраў. Зірк — адкуль ён тут узяўся — зайч..к выскачыў з кустоў. 3. Замялі дарогі ветр..кі снягамі. 4. Бабка, як званоч..к, сыпле слоўкі, бы каралі ніжа на шнуроч..к. 5. Зазірае ў вокны[ф] месяч..к двурогі. 6. Ах ты, мой каточ..к, чорненькі насоч..к! *(Я. Колас)*.

● Якое сэнсавае адценне надаюць словам суфіксы ***-ак, -ык***?

**158.** Ад наступных слоў утварыце назоўнікі з дапамогай суфіксаў ***-ачк-, -ечк-*** і запішыце іх у два асобныя слупкі.

Таня, гняздо, гора, здароўе, імя, лямпа, вярба.

● Ва ўтвораных словах аднаго і другога слупка ахарактарызуйце апошні зычны гук перад суфіксам па цвёрдасці—мяккасці.

● На падставе гэтых слоў сфармулюйце вывад аб напісанні суфіксаў ***-ачк-, -ечк-***.

Памяншальна-ласкальны суфікс (суфіксальны комплекс) ***-ачк-*** пішацца ў назоўніках пасля цвёрдых зычных, а ***-ечк-*** — пасля мяккіх зычных: *Сцёп**ачк**а, бул**ачк**а, Ван**ечк**а, лял**ечк**а.*

**159.** Прачытайце ўрывак з апавядання Я. Коласа «Маленькая хвойка». Скажыце, пра якую пару года піша пісьменнік і з якім пачуццём. Па чым вы гэта вызначылі? Спішыце і растлумачце напісанне выдзеленых суфіксаў (суфіксальных комплексаў).

Выбілася з зямлі тоненькая чырванаватая травінка. Танюсенькая ножка, а на ёй угары, на два пальцы ад зямлі, выплелася з яшчэ болей тоненькіх зялёных нітач**ак**-травін**ак** прыгожая каробачка; на самым версе гэтай кароб**ачк**і сядзела цёмная шап**ачк**а. Маладая раслінка стаяла пры лесе ў полі. Яна была такая маленькая, што ніхто нават не пазіраў на яе. Па зямлі, праўда, поўзалі яшчэ меншыя мураш**ачк**і, але яны былі надта заняты сваёю

працаю. А ў траве радасна трашчалі на ўсе лады палявыя кон**ікі**. З-за ўзгор**ачк**а прыбег ціхі ветр**ык** і пацалаваў маладую хвойку. А яна ад радасці[м] задрыжала ўся...

● Назавіце граматычныя значэнні слоў *мурашачкі, узгорачка, ветрык.*



**160.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Пазначце суфікс (суфіксальны комплекс) і ў дужках растлумачце ўмову яго напісання.

У з о р: *суке**н**ачка, (гук* [н] *цвёрды, -ачк-).*

1. Якая птушка, такое і гняздз..чка *(Прыказка)*. 2. Ранняя птуш..чка дзюб..чку чысціць, а позняя — вочы прадзірае *(Прыказка)*. 3. Ластав..чка дзень пачынае, а салавейка — канчае *(Прымаўка)*. 4. Як толькі Сцёпка параўняўся з адной хатай у сяле і зірнуў на яе мёрзлыя шыбы, ён адразу заўважыў прагрэтае акен..чка ў аконцы *(Я. Колас)*. 5. Бульб..чка хоць не абіраная, а смачная *(В. Быкаў)*. 6. Ліл..чка лял..чку Ал..чку ў люльцы люляе *(В. Жуковіч)*.

## § 26. Мяккі знак перад суфіксамі *-к-, -чык* і ў суфіксах *-аньк-, -еньк-*

**161.** Прачытайце. У словах пад лічбай 1 ахарактарызуйце па цвёрдасці—мяккасці гукі, што перададзены на пісьме выдзеленымі літарамі, і скажыце, пасля якіх гукаў пішацца мяккі знак перад суфіксам ***-к-***.

Параўнайце словы пад лічбай 2 і вызначце, чаму ў адным выпадку перад суфіксам ***-чык*** пішацца мяккі знак, а ў другім — не пішацца.

Прачытайце словы пад лічбай 3 і сфармулюйце яшчэ адно правіла напісання мяккага знака перад суфіксам ***-чык***.

Выразна вымавіце словы пад лічбай 4. Ці адпавядае напісанне гэтых слоў іх вымаўленню? Выдзеліце суфіксы і скажыце, чаму ў іх пішацца мяккі знак.

1. Зося — Зо**сь**ка
   Валодзя — Вало**дзь**ка
   Пеця — Пе**ць**ка
   Маня — Ма**нь**ка
2. Струме**нь** — струме**нь**чык
   Дыва**н** — дыва**н**чык
3. Вузе**л** — вузе**ль**чык
   Куко**ль*** — куко**ль**чык
4. Міш**аньк**а, зязюл**еньк**а

Мяккі знак перад памяншальна-ласкальнымі суфіксамі пішацца ў наступных выпадках:

1) пасля мяккіх зычных перад суфіксам -**к**-: *Але**сь**ка, бо**ль**ка*;

2) пасля мяккіх гукаў [л′] і [н′] перад суфіксам -**чык**: *па**ль**чык, аге**нь**чык*.

Суфіксы **-аньк-, -еньк-** пішуцца з мяккім знакам: *рэч**аньк**а, матул**еньк**а*.

**162.** Прачытайце і растлумачце напісанне мяккага знака ў назоўніках з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі.

1. А ўнукі просяць:
— Раскажы яшчэ,
Якая мама ў цябе была?
— А была яна нам сонейкам;
Усіх саграбала нас цёпленька.
А была яна нам крынічанькай,
Нас паіла жывой вадзічанькай.
*Т. Трафімава*

2. Па кропельцы, па кропельцы —
І рэчка высыхае.
*У. Карызна*

3. У кожнай кроплі дажджавой
Праменьчыкі смяюцца.
*А. Салтук*

**163.** Утварыце пры дапамозе адпаведных суфіксаў назоўнікі і запішыце. У якіх з іх і чаму пішацца мяккі знак?

-***к***-: Алена, Віця, бабуля, крыніца, нядзеля, гара;
-***чык***: дубец, касцюм, корань, пакой, прамень;
-***аньк***-, -***еньк***-: Маша, рука, бабуля.

**164.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Перакладзіце яго на беларускую мову.

Всё лето листья подставляли солнцу свои ладошки и щёчки, спинки и животики. И до того налились и пропитались солнцем, что к осени сами стали как солнышки — багряными и золотыми. Налились, отяжелели и потекли. Полетели иволгами по ветру. Запрыгали белками по сучкам. Понеслись куницами по земле. Зашумел в лесу золотой дождь *(Н. Сладков)*.

Падкрэсліце ў перакладзе назоўнікі з памяншальна-ласкальным значэннем.

С л о ў н і к: *багряный* — ***багровы***, *ладошка* — ***ладонька***, *пропитаться* — ***насыціцца***.

**165.** Напішыце сачыненне-апавяданне ў мастацкім стылі пра ручаёк, выкарыстоўваючы словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі.

Ручаёк, каменьчыкі, з парожка на парожак, цянёк, хмарка, зязюлька, птушачкі, гняздзечкі, конікі, матылькі, струменьчыкі, хвалькі, з крынічанькі, да рэчанькі.



**166.** Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, адпаведныя літары.

1. Ой, як ночан..ка яснютка! У ноч гэту грэх і спаць *(Я. Колас)*. 2. Вішан..ка паспее, ябл..чак сокам наліецца *(І. Галубовіч)*. 3. Родная зямел..ка як зморанаму пасцел..-ка *(Прыказка)*. 4. Дз..ўчын..ка ўторквала ў з..млю следам за бабуляй Марфай адну падрэзаную цыбулін..ку, другую, трэцюю. Як і бабуля, Алес..ка кожны раз паўтарала: «Расці, цыбул..ка, — агародная матул..ка» *(М. Даніленка)*. 5. Па глыбокіх лагчынах між камен..чыкаў пераліваліся дробныя хвал..кі ж..вых ручайкоў *(В. Хліманаў)*.

## § 27. Складаныя назоўнікі, іх правапіс

**167.** Прачытайце прыведзеныя прыклады:

1. Праект закона → закон + а + праект → закон**а**праект; валакно з ільну → ільн + о + валакн(о) → ільн**о**-валакно.
2. Качаць ваду → вад + а + кач + к̂(а) → вад**а**кач**к**а; мерац зямлю → земл + я + мер + ∅ → земл**я**мер.
3. Горад, курорт → горад + курорт — горад-курорт; Дранько, Майсюк → Дранько + Майсюк → Дранько-Майсюк.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія складаныя назоўнікі ўтвораны спосабам складання асноў пры дапамозе злучальных галосных?
2. Якія назоўнікі ўтвораны складанасуфіксальным спосабам?
3. Якія назоўнікі ўтвораны спосабам складання слоў?

Складаныя назоўнікі ўтвараюцца:

1) спосабам складання асноў пры дапамозе злучальных галосных ***а, о, е, я***: *вад**а**боязь, зерн**я**сховішча, земл**е**карыстанне*;

2) складанасуфіксальным спосабам, г. зн. складаннем асноў пры дапамозе злучальных галосных і далучэннем суфікса, у тым ліку нулявога: *земл**е**чарпал**к**а, кан**я**вод*;

3) спосабам складання слоў без злучальных галосных: *хата-чытальня, школа-сад*.

Складаныя словы вызначаюцца багатымі сэнсавымі і стылістычнымі магчымасцямі, дазваляюць проста і дакладна назваць пэўнае паняцце, таму шырока выкарыстоўваюцца ў мастацкім, гутарковым і навуковым стылях.

**168.** Прачытайце сказы, назавіце складаныя словы і вызначце спосаб іх утварэння.

1. Пятрок хадзіў разам з аднасельцамі на касавіцу *(А. Давыдаў)*. 2. Грэчка запахла яркім густацветам *(І. Навуменка)*. 3. Перад намі адкрыўся шырокі, вельмі прыгожы краявід *(К. Цвірко)*. 4. Як хораша думаецца, лёгка робіцца на сэрцы, калі плывеш у лодцы, сядзіш з доўгім вяслом на карме пласкадонкі *(Л. Левановіч)*. 5. У цемры на станцыі Спас-Дзям'янск эшалон разгрузіўся, і танкісты сабраліся ў лесе[м] *(І. Мележ)*. 6. Да прыстані па рацэ ідзе пасажырскі параход *(П. Галавач)*.

Злучальныя галосныя ***о, ё*** пішуцца толькі пад націскам, галосная ***а*** — у любым ненаціскным складзе: *ільнѐвалакно́, біблі**ё**граф*. Не пад націскам на месцы ***о*** пішацца ***а***, а на месцы ***ё*** — літара ***я***: *ільнам**я**лка, глі**я**графія*.

Злучальная галосная ***е*** пераходзіць ў ***я***, калі націск падае на першы склад другой часткі: *жыцц**е**апісанне — жыцц**я**лю́б, земл**е**карыстанне — земл**я**ро́б*.

Літара ***ё*** пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі націск падае не на першы склад другой часткі: *мёдавары́нне, лёгкаатле́т*. Калі ж націск падае на першы склад другой часткі, то замест ***ё*** пішацца літара ***е***: *медаго́нка, легкаду́м*.

**169.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя галосныя літары. Растлумачце іх напісанне.

1. Рэчкі в..рбалозам ды ціхімі краскамі абраслі *(М. Гарэцкі)*. 2. Цяпер на месцы бору паднялося густое ч..рналессе *(І. Навуменка)*. 3. Адзін быць хоча ўрачом, другі — кін..артыстам *(Л. Рашкоўскі)*. 4. Сонца над мядовымі пракосамі стомлена плыве за дал..гляд *(С. Законнікаў)*. 5. Золкай вясной вытыркаецца на балотным куп'і першая трава ч..рнагалоў *(І. Навуменка)*. 6. З..мляроб у кожным

доме, на кожнай ніве паўтарыў: «Хвала дажджу!» *(А. Вялюгін)*. 7. Максім удыхнуў поўнымі грудзямі пахі р..знатраўя *(М. Дубоўскі)*. 8. Лес поўніўся птушыным р..знагалоссем *(Т. Хадкевіч)*.

Складаныя назоўнікі пішуцца разам і праз злучок.

Разам пішуцца:

1) назоўнікі, утвораныя шляхам спалучэння дзвюх і больш асноў з дапамогай злучальных галосных: *вад**а**збор, лес**а**стэп, собал**е**гадоўля*;

2) назоўнікі, першай часткай якіх з'яўляюцца іншамоўныя асновы *авія-, аўта-, бенза-, касма-, кіна-, тэле-, мота-, фота-, электра-* і інш.: ***авія**дэсант, **аўта**калона, **касма**план, **кіна**тэатр, **тэле**марафон, **мота**спорт, **фота**копія, **электра**воз.*

Праз злучок пішуцца:

1) назоўнікі, утвораныя ад двух самастойных слоў без злучальнай галоснай: *прэм'ер-міністр, жар-птушка, папараць-кветка, горад-герой*;

2) складаныя прозвішчы і геаграфічныя назвы: *Новік-Пяюн, Буда-Кашалёва, Растоў-на-Доне.*

**170.** Утварыце і запішыце складаныя назоўнікі, першай часткай якіх з'яўляюцца асновы наступных слоў.

Бульба, вада (вода), дабра (добра), жывёла, збожжа, зерне (зерня), сена, авія, аўта, радыё.

● З некалькімі словамі (на выбар) складзіце сказы.

**171.** Спішыце. Растлумачце напісанне складаных назоўнікаў.

1. Ведайце тыя, хто сёння раку асушае: вы і мяне асушаеце, — адлучаеце ад першакрыніц, першаструменьчыка, першакроплі *(С. Панізнік)*. 2. Гулам-звонам скажу, сцежку-шлях пакажу на прыволле, на ўродныя гоні*! *(Я. Купала)*. 3. Каля Блізніцы жыта красуе, буйнатраўем заве

сенажацць. Да магілкі букецік нясу я, дзе з вайны хлебаробы ляжаць *(У. Папковіч)*. 4. Пералескі, крутаяры — край да слёз любімы *(А. Ставер)*. 5. Мараваў і Багданаў-Бельскі садзіліся побач, бралі ў рукі балалайкі і пачыналі любімую песню^м *(В. Карамазаў)*.



**172.** Спішыце. Складаныя назоўнікі пішыце разам ці праз злучок.

1. Акалічны народ гуслі знаў гусляра; песня*(?)*дума за сэрца хапала; вакол гэтай думы дудара*(?)*званара казак дзіўных хадзіла нямала *(Я. Купала)*. 2. Абложных* хмар даўгія караваны за даля*(?)*гляд завезлі сінь нябёс *(Г. Бураўкін)*. 3. Пазнаю па старых бура*(?)*ломах, што і лес перажыў шмат бяды *(В. Гардзей)*. 5. За Улан*(?)*Удэ горы зноў падыходзяць да чыгункі *(Я. Сіпакоў)*. 6. Прайшло некалькі тыдняў пасля леда*(?)*ходу, і зусім другім стаў края*(?)*від каля Доўгага *(П. Броўка)*.

## § 28. Правапіс *не (ня), ні* з назоўнікамі

**173.** Прачытайце сказы і растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

1. Луг тут скрозь стракацеў жоўтым кураслепам*, блакітнымі **незабудкамі** *(У. Краўчанка)*. 2. Зямлі было мала, і заўсёды ў чым-небудзь была **нястача** *(І. Сіняўскі)*. 3. У юных сэрцах **неспакой** — то радасць, то трывога *(А. Ставер)*. 4. Яны дажылі да **нядолі** і чорнага гора: па роднаму полю нямецкія ходзяць мінёры *(А. Куляшоў)*. 5. Справу робяць не **голасам**, а розумам *(Прыказка)*.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія з выдзеленых слоў без ***не (ня)*** не ўжываюцца?

2. Якія словы ўтвораны пры дапамозе прыстаўкі ***не (ня)***? Ці можна гэтыя словы замяніць блізкімі паводле значэння словамі (сінонімамі) без ***не (ня)***?

3. Як пішацца ***не (ня)*** з назоўнікамі ў першым і другім выпадках?

4. Як вы разумееце сэнс пятага сказа? Што ў ім проціпастаўляецца і як пішацца ***не*** ў такім выпадку?

***Не (ня)*** з назоўнікамі пішацца разам і з'яўляецца прыстаўкай:

1) калі назоўнік без ***не (ня)*** не ўжываецца: ***не****пагадзь*, ***не****раст*, ***ня****вольнік*, ***ня****стача*;

2) калі назоўнік з ***не (ня)*** можна замяніць сінонімам ці блізкім паводле значэння словам без ***не (ня)***: ***не****людзімасць (халоднасць)*, ***ня****праўда (мана)*.

***Не*** з назоўнікамі пішацца асобна і з'яўляецца часціцай, калі ў сказе выражана супрацьпастаўленне або адмаўленне чаго-небудзь: *Чалавека красіць* ***не*** *прыгажосць, а характар. Хвароба* ***не*** *пернік*.

Часціца ***ні*** з назоўнікамі пішацца асобна: *Тут не любяць* ***ні*** *спраў,* ***ні*** *думак нізкіх!* (Н. Гілевіч).

**174.** Падбярыце да назоўнікаў сінонімы з ***не (ня)***. Якія з гэтых сінонімаў без ***не (ня)*** не ўжываюцца?

Бяда, беднасць, варожасць, вораг, прыгнёт, рассеянасць, ціша, цьмянасць, слата́*.

Д л я   д а в е д к і: *невыразнасць, немата, непагадзь, непрыяцель, няволя, нянавісць, нястача, няўвага, няшчасце.*

**175.** Спішыце. Растлумачце напісанне ***не (ня)***, ***ні*** з назоўнікамі.

1. Не ведаю велічы большай, чым маці, што цешыцца ўсмешкай свайго немаўляці *(Н. Гілевіч)*. 2. Пеця — хлопчык неблагі. Не скнара*, не забіяка *(В. Хомчанка)*. 3. Ні зайздрасці, ні крыўдзе і ні злу мяне не ўзяць у свой палон бурклівы *(В. Ярац)*. 4. Мне чалавек там добры трэба, а не гультай які, нязгрэба *(Я. Колас)*. 5. Не баюся бяды, ні слаты, ні галечы, толькі б слоў злых не чуць, нібы сыку змяі *(Н. Тулупава)*.

- Падкрэсліце назоўнікі агульнага роду.
- Растлумачце знакі прыпынку ў трэцім сказе.



**176.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Назоўнікі з прыстаўкай ***не (ня)*** падкрэсліце. Да якіх з іх можна падабраць сінонімы без ***не (ня)***?

1. Беларусь! Беларусь! Слухай голас павагі: *(не, ня)* прыяцеля раць ты магла супыняць *(С. Панізнік)*. 2. Мой шлях не ўсцелены *(ні)* пухам і *(ні)* шоўкам, але і асот* за мною не расце *(Л. Галубовіч)*. 3. Я задумаўся сам: што рабіць, каб *(не, ня)* праўдаю сэрца сваё не разбіць *(К. Кірэенка)*. 4. *(Не, ня)* пракосы, а палосы выжынае чыста сталь *(Я. Колас)*. 5. Няхай усіх дзяцей міне пасляваенная *(не, ня)* доля *(А. Салтук)*. 6. У *(не, ня)* умечкі не баляць *(ні)* рукі, *(ні)* плечкі *(Прымаўка)*. 7. І ў *(не, ня)* шчасці, і ў радасці без дружбы чалавеку нельга жыць *(К. Чорны)*. 8. Быў я *(не, ня)* зломак, *(не, ня)* пустадомак* *(В. Вітка)*.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ЗАДАННІ

1. Вызначце сярод прыведзеных слоў назоўнікі і запішыце іх.

Варыянт 1. Вясёлы, чырванець, смешны, грыбок, вясялосць, смех, грыбніца, вымаўленне, чырвоны, смяшынка.

Варыянт 2. Хадзьба, сіняваты, гром, зелянець, грымоты, гутарка, хадзіць, сінька, зелень, гутарковы.

2. Выпішыце адушаўлёныя назоўнікі.

Варыянт 1. Бусляня, дзядуля, збажына, лялька, мотаролер, медуніца, русалка, садоўнік, салавейка, таварыства.

Варыянт 2. Блакіт, верталёт, дзяўчынка, жэрабя, лебедзь, лесавік, сарока, шафёр, хадзьба, пляменніца.

3. Выпішыце асабовыя назоўнікі.

Варыянт 1. Аграном, беларус, вавёрка, верабейка, герой, дзядзька, камбайнер, лісіца, футбаліст, хлопчык.

Варыянт 2. Гараджанін, грыбніца, дзіця, зязюля, камар, кустарэз, маторка, маляр, патрыётка, пісьменніца.

4. Выпішыце канкрэтныя назоўнікі.

Варыянт 1. Аловак, заданне, камбайн, касьба, пасёлак, сані, смутак, сонца, торф, шоўк.

Варыянт 2. Ангіна, горыч, дзяцел, дрэва, квас, люд, навальніца, раніца, сцежка, хлеб.

5. Выпішыце назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку (варыянт 1); толькі ў множным ліку (варыянт 2).

Варыянт 1. Вулей, дружба, заданне, лісце, маладосць, малако, поўдзень, суніцы, чай.

Варыянт 2. Альпы, апілкі, бель, вароты, дровы, жніво, нафта, радня, шорты.

6. Выпішыце рэчыўныя назоўнікі (варыянт 1); абстрактныя назоўнікі (варыянт 2).

Бег, дабрыня, дзяцел, духі, кніга, мёд, пшаніца, смутак, чарніцы, аспірын, асфальт, завея, няволя, спрыт, сад, туга, хлеб, цеплыня.

7. Вызначце і запішыце ў адзін слупок назоўнікі мужчынскага роду, у другі — жаночага роду, у трэці — ніякага роду.

Варыянт 1. Баравік, бель, возера, дарога, кропля, моладзь, мора, палын, поле, рыбалоў.

Варыянт 2. Агонь, гай, дрэва, жыццё, лісце, любоў, радасць, сабака, фея, цень.

8. Вызначце і запішыце ў адзін слупок назоўнікі 1-га скланення, у другі — 2-га скланення, у трэці — 3-га скланення.

Варыянт 1. Агонь, бяроза, весялосць, дом, зямля, край, кроў, лінія, сінь, шчасце.

Варыянт 2. Асілак, вожык, воля, даль, ноч, павага, ружа, рэчка, сваяк, Сібір.

9. Вызначце і запішыце ў адзін слупок рознаскланяльныя назоўнікі, а ў другі — нескланяльныя.

Варыянт 1. Акуляры, бусляня, восень, дзіцця, кенгуру, метро, паліто, племя, старшыня, Суліко.

Варыянт 2. Галко, дзверы, імя, кацяня, маці, радыё, сірата, таксі, шымпанзэ, шынель.

10. Ад наступных назоўнікаў утварыце і запішыце формы меснага склону адзіночнага ліку.

Варыянт 1. Асіна, бярэзнік, бусляня, дачка, зубр, мяжа, сход, хата, цырк, чытач.

Варыянт 2. Вожык, дзіцця, дача, каваль, мост, палата, парк, снег, сцяна, шчака.

**11.** Ад наступных назоўнікаў утварыце і запішыце формы роднага склону адзіночнага ліку.

В а р ы я н т 1. Азарт, алень, бераг, век, верабей, галалёд, гоман, край, Мінск, тралейбус.

В а р ы я н т 2. Адчай, блакіт, змрок, камбайн, космас, луг, Магілёў, певень, ранак, руль.

**12.** Спішыце, устаўляючы патрэбную літару. Абазначце суфіксы.

В а р ы я н т 1. Агуроч..к, бул..чка, дзядз..чка, гор..чка, дубоч..к, дудар..к, лял..чка, лісточ..к, Настул..чка, птуш..чка.

В а р ы я н т 2. Ганн..чка, гарош..к, гняздз..чка, дожджыч..к, дубч..к, здароў..чка, к..ласоч..к, рэч..чка, рэ..чка, сшытач..к.

**13.** Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, мяккі знак.

В а р ы я н т 1. Алес..ка, вішан..ка, галін..ка, дзядулен..ка, дыван..чык, камен..чык, карэн..чык, крынічан..ка, ночан..ка.

В а р ы я н т 2. Аген..чык, Жэн..ка, зязюлен..ка, карзін..ка, касцюм..чык, Мішан..ка, нян..ка, песен..ка, струмен..чык.

**14.** Апускаючы дужкі, запішыце словы разам ці праз злучок.

В а р ы я н т 1. Авія*(носец)*, Буда*(Кашалёва)*, даля*(гляд)*, жар*(птушка)*, коне*(завод)*, лётчык*(касманаўт)*, мікра*(клімат)*, нова*(будоўля)*, хлеба*(пякарня)*.

В а р ы я н т 2. Вада*(качка)*, Дунін*(Марцінкевіч)*, зерня*(склад)*, края*(від)*, мата*(цыкл)*, папараць*(кветка)*, прэм'ер*(міністр)*, фота*(камера)*, хата*(чытальня)*.

**15.** Спішыце сказы, у якіх ***не (ня)*** патрэбна пісаць разам.

В а р ы я н т 1. 1. І туман, і *(не, ня)* пагоды восень позняя нясе. 2. У *(не, ня)* праўды ногі кароткія. 3. Шчасце — *(не, ня)* перапёлка: рэшатам не накрыеш. 4. Алёнка Алесі *(не, ня)* равесніца.

В а р ы я н т 2. 1. Вучэнне — свет, а *(не, ня)* вучэнне — цьма. 2. Мікола *(не, ня)* славы прагнуў, а павагі *(Прыказка)*. 3. Над морам шум і *(не, ня)* спакой. 4. Чым быць у *(не, ня)* волі, лепш загінуць у правым баі *(Прыказка)*.

# ПРЫМЕТНІК

## § 29. Прыметнік як часціна мовы

**177.** Уважліва разгледзьце малюнак. Прачытайце абодва тэксты і вызначце, якое апісанне птушкі больш дакладнае і выразнае.

1. Арлан — буйная драпежная птушка. У яе вялікая, моцная і вострая, загнутая ўніз дзюба, светла-жоўтыя магутныя лапы з доўгімі бязлітаснымі кіпцюрамі. У арлана светла-жоўтыя з халодным бляскам вочы. Тулава і крылы цёмна-бурыя. Галава і шыя святлейшага колеру, хвост белы, злёгку клінападобны *(Паводле В. Вольскага)*.



2. Арлан — птушка. У яе загнутая ўніз дзюба, лапы з кіпцюрамі, з бляскам вочы. Галава і шыя святлейшага колеру, хвост клінападобны, а тулава і крылы цямнейшыя.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія словы дапамаглі аўтару адлюстраваць выгляд птушкі: яе памер, колер апярэння, сілу і драпежнасць?
2. На якія пытанні адказваюць гэтыя словы і да якой часціны мовы адносяцца?

**Прыметнік** — гэта часціна мовы, якая абазначае прымету прадмета і адказвае на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я? ч ы й? ч ы я? ч ы ё? ч ы е?

Прыметнікі змяняюцца па ліках і склонах, а ў адзіночным ліку — і па родах.

Паколькі прыметнікі абазначаюць прыметы прадметаў, то ў сказе яны паясняюць назоўнікі. Таму

граматычныя формы роду, ліку і склону прыметнікаў залежаць ад назоўнікаў, з якімі яны звязаны паводле сэнсу, г. зн. прыметнікі дапасуюцца ў родзе, ліку і склоне да назоўнікаў, параўн.: *белы снег, белая стужка, белае поле, белым снегам, белай стужкі, у белым полі.*

Да назоўнікаў агульнага роду прыметнікі дапасуюцца або ў мужчынскім, або ў жаночым родзе: *Міхась — вядомы запявала. Ірына — вядомая запявала.*

Пачатковая форма прыметніка — форма мужчынскага роду, адзіночнага ліку, назоўнага склону.

У сказе прыметнікі з'яўляюцца азначэннямі або выказнікамі.



Род прыметнікаў у множным ліку не вызначаецца.

**178.** Прачытайце словазлучэнні. Па якой прымеце яны аб'ядназаны ў групы? Якое словазлучэнне лішняе і чаму?

● Вызначце сярод прыметнікаў сінонімы і антонімы.

Высокая сасна, нізкі ядловец, новы шынель; смелы ўчынак, адважны баец, салодкі яблык; бярозавы гай, далёкі край, сасновы лес; неспакойнае возера, шырокая рака, вузкая дарожка; спелыя арэхі, кіслы квас, горкі палын.

**179.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст мастацкага стылю. Каму ён адрасаваны і з якой мэтай? Спішыце, падкрэсліце прыметнікі. Скажыце, што яны абазначаюць і якую ролю выконваюць у тэксце.

Прытупала зіма з вятрамі сцюдзёнымі, з маразамі траскучымі.

Ціха ў лесе. Дрэва, пад якім я стаю, сыпле на мяне кветачкі бялюткія.

Укрыла маю палянку зіма снегам беленькім. Маладая стройная бярозка дрэмле пад серабрыстым інеем. А побач — елачка, прыгажунька лясная. Аздобіла яе зіма:

апранула футра бялюткае, накінула хустку пуховую, упрыгожыла зоркамі іскрыстымі.

Жыве на палянцы зімовая казка. І я крычу, каб людзі пачулі: «Не чапайце вы бярозку, пакіньце на палянцы прыгажуньку-елачку» *(Т. Курыла)*.

**180.** Прачытайце. Назавіце прыметнікі і скажыце, якую ролю яны выконваюць у адным і другім выпадку (дапамагаюць выдзеліць прадмет з шэрага іншых, даюць ацэнку прадмету).

1. — Які хлеб вы часцей купляеце?
   — Звычайна мы купляем чорны хлеб.

2. «Міленькая, добранькая, любенькая», — скачу я вакол бабкі, абдымаю яе *(К. Каліна)*.

Прыметнікі ў мове выконваюць важную ролю: дакладна, ярка і вобразна апісваюць прадмет (апісальная роля), выдзяляюць прадмет з шэрага іншых (выдзяляльная роля), даюць ацэнку таму ці іншаму прадмету (ацэначная роля).

**181.** Прачытайце. Скажыце, чаму выдзеленыя прыметнікі ўжыты ў форме мужчынскага роду адзіночнага ліку.

— Якім павінен быць сапраўдны сябар? — пытаецца настаўнік.

— *Разумным* і *добрым*!

— *Умелым! Шчырым! Смелым!*

— *Ласкавым* і *клапатлівым*!

Дзеці адказваюць хорам, спяшаюцца пералічыць самыя лепшыя рысы чалавека.

**182.** Спішыце і пастаўце, дзе патрэбна, знакі прыпынку. Падкрэсліце прыметнікі і скажыце, якія назоўнікі яны паясняюць і ў чым да іх дапасуюцца.

1. Паляцела дзяўчына самалётам гонкім над шчаслівай краінай над роднай старонкай *(Я. Купала)*. 2. Любоўю

да роднай зямлі і да роднага народа нараджаюцца мае кнігі *(І. Мележ)*. 3. Сцішыліся вербы ля вады і лясы далёкія заснулі толькі лічаць доўгія гады на світанні шчодрыя зязюлі *(С. Грахоўскі)*. 4. Як мары, белыя бярозы пад сінявой начной стаяць *(М. Багдановіч)*. 5. Сыпле іней на бярозы туліць дрэвы лёгкім пухам *(Я. Колас)*.

**183.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. Спішыце і зверху пазначце род, лік і склон выдзеленых прыметнікаў.

Ціха і ўрачыста ў **зімовым** лесе. Высакастволыя хвоі ў белых шапках і пад **снежнай** воўнай яліны стаяць задуменна і важна. Прамяні скупога зімовага сонца прабіваюцца праз цяжкія шэрыя хмары і надаюць лесу **казачны** выгляд. У серабрыста-блакітнай смузе дрэвы. Мякка падаюць пухкія сняжынкі, зіхотнымі зоркамі асядаючы на зямлю. Цяжкая **снегавая** шапка, раптам сарваўшыся з дрэва, гучна тоне ў сумёце. І зноў цішыня *(Паводле А. Курскова)*.



**184.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. Спішыце, раскрываючы дужкі і дапасоўваючы прыметнікі да адпаведных назоўнікаў.

Хлеб на далонях тваіх... *(Свежы)* боханам на вышытым ручніку сустракаем мы ў доме гасцей. З песняй падносім *(пышны)* каравай маладым на вяселлях: каб не цураліся *(бацькоўскі)* зямлі дзеці, свята цанілі і паважалі *(высакародны хлебаробскі)* працу. З *(духмяны)* калачом ступаем на парог, калі спраўляем наваселлі. І *(залацісты жытнёвы)* сноп ставім на куце, калі святкуем дажынкі. Гэта — наша традыцыя. *(Спрадвечны)* наш звычай. Мы ведаем, калі ёсць хлеб на стале, то свята на душы заўсёды. Свята ўсяго народа. Хлеб быў і ёсць як святыня. Як сімвал вечнасці *(зямны)* подзвігу сейбітаў і аратых *(М. Чарняўскі)*.

## § 30. Паглыбленне паняцця пра апісанне: спосабы апісанняў

**185.** Прачытайце тэксты.

1. З кухні ў чыстую палавіну хаты — філёнчатыя фанерныя дзверы. За імі з аднаго боку шафа, з другога — грубка. Паўз сцяну нікеляваны ложак. У прасценку між акон ад вуліцы — старамодная канапа. У куце круглы стол, на ім тэлевізар. Каля сцяны ад двара швейная машына, на ёй — настольная лямпа-грыбок.

2. Пакой у Люсі невялікі, але светлы і ўтульны. Перад акном стол на фігурных ножках пад беласнежным абрусам. Паўз сцяну прыгожая, як у князёўны, канапа. На сцяне гадзіннік у форме сэрца. Калі раніцай сюды загляне сонца, то ўсё заззяе фарбамі вясёлкі. Сапраўдная ўрачыста ўбраная святліца з фікусамі і ярка-чырвонымі аганькамі.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якая іх тэма і тып мовы? У якім тэксце пакой апісаны ў афіцыйным стылі, а ў якім — у мастацкім?
2. Якая мэта гэтых апісанняў і якая ў іх роля прыметнікаў?

**186.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст мастацкага стылю. Вызначце тую частку, якая з'яўляецца апісаннем і спішыце яе. Назавіце структурныя часткі апісання. Якую ролю ў ім выконваюць прыметнікі?

Гэта было ўвосень. Мы з мамай збіралі журавіны. З-за кучмастых елачак выйшла казуля і спынілася каля крушынавага куста.

Якая яна зграбная! На быстрых нагах зялёныя капыткі-туфелькі. Галоўка маленькая, точаная. Шыя доўгая і гнуткая. Вочы вялікія, цёмныя, круглыя, бліскучыя. Здаецца, у іх глыбіні можа ўтапіцца ўвесь свет.

Вось такой стаіць у маёй памяці самая прыгожая жывёліна беларускіх лясоў — казуля *(Паводле У. Рубанава)*.

**187.** Прачытайце і дакажыце, што гэта тэкст тыпу апісання. Як яно пабудавана? Якія словы дапамаглі аўтару стварыць вобраз скрыпа́чкі і выразіць да яе свае адносіны?

Іграў аркестр. Але як ён іграў! Гэта трэба было чуць і бачыць.

Саліравала скрыпачка, апранутая ў чорную дарагую сукенку, чорненькая, невысокая, зграбная, з вялікімі цёмнымі вачыма на белым твары і чорнымі пышнымі валасамі над ілбом, на якім не было ні адной маршчынкі. У правай руцэ лётаў тонкі рухавы смычок, дакранаўся да струн, а пальцы левай рукі, тонкія, далікатныя, песцілі грыф, перабягалі па струнах, і яны давалі жыццё тысячам чароўных гукаў.

Пасля той музыкі я доўга быў сам не свой, жыў як у сне. Я бачыў, што на свеце ёсць нешта такое, без чаго жыццё будзе няпоўным і нецікавым *(Паводле У. Дамашэвіча)*.

**188.** Разгледзьце малюнак і напішыце апавяданне «Зімовыя забавы» ў мастацкім стылі з элементамі апісання. Выкарыстайце адпаведныя прыметнікі.



Для даведкі:
дзень: *ясны, сонечны, пахмурны, марозны, цёплы*;
неба: *высокае, нізкае, яснае, шэрае, цёмнае, пахмурнае*;
снег: *глыбокі, пушысты, белы, цёмны, рыхлы*;
паветра: *празрыстае, марознае, свежае, сырое*;
дрэвы і кусты: *голыя, зялёныя, у шэрані, інеі*.

● З якой мэтай вы ўжывалі ў тэксце прыметнікі?

**189.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго жанр. Якая частка тэксту з'яўляецца апісаннем. Якую ролю ў ім выконваюць прыметнікі?

Прайшоў ужо тыдзень, як згубіўся сабачка — мая адзіная ўцеха на старасці гадоў. Дапамажыце знайсці майго сябра.

Сабачка паляўнічай пароды. Вялікі. Белы. З цёмна-карычневымі плямамі на баках. Морда карычневая. Вушы вялікія. Шэрсць кароткая, гладкая.

- Якім вы ўяўляеце чалавека, які шукае сабачку?



**190.** Прачытайце. Ці можна лічыць гэты тэкст апісаннем? Спішыце і падкрэсліце прыметнікі.

З-за лесу выкочваўся на неба ярка-чырвоны агромністы месяц.[сн] Барвовае зарыва прасвечвалася праз вострыя вяршаліны елак. Здавалася, што ўсчынаецца вялізны пажар. Ад яго святлела ў полі, паяўляліся шэра-фіялетавыя цені на снезе. Мігатліва пераліваласся святло зорак. Над самым краем неба ўспыхвалі бледныя, невыразныя сполахі святла, нібы гэта было паўночнае ззянне *(Паводле А. Асіпенкі)*.

## § 31. Прыметнікі якасныя, адносныя, прыналежныя

**191.** Прачытайце ўрывак з верша С. Басуматравай «Мая зямля» і скажыце, чаму ён так названы. Як вы думаеце, чаму ў гэтым вершы большасць слоў — назоўнікі і прыметнікі?

Зямлю беларускую
Са сцежкаю вузкаю,
З чырвонай рабінаю
Заву я любімаю.
З матулінай ласкаю,
З бабулінай казкаю
На свеце такая адна.
Зямля мая спеўная
Будзілася пеўнямі,
Звінела крыніцамі
Пад вербамі ніцымі.
І моваю матчынай,
Як шчодраю спадчынай,
З маленства сагрэла мой лёс.
Зямля мая ветлая
Азёрамі светлая,
Барамі гасцінная,
У сэрцы адзіная.

**192.** Разгледзьце схему.




## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. На колькі разрадаў падзяляюцца прыметнікі паводле значэння?

2. Якія прыметы абазначаюць прыметнікі пад лічбамі 1, 2, 3 і на якія пытанні адказваюць? Прывядзіце свае прыклады.

3. Якія прыметнікі могуць спалучацца са словамі *вельмі, надта*?

4. У які разрад і радок прыведзенай схемы вы ўпісалі б прыметнікі з практ. 191?

Прыметнікі ў залежнасці ад іх значэння падзяляюцца на якасныя, адносныя і прыналежныя.

**Якасныя прыметнікі** абазначаюць прыметы прадметаў паводле іх формы, памеру, колеру, знешніх, фізічных і душэўных уласцівасцей ці якасцей і інш. Якасныя прыметнікі адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я? і могуць спалучацца са словамі *вельмі, надта*: *вельмі дарагі*, *надта здольны*.

**Адносныя прыметнікі** абазначаюць прыметы прадметаў паводле іх адносін да матэрыялу ці рэчыва, месца, часу і інш. Адносныя прыметнікі адказваюць на тыя ж пытанні, што і якасныя, але не спалучаюцца са словамі *вельмі, надта*.

**Прыналежныя прыметнікі** абазначаюць прыметы прадметаў паводле іх прыналежнасці чалавеку або жывёлам, птушкам, рыбам і да т. п. Прыналежныя прыметнікі адказваюць на пытанні ч ы й? ч ы я? ч ы ё? ч ы е? і не спалучаюцца са словамі *вельмі, надта*.

**193.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Падкрэсліце прыметнікі і скажыце, якія з іх якасныя, а якія — адносныя. На якія пытанні адказваюць адны і другія і якія з іх спалучаюцца са словамі *вельмі, надта*?

Над..шла сцюдзёная пара. Суровы снежань-зімнік намёў у лесе в..лізныя гурбы пачапіў на др..вы і хмызнякі сн..гавыя шапкі пухкімі белымі дыванамі заслаў л..сныя паляны лугі і палі.

Падзьмуў снежань свежымі м..рознымі в..трамі. Схаваў хуткія рэкі пад то..сты блакітны лёд. Стынуць зацягваюцца лёдам нават л..сныя крыніцы.

Ціха ў зімовым лесе. Змоўклі птушкі і схаваліся зв..ры. Здаецца, што жыццё ў ім спынілася да будучай в..сны. Ця..кая пара над..шла для жыхароў лесу *(А. Курскоў)*.

- Назавіце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.
- Да якога стылю і тыпу маўлення адносіцца гэты тэкст і якую ролю адыгрываюць у ім якасныя прыметнікі?

**194.** Прачытайце тэкст. Выпішыце адносныя прыметнікі разам з паяснёнымі назоўнікамі. Пазначце ў дужках род, лік і склон прыметнікаў.

Жалейка — вядомы з XV стагоддзя беларускі народны духавы інструмент сям'і язычковых. У залежнасці ад мясцовай традыцыі жалейкі розняцца па сваіх памерах і форме. Вырабляюцца з розных матэрыялаў: чароту, жытняй саломы, дрэва, рога, гусінага пяра. Бываюць з іграевымі адтулінамі і без іх. Адпаведна гэтаму жалейкі адрозніваюцца адна ад другой аб'ёмам і характарам гучання. Тэмбр* жалейкі — моцны, рэзкі, крыху гнусавы *(Н. Яканюк)*.

***пі́шчык***
***ду́дка***
***чаро́тка***

● Да якога стылю і тыпу адносіцца гэты тэкст? Якую ролю выконваюць у ім адносныя прыметнікі?

● Ці ёсць у гэтым тэксце словы з пераносным значэннем?

● Як бы вы растлумачылі іншыя народныя назвы гэтага інструмента?

**195.** Прачытайце і скажыце, у якіх сказах выдзеленыя прыметнікі ўжыты ў прамым значэнні, а ў якіх — у пераносным.

1. Беларускія лёгкаатлеты на чэмпіянаце Еўропы заваявалі пяць залатых медалёў *(«Звязда»)*.
2. Зацешуся чародкай лебядзінай, што плавае пры ціхім астраўку *(С. Грахоўскі)*.
3. Дзень залаты цёплым сонцам заліты, лётаў матыль сінякрылы над жытам *(М. Танк)*.
4. Пад белым пухам лебядзіным заснула вёска сном нямым *(М. Машара)*.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якім выпадку мы можам сказаць «зроблены з золата», а ў якім — «падобны на золата», «такі, як золата»?
2. У адносінах да якога прадмета ў 4-м сказе можна сказаць «падобны на...», «такі, як...»?
3. У якіх сказах выдзеленыя прыметнікі выражаюць прымету прадмета паводле колеру, якасці?

Адносныя і прыналежныя прыметнікі выступаюць у значэнні якасных, калі яны ўжываюцца не ў прамым, а ў пераносным лексічным значэнні. У такіх выпадках адносныя і прыналежныя прыметнікі набываюць новае, якаснае значэнне: «падобны на...», «такі, як...»: ***залаты*** *пярсцёнак* (г. зн. 'пярсцёнак з золата', адносны прыметнік), ***залаты*** *гай* (г. зн. 'падобны на золата колерам', якаснае значэнне), ***савінае*** *гняздо* (г. зн. 'гняздо савы', прыналежны прыметнік), ***савіны*** *твар* (г. зн. 'круглы, які нагадвае галаву савы', якаснае значэнне).

Прыналежныя прыметнікі могуць ужывацца ў значэнні адносных, напрыклад: ***мядзведжы*** *след* (г. зн. 'след мядзведзя', прыналежны).



**196.** Прачытайце сказы і вызначце разрад прыметнікаў паводле значэння. Выпішыце тыя сказы, у якіх адносныя ці прыналежныя прыметнікі ўжываюцца ў значэнні якасных.

1. Над дарогай клён мой залаты — мой адвечны сум па прыгажосці *(І. Арабейка)*. 2. Уночы сёння вішні расцвілі, і раніцою залатыя пчолы лічылі ўжо сузор'і на галлі, я слухаў іхні ціхі звон вясёлы *(А. Русак)*. 3. Жыў хлопец вясёлы на свеце, арліныя вочы меў *(Т. Мельчанка)*. 4. Вайсковы шлях вадзіў мяне туды, дзе дрэмлюць горы Верташтаг каля шкляной вады *(М. Калачынскі)*. 6. Бурштынавыя адклады Балтыйскага ўзбярэжжа буйнейшыя ў свеце *(«Бярозка»)*.

## § 32. Ступені параўнання якасных прыметнікаў

**197.** Прачытайце сказы.

1. Ходзіць гоман між збажынкі,
**Мілы** і шчаслівы.

*Я. Колас*

2. Свая хатка **мілейшая** за чужую вёску *(Прымаўка)*.

3. Хоць нямала на планеце
Экзатычных ёсць мясцін,
**Наймілейшы** ў цэлым свеце
Край бацькоў — адзін на ўсіх.

*Х. Чэрня*

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці аднолькавую ступень якасці выражаюць прыметнікі?

2. У якім сказе па адной і той жа прымеце адзін прадмет параўноўваецца з другім, а ў якім — адзін прадмет параўноўваецца з многімі такімі ж прадметамі?

3. Чаму менавіта ў 1-м сказе ўжыты прыметнік *мілы,* у 2-м — *мілейшая,* у 3-м — *наймілейшы*?

4. Якая значымая частка выражае розніцу ў значэнні 1-га і 2-га, 2-га і 3-га слоў?

Пераважная большасць якасных прыметнікаў абазначае прыметы, якія могуць праяўляцца ў большай ці ў меншай ступені. Такія прыметнікі маюць дзве ступені параўнання: вышэйшую і найвышэйшую.

Прыметнікі вышэйшай ступені параўнання паказваюць, што якасць дадзенаму прадмету ўласціва ў большай ці ў меншай ступені ў параўнанні з іншым прадметам: *Мікола* ***старэйшы*** *за Алеся на тры гады. Алесь* ***маладзейшы*** *за Міколу на тры гады.*

Прыметнікі найвышэйшай ступені параўнання паказваюць, што якасць дадзенаму прадмету ўласціва ў найбольшай або ў найменшай ступені ў параўнанні з іншымі прадметамі: *А* ***найлепшая*** *тая дарога, што вядзе на бацькоўскі парог* (А. Бялевіч).

**198.** Прачытайце верш.

Я твае абышоў дарагія прасторы,
І лугі, і палі, дзе, як маці, спрадвек

Ты з людзьмі, Беларусь, так ласкава гаворыш
Звонкім звонам бароў, пералівамі рэк.
Тут і сонца, здаецца, святлейшае свеціць.
І дабрэйшыя ўсмешкі — у добрых людзей.
Ёсць нямала зямель багацейшых на свеце,
Толькі ты мне радней, даражэй і мілей.

*А. Бачыла*

Назавіце якасныя прыметнікі і вызначце, якія з іх ужыты ў пачатковай форме, а якія — у форме ступені параўнання. Якая гэта ступень параўнання і чым тлумачыцца яе ўжыванне?

Кожная ступень параўнання прыметнікаў мае дзве формы: простую (выражаецца адным словам) і складаную (выражаецца двума словамі).

Простая форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца ад асновы прыметніка пры дапамозе суфіксаў ***-ейш-, -эйш-***: *моцны — мац**нейш**ы, яркі — ярч**эйш**ы.*

Вышэйшая ступень некаторых прыметнікаў утвараецца і ад іншых каранёў: *добры —* ***лепшы,*** *дрэнны —* ***горшы.***

Назоўнікі пры вышэйшай ступені параўнання ўжываюцца ў вінавальным склоне з прыназоўнікам ***за***: *глушэц* ***большы за цецерука.***

Складаная форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам далучэння да прыметнікаў слоў *больш (болей), менш (меней): яркі —* ***больш яркі,*** *чым...; важны —* ***менш важны,*** *як...; прывабны —* ***больш прывабны*** *за...*

Простая форма найвышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам далучэння прыстаўкі ***най-*** да простай формы вышэйшай ступені параўнання: *святлейшы —* ***най****святлейшы, меншы —* ***най****меншы.*

Састаўная форма найвышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам далучэння да якаснага прыметніка слоў *самы, найбольш, найменш*: *вядомы —* ***самы вядомы, найбольш вядомы, найменш вядомы.***

**199.** Прачытайце ўрывак з верша Х. Жычкі. Вызначце ступені параўнання якасных прыметнікаў і спосаб іх утварэння.

Ці ёсць дзе на свеце
святлейшае неба,
гусцейшае жыта?
Ці ёсць дзе яснейшы
за наш далягляд?

Ці ёсць дзе на свеце
ярчэйшыя кветкі?
Ці ёсць дзе на свеце
куток прыгажэйшы,
чым наша зямля?

● Утварыце і запішыце складаныя формы вышэйшай ступені параўнання гэтых прыметнікаў.

**200.** Спішыце. Вызначце ступені параўнання якасных прыметнікаў і скажыце, як яны ўтвораны.

Калі пугач самая буйная сава, то самая маленькая — вераб'іны сычык. Ён крыху меншы за звычайнага шпака. Сплюшка буйнейшая за сычыка *(А. Курской)*.



**201.** Спішыце, утвараючы простую форму вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, што ў дужках. У чым асаблівасць яе ўтварэння?

Усё лепшае ў чалавеку — ад сям'і. Ад пяшчотнай цеплыні мацярынскіх рук, ласкавага голасу. Ад яе ўрокаў дабрыні і спагады да таго, хто *(малы, слабы)*. Ад суровай стрыманасці бацькі, мужнасці і рашучасці ў крытычны момант да гатоўнасці ўзяць на сябе *(вялікі)* цяжар і абараніць сям'ю ад нягод *(«Беларусь»)*.



**202.** Спішыце, утвараючы ад прыметнікаў, што ў дужках, тыя формы ступеней параўнання, якія адпавядаюць сэнсу сказаў.

1. На свеце няма *(дарагі)* дарогі, як гэта — дарога да роднага дому. 2. Я не склаў сваю *(добры)* песню, *(добры)* дзень свой яшчэ не пражыў. 3. Маладосць — краса людзей, жыцця *(добры)* час. 4. Таму і смутак нам патрэбен, каб радасць *(вялікі)* была. 5. Аліна хоць і *(малады)*, але ведала ўсе Лізавеціны песні і цёпла, мякка падпявала. 6. Зямля наша — *(святы)* запаведнік, і трэба, як маці, яе берагчы.

## § 33. Поўная і кароткая формы якасных прыметнікаў

**203.** Прачытайце. Вызначце, якімі членамі сказа з'яўляюцца выдзеленыя прыметнікі. Параўнайце канчаткі і скажыце, якія формы прыметнікаў поўныя, а якія — кароткія.

1. Сэрца кранаюць, як у дзяцінстве, **мілыя** вобразы роднага краю *(М. Калачынскі)*. 2. Мне **любы** стэп шырокі *(Я. Колас)*. 3. Першыя громы! Сэрцу вы **мілы, люб** мне ваш смех паміж гор *(Я. Колас)*.

Некаторыя якасныя прыметнікі маюць поўную і кароткую формы: *бацька* ***рад[ы]*** — *бацька* ***рад[ ]***, *маці* ***рад[ая]*** — *маці* ***рад[а]***, *дзіця* ***рад[ае]*** — *дзіця* ***рад[а]***, *бацькі* ***рад[ыя]*** — *бацькі* ***рад[ы]***.

Кароткія прыметнікі маюць у мужчынскім родзе нулявы канчатак, у жаночым і ніякім — канчатак ***-а***, у множным ліку — канчатак ***-ы***.

Кароткія прыметнікі не скланяюцца. Яны змяняюцца па ліках, а ў адзіночным ліку — і па родах.

У сказе кароткія прыметнікі звычайна з'яўляюцца выказнікамі.

**204.** Спішыце. Поўныя прыметнікі зверху пазначце літарай ***п***, а кароткія — літарай ***к***. Падкрэсліце прыметнікі як члены сказа.

1. Беларусь! Як ты дарага мне, як нішто і ніколі ў жыцці *(П. Броўка)*. 2. Таму так, мая Радзіма, люба ты мне і міла, што пад тваім паглядам расла маладая сіла *(К. Кірэенка)*. 3. Дождж з ветрам шугануў праз шчыліну, стаў больш чуцен шквальны шум *(А. Кулакоўскі)*. 4. Відзён той дуб са ўсіх старон з галінамі густымі *(П. Броўка)*. 5. Што смуцен, родны бор? *(Р. Баравікова)*.

● Растлумачце знакі прыпынку ў сказах са звароткамі.

**205.** Прачытайце. Назавіце ў кожным сказе кароткую форму прыметніка і скажыце, ці можна замест яе выкарыстаць сінанімічную поўную форму.

1. Бывайце здаровы, жывіце багата, ужо ж мы паедзем да сваёй хаты *(А. Русак)*. 2. Напішы ты, будзь ласкавы, ліст мне дадому, я табе аддзякую *(К. Чорны)*. 3. Дзень добры, маё дзіцятка... Дзякуй Богу, здарова... За мяне не хвалюйся *(Я. Янішчыц)*. 4. Будзьце здаровы, маладыя! Дай Бог вам з сабою шчасліва пражыць *(В. Дунін-Марцінкевіч)*.



Кароткія прыметнікі ў беларускай мове ўжываюцца вельмі рэдка і пераважна ў мове паэзіі.

**206.** Прачытайце і вызначце, да якога стылю і тыпу маўлення адносіцца гэты тэкст. Назавіце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.

Гроза прошла. Как весело сверкает всё кругом, как воздух свеж и жидок, как пахнет земляникой и грибами! Но вот наступает вечер. Заря запылала пожаром и обхватила полнеба. Солнце садится. Воздух особенно прозрачен, словно стеклянный. Вдали ложится мягкий пар, тёплый на вид. Вместе с росой падает алый блеск на поляны, ещё недавно облитые потоком жидкого золота. От деревьев, от кустов, от высоких стогов сена побежали длин-

ные тени. Солнце село. Звезда зажглась и дрожит в огнистом море заката *(По И. С. Тургеневу)*.

Д л я  д а в е д к і: алый — *пунсовы, ярка-чырвоны,* жидкий — *рэдкі,* запылать — *запалаць,* пар — *пара.*

● Пісьмова перакладзіце тэкст на беларускую мову. Пазначце род, лік і склон прыметнікаў. Якія формы выкарысталі вы пры перакладзе кароткіх прыметнікаў?



**207.** Спішыце. Пасля кароткіх прыметнікаў у дужках пазначце іх граматычныя формы. Дзейнік і выказнік падкрэсліце.

1. Радзіма, адчуў я ў разлуцы з табою, як люб мне і дораг кут мілы бацькоў *(П. Прыходзька)*. 2. Мне ўсё дорага тут — і ў прысадах дарога, і задумлівы[с] гай над высокай гарой *(П. Броўка)*. 3. Ды прыслухайся: каля ігліц і зімой чуцен голас сініц *(У. Карызна)*. 4. Песні жаўранкаў ліюцца — весел іх палёт *(Я. Журба)*. 5. Нам люба ўсё зямное, люба праца, у росах травы, жытнія палі *(А. Пысін)*. 6. Мяцель не вее, сціхнуў вецер і волен лёгкіх санак бег *(М. Багдановіч)*.

## § 34. Скланенне якасных і адносных прыметнікаў у адзіночным ліку

**208.** Прачытайце. Назавіце канчаткі прыметніка *звонкі.* Чаму адно і тое ж слова мае розныя канчаткі?

У Беларусі — ясныя вочы,
Многа любові ў грудзях.
Звонкае поле,
Звонкія сосны,
Звонкі і сонечны шлях.
У Беларусі кожны куточак,
Дзе ты ні пойдзеш, пяе...
Звонкае слова,
Звонкая песня,
Звонкае сэрца яе.

*П. Броўка*

**209.** Разгледзьце табліцу. Звярніце ўвагу на асновы прыметнікаў, націск у словах.

| Склон | Прыметнікі мужчынскага роду з асновай на | | |
|---|---|---|---|
| | цвёрды і зацвярдзелы зычны | *г, к, х* | мяккі зычны |
| Н. | *малад* **ы**<br>*шэр* **ы**<br>*зімов* **ы** | *дараг* **і**<br>*слуцк* **і** | *сін* **і**<br>*летн* **і** |
| Р. | ***-ога, -ага*** | ***-ога, -ага*** | ***-яга*** |
| Д. | ***-ому, -аму*** | ***-ому, -аму*** | ***-яму*** |
| В. | як Н. ці Р. | | |
| Т. | ***-ым*** | ***-ім*** | ***-ім*** |
| М. | ***-ым*** | ***-ім*** | ***-ім*** |

| Склон | Прыметнікі ніякага роду з асновай на | | |
|---|---|---|---|
| | цвёрды і зацвярдзелы зычны | *г, к, х* | мяккі зычны |
| Н. | *малод* **ое**<br>*шэр* **ае**<br>*зімов* **ае** | *дараг* **ое**<br>*слуцк* **ае** | *сін* **яе**<br>*летн* **яе** |
| Р. | ***-ога, -ага*** | ***-ога, -ага*** | ***-яга*** |
| Д. | ***-ому, -аму*** | ***-ому, -аму*** | ***-яму*** |
| В. | як Н. | | |
| Т. | ***-ым*** | ***-ім*** | ***-ім*** |
| М. | ***-ым*** | ***-ім*** | ***-ім*** |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ад чаго залежаць склонавыя канчаткі якасных і адносных прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду ў адзіночным ліку?

2. У якіх склонах канчаткі прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду супадаюць, а ў якім — адрозніваюцца?

3. Чаму формы прыметнікаў мужчынскага роду ў вінавальным склоне супадаюць з формамі назоўнага або роднага склону?

**210.** Праскланяйце (па варыянтах) прыметнікі разам з назоўнікамі. Пры скланенні стаўце пытанні да прыметнікаў. Абазначце канчаткі ў пытаннях і прыметніках. Скажыце, як пытанні дапамагаюць у вызначэнні і напісанні канчаткаў прыметнікаў.

Лугавое леташняе сена. Модны вячэрні недарагі касцюм. Ясны летні ціхі дзень. Яснае летняе ціхае ранне.

● Зверце канчаткі па табліцы і вызначце, чым тлумачыцца наяўнасць розных канчаткаў прыметнікаў у адным і тым жа склоне. Ад чаго залежыць напісанне галосных у канчатках прыметнікаў?

У назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікі маюць канчаткі:

***-ы, -і*** — у мужчынскім родзе: *ясн**ы** летн**і** ціх**і** дзень*;

***-ое, -ае, -яе*** — у ніякім родзе: *сух**ое** добр**ае** летн**яе** сена.*

Ва ўскосных склонах адзіночнага ліку прыметнікі мужчынскага і ніякага роду маюць канчаткі:

***-ога, -ага, -яга*** — у родным склоне: *сух**ога** ліпеньск**ага** надвор'я, летн**яга** дня*;

***-ому, -аму, -яму*** — у давальным склоне: *сух**ому** ліпеньск**аму** надвор'ю, летн**яму** дню;*

***-ым, -ім*** — у творным і месным склонах: *цёпл**ым** летн**ім** днём, на нов**ым** мінск**ім** трактары.*

**211.** Дапасуйце прыметнікі да назоўнікаў. Вызначце род і склон прыметнікаў і растлумачце напісанне канчаткаў.

1. Жыць у *(вялікі)* сяле, у *(новы)* доме, пры *(родны)* бацьку. 2. Памагчы *(слабы)* чалавеку, *(суседні)* калгасу.

3. Песня *(родны)* краю, *(залацісты)* жыта. 4. Прысягаць *(Дзяржаўны)* сцягу, *(родны)* слову. 5. Сустрэцца каля *(стары)* дуба, *(крайні)* дома. 6. Убачыць *(новы)* трактар, *(адкрыты)* акно, *(сухі)* дрэва, *(вячэрні)* ззянне.

**212.** Спішыце. Падкрэсліце словазлучэнні «прым. + наз.» і абазначце галоўнае слова. Пастаўце пытанне да прыметніка, вызначце яго род і склон, растлумачце напісанне канчатка.

Янка Купала — паэт з сусветным імем. Народу аддаў ён свой вялізны паэтычны дар і сваё вялікае, чулае сэрца *(Я. Колас)*.

**213.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце прыметнікі ў патрэбнай склонавай форме.

1. На полі ўжо сінявата-зялёнымі хвалямі хадзіла *(высокі густы)* жыта *(В. Адамчык)*. 2. У *(высокі сіні)* небе не чуваць ужо над полем *(звонкі)* спеву жаваранка *(В. Вітка)*. 3. Ніжэй апусцілася *(асенні)* сонца за лес *(І. Шамякін)*. 4. *(Гарачы летні)* днём Алёшка, Янка і Жэня рашылі схадзіць на раку пакупацца *(П. Рунец)*. 5. Паглядзеў на неба: было яно *(сухі, белы)*, абяцала *(гарачы, спякотны)* дзень *(А. Кудравец)*. 6. У пояс жыту пакланюся і *(любы дзедаўскі)* зямлі *(С. Грахоўскі)*.

**214.** Разгледзьце табліцу і скажыце, ад чаго залежаць канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў адзіночным ліку.

| Склон | Прыметнікі жаночага роду з асновай на | |
|---|---|---|
| | цвёрды, зацвярдзелы зычны і на ***г, к, х*** | мяккі зычны |
| Н. | *лясн****ая****, міл****ая****, туг****ая*** | *сін****яя*** |
| Р. | ***-ой (-ое), -ай (-ае)*** | ***-яй (-яе)*** |
| Д. | ***-ой, -ай*** | ***-яй*** |
| В. | ***-ую*** | ***-юю*** |
| Т. | ***-ой (-ою), -ай (-аю)*** | ***-яй (-яю)*** |
| М. | ***-ой, -ай*** | ***-яй*** |

Прыметнікі жаночага роду ў адзіночным ліку маюць канчаткі:

***-ая, -яя*** — у назоўным склоне: *густ***ая** *высок***ая** *ранн***яя** *збажына*;

***-ой, -ай, -яй*** — у родным, давальным, творным і месным склонах: *густ***ой** *высок***ай** *ранн***яй** *збажыны (збажыне, збажыной, у збажыне)*;

***-ую, -юю*** — у вінавальным склоне: *густ***ую** *высок***ую** *ранн***юю** *збажыну.*

З а ў в а г а. У родным склоне прыметнікі жаночага роду могуць ужывацца таксама з канчаткамі ***-ое, -ае, -яе*** *(сярод густ***ое** *высок***ае** *ранн***яе** *збажыны)*, а ў творным склоне — з канчаткамі ***-ою, -аю, -яю*** *(густ***ою** *высок***аю** *ранн***яю** *збажыною).*

**215.** Падбярыце да прыметнікаў назоўнікі і запішыце словазлучэнні ў родным і давальным склонах адзіночнага ліку. Растлумачце правапіс канчаткаў.

Глыбокае, густы, зорнае, мяккі, позняе, прыгожая, ранняя, сур'ёзная, ціхі, цудоўная.

Каб правільна вызначыць і напісаць канчатак прыметніка, трэба знайсці ў сказе назоўнік, ад якога залежыць прыметнік, і ад гэтага назоўніка задаць да прыметніка пытанне. Канчатак пытання падкажа, з якім канчаткам трэба пісаць прыметнік.

Напрыклад: *Чароўн.. цішыня панавала ў лесе.* Прыметнік *чароўны* залежыць ад назоўніка *цішыня*. Задаём пытанне: *цішыня* я к а я? Канчатак пытання ***-ая***; значыць, прыметнік трэба пісаць з канчаткам ***-ая***: *чароўн***ая** *цішыня.*



Пры выбары канчатка неабходна ўлічваць характар асновы і месца націску.
*Спел.. яблык.* Яблык (я к і?) *спел*[*ы*].
*Сіні.. азёры.* Азёры (я к і я?) *сін*[*ія*].
*Блакітна.. неба.* Неба (я к о е?) *блакітн*[*ае*].

**216.** Спішыце, дапісваючы канчаткі прыметнікаў. Пазначце ў дужках іх род, лік і склон.

Пад гарою расла вярба. Пад вярбою было люстран.. акно ў зялён.. траве. Тут пачынаўся і бег да рэчкі мал.. ручаёк[м]. З узгорка да ракі вытапталі шырок.. сцежку[ф]. Усе прыходзілі сюды піць ваду, і цэл.. лета сін.. неба ўглядалася ў гэта акно. Увосень берагі яго чарнелі ад дажджу, і на вадзе плавала лісце бярозы. Зімою акно не замярзала. Рэдк.. пара, як з міскі, клубілася над ім у глыбок.. снезе. А дзед казаў, што гэта зямля дыхае тут... *(І. Грамовіч).*

● Падкрэсліце словы з пераносным значэннем.

**217.** Выпішыце словазлучэнні «прым. + наз.». Абазначце галоўнае слова, род, лік і склон назоўнікаў і прыметнікаў.

У з о р: *чароўны край (м. р., адз. л., Н. скл.).*

Чароўны ты, мой край, любой парою:
Ласкавым летам, сцюжнаю зімой,
Палоніш казачнай сваёй красою
І сэрца поўніш светлаю журбой.

*С. Каробкіна*

**218.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта мастацкі тэкст тыпу апавядання. Якая яго асноўная думка? Складзіце план і напішыце пераказ. Уключыце ў яго апісанне ласяў.

Пачынала шарэць. Над лесам нізка грувасціліся снегавыя воблакі. Дарога, скаваная марозам, вывела на ўзлесак.



Іду паціху і два сляды бачу: ласіны і заячы. Сляды кіруюць у адным напрамку: на сярэдзіну ўзлеску. Прайшоў яшчэ крыху і ладны стажок сена ўбачыў. А каля стажка таго лось з зайцам сілкуюцца. Стажок сена для іх нібы сталоўка бясплатная.

Заяц, як толькі згледзеў мяне, адразу ў кусты сігануў. А лось ляніва павярнуў галаву і зноў за яду ўзяўся.

Вяртаўся з лесу і ўсё думаў пра чалавека — добрага, з чулым сэрцам, які на ўзлеску для звяроў стажок сена пакінуў *(Я. Галубовіч)*.



**219.** Прачытайце тэкст пра вядомую беларускую паэтэсу, сучасніцу Я. Купалы і Я. Коласа. Спішыце. Вызначце, да якіх назоўнікаў і ў чым дапасуюцца прыметнікі. Дапішыце іх канчаткі.

Чул.., уражлів.. душа Алаізы Пашкевіч (Цёткі) — беларуск.. паэткі, міласэрн.. сястры, асветніцы — заўсёды цягнулася да святла, харашыні. Гэта адбілася ў яе творах. І людзі, якія знаёміліся з ёю па літаратурн.. творах, захапляліся сілай духу малад.., абаяльн.. жанчыны. Вобраз Цёткі вабіць кожнага сваёй паэтычнасцю, чысцінёй, хвалюе нястомн.. энергіяй, апантанасцю, вернасцю справе. Цётка, без якой мы шмат у чым былі б бяднейш.. духоўна, жыве сёння ў назвах вуліц, школ, бібліятэк. Жыве ў шчыр.. слове літаратараў, паэтаў, музыкантаў, мастакоў *(М. Новік)*.

## § 35. Скланенне прыметнікаў у множным ліку

**220.** Разгледзьце табліцу. Чым можна растлумачыць аднолькавыя і розныя канчаткі прыметнікаў?

| Склон | Прыметнікі з асновай на | | |
|---|---|---|---|
| | цвёрды і зацвярдзелы зычны | ***г, к, х*** | мяккі зычны |
| Н. | *добр* ***ыя*** (людзі) | *глыбок* ***ія*** (прыткі) | *сін* ***ія*** (азёры) |
| Р. | ***-ых*** | ***-іх*** | ***-іх*** |
| Д. | ***-ым*** | ***-ім*** | ***-ім*** |
| В. | як Н. або Р. | | |
| Т. | ***-ымі*** | ***-імі*** | ***-імі*** |
| М. | ***-ых*** | ***-іх*** | ***-іх*** |

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. На якія зычныя заканчваюцца асновы прыметнікаў?
2. Прыметнікі з якімі асновамі маюць аднолькавыя канчаткі?
3. Ці залежаць склонавыя канчаткі прыметнікаў у множным ліку ад роду?

**221.** Падбярыце да аднаго з прыметнікаў адзін адушаўлёны і адзін неадушаўлёны назоўнік. Утварыце словазлучэнні, запішыце іх у назоўным, родным і вінавальным склонах множнага ліку.

У якім выпадку канчаткі прыметнікаў у вінавальным склоне супадаюць з канчаткамі назоўнага, а ў якім — роднага склону?

| | |
|---|---|
| маладыя<br>прыгожыя<br>раннія | алені, бярозы, кветкі, яблыні, птушкі |

**222.** Прачытайце тэкст. Выпішыце тыя сказы, у якіх прыметнікі ўжыты ў форме множнага ліку. Пры спісванні графічна выдзеліце іх канчаткі. Растлумачце напісанне канчаткаў.

У з о р. *У сін*[*іх*] *азёрах. У азёрах* (я к і х?) *сініх (прыметнік ужыты ў форме М. скл., аснова заканчваецца на мяккі зычны, таму пішацца канчатак -**іх**).*

Янка Купала!.. Калі гучыць гэта імя, перад вачыма ўстаюць зялёныя жытнёвыя палеткі, шырокія квяцістыя лугі пад лёгкімі, як пух, аблачынкамі, векавечныя лясы і пушчы, сінія стужкі шматлікіх рэк, блакітныя вочы азёр. Усё гэта Беларусь з яе маляўнічымі краявідамі, працавітымі і мужнымі людзьмі. З яе мінуўшчынай і сучаснасцю, што так натуральна і хораша ўвайшлі ў звонкую Купалаву песню. Купала і Беларусь — неразлучныя адзін ад аднаго ў сваёй сутнасці, у разуменні кожнага беларуса. У сваёй паэзіі Янка Купала з усёй глыбінёй выразіў душу беларускага народа, раскрыў шматвяковую гісторыю свайго краю. І ў гэтым — неўміручасць вялікага паэта *(Паводле А. Кулакоўскага).*

**223.** Выпішыце словазлучэнні «прым. + наз.», дапішыце канчаткі і пазначце лік і склон прыметнікаў паводле ўзору.

У з о р: *у маладым сасняку* (у я к і м? — *адз. л., М. скл.*).

На захадзе Беларусі раскінулася Белавежск.. пушча — бадай што адзіны ў Еўропе некрануты лясн.. масіў. Мяркуюць, назву сваю пушча атрымала праз абаронч.. вежу (Бел.. вежу) у Камянцы. Пушча вядом.. ўсяму свету дзякуючы самаму буйн.. і рэдк.. прадстаўніку еўрапейск.. фаўны — зубру. Мног.. паэты апявалі яго ў сваіх творах, але першы сярод іх — знакаміт.. беларуск.. паэт-гуманіст Мікола Гусоўскі. «Песня пра зубра», напісаная ў 20-ыя гады XVI стагоддзя, — гімн прыгажосці сваёй зямлі, а зубр у паэме — алегарычн.. вобраз родн.. краю, сімвал яго магутнасці *(Паводле А. Гурыновіча).*

● Растлумачце напісанне слоў з вялікай літары.



**224.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку. Спішыце, дапісваючы канчаткі прыметнікаў.

Вельмі важна, каб чалавек, дзе б ён ні жыў, усё жыццё помніў шырок.. разлогі мурожн.. сенакосаў, усплеск бабра ля лазы, вячэрн.. паляванне шчупакоў і язёў на плёсах, шчэбет ластавак, пералівы жаваранка ў паднябессі, сустрэчу з палахлів.. зайцам і ганарыст.. ласём, цяніст.. вербы на беразе рэчак і азёр, водар лясн.. бароў, таямнічасць стар.. млына над сажалкаю і духмянасць жытн.. хлеба, бо з гэтага пачынаецца наша Радзіма, Бацькаўшчына *(Я. Крамко)*.

## § 36. Утварэнне, скланенне і правапіс прыналежных прыметнікаў

**225.** Прачытайце і вызначце асноўную думку верша Я. Крупенькі «Наша родная мова». Назавіце прыметнікі і іх разрад.

Сонца ў лісцях бяроз, на мурожнай у росах траве,
Жаўруковаю песняй злятае на колас жытнёвы,
А ў матуліным сэрцы найвялікшае сонца жыве,
Найвялікшае сонца — мая беларуская мова.
Слова маці! Цябе перадам я сынам.
Ты — мой скарб дарагі, найсвятлейшая спадчына.
За цябе, калі трэба, жыццё я аддам,
Толькі песня не моўкнула б матчына.

● Выпішыце прыналежныя прыметнікі разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца, і пазначце ў дужках іх род, лік і склон. Графічна пакажыце іх утварэнне.

● Чаму прыналежныя прыметнікі ўтвараюцца ад адушаўлёных назоўнікаў?

Прыналежныя прыметнікі ўтвараюцца:

1) ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду — пры дапамозе суфіксаў ***-аў, -еў, -оў, -ёў***: *брат* → *брат**аў***, *мядзведзь* → *мядзведз**еў***, *рыбак* → *рыбак**оў***, *Міхась* → *Міхас**ёў***;

2) ад асноў назоўнікаў жаночага роду — пры дапамозе суфіксаў ***-ін, -ын***: *бабуля → бабул**ін**, русалка → русалч**ын**, краўчыха → краўчыш**ын**.*

Пры ўтварэнні прыметнікаў ад назоўнікаў жаночага роду з асновай на [к], [х] адбываецца чаргаванне гукаў [к]//[ч], [х]//[ш].

Прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад уласных імён, пішуцца з вялікай літары: *Дзімка → Дзімкаў буквар, Аленка → Аленчына кніга.*

**226.** Замяніце словазлучэнні тыпу «наз. + наз.» сінанімічнымі словазлучэннямі «прым. + наз.». Запішыце і пазначце суфіксы прыметнікаў.

У з о р: *наказ бацькі — бацькаў наказ.*

Гняздо бусла, дом суседа, загад старшыні, звон камара, канькі Міхася, ласка бабулі, дзённік Марынкі, мяч Анатоля, сэрца матулі.

● Растлумачце ўтварэнне прыметнікаў.

**227.** Прачытайце табліцу канчаткаў прыналежных прыметнікаў.

| Склон | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | мужчынскі род | ніякі род | жаночы род | для ўсіх родаў |
| Н. | □ | ***-а*** | ***-а*** | ***-ы*** |
| Р. | ***-ага*** | ***-ага*** | ***-ай*** | ***-ых*** |
| Д. | ***-аму*** | ***-аму*** | ***-ай*** | ***-ым*** |
| В. | як Н. або Р. | як Н. | ***-у*** | як Н. або Р. |
| Т. | ***-ым*** | ***-ым*** | ***-ай*** | ***-ымі*** |
| М. | ***-ым*** | ***-ым*** | ***-ай*** | ***-ых*** |

● Карыстаючыся табліцай, праскланяйце вусна наступныя прыметнікі разам з назоўнікамі.

Братаў сябар, маміна ўсмешка, буслава гняздо.

У назоўным склоне адзіночнага і множнага ліку прыналежныя прыметнікі маюць кароткую форму, г. зн. у мужчынскім родзе адзіночнага ліку — нулявы канчатак, у жаночым і ніякім родзе — канчатак ***-а***; у множным ліку — канчатак ***-ы***: *бацькаў*☐ *звычай, бацькав****а*** *надзея, бацькав****а*** *хваляванне, бацькав****ы*** *звычаі, надзеі, хваляванні.*

У вінавальным склоне адзіночнага ліку прыналежныя прыметнікі мужчынскага роду пры адушаўлёных назоўніках маюць поўную форму *(бабулін****ага*** *ўнука)*, прыметнікі жаночага і ніякага роду — кароткую форму: *(бабулін****у*** *ўнучку, бабулін****а*** *цяля)*.

Ва ўсіх астатніх склонах адзіночнага і множнага ліку прыналежныя прыметнікі маюць такія ж канчаткі, як і поўныя якасныя і адносныя прыметнікі з цвёрдай асновай.

Прыметнікі тыпу *чалавечы, заячы, птушыны, салаўіны, гусіны,* якія абазначаюць групавую прыналежнасць, ва ўсіх склонах маюць поўную форму: *гусіны пух, птушыны спеў* і г. д.

**228.** Спішыце і, раскрываючы дужкі, утварыце прыметнікі і дапасуйце іх да адпаведных назоўнікаў. Канчаткі прыметнікаў выдзеліце.

1. Маленства сцежак не забыць ніяк, мне *(мама)* спеў і сёння сон люляе *(У. Папковіч)*. 2. У *(Марцін)* словах прагучала любасць да свайго роднага краю, замілаванне да яго *(П. Кавалёў)*. 3. Апошні ўрок у *(Ганька)* класе — маляванне *(А. Васілевіч)*. 4. Сон зморвае Стасіка, але ён не спіць: помніць *(бацька)* чароўнае слова «трэба» *(М. Даніленка)*. 5. Ігара *(дзядзька)* словы ўзрушылі *(У. Шахавец)*. 6. Ад адной *(вавёрка)* сталовай да другой па свежым снезе заўсёды цягнуцца сляды *(«Родная прырода»)*.



**229.** Спішыце. Падкрэсліце прыналежныя прыметнікі як члены сказа, пазначце іх род, лік і склон.

1. Пранізлівы вецер сарваў апошнія лісткі з грушы, што расла насупраць Міхасёвага дома *(М. Даніленка)*. 2. О, гэтыя матчыны казкі! Колькі яна магла іх прыдумаць і расказаць *(В. Хомчанка)*. 3. Хлопцы з гасцінцамі падняліся да дзедавай сядзібы *(А. Давыдаў)*. 4. Раз-пораз матчын голас перапыняўся другім, больш стрыманым і цішэйшым *(П. Саковіч)* 5. Пакуль ішлі да верталёта, начальнік экспедыцыі гаварыў Ігараваму бацьку, што ім трэба будзе зрабіць у бліжэйшыя дні *(У. Шахавец)*.

## § 37. Асноўныя спосабы ўтварэння прыметнікаў

**230.** Разгледзьце графічныя запісы і скажыце, якімі спосабамі ўтвараюцца прыметнікі.

асінавы ← асіна

звышгукавы ← гукавы

безбілетны ← без білета

вечназялёны ← вечна зялёны

Каб вызначыць, як утворана слова, разважаем наступным чынам:

*асінавы* — ‘гэта такі, які мае адносіны да *асіны*’. Значыць, слова *асінавы* ўтворана ад слова *асіна*: з яго ўзята аснова *асін-* і да яе далучаны суфікс ***-ав-***. Такім чынам, прыметнік *асінавы* ўтвораны суфіксальным спосабам.

*Прышкольны* — ‘гэта такі, які знаходзіцца *пры школе*, каля школы’. Значыць, слова *прышкольны* ўтворана ад слоў *пры школе*: да асновы *-школ-* з аднаго боку далучылася слова ***пры*** і стала прыстаўкай, а з другога — суфікс ***-н-***. Такім чынам, прыметнік *прышкольны* ўтвораны прыставачна-суфіксальным спосабам.

**231.** Прачытайце тэкст. Выпішыце выдзеленыя прыметнікі і вызначце спосаб іх утварэння.

**Жыццёвыя** шляхі людзей — тыя ж **зямныя** дарогі. **Бясконцыя** бальшакі перасякаюцца карацейшымі дарогамі, палявымі, ляснымі, а то проста сцяжынкамі на адзін след. І вельмі часта сустрэчы пасля доўгіх разлук адбываюцца іменна на гэтых **вузенькіх** сцяжынках, што бягуць праз шырокія палеткі каласістых ніў, зялёных лугоў, **лясістых** узгоркаў *(В. Далідовіч)*.

## Марфалагічны разбор прыметніка

### П а р а д а к р а з б о р у

1. Часціна мовы. Агульнае значэнне.
2. Пачатковая форма (Н. скл., м. р., адз. л.).
3. Марфалагічныя прыметы: разрад па значэнні (якасны, адносны ці прыналежны; калі якасны — поўная ці кароткая форма, ступень параўнання), род, лік, склон.
4. Сінтаксічная роля.

### У з о р р а з б о р у

*Я ведаў, што чмяліны мёд смачнейшы за пчаліны.*

#### *Вусны разбор*

*Смачнейшы* (мёд) — прыметнік; пачатковая форма *смачны*; якасны, ужыты ў поўнай форме, вышэйшай ступені параўнання; мужчынскім родзе, адзіночным ліку, назоўным склоне. У сказе з’яўляецца выказнікам.

#### *Пісьмовы разбор*

*Смачнейшы* (мёд) — прыметнік; *смачны*; якасны, поўн. ф., вышэйш. ст.; м. р., адз. л., Н. скл.; выказнік.

● Вусна разбярыце паводле ўзору прыметнік *чмяліны*.

**232.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Спішыце. Падкрэсліце вытворныя прыметнікі і вызначце спосаб іх утварэння. Вусна разбярыце выдзеленыя прыметнікі.

Зямля мая **далёкая,**
Зямля мая цудоўная,
Радзіма сінявокая,
Каму красой ты роўная?
Мо ёсць і **прыгажэйшыя,**
Каму што ў свеце глянецца,
Мая ж найдаражэйшаю
Да смерці мне астанецца.

*К. Буйло*

**233.** Словазлучэнні тыпу «наз. + наз.» замяніце сінанімічнымі словазлучэннямі тыпу «прым. + наз.» і запішыце. Пакажыце спосаб утварэння прыметнікаў.

У з о р: *вада з крыніцы → крынічная вада.*

Рукі матулі, краіны за морам, хата Цімоха, сок з бярозы, шышкі сасны, кніга Андрэйкі, клён пры дарозе.



**234.** Спішыце, дапасоўваючы прыметнікі да назоўнікаў.

Услухайцеся ў *(звонкі)*, бы *(чысты крыштальны крынічны)* вадзіца, *(народны)* слова. І вы пачуеце ў ім гоман бароў, шум палеткаў, посвіст ветру, звон ручаёў, і *(душэўны самотны)* мелодыю *(просты сялянскі)* песні, і *(мудры)* казку *(ласкавы)* матулі, і *(баявы)* кліч *(мужны)* воіна, і *(горкі)* плач *(адзінокі)* жанчыны... Усё гэта жыве, звініць і адгукаецца ў *(родны)* слове.

Гэта наша памяць, вытокі *(нацыянальны)* свядомасці, самабытнасці і непаўторнасці. Захаваць, зберагчы і развіваць *(разнастайны)* формы *(традыцыйны народны)* культуры — абавязак кожнага *(сумленны)* чалавека *(Д. Лін, А. Станкевіч)*.

## § 38. Прыметнікі з суфіксамі ацэнкі

**235.** Прачытайце і назавіце аднакаранёвыя прыметнікі. Якія з іх невытворныя, а якія вытворныя? Растлумачце розніцу ў іх значэнні і скажыце, якімі суфіксамі гэта выражаецца.

Сінія вочы — сіненькія вочкі;
свежы хлеб — свежанькі хлеб;
стары дзед — старэнькі дзядок;
высокія горы — высозныя горы;
высокі дом — высачэзны дом;
высокія сцэны — высачэнныя сцэны.

● Якія суфіксы прыметнікаў выражаюць памяншальна-ласкальную ацэнку прадметаў, а якія — павелічальную?

Суфіксы ***-еньк-, -эньк-, -аньк-, -ават-*** надаюць прыметнікам адценне памяншальнасці (меншай меры якасці) або ласкальнасці: *цёплы — цепл**ават**ы, цёпл**еньк**і; шэры — шэр**ават**ы, шэр**аньк**і, дарагі — дараж**эньк**і.*

Суфіксы ***-еньк-, -аньк-, -эньк-*** заўсёды пішуцца з мяккім знакам.

Суфіксы ***-ізн-, -озн-, -эзн-, -енн-, -энн-*** надаюць прыметнікам адценне павелічальнасці: *вялікі — вял**ізн**ы, высокі — выс**озн**ы, вялікі — веліч**эзн**ы, здаровы — здарав**енн**ы, шырокі — шырач**энн**ы.*

Прыметнікі з суфіксамі ацэнкі часцей за ўсё выкарыстоўваюцца ў мастацкім і гутарковым стылях і з'яўляюцца яркім вобразным сродкам характарыстыкі прадметаў і з'яў.

**236.** Спішыце і падкрэсліце прыметнікі з суфіксамі ацэнкі. Назавіце гэтыя суфіксы і вызначце, якое адценне яны надаюць значэнню прыметнікаў.

1. Сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю абдаравала зямельку вясна[сн] *(Я. Купала)*. 2. На тым баку лесу, што

выходзіў на ўсход, цягнуўся шырачэзны пас дубоў *(Я. Колас)*. 3. З новенькім партфелем, свежанькім букетам выйшла яна з дому, чысценька адзета *(П. Пранузa)*. 4. Страшны замак, цяжкі, грозны, пара вежаў, як адна, а навокал роў глыбозны, і не згледзіш яго дна *(Я. Колас)*. 5. Было тры браты ў старэнькай савы — у вельмі разумнай сівой галавы *(А. Дзеружынскі)*.

**237.** Пры дапамозе суфіксаў *-**еньк**-, -**эньк**-, -**аньк**-* утварыце аднакаранёвыя прыметнікі ад наступных слоў.

Востры, дарагі, жоўты, прыгожы, тонкі, чысты.

● З дзвюма парамі аднакаранёвых прыметнікаў прыдумайце і запішыце сказы. Да якіх назоўнікаў, з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі ці без іх, вы далучылі прыметнікі? Растлумачце свой выбар.

**238.** Выпішыце прыметнікі з суфіксамі ацэнкі разам з назоўнікамі, з якімі яны звязаны па сэнсе. Абазначце суфіксы прыметнікаў.

1. У майго Рыгоркі быў чубок-лянок, сіненькія вочкі, усмешлівы раток *(Г. Каржанеўская)*. 2. На дрэве покаўка таўшчала, у сабе лісточак далікатны, пахучы, свежанькі, прыўдатны на добрым сонцы гадавала *(Я. Колас)*. 3. Дзед Нупрэй — старэнькі чалавек, але ён дапаможа, параіць, як даглядаць сад. 4. Ёсць зямля на планеце, невялікая, непрыкметная, не адзначаная ні пікамі высозных гор, ні каскадамі магутных[м] вадаспадаў *(М. Гамолка)*. 5. Я падымаю галаву, гляджу туды, дзе зелянеюць тры высачэзныя таполі *(Б. Сачанка)*. 6. Шчабечуць у кустах шэранькія верабейчыкі *(Я. Колас)*.



**239.** Спішыце, выкарыстоўваючы замест змешчаных у дужках прыметнікаў аднакаранёвыя з суфіксамі ацэнкі *-**еньк**-, -**ютк**-, -**ават**-, -**эзн**-, -**юсеньк**-, -**ізн**-*.

1. Ён ніколі не забудзе пары *(ясных)* вачэй, тварык ветлы і на губках такі светлы, такі *(дробны)* смяшок. 2. Дымок *(белы)* ужо павіваецца над хатай. 3. Над ракою куп-

частыя вербы працягнулі *(доўгія)* рукі, нібы хочуць зачэрпнуць вады. 4. А знізу гэты лес кашлаты меў *(зялёныя)* шаты. 5. Пасярэдзіне вострава расце некалькі *(вялікі)* старых ліп. 6. І ў кожным дрэве і былінцы, і ў *(малой)* раслінцы блукае радасць спадзявання. 7. Пад асінай — зайчанятка, бы *(пухнаты*)* клубок *(А. Дзеружынскі)*.

## § 39. Прыметнікі з суфіксам *-ск-*, іх правапіс

**240.** Прааналізуйце прыведзеныя ніжэй прыклады. Звярніце ўвагу на ўтварэнне і вымаўленне прыметнікаў.

1) Брат + *ск(і)*: бра*(т+с)*кі → *брацкі* [брацк′і];

Астравец + *ск(і)*: астраве*(ц+с)*кі → *астравецкі* [астра-в′эцк′і];

ткач + *ск(і)*: тка*(ч+с)*кі → *ткацкі* [ткацк′і];

мастак + *ск(і)*: маста*(к+с)*кі → *мастацкі* [мастацк′і].

2) Беларус + *ск(і)*: белару*(с+с)*кі → *беларускі* [б′эла-руск′і];

таварыш + *ск(і)*: тавары*(ш+с)*кі → *таварыскі* [тава-рыск′і].

3) Сусед + *ск(і)*: сусе*(д+с)*кі → *суседскі* [сус′эцк′і];

Ліда + *ск(і)*: лі*(д+с)*кі → *лідскі* [л′іцк′і].

4) Каўказ + *ск(і)*: каўка*(з+с)*кі → *каўказскі* [каў-каск′і];

Белавежа + *ск(і)*: белаве*(ж+с)*кі → *белавежскі* [б′эла-в′эск′і];

Добруш + *ск(і)*: добру*(ш+с)*кі → *добрушскі* [добруск′і];

Таганрог + *ск(і)*: таганро*(г+с)*кі → *таганрогскі* [таган-рохск′і];

узбек + *ск(і)*: узбе*(к+с)*кі → *узбекскі* [уз′б′экск′і];

казах + *ск(і)*: каза*(х+с)*кі → *казахскі* [казахск′і].

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

Што адбываецца ў спалучэннях апошняга зычнага асновы назоўніка і суфіксальнага [с] пры ўтварэнні прыметнікаў з дапамогай суфікса ***-ск-***:

а) калі аснова назоўніка канчаецца на [т], [ч], [ц], [к];

б) калі аснова назоўніка канчаецца на [с], [ш];

в) калі аснова назоўніка канчаецца на [д];

г) калі асновы назоўнікаў, якія абазначаюць геаграфічныя назвы, назвы нацыянальнасцей ці народнасцей, канчаюцца на [з], [ж], [ш], [г], [к], [х]?

Пры дапамозе суфікса -***ск***- ад асноў назоўнікаў утвараюцца адносныя прыметнікі. Пры гэтым канцавыя зычныя асновы назоўніка:

- гукі [т], [ц], [ч], [к] у спалучэнні з суфіксальным [с] даюць гук [ц], які выразна вымаўляецца і на пісьме перадаецца літарай ***ц***;
- гукі [с], [ш] у спалучэнні з суфіксальным [с] зліваюцца ў адзін гук [с], які выразна вымаўляецца і перадаецца на пісьме адной літарай ***с***;
- [д] у спалучэнні з суфіксальным [с] дае гук [ц], але на пісьме літары ***дс*** захоўваюцца;
- гукі [з], [ж], [ш], [г], [к], [х] назоўнікаў, якія абазначаюць геаграфічныя назвы, назвы нацыянальнасцей ці народнасцей, у спалучэнні з суфіксальным [с] вымаўляюцца па-рознаму, аднак на пісьме захоўваюцца літары ***зс, жс, шс, гс, кс, хс*** (але: *Волга — вол**ж**скі, Рыга — ры**ж**скі*).

У прыметніках, утвораных ад назоўніка *восень* і назваў месяцаў на -***нь,*** перад суфіксам -***ск***- пішацца мяккі знак: *восен**ь**скі, чэрвен**ь**скі*; у тым ліку і ў назве раёна — *Чэрвен**ь**скі раён.* У іншых прыметніках мяккі знак не пішацца: *конь — конскі, Любань — любанскі, Смаргонь — смаргонскі, Казань — казанскі.*

**241.** Прачытайце і вызначце разрад выдзеленых прыметнікаў. Скажыце, як яны ўтвораны і растлумачце правапіс.

У невялікім скверыку горада Маладзечна ёсць памятны знак. Ён — вынік настойлівага **следапыцкага** пошуку чле-

наў гуртка «Разведчыкі баявой славы». На мармуры чытаем: «Гэты памятны знак устаноўлены ў гонар **галандскага** камуніста, адважнага **беларускага**[м] партызана Рымальда дэ Юнга, які ў **ліпеньскія** дні 1942 года пачаў свой мужны шлях барацьбы з **нямецка-фашысцкімі** акупантамі і загінуў у баі 10 чэрвеня 1944 года» *(«Раніца»)*.

**242.** Пры дапамозе суфікса -*ск*- утварыце прыметнікі і запішыце іх паводле ўзору. У квадратных дужках адлюструйце вымаўленне прыметнікаў.

У з о р: *інстытут + ск(і) → інстытуцкі* [інстытуцк′і].

Баранавічы, гігант, Жалудок, купец, латыш, жнівень, рыбак, таджык, тунгус, турыст, француз, Хатынь, Чыкага.

**243.** Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары. Растлумачце іх выбар. Якія прыметнікі пішуцца так, як вымаўляюцца?

1. Над кожнаю магілай бра*(тс/ц)*кай мы кветкі памяці кладзём *(П. Панчанка)*. 2. Надзеі лю*(дс/ц)*кія і дружбу народаў уславіў пясняр Беларусі — Купала *(А. Ставер)*. 3. Зманлівай скупой радасцю праглядвала восен*(ьс/с)*кае сонца *(В. Быкаў)*. 4. Два гады рыхтаваўся Кастусь да паступлення ў Нясві*(жс/с)*кую настаўні*(кс/ц)*кую семінарыю *(С. Александровіч)*. 5. Нашы продкі рыбакамі слылі, а хутары так і зваліся — Рыба*(кс/ц)*кія *(Я. Пархута)*.



**244.** Спішыце. Пры спісванні пры дапамозе суфікса -*ск*- утварыце ад назоўнікаў, што ў дужках, прыметнікі і дапасуйце іх да адпаведных назоўнікаў.

1. Пра славу былую шуміць *(Белавежа)* пушча, на братніх магілах чырвоныя кветкі гараць *(А. Звонак)*. 2. Ігнат Буйніцкі быў чалавекам простым і *(таварыш)* *(ЛіМ)*. 3. Зярняты праўды, пасеяныя ў *(людзі)* душах, прараствалі, давалі ўраджай *(Б. Сачанка)*. 4. На *(студэнт)* практыку я трапіў у невялікае *(Палессе)* сяло *(В. Хомчанка)*. 5. Пла-

каты былі напісаны на трох мовах — на *(беларус)*, *(літовец)* і *(латыш)* *(П. Броўка)*. 6. Адшумелі свой час неспакойныя *(восень)* дажджы *(Я. Колас)*.

## § 40. Правапіс *-н-* і *-нн-* у прыметніках

**245.** Вызначце, як утвораны наступныя прыметнікі і чаму яны пішуцца з дзвюма ***н (нн)***.

1) Акно + *н(ы)* → ако**нны**.
2) Імя + *янн(ы)* → імя**нны**;
   семя + *янн(ы)* → семя**нны**.
3) Абед + *енн(ы)* → абедзе**нны**;
   высокі + *энн(ы)* → высачэ**нны**.

З дзвюма літарамі ***н (нн)*** пішуцца прыметнікі:

1) утвораныя пры дапамозе суфікса ***-н-*** ад назоўнікаў, аснова якіх канчаецца на ***н***: *восень — асе**нн**і, камень — каме**нн**ы*;

2) утвораныя ад назоўнікаў на ***-мя***: *імя — імя**нн**ы, племя — племя**нн**ы*; але: *палымя**н**ы*;

3) утвораныя пры дапамозе суфіксаў ***-енн-, -энн-***: *задума — задуме**нн**ы, страх — страшэ**нн**ы.*

У іншых прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў ***-н-, -ін- (-ын-), -ан- (-ян-),*** пішацца адна літара ***н***: *лета — лет**н**і, пчала — пчал**ін**ы, качка — кач**ын**ы, скура — скур**ан**ы, палатно — палатн**ян**ы.*

**246.** Запішыце наступныя пары слоў і пазначце ў прыметніках утваральную аснову і словаўтваральны суфікс.

У з о р: *ліса — ліс|іны.*

Вецер — ветраны, вясна — вясенні, журавель — жураўліны, журавіны — журавінны, качка — качыны, лёд — ледзяны, салома — саламяны, цаліна — цалінны, дзень — дзённы.

● Параўнайце назоўнік і прыметнік кожнай пары і вызначце выпадкі выпадзення і чаргавання гукаў.

**247.** Спішыце. Вызначце, ад якіх слоў і пры дапамозе якіх суфіксаў утвораны выдзеленыя прыметнікі. Растлумачце напісанне ***н*** ці ***нн*** у прыметніках.

1. Зноў журавель у пояс пакланіўся, ваду **драўляным** зачарпнуў вядром *(А. Лойка)*. 2. Поле **туманнае** цёплай расой акрапіла свой твар *(А. Александровіч)*. 3. У ціхую пагоду зімовы лес маўклівы, **задуменны** і таямнічы *(М. Машара)*. 4. На зялёнай **азёрнай** вадзе ліст каліны, нібы выразанка *(Р. Баравікова)*. 5. Званілі конікі, у **ядраных** лісцях малачаю блішчэла жывое срэбра расы *(Б. Сачанка)*. 6. На варотах вісеў **здаравенны**, кавальскай работы, замок *(К. Крапіва)*.

**248.** Прачытайце і вызначце тып тэксту. Ахарактарызуйце выдзеленыя словазлучэнні. Спішыце, замяняючы залежнае слова з прыназоўнікам прыметнікам, утвораным ад назоўніка. Пазначце суфіксы.

Высокі **дом з цэглы** трыма шырокімі вокнамі цікаваў на вуліцу праз зеляніну, што буйна разраслася ў гародчыку. Двор ад вуліцы хаваўся за высокай шчыльнай **агароджай са штыкетаў***. Паміж тоўстых дубовых шулякоў віселі цяжкія **вароты з жалеза**, а над імі — **падстрэшак з бляхі**, пафарбаваны ў чырвоны колер. Усё тут было зроблена трывала, на доўгія гады *(Паводле Л. Гаўрылкіна)*.



**249.** Спішыце, выбіраючы адпаведнае напісанне суфіксаў. Растлумачце свой выбар.

1. А нашы ганчары ўмелі рабіць і міскі, і збаны. Пад матчы*(нн/н)*ай рукой звінелі штодня гліня*(нн/н)*ыя збаны *(П. Панчанка)*. 2. На белых і роўных сценах віселі рамкі, аздобленыя чыстымі палатня*(нн/н)*ымі ручнікамі *(Б. Сачанка)*. 3. Прыветлівы зялёны домік не дужа прыкметны ў суседстве з двухпавярховай каме*(нн/н)*ай будынінай. 4. Здавалася, назаўсёды адышлі ў мінулае вогне*(нн/н)*ыя партызанскія ночы *(М. Паслядовіч)*. 5. На мі*(нн/н)*ых палях і ў мроях галод*(нн/н)*ых людзі гублялі родных *(Г. Каржанеўская)*.

## § 41. Утварэнне і правапіс складаных прыметнікаў

**250.** Разгледзьце графічныя запісы і скажыце, якім спосабам утвораны складаныя прыметнікі.

Кіслы, салодкі — кісл(ы) + а + салодк(і) → кісла-салодкі;

паліваць вадой — вод + а + паліў + н(ы) → водапаліўны;

вечна зялёны — вечна + зялёны → вечназялёны.

Складаныя прыметнікі ўтвараюцца спосабам асноваскладання *(беларуска-літоўскі)*, асноваскладання і суфіксацыі *(правабярэжны)*, словаскладання *(малапрыкметны)*.

**251.** Разгледзьце схему.



## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Што неабходна найперш высветліць, каб вызначыць, разам ці праз злучок пісаць складаны прыметнік?

2. Якія складаныя прыметнікі пішуцца разам? праз злучок?

Складаныя прыметнікі пішуцца разам і праз злучок.

Разам пішуцца:

1) прыметнікі, утвораныя ад словазлучэнняў, у якіх вызначаецца галоўнае і залежнае словы: *сельскагаспадарчы* (сельская гаспадарка), *шматзначны* (шмат значыць), *саракатонны* (сорак тон);

2) прыметнікі, утвораныя ад уласных геаграфічных назваў, якія па форме з'яўляюцца словазлучэннямі прыметніка і назоўніка: *заходнесібірскі* (Заходняя Сібір), *паўднёваафрыканскі* (Паўднёвая Афрыка).

Праз злучок пішуцца:

1) прыметнікі, утвораныя ад двух і больш раўназначных, незалежных адно ад другога слоў: *беларуска-руска-лацінскі слоўнік* (беларускі, рускі, лацінскі), *Днепра-Бугскі канал* (Днепр, Буг), *светла-блакітны* (светлы, блакітны);

2) прыметнікі з першай часткай *усходне, заходне, паўночна, паўднёва, цэнтральна* са значэннем уласных геаграфічных назваў: *Заходне-Сібірская нізіна, Цэнтральна-Азіяцкі рэгіён*;

3) прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: *камянец-падольскі* (Камянец-Падольск);

4) прыметнікі, часткі якіх абазначаюць напрамкі свету: *паўночна-заходні вецер.*

**252.** Утварыце складаныя прыметнікі і запішыце. Растлумачце іх напісанне.

Беларускі і ўкраінскі, блакітныя вочы, Буда-Кашалёва, высокая адукацыя, здольны да працы, паўночны і ўсходні, цяжка даступіцца, чорныя бровы, устойлівы да вады, шмат паверхаў, яркі і жоўты, Заходняя Беларусь.

**253.** Спішыце і растлумачце ўтварэнне і правапіс складаных прыметнікаў.

1. Насоўвалася бяда. З аднаго боку крыжакі, з другога — татара-мангольская навала. Ад татар паўночна-заходнім беларускім княствам удалося адбіцца *(У. Караткевіч)*. 2. Увесь вялізны прасторны сонечны схіл ззяў шырокім, як возера, ярка-пунсовым разлівам альпійскага маку *(В. Быкаў)*. 3. Ніхто са мной і гора так не дзеліць, як зоры ў векавечнай вышыні, лугі пад беласнежнаю пасцеляй, дарогі ў задуменні жытніх ніў *(А. Лойка)*. 4. Цэлай зграяй віліся даўгахвостыя дразды, спускаліся на рабіну, дзяўблі, глытаючы цалкам чырвона-гарачыя ягады *(В. Адамчык)*.

**254.** Прачытайце і ўтварыце ад слоў, што ў дужках, складаныя прыметнікі. Спішыце, дапасоўваючы прыметнікі да назоўнікаў. Растлумачце правапіс прыметнікаў.

1. Тэрыторыя Беларусі, размешчаная на захадзе *(Усходняя Еўропа)* раўніны, знаходзіцца ў самым цэнтры Еўропы *(М. Ермаловіч)*. 2. Гучаць беларускія мелодыі ў аркестры: ціхія, задуменныя, *(працяглы, пявучы)* і лірычныя *(Ц. Сяргейчык)*. 3. Полацкая зямля XI — пачатку XII ст. — гэта магутнае і трывалае дзяржаўнае ўтварэнне на тэрыторыі цэнтральнай і *(поўнач, усход)* Беларусі *(С. Тарасаў)*. 4. Здалося яму, цэлую вечнасць не бачыў ён гэтых *(ціхотная радасць)* вачэй, *(далікатная смуглявасць)* твару *(В. Быкаў)*.



**255.** Спішыце сказы. Складаныя прыметнікі напішыце разам ці праз злучок.

Ціхая, светла*(?)*плынная ў летнюю пару Дзвіна. Паўночны бераг яе высокі, абрывісты, ажно глянуць уніз страшна, паўднёвы — больш пакаты, зялёна*(?)*аксамітны, і на ім, крышку воддаль ад ракі, — бела*(?)*сценныя гмахі будынкаў. З супраць*(?)*леглага берага яны здаюцца нейкім суцэльным нагрувашчваннем.

Дзядзька Андрэй з сям'ёй — жонкай і пяці*(?)*гадовай дачкой Арынкай — жыў у двух*(?)*пакаёвай кватэры на трэцім паверсе. З акна аднаго пакоя адкрывалася Дзвіна ў маляўнічых берагах, з другога — вуліца з шырока*(?)*-аконнымі будынкамі *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

## § 42. Правапіс *не (ня)* з прыметнікамі

**256.** Прачытайце сказы і скажыце, як пішацца ***не (ня)*** з прыметнікамі.

1. Другі нелюдзімым і чэрствым здаецца, і раптам глядзіш — чалавек усміхнецца, і ўжо ён прыгожы *(Н. Гілевіч)*. 2. Раніца, сапраўды, была выдатная, але не яркая, а мяккая, ціхая, пяшчотная *(А. Асіпенка)*. 3. Вецер ходзіць ля акна, бы сабраўся ў край няблізкі *(У. Марук)*. 4. Вёска была па тым часе зусім не вялікая *(І. Чыгрынаў)*.

**257.** Разгледзьце схему.




### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Як можа пісацца ***не (ня)*** з прыметнікамі?
2. Што неабходна высветліць, каб ***не (ня)*** з прыметнікамі напісаць разам ці асобна? Прыклады прывядзіце з практ. 256.

**258.** Спішыце і растлумачце напісанне ***не (ня)*** з прыметнікамі.

1. Не лясны мой куток, не азёрны, ні дубоў векавых, ні бяроз, толькі ветру разгон тут прасторны, ды травою хмяліць сенакос *(Я. Мальчэўская)*. 2. Вёска была невялікая, двароў на дваццаць *(В. Хомчанка)*. 3. Хачу паспрачацца, сонейка, з табою я нястомнай працай і сваёй красою *(А. Вольскі)*. 4. Шчыры, непасрэдны Яраслаў адразу стаў любімцам узвода *(В. Хомчанка)*. 5. Ні сцюжа не палохала, ні спёка ад нялёгкае хады *(С. Грахоўскі)*. 6. Адзін дасужы, ды не дужы *(Прымаўка)*. 7. Верабей — птушка зусім не шкодная, як думаюць некаторыя *(В. Вольскі)*.

**259.** Спішыце, замяняючы выдзеленыя прыметнікі сінонімамі з ***не (ня)***. Ці ва ўсіх выпадках падыходзіць такая замена?

Вось падуў сівер, і папаўзлі па небе снегавыя хмары, сівыя, **лёгкія**, як дым. Лес шуміць, нудна шуміць **стары** лес. З краю лесу стаіць адзінокая хата палясоўшчыка. **Маленькае** акенца хаткі смутным значком пазірае ў поле, у **цёмную** ноч. А вецер свішча і свішча **нудныя** песні ў коміне на ўсе галасы *(Я. Колас)*.



**260.** Спішыце, раскрываючы дужкі і выбіраючы адпаведнае напісанне ***не*** ці ***ня*** з прыметнікамі.

1. Вечна сонцу купацца ў лясных беларускіх крыніцах, і *(не, ня)* урымслівай песні ў вечным паходзе звінець! *(Н. Гілевіч)*. 2. Дзьмуў *(не, ня)* моцны, але вельмі пранізлівы вецер *(А. Асіпенка)*. 3. На блакітным небе не відаць ніводнай хмурынкі, і ад гэтага неба здавалася *(не, ня)* абсяжным, бяскрайнім *(У. Краўчанка)*. 4. Цякла тут з лесу *(не, ня)* вялічка травой заросшая крынічка *(Я. Колас)*. 5. Тая *(не, ня)* забыўная вясна прайшла, праляцела як адзін шчаслівы, радасны дзень *(Б. Сачанка)*. 6. У атрадзе ён быў *(не, ня)* чужы і *(не, ня)* лішні, *(не, ня)* бяспечных спраў не цураўся, ні за чые плечы не хаваўся *(М. Лужанін)*. 7. Зноў *(не, ня)* стройная таполя — нізка долу гнецца голле *(П. Прануза)*.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Вызначце сярод прыведзеных слоў прыметнікі і запішыце іх.

В а р ы я н т 1. Радаваць, радасны, радасць, разумны, розум, азёрны, блакітны, гарачыня, бацькаў, гарачы.

В а р ы я н т 2. Ашчаслівіць, шчасце, шчаслівы, паход, паходны, бабулін, асенні, птушыны, дзядуля, птушаня.

2. Які разрад прыметнікаў абазначае прыметы прадметаў паводле:

В а р ы я н т 1. Колеру, формы, смаку і інш.?

В а р ы я н т 2. Матэрыялу, месца, часу і інш.?

3. Сярод прыведзеных слоў вызначце і выпішыце: якасныя прыметнікі (в а р ы я н т 1); адносныя прыметнікі (в а р ы я н т 2).

Бусліны, высокі, вясковы, добры, дужы, жывы, жытні, знакаміты, лясны, малады, асінавы, заячы, зімовы, лімонны, палявы, поўны, прыгожы, смелы, учарашні, цёплы.

4. Спішыце і ў дужках пазначце род, лік і склон прыметнікаў.

В а р ы я н т 1. З вясёлым настроем, зімовай дарогай, над чыстым полем, трымаю цікавую кнігу, у бязвоблачным небе.

В а р ы я н т 2. Да лепшага сябра, на высокай гары, полем пры добрым надвор'і, са старэйшым братам, у дружным класе.

5. Вызначце, якія прыметнікі дапасуюцца да прыведзеных назоўнікаў, утварыце словазлучэнні і запішыце.

В а р ы я н т 1. *(Злы, злая)* сабака, *(новы, новая)* шынель, *(моцны, моцная)* боль, *(шырокі, шырокая)* стэп.

В а р ы я н т 2. *(Балючы, балючая)* мазоль, *(белы, белая)* гусь, *(высокі, высокая)* насып, *(залаты, залатая)* медаль.

6. Запішыце: формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў (в а р ы я н т 1); найвышэйшай ступені параўнання (в а р ы я н т 2).

Лепшы, больш яркі, найменш зручны, найпрыгажэйшы, самы лепшы, бялейшы, найзелянейшы, найбольш старанны, менш выразны, больш здольны, самы добры, больш цікавы, горшы, мудрэйшы, найбольш плённы, самы шчаслівы, найбольш выразны, найгоршы, менш удалы, ярчэйшы.

7. Утварыце і запішыце ўсе магчымыя формы ступеней параўнання прыметнікаў.

В а р ы я н т 1. Вясёлы, малы, светлы.

В а р ы я н т 2. Вялікі, салодкі, чысты.

8. Дапішыце канчаткі прыметнікаў і назоўнікаў.

В а р ы я н т 1. Бацькав.. надзе.., з вясёлы.. смех.., з-пад жоўт.. лісц.., са стар.. дрэв.., каля садов.. лаўк.., Міхасёв.. хваляванн.., на шырок.. дароз.. .

В а р ы я н т 2. Ад леваг.. бераг.., Аленчын.. каньк.., бабулін.. хустк.., для дзіцяч.. садк.., з-за кніжн.. шаф.., з лепш.. клас.., пад высок.. вярб.. .

9. Утварыце ад назоўнікаў, што ў дужках, прыметнікі і запішыце словазлучэнні.

В а р ы я н т 1. *(Дзімка)* буквар, *(дзядуля)* казкі, *(мама)* характар, *(Міколка)* парады, *(цётка)* згода.

В а р ы я н т 2. *(Алесь)* партфель, *(брат)* касцюм, *(дзед)* паліто, *(Зося)* кніга, *(матуля)* усмешка.

10. Спішыце і ў дужках пазначце спосаб утварэння прыметнікаў.

В а р ы я н т 1. Асенні, безадказны, вечназялёны, дзедаў, замежны.

В а р ы я н т 2. Безбілетны, беларуска-ўкраінскі, птушыны, развясёлы, старшынёў.

11. Вызначце і выпішыце прыметнікі з суфіксамі, якія надаюць ім адценні: памяншальнасці, ласкальнасці (в а р ы я н т 1); павелічальнасці, непахвальнасці (в а р ы я н т 2).

Беленькі, вушасты, вялізны, глыбозны, драбнюткі, малюсенькі, свежанькі, чысценькі, шырачэзны, шэранькі, бялюткі, велізарны, высачэзны, даўжэзны, жоўценькі, здаравенны, зелянюсенькі, зубасты, старэнькі, страшэнны.

12. Утварыце прыметнікі пры дапамозе суфікса *-**ск**-* і запішыце іх.

В а р ы я н т 1. Каўказ, кіргіз, латыш, ліпень, Палессе, сакавік, Слаўгарад, універсітэт, француз, Хатынь.

В а р ы я н т 2. Беларусь, Брэст, восень, Добруш, завод, кравец, рыбак, таварыш, таджык, Ушачы.

**13.** Запішыце прыметнікі разам ці праз злучок.

Варыянт 1. Горка(салёны), заходне(беларускі), народна(гаспадарчы), Паўднёва(Афрыканскі), светла(блакітны), ціха(плынны), шахматна(шашачны).

Варыянт 2. Буда(кашалёўскі), леса(ахоўны), нава(полацкі), паўднёва(заходні), паўднёва(славянскі), права(бярэжны), фізіка(матэматычны).

**14.** Спішыце, устаўляючы ***н*** ці ***нн***.

Варыянт 1. Вогне..ы, палымя..ы, племя..ы, саламя..ы, сярэбра..ы, тума..ы, цагля..ы.

Варыянт 2. Драўля..ы, духмя..ы, каме..ы, лімо..ы, салаўі..ы, стрэмя..ы, штодзё..ы.

**15.** Раскрыйце дужкі і напішыце ***не (ня)*** разам ці асобна.

Варыянт 1. *(Не, ня) далёка*; *(не, ня)* высокі ўраджай; *(не, ня)* пахісны змагар; сонечны, але *(не, ня)* яркі дзень; *(не, ня)* цяжкая сумка.

Варыянт 2. Зусім *(не, ня)* яркі колер; *(не, ня)* абсяжны прастор; *(не, ня)* лёгкая, а складаная задача; *(не, ня)* чуваны поспех; *(не, ня)* сцерпны боль.

# ЛІЧЭБНІК

## § 43. Лічэбнік як часціна мовы

**261.** Прачытайце тэкст. Вызначце тэму і асноўную думку.

Гаворыць дзядзька Грыша з Санькам як з роўным, толькі менш спрактыкаваным чалавекам. І таму Санька задае яму такія пытанні, якія ніколі не задаў бы ні настаўніку, ні нават свайму бацьку. Аднойчы ён спытаў, ці страшна было на вайне, хоць не сумняваўся, што дзядзька Грыша чалавек смелы. У яго ажно **сем** баявых ордэнаў і **пяць** медалёў. А дзядзька Грыша на гэта адказаў: «Нічога не баіцца толькі дурань. Баяцца не сорамна. Сорамна паддацца страху».

І расказаў, як аднойчы ў час бою на іх гармату рынуліся з лесу тры танкі. Ды не **адзін** за **адным**, а разгорнутым строем. А іх усяго двое засталося ў разліку. Вядома, набраліся страху, але не запанікавалі, не сталі хавацца і не кінуліся наўцёкі. **Першы** танк падбілі, **другі** — падбілі, а **трэці** павярнуў і даў драла *(С. Міхальчук)*.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Што абазначаюць выдзеленыя словы?
2. Якія з іх абазначаюць колькасць прадметаў і адказваюць на пытанне к о л ь к і?
3. Якія з выдзеленых слоў абазначаюць парадак прадметаў і адказваюць на пытанне я к і?
4. З якой часцінай мовы спалучаюцца выдзеленыя словы?

**Лічэбнік** — часціна мовы, якая абазначае лік, колькасць прадметаў, а таксама парадак прадметаў пры лічэнні.

Лік, колькасць прадметаў і парадак іх пры лічэнні — гэта агульнае граматычнае значэнне лічэбніка.

У залежнасці ад значэння і граматычных прымет лічэбнікі падзяляюцца на колькасныя і парадкавыя.

**Колькасныя лічэбнікі** абазначаюць лік або колькасць прадметаў і адказваюць на пытанне к о л ь к і?: *шэсць дзеліцца на два; чатыры гады.*

**Парадкавыя лічэбнікі** абазначаюць парадак прадметаў і адказваюць на пытанне я к і? (к а т о р ы?): *пяты клас.*

**262.** Разгледзьце табліцу і дапоўніце (вусна) прыведзенымі ніжэй прыкладамі.

| Колькасныя (к о л ь к і?) | | Парадкавыя (я к і? к а т о р ы?) |
|---|---|---|
| лік | колькасць прадметаў | парадак прадметаў пры лічэнні |

Тры яблыкі, шэсць і пяць будзе адзінаццаць, трэцяя чвэрць, дваццатае стагоддзе, восем алоўкаў, чацвёртае качаня, да васьмі дадаць дзевяць, нуль цэлых дзве дзясятыя, пяцёра адважных, тры сёмыя, паўтара гектара, другі ўкос.



Не ўсякае слова, што выражае колькасць, адносіцца да лічэбніка. Лікавае значэнне могуць перадаваць іншыя часціны мовы: назоўнік *(двойка, сямёрка)*, дзеяслоў *(падвоіць)* і інш.

Лічэбнік можна запісаць словамі і лічбамі, іншыя часціны мовы — толькі словамі.

**263.** Прачытайце жарт. Назавіце лічэбнікі. Якія яны: колькасныя ці парадкавыя?

Двое гультаёў спалі ў капе сена. Праходзіў міма чалавек і забраў іхнія вілы.

Адзін гультай і кажа другому:

— Дагані і адбяры.

Другі адказвае:

— Пачакай, калі ён **прыйдзе** забіраць сена, мы яго схопім удваіх.

● Вызначце аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго ж слова. Да якіх часцін мовы яны належаць?

● Растлумачце напісанне выдзеленага слова.

Колькасныя лічэбнікі змяняюцца толькі па склонах. Роду і ліку яны не маюць, акрамя слоў *адзін, два*. Парадкавыя лічэбнікі змяняюцца па родах, ліках і склонах. Гэта іх **марфалагічныя прыметы.**



**264.** Прачытайце і спішыце тэкст. Вызначце, якую ролю ў ім выконваюць лічэбнікі.

У сто пятым годзе адзін шчаслівец Цай Лун, скарыстаўшы кару дрэў, старыя сеткі і іншыя матэрыялы, вырабіў першую паперу. Вынаходніцтва мела вялікае значэнне. Цай Лун пасля гэтага нават быў прызначаны міністрам.

Каля пяцісот гадоў трымалі ў вялікай таямніцы ад усяго навакольнага свету кітайскія феадалы сакрэт вырабу паперы. Толькі захапіўшы ў часе адной з войнаў у палон кітайскіх умельцаў, арабы ўведалі сакрэт паперы і ў Самаркандзе наладзілі яе выраб. Але міне яшчэ пяцьсот гадоў, пакуль, нарэшце, паперу будуць вырабляць у Еўропе *(Паводле А. Клышкі)*.

Колькасны лічэбнік можа быць любым членам сказа.

*Трое коней пасвіліся на поплаве* (К. Чорны). *Шэсць на восем — сорак восем. Сонца пазалаціла тры вялізарныя дубы* (М. Лынькоў). *Была суровая восень*



*дзевятнаццатага года* (П. Галавач). *Над маёй галавой трынаццаты раз вішні цвет асыпаюць* (М. Танк).

Спалучэнне колькаснага лічэбніка з назоўнікам выконвае ролю аднаго члена сказа: *Высока ў блакітным небе луналі* ***чатыры буслы*** (Р. Ігнаценка).

Парадкавыя лічэбнікі ў сказе звычайна бываюць азначэннямі. *Мы з прыемнасцю ўдыхалі* ***першыя*** *пахі вясны* (Т. Хадкевіч).

**265.** Спішыце сказы, падкрэсліце лічэбнікі як члены сказа.

1. Сем не дзеліцца на два без астатку. 2. З трох выберуць аднаго. 3. Пяць на шэсць — трыццаць. 4. З працы вяртаюся а васямнаццатай гадзіне. 5. Першы ўрок пачынаецца ў восем гадзін раніцы. 6. Пасярод поля стаялі чатыры старыя дубы.

**266.** Спішыце сказы. Вызначце фразеалагізмы, у склад якіх уваходзяць лічэбнікі. Фразеалагізмы падкрэсліце як члены сказа.

1. Ой, які ўжо наравісты! Хоць ты падай прад ім лістам — і да трох не гавары! *(Я. Колас)*. 2. Ці можна табе верыць, калі ў цябе сем пятніц на тыдні *(Я. Колас)*. 3. Усе яны (паны) на адзін капыл — стараюцца дастаць з цябе ўвесь дух, пакуль ты ў іх служыш *(У. Дамашэвіч)*. 4. Але вы ведаеце, што гэты палкоўнік быў падобны на мяне як дзве кроплі вады *(К. Крапіва)*.



Лічэбнік спалучаецца толькі з назоўнікам.

**267.** Параўнайце словазлучэнні.

Пяць дамоў, пяці дамам; сем кніг, сямю кнігамі; дваццаць шэсць рублёў, дваццаці шасці рублям; адзінаццаць месяцаў, адзінаццаццю месяцамі; дзевяць кустоў, дзевяццю кустамі.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якім склоне ўжываецца назоўнік, калі лічэбнік стаіць:

а) у назоўным (вінавальным) склоне;

б) ва ўскосным склоне?

2. Калі колькасны лічэбнік бывае галоўным, а калі залежным словам у словазлучэнні?

Калі колькасны лічэбнік мае форму назоўнага (вінавальнага) склону, то ў словазлучэнні ён выступае галоўным словам і патрабуе, каб залежнае слова (назоўнік) стаяла ў форме роднага склону: *пяць вучняў* (каго?).

Калі ж лічэбнік мае форму ўскоснага склону, то галоўным словам у словазлучэнні выступае назоўнік: *пяцю вучнямі* (колькімі?). Склон лічэбніка ў такім словазлучэнні залежыць ад склону назоўніка.

У словазлучэнні назоўніка з парадкавым лічэбнікам галоўным словам з'яўляецца назоўнік: *сёмы год* (каторы?).

Заўвага. Пры лічэбніках *адзін, два, тры, чатыры* назоўнікі маюць форму назоўнага склону.



**268.** Выпішыце словазлучэнні, якія адпавядаюць наступным схемам:

а) «лічэбн. + наз.»; б) «лічэбн. + наз.».

Першы тайм, дзевяць класаў, чацвёрты з футбалістаў, да пятай хаты, з трэцяга паверха, другая вуліца, тры клёны, з шостай школы, сёмы дзень, сямнаццаць гарадоў.

## § 44. Простыя, складаныя і састаўныя лічэбнікі

**269.** Разгледзьце табліцу. Які вывад можна зрабіць адносна будовы колькасных і парадкавых лічэбнікаў?

| Разрад | Простыя | Складаныя | Састаўныя |
|---|---|---|---|
| Колькасныя | *два, дзевяць, дзесяць, трынаццаць, сто* | *шэсцьдзясят, дзевяцьсот* | *трыццаць два, трыста сорак тры, тры дзясятыя* |
| Парадкавыя | *другі, дзявяты, дзясяты, трынаццаты* | *шасцідзясяты, дзевяцісоты* | *трыццаць другі, трыста сорак трэці* |

Паводле складу лічэбнікі падзяляюцца на простыя, складаныя, састаўныя.

**Простыя** лічэбнікі (ад лічэбніка *адзін* і да лічэбніка *дваццаць*, а таксама *трыццаць*, *сорак*, *сто*) маюць адну аснову.

**Складаныя** лічэбнікі (ад *пяцідзесяці* да *дзевяноста*, ад *двухсот* да *дзевяцісот*) маюць дзве асновы.

**Састаўныя** лічэбнікі ўтвораны любым спалучэннем простых і складаных: *сто тры, шэсцьсот сем, дзве дзясятыя, сорак сёмы* і г. д.

**270.** Запішыце лічэбнікі ў такім парадку: 1) простыя; 2) складаныя; 3) састаўныя.

Пабудуйце па два словазлучэнні тыпу: «просты лічэбн. + наз.», «складаны лічэбн. + наз.», «састаўны лічэбн. + наз.».

Пяць, сямнаццаць, дваццаць восем, трыццаць, дзвесце сорак сем, сорак, трыста два, дзевяноста, адзінаццаць, пяцьдзясят, дваццаць мільёнаў, шэсць мільярдаў, дзесяць, дзевятнаццаць.

**271.** Прачытайце. Вызначце разрад лічэбнікаў паводле значэння і складу.

Кіты — самыя вялікія з усіх жывёл. Толькі шырыня пашчы грэнландскага кіта перавышае чатыры метры. Але пры ўсёй сваёй масіўнасці кіт — выдатны плывец і ныральшчык. Ён можа дасягаць глыбіні больш за тысячу метраў.

Самы вялікі з кітоў — сіні. Сэрца яго велічынёй з добрага каня. А вось мозг важыць усяго шэсць-сем кілаграмаў.

Крык сініх кітоў можна чуць на адлегласці каля васьмісот пяцідзесяці кіламетраў. Дарэчы, самка падчас выкармлівання дзіцяці кожны дзень можа даваць чатырыста трыццаць літраў малака *(«Родная прырода»)*.

**272.** Прачытайце тэкст.

Неабачліва часам выкарыстоўвае зямлю чалавек. Вучоныя падлічылі, што ва ўсім свеце на нясельскагаспадарчыя патрэбы кожную хвіліну траціцца каля 10 гектараў найлепшай зямлі, а ў год — 60—70 мільёнаў. На пачатак нашага стагоддзя было страчана для земляробства каля 650—700 мільёнаў гектараў зямлі. Колькасць жа людзей значна павялічылася. У 2000 годзе насельніцтва пераваліла за 6 мільярдаў. Зараз штогадовы прырост насельніцтва перавышае 90 мільёнаў чалавек. Ці вытрымае зямля такую дэмаграфічную* нагрузку?

Вучоныя сцвярджаюць, што прадуктовы патэнцыял Зямлі дазволіць у перспектыве забяспечыць сродкамі харчавання 40—50 мільярдаў чалавек. Але прагноз можа не здзейсніцца, калі чалавецтва не прыме мер па ахове зямлі ад наступу прамысловасці *(Паводле В. Еўцыхевіча)*.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якім стылі напісаны тэкст?
2. Якія рысы характэрны гэтаму стылю?
3. Вызначце сказ, які перадае асноўную думку. Прасачыце, як яна разгортваецца.
4. Чым заканчваецца тэкст?

5. Зрабіце вывад, да якога тыпу ён належыць. Вусна перадайце яго змест.

6. Якую ролю ў тэксце адыгрываюць лічэбнікі? З якой мэтай выкарыстаны пытальны сказ?

Тэксты-разважанні навуковага стылю звычайна маюць выразную кампазіцыйную структуру: **тэзіс, доказ тэзісу, вывад.** Асноўная думка (тэзіс) абгрунтоўваецца **аргументамі** (фактамі).

У тэкстах-разважаннях часта выкарыстоўваюцца лічэбнікі і лічэбнікавыя словазлучэнні, рытарычныя пытанні, вынікі навуковых даследаванняў.



**273.** Прачытайце. Да якога тыпу належыць тэкст? Абгрунтуйце сваю думку. Выпішыце словазлучэнні лічэбнікаў з назоўнікамі. У якім склоне яны стаяць? Якім членам сказа з'яўляюцца?

Цяжка назваць другое імя, якое так цесна было б звязана з гісторыяй і культурай беларускага народа, як імя акадэміка Карскага.

Навуковая дзейнасць Карскага працягвалася амаль паўстагоддзя. Яму належаць каля трохсот навуковых прац ва ўсіх галінах беларускага мовазнаўства і беларускай славеснасці, сучаснай літаратурнай мовы, гісторыі беларускай мовы, фальклору, гісторыі беларускай літаратуры. Ён стварыў першую дыялекталагічную карту Беларусі.

Яго трохтомная (у шасці кнігах) праца «Беларусы» — сапраўдная энцыклапедыя беларускага народа, роўнай якой не было ні ў аднаго славянскага народа *(«Лім»)*.

## § 45. Колькасныя лічэбнікі і іх правапіс

Колькасныя лічэбнікі падзяляюцца на:

1) лічэбнікі, якія абазначаюць цэлыя лікі: *пяць, сямнаццаць*;

2) дробавыя: *адна сёмая, тры дзявятыя*;

3) зборныя (сукупнасць прадметаў): *трое рабочых, пяцёра ягнят, чацвёра саней*.

**274.** Падзяліце прапанаваныя лічэбнікі на групы: а) лічэбнікі, якія абазначаюць цэлыя лікі; б) дробавыя; в) зборныя.

Тры сястры, трое саней, сямёра цялят, дзве трэція горада, адзінаццаць вучняў, трыццаць два дні, чатыры пятыя дыстанцыі, тры чацвёртыя ўраджаю, пяць сёмых насельніцтва, двое акуляраў, васямнаццаць сутак, трое мужчын, шэсць дзявятых збору, пяцёра ўнукаў, дзесяць талерак, чацвёра дзвярэй.

**275.** Прачытайце тэкст навуковага стылю. Вызначце, якія лікі абазначаюць лічэбнікі. Да якога разраду паводле складу яны адносяцца? Звярніце ўвагу на правапіс выдзеленых слоў.

Падумайце, чаму зборныя лічэбнікі не характэрны для тэкстаў навуковага стылю.

Будову Зямлі можна параўнаць з яйцом, згатаваным усмятку. Вадкае ядро, цвёрдая абалонка і кара знаходзяцца па сваіх памерах у такіх жа адносінах, як жаўток, бялок і шкарлупіна ў яйку. Розніца заключаецца ў тым, што зямная кара адносна больш тонкая за яечную шкарлупіну і складае **адну двухсотую** радыуса Зямлі.

Зямная кара складае **адзін** працэнт аб’ёму нашай планеты і **нуль цэлых пяцьдзясят адну сотую** працэнта яе масы. Найбольш распаўсюджанымі элементамі зямной кары з’яўляюцца наступныя: кісларод — **сорак дзевяць** працэнтаў, крэмній — **дваццаць шэсць** працэнтаў, алюміній — **сем** працэнтаў, жалеза — **чатыры** працэнты, кальцый — **тры** працэнты, натрый — **два** працэнты, калій — **два** працэнты, магній — **два** працэнты, вадарод — **адзін** працэнт. Іншыя элементы складаюць **чатыры** працэнты.

У адным кубічным кіламетры горных парод зямной кары ўтрымліваецца **сто трыццаць мільёнаў** тон жалеза, **дзвесце трыццаць** мільёнаў тон алюмінію, **дзвесце шэсцьдзясят тысяч** тон медзі, **сто тысяч** тон свінцу. Зямная кара ўтрымлівае велізарную колькасць вады, якая да глыбіні ў **шаснаццаць** кіламетраў складае **дванаццаць—пятнаццаць** працэнтаў яе масы *(Б. Гурскі)*.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

Самай ганаровай лічбай (свяшчэннай і магічнай), паводле Піфагора і іншых грэчаскіх філосафаў, з'яўляецца «сямёрка». У ёй людзі даўно бачылі адлюстраванне многіх з'яў свету. На сем дзён дзяліўся тыдзень. На небе былі вядомыя ў тыя часы сем планет, а на зямлі — сем цудаў свету...

Што да іншых лічбаў, то лічылася так: ад «адзінкі» пайшоў свет, «двойка» нясе каханне, «тройка» азначае дасканаласць. А «шасцёрка» — лічба дзіўная. Яна атрымліваецца ў выніку складання ці перамнажэння ўсіх лічбаў, на якія дзеліцца.

Многія жыхары Еўропы і Амерыкі вераць, што лік трынаццаць прыносіць няшчасце. А ў Японіі «нешчаслівымі» лічацца «чацвёрка» і «дзявятка».

● Чаму некаторыя словы, якія маюць лікавае значэнне, узяты ў двукоссе?

У лічэбніках ад *дзевяці* да *дваццаці* і ў лічэбніках *пяць, шэсць, трыццаць* на канцы пішацца мяккі знак. Мяккі знак пішацца і ў сярэдзіне лічэбнікаў *пяцьдзясят, шэсцьдзясят, пяцьсот, шэсцьсот, дзевяцьсот.*

У лічэбніках ад *адзінаццаці* да *дваццаці* і ў лічэбніку *трыццаць* у сярэдзіне пішацца дзве ***ц (цц)***.

З а ў в а г а. Простыя і складаныя лічэбнікі пішуцца як адно слова.

**276.** Разгледзьце табліцу і запішыце ўсе лікі словамі. Дайце загаловак табліцы.

| Мяккі знак ***(ь)*** у сярэдзіне лічэбніка | Мяккі знак ***(ь)*** у канцы лічэбніка |
|---|---|
| 50, 60, 500, 600, 900, 1 000 000, 1 000 000 000 | 5, 6, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 20, 30 |



**277.** Назавіце лікі. Запішыце толькі тыя лічэбнікі, у сярэдзіне якіх пішацца ***цц***.

5, 6, 9, 10, 11, 13, 17, 19, 20, 30, 60, 500, 9000.

**278.** Прачытайце. Якім стылем напісаны тэкст? Якую стылёвую рысу тэксту падкрэсліваюць лічэбнікі? Зрабіце калектыўны вусны пераклад тэксту на беларускую мову.

Солнце — гигантский плазменный шар. Своим могучим притяжением оно удерживает и заставляет обращаться с точностью лучшего механизма 9 больших планет с 34 спутниками. Кроме этого, в состав Солнечной системы входят 2000 малых планет, или астероидов, множество комет, бесчисленное количество метеорных тел, космическая пыль, межпланетный газ.

Солнце — рядовая звезда Вселенной. Температура поверхностного слоя Солнца составляет 60 000°. Радиус Солнца в 109 раз превосходит радиус Земли, а масса Солнца больше земной в 333 тыс. раз и в 750 раз превышает массу всех планет, вместе взятых. Внутри Солнца могло бы поместиться больше 1 000 000 таких планет, как наша Земля.

***ты́сяча***
***мільён***
***мілья́рд***

Лічэбнікі, якія абазначаюць цэлыя лікі, змяняюцца па склонах.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *пяць, восем, дваццаць* | *сенажаць* |
| Р. | *пяці, васьмі, дваццаці* | *сенажаці* |
| Д. | *пяці, васьмі, дваццаці* | *сенажаці* |
| В. | *пяць, восем, дваццаць* | *сенажаць* |
| Т. | *пяццю, васьмю, дваццаццю* | *сенажаццю* |
| М. | *(у) пяці, (у) васьмі, (у) дваццаці* | *(у) сенажаці* |

Лічэбнікі ад *пяці* да *дваццаці* і лічэбнік *трыццаць* скланяюцца як назоўнікі трэцяга скланення з мяккай асновай. У лічэбніках ад *дзевяці* да *дваццаці,* а таксама ў лічэбніках *пяць, трыццаць* у творным склоне перад канчаткам пішацца ***цц***.

Ва ўскосных склонах, апрача вінавальнага, лічэбнік *восем* пішацца з мяккім знакам: *вас**ь**мі, вас**ь**мю.*

**279.** Запішыце лікі 6, 7, 12, 17, 30 словамі і праскланяйце іх.

**280.** Назоўнікі, што ў дужках, дапасуйце да лічэбнікаў. Спалучэнні слоў запішыце ў творным склоне.

Шэсць *(песня)*, сем *(бяроза)*, дзевяць *(стагоддзе)*, адзінаццаць *(лінейка)*, дзевятнаццаць *(бервяно)*, трыццаць *(сасна)*.

**281.** Спішыце, замяняючы лікі словамі. Абазначце канчаткі лічэбнікаў і іх склон.

В. Н.

У з о р. *Да пяц*[і] *дадаць сем*[ ]— *будзе дванаццаць*[ ].

1. Да 5 дадаць 4 — будзе ... . 2. Да 6 дадаць 2 — будзе ... . 3. Да 13 дадаць 4 — будзе ... . 4. Ад 30 адняць 10 — будзе ... . 5. Ад 10 адняць 9 — будзе ... . 6. З 8 скласці 6 — будзе ... .

**282.** Спішыце загадкі, замяняючы лікі словамі. Адказы дайце вусна.

1. 20 без 15, 3 не далажыўшы, 2 не далічыўшы. Колькі будзе? 2. Ляцелі 2 статкі гусей. Першы статак гаворыць: «Дайце нам 1 гусь, тады ў нас будзе пароўну», а другі статак гаворыць: «Дайце вы нам 1 гусь, тады ў нас будзе ў 2 разы больш». Колькі гусей было ў адным і ў другім статку? 3. 2 дачкі, 2 маці і бабулька з унучкай. Колькі ўсіх?

А д г а д к і: *0 застаецца*; *5 і 7 гусей*; *усіх 3: бабка, маці, унучка.*

**283.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Вызначце род, лік і склон лічэбніка *адзін.*

1. Пра адны дрожджы не гавораць тройчы. 2. Не з аднае дзяжы хлеб еў. 3. Не на адну хваробу праца — найлепшыя лекі. 4. Адна ластаўка вясны не робіць. 5. Адным арэхам падзеляцца. 6. На адным услоне ўсе не сядуць. 7. Спіць і адным вокам глядзіць. 8. У адно вуха прыйшло, у другое — выйшла. 9. Аднымі рукамі не многа зробіш.



Лічэбнік *адзін* мае формы мужчынскага, жаночага і ніякага роду, адзіночнага і множнага ліку. Змяняецца па склонах, як прыметнікі з асновай на цвёрды і зацвярдзелы зычны.

**284.** Складзіце табліцу скланення лічэбнікаў *адзін, два.*

**285.** Праскланяйце словазлучэнні.

Адзін вечар, адна вучаніца, адзін з вечароў, адна з вучаніц.

● Чым адрозніваецца скланенне беспрыназоўнікавых словазлучэнняў ад прыназоўнікавых?

## ПРА ПАХОДЖАННЕ ЛІЧБАЎ

Першым спосабам запісаў лічбаў былі рысачкі (або зарубкі на палцы). Напрыклад, калі людзі хацелі запісаць, што ў іх пяць кароў, яны рабілі пяць рысачак. Калі ж кароў сто, даводзілася маляваць вельмі шмат рысачак. Тады замест пэўнай колькасці рысак пачалі маляваць знакі. Напрыклад, у Старажытным Егіпце лічба дзесяць выглядала так: , а лічба сто — . Такія малюнкі называюцца іерогліфамі.

Доўгі час у многіх краінах для запісу лікаў выкарыстоўвалі рымскія знакі: рыска I — гэта 1, далонь з растапыранымі пальцамі V — гэта 5, дзве далоні X — гэта 10. Каб запісаць іншыя лікі, трэба асноўныя лікі складваць або адымаць. Напрыклад, два — гэта II, тры — III, чатыры IV (пяць без аднаго), а шэсць VI (пяць ды адзін).

Тыя лічбы, якімі мы карыстаемся зараз, называюцца арабскімі. Прыдуманы яны вельмі даўно ў Індыі.

**286.** Ці ўмееце вы карыстацца рымскімі лічбамі? Прачытайце лікі і запішыце іх словамі: IV, VII, IX, XIII, XIV, XVII, XIX.



**287.** Спішыце загадкі, дапасоўваючы лічэбнікі да назоўнікаў. Пазначце род, лік і склон лічэбніка *адзін* у кожным сказе.

1. У *(адзін)* доме — сотні жыхароў, а сям’я адна. 2. Чатыры брацікі пад *(адзін)* капелюшом стаяць. 3. У *(адзін)*

дзежцы два хлябцы. 4. Тысяча братоў *(адзін)* поясам падпаясаны. 5. Тры браты на *(адзін)* кані па белым полі едуць.

Адгадкі: *вулей і пчолы, яйцо, ножкі стала, сноп, пальцы і аловак.*

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

Пасля доўгіх назіранняў за прыроднымі з'явамі людзі выдзелілі ў сутках ранак, дзень, вечар, ноч. У перакладзе слова *ранак* абазначае «час, калі запрагаюць быкоў», г. зн. час збірацца на працу. А слова *вечар* перакладаецца як *цень* — «час распрагання быкоў». Як вы ведаеце, ранак, дзень, вечар і ноч разам складаюць суткі. А слова *суткі* паходзіць ад старажытнага *сутыкацца,* г. зн. злучацца. Значыць, *суткі* — гэта час, калі злучаюцца ранак, дзень, вечар, ноч.

У беларускай мове назвы дзён тыдня пайшлі ад парадку іх надыходу аднаго за другім.

*Нядзеля* — дзень, калі нічога не робяць, *панядзелак* — дзень, што ідзе пасля нядзелі, *аўторак* — другі дзень тыдня, *серада* — трэці (сярэдні), *чацвер* — чацвёрты, *пятніца* — пяты дзень тыдня; *субота* — дзень, названы ў гонар свята Сабот (вольны дзень).

**288.** Разгледзьце ўзоры скланення лічэбніка з назоўнікамі. Звярніце ўвагу на формы назоўнікаў.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *два клёны* | *дзве сястры* |
| | *шэсць клёнаў* | *шэсць сясцёр* |
| Р. | *двух клёнаў* | *дзвюх сясцёр* |
| | *шасці клёнаў* | *шасці сясцёр* |
| Д. | *двум клёнам* | *дзвюм сёстрам* |
| | *шасці клёнам* | *шасці сёстрам* |
| В. | *два клёны* | *дзвюх сясцёр* |
| | *шэсць клёнаў* | *шэсць сясцёр* |
| Т. | *двума клёнамі* | *дзвюма сёстрамі* |
| | *шасцю клёнамі* | *шасцю сёстрамі* |
| М. | *(аб) двух клёнах* | *(аб) дзвюх сёстрах* |
| | *(аб) шасці клёнах* | *(аб) шасці сёстрах* |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якім склоне і ліку стаяць назоўнікі пры лічэбніках у назоўным склоне?

2. Якую форму маюць лічэбнікі *два, дзве* ў творным склоне?

У назоўным склоне пры лічэбніках *два (абодва), дзве (абедзве), тры, чатыры* назоўнікі ўжываюцца ў форме назоўнага склону множнага ліку: ***два (абодва)*** *хлопчыкі,* ***два (абодва)*** *дрэвы,* ***дзве (абедзве)*** *дзяўчынкі,* ***дзве (абедзве)*** *кнігі.*

Пры лічэбніках *пяць, шэсць, сем* і інш. у назоўным склоне назоўнікі ўжываюцца ў форме роднага склону множнага ліку: ***пяць*** *хлопчыкаў,* ***шэсць*** *дрэў,* ***сем*** *дзяўчынак,* ***восем*** *кніг.*

У творным склоне лічэбнікі *два (дзве), тры, чатыры* маюць на канцы ***-ма.***

**289.** Праскланяйце наступныя спалучэнні слоў.

Тры песні, чатыры алоўкі, сем начэй.

**290.** Запішыце жарт. Кожную рэпліку пачынайце з новага радка. Які знак прыпынку выкарыстаеце замест двукосся?

У якім склоне стаяць назоўнікі пры лічэбніках *два, чатыры*?

«Тата, ведаеш, колькі зубной пасты ў тваім цюбіку?» — «Не ведаю». — «Два метры чатыры сантыметры. Я толькі што змераў».

**291.** Спішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку і раскрываючы дужкі. Падкрэсліце лічэбнікі. Абазначце іх род і склон.

**Коні**, напіўшыся вады, павольна адыходзілі ад карыт і па вузкай, абгароджанай з двух бакоў жардзінамі вулачцы самі ішлі на поплаў.

Што Марынка хочаш праехацца спытаў дзядзька Пятро і злавіў за грыву маленькага сівога **коніка**.

Марынцы зрабілася радасна і страшна. Яна ж ніколі *(не)* ездзіла **конна**.

*(Не)* бойся, *(не)* бойся. Ён у нас рахманы — *(не)* кусаецца і *(не)* брыкаецца. А мы з Сашкам удвух на Каштане паедзем. Праўда Саша?

Удвух! Разам з дзядзькам Пятром Марынка б на чым хочаш паехала. А вось адной...

На кані Марынка ўся сціснулася ў камячок і ўчапілася абедзвюма рукамі за грыву.

Ты пад ногі каню *(не)* глядзі, глядзі наперад, на вушы яму. І сядзі вальней *(не)* напружвайся параіў дзядзька Пятро.

Сам ён сядзеў на кані, як на лаўцы, звесіўшы абедзве нагі на адзін бок. Калі б Марынка падала, дзядзька Пятро паспеў бы яе падхапіць *(Паводле С. Міхальчука)*.

● Ці з'яўляюцца аднакаранёвымі выдзеленыя словы?

***дзве***
***дзве́ры***
***абе́дзве***
***ле́дзьве***

**292.** Пастаўце наступныя назоўнікі з рухомым націскам у назоўным склоне множнага ліку, а затым спалучыце з лічэбнікам *дзве*. Які вывад можна зрабіць?

У з о р: *страла — стрэлы, дзве стралы.*

Нага, рука, сасна, града, гара, зіма, рака, мяжа, вясна, каза, вярста.

**293.** Прачытайце жарт. У якім сказе колькасны лічэбнік *два* ўжыты ў значэнні зборнага *двое*?

Старэнькі селянін, прыехаўшы ў горад, заходзіць у шыкоўны магазін і пытае:

— Ці тут прадаюцца хамуты?

— Не, стары, — адказваюць яму **два** фра́нты, — тут прадаюцца толькі дурні.

— Бач! — круцячы галавою, дзівіцца стары: — Відаць, і торг ідзе добра, калі толькі **два** і засталося.

⊙ Да якой часціны мовы належаць выдзеленыя словы? Чаму вы так думаеце?

**294.** Спішыце, дапасоўваючы назоўнікі да лічэбнікаў. Якімі членамі сказа з'яўляюцца спалучэнні лічэбнікаў з назоўнікамі?

1. Абодва *(лётчык)* былі ў навушніках *(С. Міхальчук)*. 2. З абодвух *(бок)* за нізенькімі штыкетамі ўзвышаліся высокія клёны *(С. Міхальчук)*. 3. Бабуля брала Марынку і Сашку на рукі, цалавала ў абедзве *(шчака)* і ссаджвала з воза *(С. Міхальчук)*. Вясна ўжо стала на абедзве *(нага)*, сонейка з ветрам сушыла зямлю *(М. Лобан)*. Назаўтра ўжо абедзве *(сям'я)* разам працавалі над лодкамі *(Я. Маўр)*.

**295.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце словы розных часцін мовы, якія маюць адзін і той жа корань. Да якіх часцін мовы яны адносяцца?

## Галя і Валя

Галя і Валя — дваюрадныя сёстры. І вельмі падобныя адна на адну. У абедзвюх светлыя бялявыя валасы, сінія вочы і трошкі кірпатыя насы. І ростам яны амаль аднолькавыя, толькі Галя крыху драбнейшая і больш шустрая, а Валя поўненькая і ўсё робіць і нават гаворыць не спяшаючыся. Дзяўчынкі аднагодкі, і абедзве вучацца ў пятым класе *(С. Міхальчук)*.



**296.** Напішыце пра сваіх двух сяброў (сяброваак). Як яны выглядаюць? Што агульнае ў іх характарах? Чым адрозніваюцца? За што вы іх любіце і паважаеце?

**297.** Разгледзьце табліцу. Колькі склонавых формаў маюць лічэбнікі 40, 100, 90?

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. В.<br>Р. Д. Т. М. | *сорак*<br>*сарака* | *сто*<br>*ста* | *дзевяноста*<br>*дзевяноста* |

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

Лічэбнік *сорак* спачатку быў назоўнікам і абазначаў «мяшок» (як мерка). Гэты мяшок змяшчаў у сабе чатыры дзясяткі сабаліных або вавёрчыных скурак, якія раней былі замест грошай. Паступова слова «сорак» стала лічэбнікам.

**298.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Лікі напішыце словамі. Абазначце склоны лічэбнікаў.

1. Рапс — каштоўная кармавая і тэхнічная культура. Цэняць яе і пчаляры. З аднаго гектара рапсавага поля пчолы збіраюць да *(90)* кілаграмаў цёмна-жоўтага духмянага мёду. 2. Сярод лугавога разнатраўя пад лёгкім подыхам ласкавага ветрыку гайдаюцца карычневыя грыўкі аўсяніцы. За два ўкосы расліна можа даць з кожнага гектара каля *(100)* цэнтнераў духмянага, якаснага сена. 3. Сярод збожжавых найбольшы ўраджай дае ячневае поле. Нават у гарачае засушлівае лета ў Беларусі атрымліваюць звыш *(40)* цэнтнераў з гектара, а ў лепшыя гады — і па *(60)* цэнтнераў.

У складаных лічэбніках (ад *пяцідзесяці* да *васьмідзесяці* і ад *двухсот* да *дзевяцісот*) скланяюцца абедзве часткі слова.

| | Ад 50 да 80 | 200, 300, 400 | Ад 500 да 900 |
|---|---|---|---|
| Н. | *пяцьдзясят* | *восемсот* | *трыста* |
| Р. | *пяцідзесяці* | *васьмісот* | *трохсот* |
| Д. | *пяцідзесяці* | *васьмістам* | *тромстам* |
| В. | *пяцьдзясят* | *восемсот* | *трыста* |
| Т. | *пяцццюдзесяццю* | *васьмюстамі* | *трымастамі* |
| М. | *(у) пяцідзесяці* | *(аб) васьмістах* | *(аб) трохстах* |

У лічэбніка *дзвесце* ва ўскосных склонах у якасці састаўной часткі выступаюць формы лічэбніка *два,*

а не *дзве*: *двухсот (рублёў), двумстам, двумастамі, (аб) двухстах*.

У лічэбніка *семсот* ва ўскосных склонах пішацца **я**: ***ся**місот, **ся**містам, **ся**мюстамі, аб **ся**містах*.

**299.** Праскланяйце (вусна) 80, 900, правяраючы сябе па табліцы.

**300.** Спішыце, замяняючы лікі словамі, дапасоўваючы назоўнікі да лічэбнікаў.

У вырай птушкі ляцяць звычайна на вышыні каля 400—500 *(метр)*. Але бывае, што падымаюцца на 1000 *(метр)* і вышэй. Хуткасць палёту ў сярэднім роўна 40—80 *(кіламетр)* у гадзіну. Дробныя птушкі ляцяць з хуткасцю не больш чым 50 *(кіламетр)* у гадзіну. Вароны — 50—70, качкі — 80—90. А стрыжы развіваюць хуткасць да 100 *(кіламетр)* у гадзіну.

У састаўных колькасных лічэбніках, якія абазначаюць цэлыя лікі, скланяюцца ўсе словы: *трохсот васьмідзесяці шасці (рублёў)* — Р. скл., *трымастамі васьмюдзесяццю шасцю (рублямі)* — Т. скл.

301. Спішыце загадкі, замяняючы лікі словамі, ставячы назоўнікі, што ў дужках, у патрэбнай форме.

1. 700 *(вароты)* — 1 уваход. 2. Выходзілі 12 *(маладзец)*, выпускалі 52 *(сокал)* і 365 *(лебедзь)*. 3. Сям'я душ 300 і багата, ды ўсяго на 2 *(локаць)* хата. 4. 2 *(брат)* і 1 з іх — мой дзядзька. Хто другі? 5. У 1 *(галава)* ды 12 *(галава)*. 6. 100 *(сястра)* і 1 *(хустка)* вяжуць. 7. 700 *(муляр*)* збудавалі дом без вуглоў.

А д г а д к і: *вулей; сетка; пупышка расліны; мурашкі; бацька; год; пчолы.*

● Вызначце разрад лічэбнікаў паводле структуры.



Лічэбнікі *нуль, тысяча, мільён, мільярд* скланяюцца, як назоўнікі, маюць род і лік.

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

Венецыянскі падарожнік XIII ст. Марка Пола прыехаў з Кітая і стаў расказваць аб незлічоных багаццях гэтай краіны. Апавядаючы, ён дабавіў да існуючага слова *«міле»* — *тысяча* — канчатак *оне* з павелічальным значэннем. Так слова *мілiоне* стала папулярным і паступова ўвайшло ў мову для абазначэння тысячы тысяч.



**302.** Спішыце, замяняючы лікі словамі. Вызначце склон лічэбнікаў.

Месяц — натуральны спадарожнік Зямлі. Яго сярэдняя адлегласць ад Зямлі роўна 384 400 кіламетрам, або 60 зямным радыусам. Пры руху Месяца па эліптычнай арбіце гэта адлегласць змяняецца ад 354 000 да 406 000 кіламетраў.

**303.** Прачытайце. Да якога стылю належыць тэкст? Спішыце, замяняючы лікі словамі. Вызначце разрад лічэбнікаў: а) паводле значэння; б) паводле складу.

Звярніце ўвагу на тое, як перадаецца значэнне прыблізнай колькасці.

Беларусь размешчана амаль у самым цэнтры Еўропы.

З поўначы на поўдзень рэспубліка працягнулася амаль на 600 кіламетраў, з усходу на захад — на 650. Раскінуўшы свае прасторы ад Брэста да Віцебска, ад серабрыстага Сожа да хуткаплыннага Нёмана, ад Палесся на поўдні да Паазер'я на поўначы, яна займае плошчу каля 207,6 тысяч квадратных кіламетраў. Яе тэрыторыя пераўзыходзіць дзясяткі дзяржаў свету, у тым ліку і такія краіны, як Бельгія, Нідэрланды, Партугалія і Швейцарыя, разам узятыя. Сягоння ў Беларусі пражывае каля 10 000 000 чалавек.

Для перадачы значэння прыблізнай колькасці выкарыстоўваюцца:

- адваротны парадак слоў (назоўнік ставіцца перад лічэбнікам): *сабралі цэнтнераў дваццаць пяць з гектара*;
- спалучэнні *больш як, больш за, больш чым, менш за, менш чым, менш як* з лічэбнікамі ў вінавальным склоне: *больш за трыццаць гадоў мінула*;
- спалучэнні лічэбніка ў родным склоне з прыназоўнікамі ***з (са), за, каля, да***: *развіваць хуткасць да ста шасцідзесяці кіламетраў у гадзіну*;
- два лічэбнікі як адно слова: *Яшчэ тры-чатыры дні такога надвор'я — і можна будзе пачынаць сяўбу.*

**304.** Пабудуйце спалучэнні слоў, як паказана на ўзоры. Якія з іх перадаюць дакладную колькасць прадметаў, а якія — прыблізную? Ад чаго гэта залежыць?

У з о р: *пяць кіламетраў — кіламетраў пяць — каля пяці кіламетраў.*

Тысяча рублёў, дваццаць пяць пудоў, тры гадзіны, пяцьсот тон, сто байцоў, чатырыста гадоў, сорак сотак, дзевятнаццаць вішняў, трынаццаць вёсак.

**305.** Перакладзіце вусна на беларускую мову. Звярніце ўвагу, як перадаецца значэнне прыблізнай колькасці ў рускай і беларускай мовах.

### Аллея великанов

В посёлке Мазолово Витебского района величаво красуется редкая стародавняя аллея дубов-великанов, огромных тополей и осин. Глянешь на их вершины — шапка с головы падает.

Аллея имеет до полусотни толстоствольных деревьев, окружность которых в среднем по 4—5 метров.

Окружность самого толстого дуба — 5 метров 20 сантиметров. А толщина осины — 4 метра 77 сантиметров. Она, как и дуб, достигает более 25 метров в высоту.

Растут здесь и тополя окружностью по 3—4 метра.

А на территории школы есть пень тополя (его срезали, так как он угрожал зданию), окружность которого 7 метров 50 сантиметров. Сбоку у него — огромное дупло. Залезли туда пять мальчиков — спрятались.

Аллее великанов более 150 лет.

**306.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на пабудову словазлучэнняў, з дапамогай якіх перададзены няпэўны ўзрост чалавека.

1. Я падышоў да першага дома. З глыбіні двара падышла да мяне дзяўчынка, гадоў ёй на выгляд было дзесяць. 2. Па-мойму, яна на свае гады вельмі маладою здаецца. Ёй год на выгляд каля дваццаці шасці. 3. Яна (дзяўчынка) была поўненькая, кругленькая, чысценькая. Ёй было, можа, гады тры, не больш. 4. Я была старэйшай за Анцю гадоў на пяць *(З твораў К. Чорнага)*.

**307.** Перабудуйце сказы так, каб яны перадавалі дакладны лік, і запішыце іх.

1. Да горада заставалася кіламетраў сем, не болей. 2. Выглядаў ён гадоў на сорак. 3. Было яму гадоў дзевятнаццаць, не болей. 4. Кіламетры за два ад возера пачынаўся яловы лес. 5. Гады са тры пра яго нічога не было чуваць. 6. Камандзіру было гадоў пад трыццаць. 7. Гадоў на пяць ён быў старэйшы за нас. 8. Яму было ўжо шэсцьдзясят з гакам. 9. Мароз падскочыў градусаў на сем.



**308.** Прачытайце тэкст. Перабудуйце сказы так, каб яны перадавалі прыблізны лік. Запішыце тэкст у новай рэдакцыі. Лікі напішыце словамі. Вызначце разрад лічэбнікаў паводле складу.

240 мільёнаў гадоў назад на нашай планеце жылі вялізныя яшчары. Яны перасоўваліся на дзвюх нагах, абапіраючыся пры гэтым на моцны доўгі хвост.

Даўжыня іх была 25—30 метраў, а маса дасягала некалькіх дзясяткаў тон.

Зніклі дыназаўры нечакана 70 мільёнаў гадоў назад. Чаму гэта здарылася? Найбольш праўдападобнымі здаюцца тлумачэнні, якія звязваюць выміранне дыназаўраў са зменаннямі ў прыродзе і біялагічным развіццём планеты.

## § 46. Дробавыя лічэбнікі

**309.** Разгледзьце схемы. Скажыце, чаму лічэбнікі $\frac{2}{3}$ і $\frac{3}{5}$ называюцца дробавымі.







Паводле складу дробавыя лічэбнікі састаўныя.

Пры скланенні дробавых лічэбнікаў змяняюцца абедзве часткі: першая — як колькасны лічэбнік, другая — як прыметнік у форме множнага ліку: *пяці сёмым* (Д. скл.), *пяццю сёмымі* (Т. скл.).

**310.** Разгледзьце схему. Зрабіце вывад аб тым, якія формы (канчаткі) маюць дробавыя лічэбнікі.

дзве, тры, чатыры → **-ія**, **-ыя**

*дзве трэц-**ія**,*
*дзве сот-**ыя**,*
*тры чацвёрт-**ыя**,*
*тры пят-**ыя**,*
*чатыры шост-**ыя**,*
*чатыры дзясят-**ыя***

пяць, ..., дзесяць, ... → **-ых**

*пяць шост-**ых**,*
*пяць цэл-**ых**,*
*сем восьм-**ых**,*
*сем цэл-**ых**,*
*дзесяць сот-**ых**,*
*дзесяць цэл-**ых***

Калі першай часткай (лічнік) дробавага лічэбніка з'яўляюцца словы *дзве, тры, чатыры,* то другая частка (назоўнік) мае форму назоўнага склону: *дзве шостыя, тры сёмыя, чатыры восьмыя.*

Калі лічнікам з'яўляюцца лічэбнікі *пяць, шэсць, сем* і г. д., то лічэбнік у назоўніку мае форму роднага склону: *пяць шостых, шэсць сёмых, сем восьмых.*

**311.** Запішыце лічэбнікі і праскланяйце іх: $\frac{1}{3}$, $\frac{3}{4}$, $\frac{7}{9}$.

**312.** Прачытайце арыфметычныя прыклады. Запішыце выразы словамі.

1) $2\frac{1}{2}+1\frac{3}{4}$; $5\frac{5}{7}-2\frac{4}{7}$.

2) 4,6 + 0,3; 6,18 − 3,09.

**313.** Запішыце лікі словамі і дапасуйце да іх назоўнікі, што ў дужках.

528 *(гектар)* ворыва; 17 *(цэнтнер)* грэчкі; 367,5 *(літр)* малака; 1639,6 *(метр)* тканіны; 267,3 % ураджаю.

**314.** Вызначце розніцу ў азначэннях словазлучэнняў. З першымі трыма парамі складзіце сказы.

Дзве трэція кнігі — дзве трэція кніг; пяць шостых забудовы — пяць шостых забудоў; тры чацвёртыя сенажаці — тры чацвёртыя сенажацей; адна пятая надою — адна пятая надояў; чатыры сёмыя пасеву — чатыры сёмыя пасеваў.



**315.** Прачытайце. Да якога стылю належыць тэкст? Якую стылёвую рысу тэксту «падкрэсліваюць» лічэбнікі? Спішыце, замяняючы лікі словамі, раскрываючы дужкі.

### Зямля лясоў і азёр

Беларусь — краіна раўніннага ландшафту з умерана кантынентальным кліматам (мяккая і вільготная зіма, цёп-

лае лета, сырая восень). Яна налічвае некалькі тысяч вялікіх і малых азёр і рэчак.

Самае вялікае возера Нарач мае плошчу 80 *(квадратны кіламетр)*. Асноўныя водныя артэрыі: рэкі Днепр, Прыпяць, Бярэзіна, Заходняя Дзвіна, Нёман. Сярэдняя гушчыня рачной сеткі — 43,6 *(кіламетр)* на 100 *(квадратны кіламетр)* тэрыторыі. Больш за 1/3 *(тэрыторыя)* краіны займаюць лясы. Найбольшы лясны масіў — Белавежская пушча. Агульная плошча ляснога фонду Беларусі — 9,7 *(мільён)* гектараў.

**316.** Разгледзьце табліцу.

| Склон | Мужчынскі і ніякі род | Жаночы род |
|---|---|---|
| Н. | *паўтара (літра, вядра)* | *паўтары (гадзіны)* |
| Р. | *паўтара (літра, вядра)* | *паўтары (гадзіны)* |
| Д. | *паўтара (літрам, вёдрам)* | *паўтары (гадзінам)* |
| В. | *паўтара (літра, вядра)* | *паўтары (гадзіны)* |
| Т. | *паўтара (літрамі, вёдрамі)* | *паўтары (гадзінамі)* |
| М. | *(аб) паўтара (літрах, вёдрах)* | *(аб) паўтары (гадзінах)* |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці скланяюцца лічэбнікі *паўтара, паўтары*?
2. З назоўнікамі якога роду яны спалучаюцца?
3. У якіх склонах пры лічэбніках *паўтара, паўтары* назоўнікі ўжываюцца ў адзіночным ліку, у якіх — у множным?

Лічэбнікі *паўтара, паўтары* маюць толькі адну форму. *Паўтара* спалучаецца з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду, *паўтары* — з назоўнікамі жаночага роду.

Назоўнікі пры лічэбніках *паўтара, паўтары* ў назоўным, родным і вінавальным склонах ужываюцца ў адзіночным ліку, у астатніх склонах — у множным.

Адну форму таксама мае лічэбнік *паўтараста: паўтараста рублёў, паўтараста рублямі.*

**317.** Да лічэбнікаў *паўтара, паўтары* падбярыце па сэнсе назоўнікі і ўтварыце словазлучэнні. Запішыце іх у назоўным і творным склонах.

Паўтара, паўтары *(бочка, сотня, гектар, месяц, тыдзень, дзясятак, сотка, загон)*.

**318.** Спішыце, устаўляючы замест кропак лічэбнікі *паўтара, паўтары*.

1. Ля вёскі відаць быў пасёлак: дзясятка ... фінскіх домікаў пад бляшанымі дахамі. 2. За ... тыдня гаспадар і госць паспелі добра сысціся. 3. Хадзем у хату. У мяне тут ... пакоя. 4. Цемрадзь. Нават на ... крока нельга згледзець чалавечую постаць. 5. ... вярсты ішлі ўскрай балота. 6. Роты ... салдат перакінулі на левы фланг, дзе чакалася наступленне праціўніка.

**319.** Спішыце, дапасоўваючы назоўнікі, што ў дужках, да лічэбнікаў.

1. Лясныя арэхі па сваіх спажыўных якасцях у паўтара *(раз)* перавышаюць тлустую свініну, у тры *(раз)* — хлеб, у дзесяць *(раз)* — малако, у трынаццаць *(раз)* — свежыя яблыкі або грушы. 2. Да берага было *(метр)* паўтараста. 3. На паўтараста *(гектар)* пасеялі грэчку. 4. З паўтары *(сотня)* салдат батальён пераправіўся на правы бераг ракі.



**320.** Складзіце казку па пачатку. Звярніце ўвагу на загаловак і ўлічыце асаблівасці жанру — у казцы добрая канцоўка.

### Незаконная гаспадыня

*(Казка)*

Невысока над зямлёй знаходзілася чароўнае каралеўства. Каралём яго быў вечны Год, які сядзеў на троне і кіраваў Зямлёю. У яго было чатыры прыгожыя дачкі.

Самай старэйшай была Зіма. Яна заўсёды насіла белую вопратку. Крыху маладзейшай за яе была Вясна. За Вясну — доўгавалосае Лета. А самай маладзейшай, самай ціхай сястрой была прыгажуня Восень.

Жылі сёстры ў бацькавым доме, і кожная раз на год спускалася на Зямлю і ўладарыла тры месяцы. Год наглядаў за дочкамі, каб каторая не спусцілася на Зямлю раней ці пазней вызначанага часу. Але аднойчы здарылася нечаканае...

## § 47. Зборныя лічэбнікі

**321.** Параўнайце словазлучэнні. У якім слупку лічэбнікі абазначаюць колькасць прадметаў як сукупнасць?

| | |
|---|---|
| тры вучні | трое вучняў |
| чатыры качкі | чацвёра качанят |
| пяць дней | пяцёра сутак |

**Зборныя** лічэбнікі абазначаюць колькасць як сукупнасць: *двое, трое, чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзявяцера, дзясяцера*. Зборнымі з'яўляюцца таксама лічэбнікі *абодва, абедзве, абое*.

Зборныя лічэбнікі спалучаюцца:

- з назоўнікамі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу, дзяцей: *трое касцоў, чацвёра дзяцей*, з назвамі маладых жывёл: *пяцёра ягнят, сямёра качанят*;
- з назоўнікамі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку: *двое дзвярэй, трое сутак*;
- з назоўнікамі: *людзі, коні, гусі, свінні*;
- з асабовымі займеннікамі ***мы, вы, яны***: *мы ўсе шасцёра, нас было чацвёра*.

З назоўнікамі жаночага роду спалучаецца толькі лічэбнік *абедзве: абедзве дачкі, абедзве хаты*.

Зборныя лічэбнікі скланяюцца, як прыметнікі множнага ліку.



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *двое* | *чацвёр-а* | *дзявя́цер-а* | *абе́дзв-е* |
| Р. | *два-іх* | *чацвяр-ы́х* | *дзевяцяр-ы́х* | *абе́дзв-юх* |
| Д. | *два-ім* | *чацвяр-ы́м* | *дзевяцяр-ы́м* | *абе́дзв-юм* |
| В. | як Н. або Р. | | *дзевяцяр-ы́х* | *абе́дзв-юх* |
| Т. | *два-імі* | *чацвяр-ы́мі* | *дзевяцяр-ы́мі* | *абе́дзв-юма* |
| М. | *(на) два-іх* | *(на) чацвяр-ы́х* | *(на) дзевяцяр-ы́х* | *(на) абе́дзв-юх* |

## ВІКТАРЫНА

1. Ці можна так сказаць: «Апошняя палова кастрычніка была дажджлівая»?

2. Якія лічэбнікі і ў якім склоне маюць чатыры літары ***ц***?

3. Як напісаць: *па пяці, па шасці, па трыццаці вазоў* або *па пяць, па шэсць, па трыццаць вазоў*?

**322.** Запішыце назвы лікаў у слупок. Ад лічэбнікаў, якія абазначаюць цэлыя лікі, утварыце і запішыце зборныя лічэбнікі. Складзіце з імі сказы.

2, 4, 6, 7, 9, 10.

**323.** Праскланяйце (вусна) зборныя лічэбнікі з назоўнікамі: *двое саней, трое кацянят, пяцёра куранят, васьмёра коней.*

**324.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Абгрунтуйце выбар лічэбнікаў.

1. Следам за Галяй увайшло толькі *(дваіх, двух, двое)*, астатнія стаялі з коньмі на дварэ *(Я. Брыль)*. 2. Іх [аленяў] было *(чатыры, чацвёра)*, і ішлі яны адзін за адным *(І. Пташнікаў)*. 3. На сэрцы ў *(абодвух, абаіх)* лёгка і весела *(А. Васілевіч)*. 4. Мяцеліца не сціхала на працягу *(траіх, трох)* сутак. 5. *(Шэсць, шасцёра)* аднакласніц

займаюцца спартыўнай гімнастыкай. 6. Заняткі вялі *(пяць, пяцёра)* студэнтаў універсітэта. 7. За *(двума, дваімі)* зайцамі пагонішся — ніводнага не зловіш *(Прыказка)*.

**325.** Якія словазлучэнні не адпавядаюць норме: *два сыны, двое сыноў, двух хат, дзвюх хат, тры дачкі, трое дачок, чатыры зайцы, чацвёра зайцоў, пяць дрэў, пяцёра дрэў, шэсць куранят, шасцёра куранят*?

**326.** Спішыце тэкст, устаўляючы на месцы пропуску лічэбнікі *адзін, адна* ў патрэбнай склонавай форме.

## Сябры

Міхась і Толік жылі на ... вуліцы, але не ведалі ... ... . Пазнаёміліся яны першага верасня, калі прыйшлі ў школу. Пазнаёміліся і пасябравалі. Цяпер яны ходзяць у шосты клас, сядзяць за ... партай і дня ... без ... не могуць пражыць. Усім яны дзеляцца, нічога ... ... не шкадуюць.

Міхась і Толік — добрыя сябры. Усе ведаюць, што хлопцы ... за ... гатовы ў агонь і ў ваду пайсці.

● Растлумачце пастаноўку працяжніка ў першым сказе другога абзаца.

● А каго б вы назвалі сябрамі?

**327.** Напішыце пераказ. Узнавіце прапушчаную частку. Чаму хлопчыку пачулася, што сабачка забрахаў?

## Тузік

На будаўнічай пляцоўцы Вадзік знайшоў вузел з пластмасавых трубачак. Яны нагадвалі сабачку на кароткіх ножках. «Усё адно як суседскі Бобік», — падумаў Вадзік.

Ён узяў знаходку ў рукі, ачысціў ад снегу. І не здзівіўся, калі пачуў:

— Гаў, гаў, гаў!

— Ты зачараваны сабачка. Давай сябраваць, — сказаў Вадзік.

<...>

Вадзік панёс Тузіка ў свой пакойчык. І неўзабаве адтуль пачулася:

— Гаў, гаў, гаў!

— Во, праўду казаў Вадзік, ажыў сабачка, — усміхнуўся тата *(Г. Смірнова)*.



**328.** Запішыце словазлучэнні, дапасоўваючы да лічэбнікаў назоўнікі. Выкарыстайце, дзе магчыма, зборныя лічэбнікі.

3 *(сябар)*, 7 *(грыб)*, 5 *(вясло)*, 4 *(сані)*, 5 *(дошка)*, 8 *(граблі)*, 10 *(грам)*, 11 *(вёска)*, 12 *(гектар)*, 13 *(яблык)*, 17 *(жанчына)*, 18 *(цяля)*, 10 *(кнігарня)*, 20 *(лямпа)*.

## § 48. Парадкавыя лічэбнікі

**Парадкавыя** лічэбнікі ўтвараюцца ад колькасных, якія абазначаюць цэлыя лікі: *пяць — пяты, сем — сёмы, дваццаць шэсць — дваццаць шосты.* Але: *адзін — **першы**, два — **другі**.*

Парадкавыя лічэбнікі змяняюцца па родах, склонах, ліках, як і прыметнікі. У састаўных парадкавых лічэбніках скланяецца толькі апошняе слова: *у тысяча пяцьсот дваццаць пятым годзе* (М. скл.).

**329.** Прачытайце парадкавыя лічэбнікі. Запомніце іх вымаўленне і напісанне.

| | | | |
|---|---|---|---|
| *першы* | *адзінаццаты* | — | *соты* |
| *другі* | *дванаццаты* | *дваццаты* | *двухсоты* |
| *трэці* | *трынаццаты* | *трыццаты* | *трохсоты* |
| *чацвёр-ты* | *чатырнаццаты* | *саракавы* | *чатырох-соты* |
| *пяты* | *пятнаццаты* | *пяцідзясяты* | *пяцісоты* |
| *шосты* | *шаснаццаты* | *шасцідзясяты* | *шасцісоты* |
| *сёмы* | *сямнаццаты* | *сямідзясяты* | *сямісоты* |
| *восьмы* | *васямнаццаты* | *васьмідзясяты* | *васьмісоты* |
| *дзявяты* | *дзевятнаццаты* | *дзевяносты* | *дзевяцісоты* |
| *дзясяты* | | | |



Парадкавыя лічэбнікі, якія заканчваюцца на *-тысячны, -мільённы, -мільярдны,* пішуцца ў адно слова: ***сямітысячны, пяцімільённы, шасцімільярдны, 25-тысячны, 700-мільённы.***

**330.** Прасклaняйце (вусна): *дзявяты клас, трыццаць сёмы кіламетр.*

Утварыце парадкавыя лічэбнікі ад колькасных: 1, 3, 15, 70, 200, 600, 100 000, 100 000 0000. Запішыце іх.

У з о р: *дзесяць тысяч — дзесяцітысячны.*

**331.** Спішыце тэкст, замяняючы ў ім лікі словамі. Вызначце род, лік і склон парадкавых лічэбнікаў.

На небасхіле беларускай філалогіі* 60—70-х гадоў XIX стагоддзя імя І. Насовіча ззяе яркай зоркай першай велічыні. У гісторыю духоўнай культуры беларусаў І. Насовіч увайшоў як першы буйны фальклярыст і лексікограф. Яго па праву можна назваць з'явай фенаменальнай*.

Нарадзіўся Іван Іванавіч Насовіч у 1788 годзе ў в. Гразівец Быхаўскага раёна Магілёўскай губерні.

У шматграннай дзейнасці І. Насовіча асобае месца займае «Словарь белорусского наречия», якому ён аддаў 30 гадоў свайго жыцця. У слоўнік увайшло звыш 30 000 слоў, якія даволі поўна адлюстравалі жывую беларускую мову сярэдзіны XIX стагоддзя *(І. Ціішчанка).*

**332.** Прачытайце. На чым пабудаваны жарт? Назавіце фразеалагізм, у склад якога ўваходзяць лічэбнікі.

Бабуля:

— Саша, схадзі ў магазін. Ды хутка: адна нага тут, другая — там!

Саша:

— Добра, схаджу.

Бабуля:

— Ты чаму абуў чаравік толькі на адну нагу?

Саша:

— Навошта абуваць другую, калі яна будзе тут?

**333.** Прыдумайце і запішыце жарт-дыялог, пабудаваны на неразуменні значэння фразеалагізма або слова.

**334.** Напішыце словамі дату нараджэння кожнага члена вашай сям'і.

**335.** Паглядзіце на гадзіннік і скажыце, колькі гадзін будзе праз: 2 гадзіны, 5 гадзін, 7 гадзін, 10 гадзін.

**336.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Якую ролю ў гэтым стылі адыгрываюць колькасныя лічэбнікі? Выпішыце словазлучэнні колькасных лічэбнікаў з назоўнікамі (лікі запішыце словамі). Перабудуйце іх у словазлучэнні «парадкавы лічэбнік + назоўнік».

Вядома, што ласосі, асятры, бялугі пакідаюць у пэўны час глыбіні мораў, збіраюцца чародамі і плывуць у рэкі. Яны падымаюцца да іх вярхоўяў, дзе адкладваюць ікру.

Вугры ж, наадварот, збіраюцца ў чароды, мяняюць свой звычайны цёмны, рачны колер на марскі, серабрысты і плывуць у глыбіню акіяна. Праплыўшы амаль 7000 кіламетраў, яны дасягаюць месца нерасту — Саргасава мора. Там адкладваюць ікру і гінуць.

Лічынкі, якія выйшлі з ікрынак, падымаюцца ў верхнія слаі вады і там падхопліваюцца цячэннем Гальфстрым. І толькі праз 3 гады яны з'яўляюцца ля берагоў Еўропы. За 1 год лічынкі праплываюць 1800 кіламетраў і вырастаюць да 3 сантыметраў, а к канцу шляху — да 8 сантыметраў. Цяпер яны ідуць у вярхоўі рэк, якія пакінулі іх бацькі.

Але не ўсе вугры ідуць у мора на нераст. Некаторыя застаюцца жыць у рэках, і тады яны вырастаюць да 2 метраў і важаць каля 12 кілаграмаў.

**337.** Прачытайце. Вызначце разрад лічэбнікаў паводле значэння і складу.

Першым слова ўзяў алімпійскі чэмпіён Валерый Барзоў:

— Добры дзень, сябры! Мы прыйшлі прывітаць вас, юная змена. Цудоўны ў вас дэвіз: «Алімпійцы сярод нас!» Добра, што вы марыце пра алімпійскія вышыні. Ды хіба ж можна ў жыцці без мары?

Сваю мару я здзейсніў на XX Алімпійскіх гульнях, якія праходзілі ў Мюнхене ў 1972 годзе. Я перамог у бегу на 100 і 200 метраў. А калі быць дакладным, я прабег 100 метраў у фінале за 10,4 секунды. А пачаў я займацца лёгкай атлетыкай у 12 гадоў.

Спорт — гэта культура цела, розуму, паводзін... Я перакананы, што ў школьныя гады на першым месцы павінны быць вучоба і спорт. Толькі перад усебакова развітым, адукаваным чалавекам скараюцца самыя дзёрзкія мары *(М. Зарэмба)*.

Выпішыце словазлучэнні лічэбнікаў з назоўнікамі.



**338.** Напішыце сачыненне-разважанне на тэму «Спорт — гэта культура цела, розуму, паводзін».

## Марфалагічны разбор лічэбніка

П а р а д а к   р а з б о р у

1. Часціна мовы.
2. Пачатковая форма (назоўны склон).
3. Разрад паводле значэння: колькасны (абазначае цэлы лік, дробавы, зборны) або парадкавы.
4. Разрад паводле складу: просты, складаны або састаўны.
5. Марфалагічныя прыметы: род (калі ёсць), лік (калі ёсць), склон.
6. Сінтаксічная роля.

Узор разбору
колькаснага лічэбніка

*На горцы пясчанай* ***сем*** *сосен шырока выносяць галіны* (Я. Колас).

***Вусны разбор***

*Сем* — лічэбнік; пачатковая форма — *сем*; колькасны, абазначае цэлы лік; просты; ужыты ў назоўным склоне; у сказе — у саставе дзейніка *сем сосен.*

***Пісьмовы разбор***

*Сем* — лічэбнік; *сем*; колькасны, цэлы лік; прост.; у Н. скл.; у саставе дзейніка.

Узор разбору
парадкавага лічэбніка

***На шаснаццатым*** *годзе Алесь пачаў надзіва цішэць і расці* (Я. Брыль).

***Вусны разбор***

(На) *шаснаццатым* (годзе) — лічэбнік; пачатковая форма — *шаснаццаты*; парадкавы; просты; ужыты ў мужчынскім родзе, адзіночным ліку, месным склоне; дапасуецца да назоўніка — *годзе*; у сказе — у саставе акалічнасці *на шаснаццатым годзе.*

***Пісьмовы разбор***

(На) *шаснаццатым* — лічэбнік; *шаснаццаты*; парадкавы; прост.; у муж. р., адз. л., М. скл.; у саставе акалічнасці.

**339.** Прачытайце тэкст. Што перадае загаловак: тэму ці асноўную думку? Як можна назваць тэкст, каб ён перадаваў тэму і асноўную думку?

Зрабіце марфалагічны разбор двух колькасных і двух парадкавых лічэбнікаў вусна і пісьмова.

**Пасадзі дрэва!**

Такая традыцыя вось ужо амаль трыццаць гадоў існуе ў Задарожскай сярэдняй школе.

Прыходзяць вучні і ў першую школьную восень садзяць дрэвы. І не дзе-небудзь, а ў батанічным садзе. Ёсць такі непадалёку ад вёскі.

Першыя дрэвы падняліся тут яшчэ ў пяцідзясятыя гады. І з таго часу жыве гэта добрая традыцыя. Батанічны — значыць незвычайны. Расце тут больш за 60 відаў дрэў. Нямала з іх рэдкіх парод.

І кожную з іх школьнікі навучацца вызначаць. Не раз пабываюць яны тут на экскурсіі або ў час летняй працоўнай чвэрці.

Сад вялікі, раскінуўся на плошчы каля трох гектараў. Патрабуе гаспадарскага дагляду. І вядома ж, школьны батанічны — сапраўдная капілка ведаў. Восенню і вясной у ім часта праводзяцца ўрокі біялогіі. А вяскоўцы любяць бавіць тут свой вольны час.

Шуміць сад, падрастаюць школьнікі, і з кожным годам мацнее добрая традыцыя *(Бярозка)*.

⊙ Ці ёсць у вашай школе традыцыі? Раскажыце пра адну з іх. Калі яна ўзнікла? Ад каго і калі вы пра яе даведаліся? Чым яна вам падабаецца? Які ўдзел у правядзенні традыцыйных свят (мерапрыемстваў) прымае ваш клас, вы асабіста?

**340.** Прачытайце тэкст. Да якога тыпу ён належыць? Абгрунтуйце сваю думку. Падзяліце тэкст на часткі ў адпаведнасці з кампазіцыйнай схемай гэтага тыпу. Складзіце складаны план і напішыце падрабязны пераказ.

## Верны

На дзясяткі кіламетраў раскінуліся хвойныя лясы вакол возера Палік. Тут у вайну была партызанская зона.

Група разведчыкаў накіравалася да вёскі Люцец. Ні адной хаты, ні аднаго жывога чалавека. Адно маўкліва тырчалі пячныя трубы. І раптам да людзей кінуўся сабака — звычайны рыжы дварняк. Ён віляў хвастом, быццам прасіў ісці за ім.

Разведчыкі падаліся за сабакам і выйшлі на паляну. У зялёнай траве ляжала дзяўчынка ў блакітнай сукенач-

цы. Відаць, малая і сабака ўцякалі з падпаленай вёскі, але куля дагнала дзяўчынку. І вось сабака, верны сябар, не пакідае яе, не верыць у яе смерць. Шмат чаго бачылі за гады вайны разведчыкі, але не маглі стрымаць слёз. За што аднялі жыццё ў гэтай дзяўчынкі?

Пахавалі дзяўчынку пад маладой сасной, сталі клікаць сабаку, але той ні за што не хацеў пакідаць палянку.

Цераз двое сутак партызаны зноў ішлі тымі мясцінамі. Заглянулі на паляну. Ля магільнага бугарка ляжаў сабака. Ён пазнаў людзей, вільнуў хвастом, але з месца не сышоў.

Партызаны далі яму кусок хлеба. Сабака з'еў яго і нехаця паплёўся за разведчыкамі. Час ад часу ён аглядаўся назад, спыняўся.

Сабака астаўся ў атрадзе. Напэўна, зразумеў, што не будзе болей у яго маленькай гаспадынькі.

Партызаны далі яму імя Верны *(Л. Карніенка)*.



**341.** Спішыце тэкст, замяняючы лікі словамі. Вызначце склон лічэбнікаў.

### Колькі жывуць дрэвы

Многія дрэвы жывуць значна больш, чым самыя даўгавечныя жывёлы. Груша і вішня жывуць 300 гадоў, ядловец — да 500, елка і хвоя — да 1000. Дуб можа пражыць больш за 400 гадоў. У гарах Каўказа расце ціс — паўднёвае хвойнае дрэва. Некаторым дрэвам гэтай пароды да 2000 гадоў. Ёсць старэйшыя. Родзіч нашага ядлоўцу — кіпарыс, ён можа пражыць да 4—5 тысяч гадоў. Асобныя экзэмпляры паўночнаамерыканскага хвойнага дрэва секвоі дажываюць да 7000 гадоў. Гэтыя гіганцкія дрэвы вышынёй да 150 метраў маюць у дыяметры сем-восем метраў. На пні аднаго такога дрэва была зроблена танцавальная пляцоўка, на якой лёгка размяшчаўся аркестр і больш за 20 пар танцораў. А аўстралійскі эўкаліпт і таго вышэйшы. Ён і расце вельмі хутка: за год — 2,5—3 метры *(П. Рунец)*.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Якія з прапанаваных слоў з'яўляюцца лічэбнікамі?

В а р ы я н т 1. Двойка, тысяча, пяць, двойчы, пяцёра, восьмы, сотня, упяцёх, паўтара.

В а р ы я н т 2. Тройка, мільён, сем, тройчы, шасцёра, дзясяты, сотка, утрох, паўтары.

2. Што абазначаюць колькасныя лічэбнікі? Прывядзіце прыклады. Што абазначаюць парадкавыя лічэбнікі? Прывядзіце прыклады.

3. Падкрэсліце лічэбнікі, якія змяняюцца толькі па склонах. Праскланяйце адзін з іх.

В а р ы я н т 1. Шэсць, адзін, адзінаццаць, восьмы, чацвёра, дваццаць шосты.

В а р ы я н т 2. Сем, два, трынаццаць, дзясяты, сямёра, трыццаць пяты.

4. Прывядзіце прыклады лічэбнікаў, якія маюць адну аснову (в а р ы я н т 1), дзве асновы (в а р ы я н т 2)?

5. Напішыце словамі па два прыклады састаўных лічэбнікаў наступнай будовы.

В а р ы я н т 1.

а) просты лічэбнік + просты;
б) складаны лічэбнік + складаны;
в) складаны лічэбнік + просты + просты.

В а р ы я н т 2.

а) просты лічэбнік + просты + просты;
б) складаны лічэбнік + просты;
в) складаны лічэбнік + складаны + просты.

6. Запішыце лічэбнікі, у якіх мяккі знак пішацца на канцы (в а р ы я н т 1), у сярэдзіне слоў (в а р ы я н т 2).

7. Запішыце 3—4 лічэбнікі, якія скланяюцца, як назоўнікі 3-га скланення з мяккай асновай. Праскланяйце адзін з іх (в а р ы я н т 1).

Запішыце 3—4 лічэбнікі, у якіх у творным склоне перад канчаткам пішацца ***цц***. Праскланяйце адзін з іх (в а р ы я н т 2).

8. Якія лічэбнікі маюць толькі адну склонавую форму? Запішыце гэтыя лічэбнікі (в а р ы я н т 1). Якія лічэбнікі маюць дзве склонавыя формы? Запішыце формы гэтых лічэбнікаў (в а р ы я н т 2).

9. З назоўнікамі якога роду спалучаецца лічэбнік *паўтара*? Прывядзіце прыклады і праскланяйце іх (в а р ы я н т 1). З назоўнікамі якога роду спалучаецца лічэбнік *паўтары*? Прывядзіце прыклады і праскланяйце іх (в а р ы н т 2).

10. Як скланяюцца дробавыя лічэбнікі?

В а р ы я н т 1. Запішыце словамі лічэбнікі $\frac{2}{7}$, $\frac{5}{8}$ і праскланяйце адзін з іх.

В а р ы я н т 2. Запішыце словамі лічэбнікі $\frac{3}{4}$, $\frac{7}{9}$ і праскланяйце адзін з іх.

11. У якіх складаных лічэбніках скланяюцца абедзве часткі слова?

В а р ы я н т 1. Праскланяйце лічэбнікі *шэсцьдзясят, пяцьсот, трыста*.

В а р ы я н т 2. Праскланяйце лічэбнікі *пяцьдзясят, шэсцьсот, чатырыста*.

12. З якімі назоўнікамі спалучаюцца зборныя лічэбнікі? Прывядзіце прыклады.

# ЗАЙМЕННІК

## § 49. Займеннік як часціна мовы

**342.** Прачытайце паданне, якое запісаў А. Гурскі.

Даўным-даўно ў адной з нарачанскіх вёсак жылі чароўная дзяўчына Галя і прыгожы юнак Васіль. Моцна кахалі **яны** адзін аднаго. Хлопец — майстар-штукар. **Ён** зрабіў незвычайнае люстэрка і падарыў **яго сваёй** каханай. Толькі нядоўга былі шчаслівыя Васіль і Галя. Ненавісны багацей захацеў завалодаць прыгажуняй. На выручку дзяўчыне прыйшоў Васіль. **Ён** вызваліў каханую, але ў няроўнай сутычцы загінуў і **сам**. Гэта бачыла Галя. **Яна** страціла прытомнасць і выпусціла з рук люстэрка. На часткі разбілася **яно**. А на месцы, дзе ўпалі сярэбраныя асколкі, утварылася возера. З **тае** пары дзяўчына крылатай чайкай кружыць над Нараччу і спявае для любага **свае** песні *(З падання)*.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія словы ў тэксце замяняюць назоўнікі *дзяўчына, юнак, хлопец, люстэрка, Васіль, Галя*?
2. Выдзеленыя словы называюць канкрэтны прадмет, прымету ці толькі ўказваюць на іх?
3. Ці можна вызначыць, на што ўказваюць выдзеленыя словы без папярэдніх сказаў?

**Займеннік** — самастойная часціна мовы, якая ўказвае на прадметы, прыметы прадметаў, колькасць, не называючы іх: *Наступіла вясна. **Яна** адразу ўсміхнулася сонечнымі дзянькамі. Не за **сваю** справу не бярыся. Давялося чакаць **некалькі** хвілін.*

Займеннікі атрымліваюць у сказе значэнне таго слова, якое замяняюць: *Плыве ракою наша мова, **яе*** (мову) *не зробіш ручаём* (М. Лужанін).

**343.** Спішыце тэкст. Падкрэсліце ў ім займеннікі. Замест якіх слоў яны ўжыты?

Ні адзін сейбіт не кіне зерне ў непадрыхтаваную глебу. І душу, каб у ёй прараслі зерні дабрыні, трэба падрыхтаваць. Трэба навучыць яе адчуваць. Душа чалавека мудрэйшая за розум яго. Чалавек меў пачуцці яшчэ да таго, як навучыўся выказваць іх словамі. І дзіця спачатку спасцігае свет з дапамогаю пачуццяў. Яно ўлоўлівае пяшчоту ў голасе маці, у кожным яе дотыку *(В. Вітка)*.

**344.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Каб пазбегнуць частага ўжывання аднакаранёвых слоў, замяніце асобныя назоўнікі займеннікамі ***яны, свае***.

За вёскай на старой бярозе вяліся буслы. З выраю буслы звычайна прылятаці ў красавіку, прыносячы да нас на бусліных крылах вясну. Буслы рабілі над вёскай некалькі кругоў, нібы аглядалі, ці не змянілася тут што-небудзь за зіму, потым садзіліся на бярозу, рамантавалі гняздо, у якім выводзілі і гадавалі буслянят *(Паводле В. Вольскага)*.

● Перакажыце тэкст з ужываннем займеннікаў.

У сказе займеннікі выступаюць у ролі розных членаў сказа:

**дзейніка:** *Не шукай* ***ты*** *шчасця-долі на чужым далёкім полі* (Я. Купала). ***Нехта*** *спяшаецца дадому*;

**дапаўнення:** ***Нам*** *без трывог не зберагчы жыцця. Сябры, давайце хваляваца за* ***ўсіх*** *і* ***ўсё:*** *за зерне і дзіця* (П. Панчанка);

**азначэння:** *У* ***кожнай*** *школе складаецца* ***свая*** *казка, у* ***кожнай*** *школе гарыць* ***свой*** *агеньчык* (В. Вітка);

**выказніка:** *Гэты бераг* ***наш*** *спрадвеку*;

**акалічнасці:** *Рэчы жанчына трымала* ***каля сябе.***

Пачатковай формай займеннікаў (акрамя займенніка ***сябе***) з'яўляецца назоўны склон адзіночнага ліку. Займеннік ***сябе*** не мае формы назоўнага склону.

**345.** Спішыце. Падкрэсліце займеннікі. Вызначце іх пачатковую форму і сінтаксічную ролю ў сказе.

Мы хочам, каб у нашай краіне, ва ўсіх яе гарадах і вёсках, былі прыгожыя кветкі, сады і паркі, каб людзі дыхалі чыстым, здаровым паветрам. Для таго каб быць сапраўдным гаспадаром, трэба не толькі любіць прыроду сваёй Радзімы, але і добра ведаць яе, разумець тое, што яна патрабуе клапатлівых адносін да сябе *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

Займеннікі паводле значэння падзяляюцца на дзевяць разрадаў:

1) асабовыя: ***я, мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны***;
2) зваротны: ***сябе***;
3) прыналежныя: ***мой, наш, твой, ваш, свой, іхні***;
4) указальныя: ***гэты, той, такі, гэтакі, столькі, гэтулькі***;
5) азначальныя: ***сам, самы, увесь, усякі, кожны, іншы, усе***;
6) пытальныя: ***што? хто? які? каторы? чый?***;
7) адносныя: ***хто, што, які, каторы, чый***;
8) адмоўныя: ***ніхто, нішто, нічый, ніякі***;
9) няпэўныя: ***нехта, нешта, нейкі, хтосьці, штосьці, якісьці, чыйсьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, чый-небудзь.***

**346.** Прачытайце верш. Знайдзіце ў ім займеннікі, вызначце іх разрад.

### Цябе мы назвалі Радзімай

Дзе рэчкай, дзе борам, дзе лугам
Ты вабіш сабою здаля,
Зямля між Дняпром і між Бугам,
Спрадвечная наша зямля.

Цябе мы назвалі Радзімай
Не годам раней, не двума,

Не годам-двума прынялі мы
Тваё дарагое імя.

З тых дзён і па сёння прадвеснем
Па нівах і ціхіх гаях
Гучыць твая звонкая песня,
Пявучая мова твая.

І нам нездарма аддавалі,
Як скарб запаветны зямлі,
Каб мы — праз вякі шанавалі,
Каб мы — праз вякі берaглі.

Калі ж гэты скарб чужаніца
Панішчыць захоча ў агні,
Каму ж, як не нам, заступіцца,
Каму ж, як не нам, бараніць!

*А. Бачыла*



**347.** Спішыце. Падкрэсліце ў тэксце займеннікі.

Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай.
Я не нахлебнік твой. Я на зямлю
Не для таго прыйшоў, каб жменяй поўнай
Уцехі браць. Я — аддаваць люблю.

*Н. Гілевіч*

## § 50. Апавяданне і асаблівасці разгортвання думкі ў ім

**Апавяданне** — тып тэксту, у якім паведамляецца пра дзеянні і падзеі, што разгортваюцца паступова.

Тэкст тыпу апавядання звычайна мае ***пачатак***, або ***зачын***, ***сярэднюю частку*** і ***канцоўку***.

У апавядальных тэкстах сюжэтнага характару кампазіцыйная схема выглядае так: завязка → развіццё дзеяння (кульмінацыя) → развязка.

**348.** Прачытайце абразок.

Каля вёскі Забалацце, што на Уздзеншчыне, выбілася з-пад вярбы крынічка. Вада ў ёй была халодная, як лёд, а чыстая, як раса. Вада ўсё прыбывала, аж пакуль не пабегла па дзвюх ручаінах. Кажуць, што так нарадзіліся рэкі Нёман і Лоша.

Нёман паводзіў сябе, як шчыры і дужы хлапец, а Лоша — як ціхая і хітраватая дзяўчына. І сказаў Нёман аднойчы Лошы:

— Раздолля трэба мне, волі захацелася. Буду прабівацца да мора.

Нічога не адказала Лоша, толькі надумалася бегчы адна да мора. Пакуль не развіднела, яна ціхенька ўстала і пабегла па нізінах ды па далінах да мора.

Прачнуўся Нёман, угледзеў, што Лошы няма, і кінуўся наўздагон, не разбіраючы дарогі.

З таго часу так і ляціць, спяшаецца магутны і шырокі Нёман, а Лоша плыве ціха, хаваецца ды туляецца па кустах і нізінах *(З падання)*.

У тэксце можна вылучыць некалькі момантаў. Калі даць ім назву, то атрымаецца прыкладна такі план апавядання:

1. Вытокі Нёмана і Лошы.
2. Нёман-хлапец і Лоша-дзяўчына.
3. Навыперадкі да мора.
4. Няспынны шлях дзвюх рэк.

Зачынам гэтага тэксту з'яўляецца першы абзац. Ён — пачатак дзеяння (яго завязка) і адпавядае першаму пункту плана. Два наступныя пункты плана трэба звязваць з працягам дзеяння, развіццём думкі пра неаднолькавыя паводзіны рэк. Кульмінацыйны момант развіцця дзеяння — перадапошні абзац. *(Прачнуўшыся, Нёман не ўбачыў Лошы.)*

Апошні абзац тэксту — гэта канец развіцця падзеі, яе развязка.

**349.** Прачытайце народнае паданне. Вызначце тып тэксту.

У старадаўнія часы воўк, сабака, кошка і мыш жылі між сабою дружна, не былі ворагамі, адзін за аднаго стаялі і ні ў чым патрэбы не мелі.

Раз ваўку давялося некаторы час пагаладаць: не было харчоў. І паклапаціўся ён, каб яму выдалі грамату на свабоднае выпрошванне хлеба па вёсках. З гэтай граматай воўк і пайшоў жабраваць.

Па дарозе яму прыйшлося пераходзіць па кладцы цераз нейкую рачулку, і ён па неасцярожнасці зваліўся ў ваду і так замачыў сваю грамату, што яе немагчыма было разгарнуць, не прасушыўшы. Дабег воўк да бліжэйшай вёскі, ускочыў у першую хату, папрасіў там гаспадарскага сабаку высушыць прамоклую грамату, а сам, таксама мокры, пайшоў сушыцца ў ёўню*. Сабака як мага асцярожна разаслаў грамату на градцы і, сам не маючы часу, даручыў кошцы перадаць гэтую паперу ваўку, калі ён па яе не прыйдзе.

Між тым кошка заснула, прасохлая грамата ўпала з градкі і трапіла ў зубы мышцы, што тут якраз прабягала. Тая, не ведаючы, што гэта за папера, згрызла яе амаль усю.

Калі воўк даведаўся пра ўсё, дык пачаў лаяць сваіх сяброў. Ніхто з іх не хацеў прызнаваць сябе вінаватым, і яны ўсе паміж сабою пасварыліся. Воўк быў у роспачы, бо больш чым адну грамату яму не маглі даць. Завыў ён, бедны, немым голасам і злосна накінуўся на сабаку, які ледзь вырваўся.

Тады сабака ў злосці кінуўся на кошку і не выпусціў яе з лап, пакуль не пакусаў дашчэнту.

Тут кошка накінулася на мыш, галоўную віноўніцу воўчага няшчасця.

З таго часу і вядзецца ўзаемная варожасць і нянавісць між ваўком, сабакам, кошкай і мышкай.

- Знайдзіце ў тэксце зачын. Зачытайце яго.
- У якім абзацы гаворыцца пра завязку падзей? Зачытайце.
- Знайдзіце радкі, у якіх тое, пра што расказваецца ў тэксце, дасягае найбольшага напружання (кульмінацыі).

● Зачытайце радкі, у якіх паказана развязка падзей.

● Ці ёсць у тэксце заключны абзац?

● Знайдзіце ў тэксце апорныя дзеяслоўныя словазлучэнні, на аснове якіх паступова развіваецца дзеянне да самага напружанага моманту: *выдалі грамату — пайшоў жабраваць, зваліўся ў ваду...*

● Падрабязна раскажыце, што адбылося пасля таго, як воўк даведаўся пра сваю страту. У пераказе захоўвайце паслядоўнасць дзеянняў, якую можна падкрэсліць словамі *тады, пасля, тут, з таго часу.*



**350.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Дайце яму загаловак. Падзяліце тэкст на часткі. Складзіце просты план тэксту.

— Гляньце, бабулька, які сабака! — паказваў унук пальчыкам.

Бабуля зірнула туды і, абапіраючыся на даўно-даўно недзе падабраны кіёк, пайшла на здаравеннага сабаку. Ён стаяў нерухома, бы пень, і глядзеў на маленькіх грыбнікоў.

Бабуля закрычала:

— Вон адсюль! Пайшоў туды, адкуль прывалокся!

Той крутнуўся на месцы, падтуліў хвост і патрухаў у хмызняк.

Па тым, як устрывожылася бабуля і рашуча праганяла сабаку, дзеці здагадаліся. Гэта быў не сабака. Яны знямелі і глядзелі туды, куды пабег воўк.

Увечары грыбнікі расказвалі і расказвалі пра ваўка. А яшчэ больш гаварылі пра сваю смелую бабулю. Нават вялікі воўк яе збаяўся або паслухаўся *(Паводле Ф. Янкоўскага).*

## § 51. Складаны план

Складаны план адрозніваецца ад простага тым, што асобныя яго пункты маюць падпункты. Гэта бывае, калі, складаючы план, вылучаюць вялікую частку тэксту, з якой выдзяляюць некалькі меншых. Як і ў простым плане, пункты складанага могуць мець форму пытанняў, кароткіх апавядальных сказаў.

Тэкст Я. Сіпакова (практ. 351), напрыклад, будзе адпавядаць такому складанаму плану:

1. Спрачаюцца пра сённяшнюю вёску.
2. Пачынаюць здзекавацца і са святога.
3. Сёння трэба пакланяцца:
   а) закінутай сяўні,
   б) забытаму цэпу,
   в) дзяжы ў хаце,
   г) печы, якая ўсіх карміла.

**351.** Прачытайце.

Спрачаюцца, якая патрэбна сёння вёска. Цагляная, з дамамі-небаскробамі, ці ўсё тая зялёная, аднапавярховая, з пеўнямі, якія прахопліваюцца штораніцы, лопаюць крыламі і крычаць: «Не праспаў! Не праспаў!» У запале спрэчкі некаторыя нават пачынаюць здзекавацца з таго святога, што спрадвеку цярпліва служыла селяніну, карміла яго і апранала. А мне здаецца, што мы павінны, як некалі нашы продкі, пакланяцца сёння —

і закінутай некуды старой сяўні*, якая беражліва рассявала па святой раллі* буйныя зярняты жыта ці ячменю;

і забытаму, пачарнеламу цэпу*, які адзін настойліва і паспяхова замяняў і складаную малатарню, і цэлы завод на полі — камбайн;

і дзяжы, якая ў дні голаду берагла макулінку* рошчыны* і заўсёды аставалася ў хаце як нейкі выклік, нейкая пагроза голаду;

і печы, гэтай нястомнай працаўніцы, якая чарнела адна на папялішчы ў грозныя часіны пажараў і войнаў і ўсё роўна спраўна рабіла звыклую работу *(Паводле Я. Сіпакова).*

● Прачытайце радкі, якія адпавядаюць а) першаму пункту плана, б) другому пункту плана.

● Як вы разумееце, што сёння трэба пакланяцца а) закінутай сяўні, б) забытаму цэпу, в) дзяжы ў хаце, г) вясковай печы?

● Перачытайце тэкст практ. 351. Складзіце складаны план. Перакажыце тэкст па плане.



**352.** Прачытайце ўважліва тэкст.

Мы рабілі ўсё, што маглі, але агонь не сціхаў. Моцны вецер падхопліваў кавалкі сухой драўніны, перакідваў іх у лес. Макаед на сваім вяку гасіў не адзін пажар. Бачыў усякае, але такой вялікай бяды не здаралася.

— Застаецца адно — пусціць сустрэчны пал, — сказаў Макаед. — Толькі так можна спыніць агонь.

Блізка ад мяне працаваў дванаццацігадовы Рыгорка, сын лесніка. Мы з ім рыхтавалі сухое ламачча, каб пусціць сустрэчны агонь.

— Дзядзька! — пачуў я раптам голас Рыгоркі. — Хутчэй сюды!

— А што такое?

— Тут птушка!

Падобная на хатнюю курыцу, шэрая цяцерка заўзята аддзірала кіпцюрамі верхні пласт сухога перагною. Цяцерка ратавала ад агню сваіх дзяцей! Яна паглыбляла равок, каб не пусціць агонь да гнязда.

— Трэба ёй дапамагчы! — сказаў Рыгорка.

— Можа, перанесці гняздо ў бяспечнае месца? — прапанаваў я.

— А ці паляціць за ім цяцерка?

— Разважаць няма калі.

Цяцерка пачала мітусліва кружыць. Яна ледзь не біла нас крыламі, пагрозліва шыпела. Птушаняты пішчалі. Я сам хацеў узяць гняздо, але не змог. Цяцерка зрабіла яго з сухой травы, што расла пад бярозкай, і яно было нібы прышыта да зямлі.

— Рыгорка, хутчэй рыдлёўку!

Мы зрэзалі тонкі пласт зямлі разам з гняздом. Недалёка была паляна, а за ёй — лес, якому пажар не пагражаў. Мы з Рыгоркам кінуліся туды. Я на рыдлёўцы нёс гняздо, а Рыгорка падтрымліваў яго, каб не ссунулася.

— Загінуць птушкі без мамкі, — пашкадаваў Рыгорка, калі мы ўладкавалі іх на новым месцы.

— Пачакай, можа, яшчэ прыляціць.

І сапраўды, праз некалькі хвілін мы ўбачылі нашу цяцерку.

Як мы ўзрадаваліся! А яна падляцела да нас і дзеўбанула Рыгорку ў патыліцу. Але хлопчык не пакрыўдзіўся. Зразумеў, што гэта ад трывогі і страху за дзяцей *(Паводле У. Мяжэвіча)*.

● Складзіце план тэксту. Падрыхтуйце вусны пераказ у адпаведнасці з планам.

## § 52. Змяненне займеннікаў, іх утварэнне і правапіс

**Займеннік** — зменная часціна мовы. Усе займеннікі

В. скл.

скланяюцца: У *садзе ёсць і паглядзець* ***на што,*** *ёсць*

В. скл. Т. скл.

*і пакаштаваць* ***што,*** *ёсць* ***чым*** *і паласавацца* (Б. Сачанка). Некаторыя займеннікі змяняюцца па родах і ліках: ***ён, яна, яно — яны; наш*** *(адказ)* — ***наша*** *(прапанова)* — ***нашы*** *(вывады);* ***увесь*** *(клас)* — ***уся*** *(школа),* ***усё*** *(грамадства)* — ***усе*** *(людзі).*

**353.** Вусна адкажыце на пастаўленыя пытанні.

1. Калі мы карыстаемся займеннікам ***я,*** а калі — займеннікам ***мы***?
2. Калі ў размове ўжываюць займеннік ***ты***, а ў якіх жыццёвых сітуацыях замяняюць яго займеннікам ***вы***?
3. На што могуць указваць займеннікі ***ён, яна, яно, яны***?

### Асабовыя займеннікі

Асабовыя займеннікі ***я, ты*** не маюць формаў роду, таму могуць быць аднесены да асоб мужчынскага і жаночага полу, як, напрыклад, у вершы В. Зуёнка:

Калі спрэчкі заходзяць,
Які будзе заўтрашні дзень,
Я кажу пры нагодзе:
— Такі, як у добрых людзей.

Так могуць сказаць мужчына і жанчына, хлопчык і дзяўчынка. Значэнне роду гэтых займеннікаў, як і ветлівага ***Вы***, выяўляецца формай выказніка, выражанага дзеясловам прошлага часу, або іншымі словамі ў тэксце. ***Я папрасіла*** *кнігу*. ***Я папрасіў*** *кнігу*. ***Ты*** *заўсёды дапамагаеш маме, бо* ***уважлівая*** *і* ***спагадлівая***. ***Вам*** *з Беларусі паклон,* ***ластаўка*** *роднага слова* (Я. Янішчыц).

**354.** Асабовыя займеннікі дапамагаюць вызначаць асобу дзеясловаў цяперашняга (будучага) часу пры іх спражэнні. Заўважце, як гэту моўную заканамернасць выкарыстаў паэт, расказваючы пра страты беларускага народа ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Растлумачце, чаму словазлучэнне *кожны чацвёрты* можна замяніць асабовым займеннікам і адзіночнага, і множнага ліку.

Не забываецца той урон,
не зарастаюць прагалы...
Дзеці, вы вывучылі ўрок?
Дзеці, вы праспрагалі?
*Я* іду,
*ты* ідзеш,
а *ён* не ідзе,
*ён* мёртвы.
*Я* пяю,
*ты* пяеш,
маўчыць кожны чацвёрты.
*Мы* ідзём,
ідзяце *вы*.
Грунт пад нагамі цвёрды.
*Яны* не ходзяць — не жывы
кожны чацвёрты.
Любім *мы*,
любіце *вы*.

Колькі травы,
ліствы,
сінявы! —
Хоць сэрца насцеж разгортвай.
А каб яшчэ ды быў жывы
кожны чацвёрты!

*А. Вярцінскі*

**355.** Разгледзьце табліцу скланення асабовых займеннікаў ***я, ты, мы, вы***. Якую асаблівасць змянення вы заўважылі?

| Склон | Адзіночны лік | | Множны лік | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *я* | *т-**ы*** | *м-**ы*** | *в-**ы*** |
| Р. | *мян-**е*** | *цяб-**е*** | *н-**ас*** | *в-**ас*** |
| Д. | *мн-**е*** | *таб-**е*** | *н-**ам*** | *в-**ам*** |
| В. | *мян-**е*** | *цяб-**е*** | *н-**ас*** | *в-**ас*** |
| Т. | *мн-**ой*** (*мн-**ою***) | *таб-**ой*** (*таб-**ою***) | *н-**амі*** | *в-**амі*** |
| М. | *(пры) мн-**е*** | *(пры) таб-**е*** | *(у) н-**ас*** | *(у) в-**ас*** |

**356.** Спішыце выдзеленыя часткі сказаў і асобныя сказы, займеннікі ***я*** і ***ты*** пастаўце ў патрэбным склоне.

1. **Як многа значыць — мець не толькі вёску ці горад, дзе *(ты)* знаёма кожная вуліца, кожны дом, дзе ты ўсё ведаеш і *(ты)* таксама ўсе ведаюць**, але мець яшчэ і сваіх людзей, быць сярод іх сваім чалавекам, адчуць, адкуль бы ты ні вярнуўся, **яны *(ты)* прымуць, памогуць** *(Б. Сачанка)*. 2. Ляжыш на пагорку і глядзіш у неба. **Над *(ты)* блакітная шырыня. Здаецца, матухна-зямля злёгку трымае *(ты)* за плечы** *(І. Грамовіч)*. 3. Вось як цяпер, **перада *(я)* устае куточак той прыгожа...** *(Я. Колас)*. 4. **Яшчэ многа прыйдзецца *(я)* зведаць, убачыць, і ў гэтым бясконцым пазнанні *(я)* чакае многа трывог і хвалявання...** *(Я. Брыль)*. 5. Мы ішлі па мяжы, і, хоць на ёй было вузка, **дзед вёў *(я)* за руку** *(Я. Брыль)*.

● Вызначце разрад займеннікаў, ужытых у сказах.

Займеннікі з прыназоўнікамі пішуцца а с о б н а: ***Каля іх*** *расце прыгожая бяроза.*

**357.** Параўнайце беларускія і рускія словазлучэнні, звярніце ўвагу на іх правапіс і ўжыванне прыназоўніка.

| | |
|---|---|
| звяртацца да іх | обращаться к ним |
| схіліцца перад ім | склониться перед ним |
| сустрэцца з ёю | встретиться с нею |
| спытаць у яго | спросить у него |

Калі займеннікі 3-й асобы ўжываюцца з прыназоўнікамі, да іх не дадаецца літара ***н***, як гэта адбываецца ў рускай мове: ***у яго, перад ім, да іх, з ёю.***

**358.** Перакладзіце на беларускую мову. Вызначце склон займеннікаў, назавіце іх пачатковую форму.

Проведать его, здороваться с ним, смеяться над нею, встретиться с вами, прийти к нам, рассказывать о вас, благодарить их, ожидать меня, провожать тебя, беречь память о них.

**359.** Прачытайце размову добра знаёмых дзяўчынак. Растлумачце, чаму адна з іх пакрыўдзілася.

— Прывітанне, дзяўчаткі! — крыкнула Тамара. — Як даўно мы не сустракаліся!

— У якой ты цяпер школе? — спытала Марына Алену.

— У дваццатай, што ў нашым мікрараёне. А ты дзе? Яна (паказала рукою на Тамару) неяк звaніла мне і нешта пра цябе расказвала. Дык як там у вас, здаецца, у лі-цэ-і?

— Цікава, вельмі цікава. Клас цудоўны.

— Няўжо?

— Я пайшла, — сказала пакрыўджаная Тома і хуценька пабегла.

Існуе этычнае правіла, якое не рэкамендуе ўжываць займеннікі ***ён, яна*** ў адносінах да тых, хто непасрэдна ўдзельнічае ў размове.



**360.** Спішыце. Займеннікі, што стаяць у дужках, пастаўце ў патрэбным склоне. Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

1. Вуліца Багдановіча, як для нашай імклівай сталіцы, вузкаватая. Па *(яна)* адзін пры адным цеснымі калонамі, двума радамі ў абодва бакі то ідуць, то **нясуцца** аўтамабілі, тралейбусы. Мноства машын. Не скрашваюць гэтай вуліцы ні нават сквер пры *(яна)*, ні **разнастайныя** надпісы.

2. Знаёмы **ляснік** прывёз у горад **кніжку**, паказвае *(я)* і кажа: «*(Вы)* прывёз. Яна даўняя, **старэнькая**».

Гартануў, агледзеў *(яна)*, даўнюю, з яшчэ больш даўнім тэкстам. Чыталі *(яна)* і пры лучыне, і пры лямпе, і пры электрычнай лямпачцы. Не хапае ў *(яна)* першых і апошніх лісткоў *(Ф. Янкоўскі)*.

## Зваротны займеннік

**Зваротны** займеннік ***сябе*** ўказвае, што аб'ектам дзеяння з'яўляецца той, хто яго і ўтварае, таму гэты займеннік не мае формы назоўнага склону, а таксама роду і ліку. Ён не можа быць дзейнікам у сказе і заўсёды выконвае ролю дапаўнення: *Не хвалі сам* ***сябе,*** *няхай людзі пахваляць* (Прыказка).

Скланяецца займеннік наступным чынам:

Н. —
Р. ***сябе***
Д. ***сабе***
В. ***сябе***
Т. ***сабой (сабою)***
М. *(пры)* ***сабе***

**361.** Перакладзіце на беларускую мову. Запішыце, займеннікі падкрэсліце.

1. Нет лучше шуток, чем над собою. 2. Я никак не мог прийти в себя после случившегося. 3. Не хвали себя, пусть лучше другие похвалят. 4. Ничего не сделается само собою. 5. С трудом пришлось пробивать себе дорогу. 6. Недавно я дал себе слово успешно окончить учебный год.

С л о ў н і к:
***шутка*** — *жарт;*
***случившееся*** — *здарэнне; тое, што адбылося;*
***успешно*** — *паспяхова.*

Сказанае па-руску *«Надо себя уважать»*, *«Дал себе слово»* у беларускай мове гучыць так: *«Трэба сябе паважаць»*, *«Даў сабе слова»*.

**362.** Спішыце фразеалагізмы, устаўляючы патрэбную літару ў зваротны займеннік. Растлумачце сэнс устойлівых выразаў.

У з о р. *Не памятаць сябе — не кантраляваць свае ўчынкі і паводзіны.*

Сам па с..бе, сам не ў с..бе, само па с..бе, само с..бой зразумела, сам с..бе, браць праз с..бе, прыйсці ў с..бе.

Д л я д а в е д к і: *хтосьці не можа валодаць сабой; апрытомнець; самастойна, незалежна ад чыёй-небудзь волі і жадання; не выклікае сумнення, пярэчання, не патрабуе тлумачэння; без ніякага ўздзеяння; адзін, без нікога; рабіць нешта вельмі цяжкае.*

З трыма фразеалагізмамі (на выбар) вусна складзіце сказы.

**363.** Адкажыце на пастаўленыя пытанні, ужываючы зваротны займеннік.

Ці выпісалі вы сабе дзіцячую газету або часопіс?
Ці набылі вы сабе арфаграфічны слоўнік беларускай мовы?
Ці рыхтуеце вы сабе снеданне або полудзень?
Што вы не можаце даравацъ сабе?

## Прыналежныя займеннікі

**Прыналежныя** займеннікі абазначаюць прыналежнасць 1-й асобе: ***мой, наш***; 2-й асобе: ***твой, ваш.***

Для абазначэння прыналежнасці 3-й асобе ўжываюць прыналежныя займеннікі ***іхні, ягоны*** і асабовыя займеннікі 3-й асобы ў родным склоне — ***яго, яе, іх***: ***іхнія*** *задумы,* ***ягоны*** *план,* ***яе*** *прапанова,* ***іх*** *школа.* Усе прыналежныя займеннікі адказваюць на пытанні чый? чыя? чыё? чые?

Займеннік ***свой*** указвае на прыналежнасць любой асобе адзіночнага або множнага ліку: *Я сустрэў* ***сваю*** *сястру. Маці паклікала* ***сваю*** *сястру. Яны дапамагалі* ***сваёй*** *сястры.*

**364.** Прачытайце словазлучэнні. Выпішыце ў два слупкі асобна словазлучэнні назоўніка з прыналежным займеннікам і словазлучэнні назоўніка з прыналежным прыметнікам.

Матчын падарунак, яе падарунак, братавы кнігі, ягоныя сшыткі, іхнія планы, птушыныя спевы, мае намеры, мядзведжы бярлог, вашы дамы, суседаў кот, наш клас, Алесеў аловак.

**365.** Разгледзьце табліцу скланення займеннікаў ***мой, маё, мая*** ў адзіночным і множным ліку.

| Склон | Адзіночны лік | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| | мужчынскі і ніякі род | жаночы род | для ўсіх родаў |
| Н. | *мой* *маё* | *мая* | *мае* |
| Р. | *майго* | *маёй* | *маіх* |
| Д. | *майму* | *маёй* | *маім* |
| В. | як Н. або Р. | *маю* | як Н. або Р. |
| Т. | *маім* | *маёй (ёю)* | *маімі* |
| М. | *(у) маім* | *(у) маёй* | *(у) маіх* |

Складзіце сказы, каб у іх ужываўся займеннік ***мой*** у Т. склоне, а займеннікі ***мая*** і ***мае*** — у Р. і М. склонах.

**366.** Праскланяйце пісьмова словазлучэнні *свая дзяржава, свае словы.*

У займенніках ***мой, твой, свой, маё, тваё, сваё*** ў р о д н ы м і д а в а л ь н ы м склонах адзіночнага ліку пішацца ***й***: *ма**й**го, тва**й**го, сва**й**го; ма**й**му, тва**й**му, сва**й**му* (параўн. у руск. мове: *моего, твоего, своего, твоему, своему*).

Займеннікі множнага ліку ў н а з о ў н ы м склоне маюць канчатак *-**е** (ма**е**, тва**е**, сва**е**)* і *-**ы** (наш**ы**, ваш**ы**)*.

**367.** Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову, запішыце іх. Падкрэсліце канчаткі займеннікаў.

Мои родители, наши классы, твоего совета, со своей собакой, ваши учебники, свои произведения.

Займеннікі ***вы, ваш*** выкарыстоўваюцца як ветлівая форма звароту і да адной асобы. Тады гэтыя займеннікі пішуцца з вялікай літары: *Дзякуй* ***Вам*** *за параду. Атрымалі* ***Вашы*** *дакументы.*

**368.** Прачытайце ліст Я. Купалы аўтару «Беларускай граматыкі» Б. Тарашкевічу. Звярніце ўвагу, як ён афармлены. Заўважце таксама ветлівыя формы звароту.

Вільня, 4. IX. 1913 г.

Дзядзька Тарас!

Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці штонебудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прыслаць яго нам, калі не, то будзьце такімі добранькімі і спрытнымі ды як хутчэй гэта зрабіце... Граматыку Вашу хоча Таварыства выдаць і пусціць у свет у «назіданіе» маладому беларускаму пакаленню... Чакаем хуткага ад Вас адказу.

Шчыра Вам аддадзены сакратар выдавецтва Ів. Луцэвіч.



**369.** Назавіце рэчы, назвы якіх можна спалучыць з займеннікамі ***мой*** і ***наш.*** Складзіце і запішыце сказы з атрыманымі словазлучэннямі. Пры гэтым майце на ўвазе, што прыналежныя займеннікі змяняюцца па родах, ліках і склонах.

## Указальныя займеннікі

Указальныя займеннікі ***гэты, той, такі, гэтакі,*** як і прыметнікі, маюць формы роду, змяняюцца па ліках і дапасуюцца да назоўнікаў.

| Склон | Адзіночны лік | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| | мужчынскі і ніякі род | жаночы род | для ўсіх родаў |
| Н. | *гэт**ы*** *гэт**а*** | *гэт**а*** | *гэт**ыя*** |
| Р. | *гэт**ага*** | *гэт**ай*** | *гэт**ых*** |
| Д. | *гэт**аму*** | *гэт**ай*** | *гэт**ым*** |
| В. | як Н. або Р. | *гэт**у*** | як Н. або Р. |
| Т. | *гэт**ым*** | *гэт**ай** (**аю**)* | *гэт**ымі*** |
| М. | *(у) гэт**ым*** | *(у) гэт**ай*** | *(у) гэт**ых*** |

| Склон | Адзіночны лік | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| | мужчынскі і ніякі род | жаночы род | для ўсіх родаў |
| Н. | ***той*** ***тое*** | ***тая*** | ***тыя*** |
| Р. | ***таго*** | ***той*** | ***тых*** |
| Д. | ***таму*** | ***той*** | ***тым*** |
| В. | як Н. або Р. | ***тую*** | як Н. або Р. |
| Т. | ***тым*** | ***той (ою)*** | ***тымі*** |
| М. | *(на)* ***тым*** | *(на)* ***той*** | *(на)* ***тых*** |

**370.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім указальныя займеннікі. На што яны ўказваюць?

1. У цэнтры плошчы, за трыбунай, горда ўзвышаўся гранітны абеліск, унізе абкладзены мноствам яловых вянкоў, на ўстойліва сакавітай зеляніне якіх гарэлі, змагаліся з марозам жывыя кветкі.

Гэты помнік з мясцовага граніту зроблены ўмелымі рукамі каменячосаў, пастаўлены тут на вечны ўспамін аб тых, чыёю крывёю акуплена жыццё іх сучаснікаў і нашчадкаў *(Я. Брыль)*.

2. Беларусы з павагай ставяцца да прадстаўнікоў розных культур. Гэта дае падставы спадзявацца, што з такой жа павагай апошнія будуць ставіцца да беларусаў *(«Звязда»)*.

**371.** Спішыце. Падкрэсліце прыналежныя і ўказальныя займеннікі, вызначце іх род, лік і склон.

Кнігі, кнігі!
Мой клопат, пакута мая!..
Той, у чыё сэрца ўвайшло
Хоць адзіным праменьчыкам
Ваша святло,
Каму ўліўся
Ваш неспакой,
Той не здрадзіць
Вялікаснай мары людской!
*Н. Гілевіч*

**372.** Назавіце ўказальныя займеннікі. Знайдзіце іх у тэксце. Растлумачце, на што яны ўказваюць і якую функцыю выконваюць.

Калі падумаеш глыбей, прыгледзішся больш уважліва і пільна, дык аказваецца, што Радзіма — гэта і тыя добрыя людзі, з якімі ты ступіў у жыццё, якія заўсёды гатовы прыйсці табе на дапамогу...

Радзіма — гэта і сонца ў цябе над галавой, і паветра, якім дыхаеш, гэта і вернасць твайго друга, і мова, якую

даў табе народ, і песня, што засталася ад прадзедаў. Гэта і тая сонечная дарога, якой сёння ты ідзеш у будучыню. І вось чаму кожны чалавек без сваёй Радзімы — нішто. Без Радзімы няма чалавека, няма жыцця. І вось чаму так радасна б'ецца ў кожнага сэрца, калі ён чуе пра славу і поспехі свайго роднага краю *(Паводле К. Кірэенкі)*.

● Вызначце стыль тэксту. Абгрунтуйце сваю думку.

**373.** Перакладзіце на беларускую мову. Падкрэсліце ў тэксце перакладу займеннікі. Вызначце іх разрад.

Человеку важно знать свои корни — отдельному человеку, семье, народу. Тогда и воздух, которым мы дышим, будет целебен и вкусен, дороже будет взрастившая нас земля и легче будет почувствовать назначение и смысл человеческой жизни. Давайте же будем помнить об этих корнях! *(В. Песков)*.

С л о ў н і к:
*Взрастившая нас земля* — ***зямля, якая нас узгадавала.***



**374.** Прачытайце тэкст. Адкажыце на пастаўленыя ў ім пытанні. Растлумачце, чаму сказ, які пачынаецца ўказальным займеннікам, выдзелены ў асобны абзац.

Ці добра мы, зямляне, ведаем сваю Зямлю, якая дала нам жыццё, корміць нас, дае ўсё неабходнае для нашага існавання? Ці добра мы ахоўваем нашу прыроду? На колькі гадоў хопіць нам прыродных рэсурсаў, багаццяў зямлі пры такім развіцці тэхнікі? Як захаваць усё тое, што дала нам прырода не толькі для нас, але і для будучых пакаленняў людзей? Як выратаваць нам агульначалавечы дом, нашу адзіную Зямлю ад атамнай катастрофы?

Гэтыя трывожныя пытанні ўсё часцей узнікаюць перад кожным чалавекам *(Р. Гарэцкі)*.

Назавіце займеннікі іншых разрадаў, вызначце іх склон, сінтаксічную ролю ў сказах.

## Азначальныя займеннікі

Займеннік ***сам*** змяняецца не толькі па родах і ліках, але і скланяецца наступным чынам:

| Склон | Адзіночны лік | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| | мужчынскі і ніякі род | жаночы род | для ўсіх родаў |
| Н. | *сам* *сам-**ó*** | *сам-**á*** | *сáм-**і*** |
| Р. | *сам-**óга*** | *сам-**óй*** | *сам-**íх*** |
| Д. | *сам-**óму*** | *сам-**óй*** | *сам-**íм*** |
| В. | як Н. або Р. | *сам-**ýю*** | як Н. або Р. |
| Т. | *сам-**íм*** | *сам-**óй** (**óю**)* | *сам-**íмі*** |
| М. | *(пры) сам-**íм*** | *(пры) сам-**óй*** | *(пры) сам-**íх*** |

**375.** Разгледзьце малюнкі і подпісы пад імі. Назавіце займеннікі, ужытыя ў подпісах. Падумайце, чаму менавіта гэтыя займеннікі спатрэбіліся, каб ахарактарызаваць кожнае дзеянне.



Бацька **сам** садзіць яблыньку.



Гасцей сустракала **сама** імянінніца.

**376.** Складзіце сказы са словазлучэннямі *сама прырода, само журы, самі сабою.*

Азначальным займеннікам з’яўляецца і займеннік **са́мы (са́мая, са́мае, са́мыя)**, які ўжываецца для ўтварэння найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў: **самы** *прыгожы малюнак,* **самая** *шчаслівая пара жыцця,* **самыя** *прыемныя хвіліны.*

Займеннік **самы (самая, самае, самыя)** таксама паказвае, да якой мяжы можа даходзіць дзеянне: *Былі ў школе да* **самага** *вечара. Галіны яблыні гнуцца ад цяжару да* **самай** *зямлі.*

**377.** Разгледзьце табліцу скланення займенніка ***самы***, які змяняецца па родах і ліках. Параўнайце скланенне гэтага займенніка з займенніка ***сам*** (табліца на с. 199).

| Склон | Адзіночны лік | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| | мужчынскі і ніякі род | жаночы род | для ўсіх родаў |
| Н. | *са́м-**ы*** *са́м-**ае*** | *са́м-**ая*** | *са́м-**ыя*** |
| Р. | *са́м-**ага*** | *са́м-**ай** (**ае**)* | *са́м-**ых*** |
| Д. | *са́м-**аму*** | *са́м-**ай*** | *са́м-**ым*** |
| В. | як Н. або Р. | *са́м-**ую*** | як Н. або Р. |
| Т. | *са́м-**ым*** | *са́м-**ай** (**аю**)* | *са́м-**ымі*** |
| М. | *(на) са́м-**ым*** | *(пры) са́м-**ай*** | *(на) са́м-**ых*** |



Пры скланенні займенніка ***са́мы*** націск падае на аснову слова, а не на канчатак, як пры скланенні займенніка ***сам (сама, само, самі)***.

**378.** Прачытайце сказы з рознымі азначальнымі займеннікамі. Назавіце іх. Вызначце, у якім склоне яны ўжыты і ад якой пачатковай формы ўтвораны.

1. Трэба зрабіць самому. — Паведаміць самаму вялікаму начальніку. 2. Пакінулі хлопчыка самога. — Не ўзяў самага большага яблыка. 3. Жыць бабульцы давялося самой. — Спыніліся каля самай апошняй хаты.

**379.** Складзіце тры сказы з займеннікамі ***самага***, (аб) ***самых, самай***. Вызначце, у форме якога склону і ліку яны ўжыты.

**380.** Прачытайце, выбраўшы патрэбны азначальны займеннік, што запісаны ў дужках. Запішыце, азначальныя займеннікі падкрэсліце.

Навука, якая вывучае далёкае мінулае чалавецтва па рэчавых крыніцах, называецца археалогіяй. *(Самае, само)* слова «археалогія» грэчаскага паходжання і ў перакладзе на нашу мову азначае ‘навука аб старажытнасці’. Пра яе вобразна гавораць, што гэта *(сама, самая)* гісторыя, узброеная рыдлёўкай. Археалагічныя помнікі з'яўляюцца нямымі сведкамі *(сама, самая)* даўняй гісторыі кожнага краю *(Паводле Г. Штыхава)*.

● Знайдзіце ў тэксце прыметнік найвышэйшай ступені параўнання. Як могуць утварацца формы найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў?

⊙ **381.** Прачытайце сказы, у якіх займеннік ***самы*** ўваходзіць у структуру складанай формы параўнання якасных прыметнікаў. Вызначце, у склад якога члена сказа ўваходзіць гэты займеннік.

1. Самы «гарласты» з усіх жывёл — кракадзіл. Яго крык можа прымусіць здрыгануць сэрца самага бывалага паляўнічага. Вельмі моцным голасам валодае і бегемот. 2. Самая вялікая ўдзельная вага ў золата. Так, літровая конаўка, напоўненая золатам, важыць больш за дзевятнаццаць кілаграмаў. 3. Самая першая лыжка з'явілася ў Старажытным Егіпце пяць тысяч гадоў таму назад. Лыжкі рабілі з каменю і дрэва.

Азначальныя займеннікі ***ўвесь, усякі, кожны, іншы*** змяняюцца па родах, ліках і склонах, як прыметнікі.

**382.** Праскланяйце словазлучэнні *кожная школа, увесь клас, іншыя вучні.*

**383.** Выпішыце словазлучэнні назоўнікаў з займеннікамі. Укажыце разрад займеннікаў, вызначце склон.

Азёры — вочы зямлі. Воблік нашай Беларусі нельга сабе ўявіць без азёр. Іх у нас каля адзінаццаці тысяч. Вялікія і малыя, цёмныя, балотныя і светлыя, як самое святло. Лясныя, як Кромань або Свіцязь, і бязлесныя.

Азёры прыносяць не толькі матэрыяльную, але і духоўную карысць. Азёры не толькі кормяць увесь навакольны люд, але і натхняюць нашых паэтаў *(Паводле У. Караткевіча)*.

**384.** Разгледзьце малюнкі.













Паводле малюнкаў складзіце сказы з займеннікамі ***гэтая, столькі, хто*** (1 малюнак); ***нешта, сабе, яны*** (2 малюнак); ***такія, самыя, ніхто*** (3 малюнак); ***мы, кожны, усе*** (4 малюнак).



**385.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Займеннікі падкрэсліце, зверху абазначце іх разрад: **а.** — асабовы, **п.** — прыналежны, **ук.** — указальны, **аз.** — азначальны.

Калі ўскідваю вочы ад зямной мітусні ў таемнае зорнае неба, шукаю на *(яно)* Венеру, Максімаву зорку, і хочацца

напяваць паэтавы радкі. Поўніцца ціхай радасцю сэрца. Гэта ж мы, беларусы, маем *(такая)* зорку ў Сусвеце. Радасна, бо на *(наш)* зямлі ўзышла зорка Багдановіча і свеціць усім людзям, як Венера *(І. Ждановіч)*.

● Чаму зорка Венера ў беларусаў лічыцца Максімавай зоркай? Растлумачце правапіс прыналежнага прыметніка ў гэтым словазлучэнні. Чаму з вялікай літары пішацца і слова *Сусвет*? Прыгадайце, якія яшчэ словы такога тыпу пішуцца з вялікай літары?

## Пытальныя і адносныя займеннікі

**386.** Прачытайце словы кожнага слупка. На якія пытанні яны адказваюць?

| | | |
|---|---|---|
| мастак | знакаміты | шэсць |
| самалёт | пасажырскі | шосты |
| зорка | братаў | першы |

Словы ***хто? што? які? чый? колькі? каторы?*** — пытальныя займеннікі.

Яны служаць для запытання пра асобу, прадмет, прымету, прыналежнасць, колькасць і парадак прадметаў.

Калі ж займеннікі ***хто, што, які, чый, каторы*** служаць для сувязі частак у складаных сказах, тады яны з'яўляюцца **адноснымі**.

**387.** Адгадайце загадкі. Якія з выдзеленых займеннікаў пытальныя, а якія — адносныя? Абгрунтуйце сваю думку.

1. **Што** гэта за звер, **што** мае шэсць ног, дзве галавы, адзін хвост? 2. **Што** гэта за машына, **што** разам жне, малоціць, а ідзе — ажно зямля калоціцца? 3. Гудзе, як пчала, ляціць, як страла, крыламі не махае, **хто** адгадае? 4. **Што** гэта за кіно, дзе я і глядач і артыст заадно? 5. Дужэйшы

за каня ў мільён разоў, павалачэ і сто вазоў. **Якому** дужаму валу мы аддаём сваю хвалу?

А д г а д к і: *чалавек на кані, камбайн, сон, самалёт, цягнік.*

**388.** Спішыце. Адносныя займеннікі падкрэсліце.

1. **Благая** тая птушка, якая свайго гнязда не пільнуецца. 2. Чаго сабе не хочаш, таго і другім не **зыч**. 3. Праўду кажуць: колькі чалавек мае ў сваёй хаце кніжак, столькі сяброў побач з ім. 4. Смяецца той, хто смяецца апошнім. 5. Самы моцны той, які стрымлівае сам сябе.

● Да выдзеленых слоў падбярыце сінанімічныя.
● Растлумачце сэнс апошняга выказвання. Да якіх жыццёвых сітуацый яно падыходзіць?

**389.** Прачытайце тэксты. Вызначце пытальнымі ці адноснымі займеннікамі з'яўляюцца словы ***хто, што***.

1. **Што** ж без цябе, настаўнік? **Хто** ж без цябе, настаўнік?

Ты, настаўнік, быў у Скарыны і ў Гарыбальдзі. Ты, настаўнік, быў у Герцэна і ў Каліноўскага, у Карскага і ў Паўлава *(Ф. Янкоўскі)*.

2. **Што** за ноч магло зрабіцца!
Перайначана ўсё чыста:
Поле дыша і дыміцца
Парай лёгкай і празрыстай.
*Н. Гілевіч*

3. **Хто** птушку пакрыўдзіць —
Той сам сабе здрадзіць.
Жыццём і бацькамі завешчана нам:
Адкласці ўсе справы вясною, а зладзіць
Шпакоўні шпакам, а буслянкі буслам.
*П. Панчанка*

Займеннікі ***хто, што*** пры скланенні маюць розныя асновы.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *хт-**о*** | *шт-**о*** |
| Р. | *к-**аго*** | *ч-**аго*** |
| Д. | *к-**аму*** | *ч-**аму*** |
| В. | *к-**аго*** | *шт-**о*** |
| Т. | *к-**ім*** | *ч-**ым*** |
| М. | *(пры) к-**ім*** | *(у) ч-**ым*** |

Займеннікі ***хто? што?*** патрабуюць, каб залежны дзеяслоў-выказнік ставілі ў форме адзіночнага ліку: ***Хто** пытае? **Што** адбывалася там учора?*

**390.** З простых сказаў, запісаных парамі, утварыце складаныя, пры гэтым асабовыя займеннікі замяніце адноснымі.

1. Залівіста зазвінеў званок. Ён паклікаў дзяцей на першы ўрок. 2. Беларускія дзеці ведаюць пісьменніка Васіля Вітку. Ён напісаў «Казкі», «Вавёрчына гора», «Буслінае лета» і іншыя кніжкі для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў. 3. Асноўнай часткай слова з'яўляецца корань. Ад яго словы «растуць», як галіны на дрэве. 4. Памяць народа — вялікая кніга. Яна называецца гісторыяй. 5. Людзі асцярожна падыходзілі да агароджы. За ёю знаходзілася пара зуброў.

● Два складаныя сказы запішыце. У кожнай частцы падкрэсліце дзейнік і выказнік. Назавіце, чым выражаны галоўныя члены сказа.



**391.** Спішыце, раскрываючы дужкі.

1. На *(чый)* кані ты сёння паедзеш? 2. *(Чыя)* ручкай ты пішаш? 3. *(Чые)* яшчэ пісьмовых прац не праверыла настаўніца? 4. Незнаёмы спытаў, да *(чыя)* хаты ён пад'ехаў. 5. Бабулька ўсё дапытвалася, *(чые)* суседзяў дзеці так старанна дапамагаюць настаўніцы рабіць кветнікі каля школы.

## Няпэўныя займеннікі

Няпэўныя займеннікі ўказваюць на няпэўныя асобы ***(нехта, хтосьці)***, прадметы ***(нешта, штосьці, штонебудзь)***, прыметы ***(нейкі, нечы, якісьці)***, колькасць ***(некалькі)***.

Няпэўныя займеннікі ўтвараюцца ад пытальных пры дапамозе прыставак ***не-, абы-***, постфіксаў ***-сьці, -небудзь.***

Прыстаўка ***не-*** пішацца злітна і знаходзіцца пад націскам: ***не́хта, не́шта, не́йкі, не́чы, не́калькі.*** Без націску яна ўжываецца толькі ў займенніку ***некато́ры*** і яго формах: ***некато́рага, некато́раму, некато́рыя, некато́рымі, у некато́рых*** (параўн. у руск. мове: *не́который, не́которые*).

Прыметнік ***нечы*** пішацца без ***й*** на канцы і скланяецца наступным чынам:

Н. ***нечы***
Р. ***нечага***
Д. ***нечаму***
В. ***нечы*** або ***нечага***
Т. ***нечым***
М. (у) ***нечым.***

Прыстаўка ***абы-*** пішацца праз злучок. Націск у няпэўных займенніках з гэтай прыстаўкай заўсёды на канчатку: ***абы-хто́, абы-каго́, абы-каму́.***

Калі ***абы*** аддзелена прыназоўнікам, то пішацца асобна: *не кажы* ***абы пра што,*** *не сустракайся* ***абы з кім.***

Няпэўныя займеннікі з постфіксам ***-сьці (-сь)*** пішуцца разам: ***хтосьці, штосьці, якісьці, штось, хтось.*** Пасля ***с*** у постфіксе згодна з вымаўленнем пішацца ***ь*** (мяккі знак).

**392.** Прачытайце верш Я. Коласа. Выпішыце словазлучэнні з няпэўнымі займеннікамі. Вусна замяніце іх рускімі адпаведнікамі.

Ідзе вясна ў шумлівых водах,
У звонкім срэбры ручаёў

І разлівае мяккі подых,
Як песню **нейкую** без слоў.
Ідзе і будзіць, нібы маці
У дзень святы сваіх дзяцей,
Узгоркі, гоні, сенажаці
Пад гукі выраю — гусей.
І абнімае, туліць, песціць
І дрэва кожнае, і куст
Ды **нешта** шэпча ім пад густ,
Прыносіць радасныя весці.

**393.** Параўнайце, як гавораць і пішуць у беларускай і рускай мовах. Беларускія адпаведнікі запішыце.

Хтосьці паклікаў — кто-то позвал, пачуўся нечы голас — послышался чей-то голос, штосьці трывожыць — что-то тревожит, хто-небудзь дапаможа — кто-нибудь поможет.

Няпэўныя займеннікі з постфіксам ***-небудзь*** пішуцца праз злучок і вымаўляюцца з націскам на ***не:*** *хто-не́будзь, што-не́будзь, які-не́будзь* (параўн. у руск. мове: *кто-нибу́дь, что-нибу́дь, кто-ли́бо, что-ли́бо*).

**394.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс няпэўных займеннікаў.

1. *(Не)* хта тупае па ганку, патрывожыў хто *(сьці)* сон *(А. Бялевіч)*. 2. Раскажыце што *(небудзь)* цікавае са свайго падарожжа. 3. «Не ламайце дрэў вясной, каб яны не плакалі...» Можа, гэта сентыментальна, наіўна і смешна ў наш час *(не)* каму здасца, але і сёння асцерагайцеся парушыць завяшчанне маёй маці *(М. Танк)*. 4. Кажуць, нібы нейкі даўні князь Віт, ці Віток, праходзіў праз лясы цяперашняй Лошніцы. 5. Не спадзяваўся я ніколі, каб мне хто *(небудзь)* пасабляў *(П. Броўка)*.

**395.** Перакладзіце на беларускую мову. Пераклад запішыце. Растлумачце правапіс займеннікаў.

За несколько минут, с некоторых пор, некто из знакомых, обязан кое-кому, что-то не ладится, кто-то предупредил заранее, опоздал на какой-нибудь час, чем-то недовольный, какой-то растерянный, чем-то озабочен.

**396.** Складзіце сказы, у якіх дзейнікі, азначэнні або дапаўненні будуць выражаны няпэўнымі займеннікамі ***нечае, нехта, хтосьці, некалькі, што-небудзь, абы-чаго***.

## Адмоўныя займеннікі

Адмоўныя займеннікі ўказваюць на адсутнасць асобы ***(ніхто)*** і прадмета ***(нішто)***, якасці ***(ніякі)*** і прыналежнасці ***(нічый)***.

Яны ўтвараюцца ад пытальных займеннікаў пры дапамозе прыстаўкі ***ні-***, якая пішацца разам.

Калі ***ні*** аддзяляецца прыназоўнікам, то пішацца асобна: ***не*** *пагаворыш* ***ні з кім***, *не сутыкнешся* ***ні з чым***.

Адмоўныя займеннікі ўжываюцца толькі тады, калі ў сказе пры дзеяслове-выказніку ёсць адмоўе ***не*** або словы ***няма, нельга: Ніхто*** *нам* ***нічога*** *не давай.* ***Нішто*** *хвораму не дапамагала. Нельга* ***нічога*** *зрабіць.*

**397.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэкстах адмоўныя займеннікі. Спішыце тэкст 2. У другім сказе падкрэсліце граматычныя асновы.

1. Карасікаў напладзілася ў сажалцы вельмі многа. Можна было б перанесці частку ў дзікія сажалкі. Няхай бы там і жылі, гадаваліся. І рыбакі пасядзелі б з вудачкамі. А сюды ніхто не адважыцца зайсці, хоць нікому не забараняюць і ніхто не вартуе тут *(Паводле Ф. Янкоўскага)*.

2. Ніякая іншая птушка, нават праслаўлены салавей, не можа параўнацца ў спевах з лясным жаваранкам. Толькі

свае песні спявае ён у бязлюдных мясцінах, дзе рэдка бывае чалавек, і амаль ніхто яго не чуе *(Паводле Я. Коласа)*.

**398.** Адкажыце на пытанні, ужываючы адмоўныя займеннікі.

1. Каго-небудзь сустрэў па дарозе? 2. Якія-небудзь грыбы ўжо ёсць у лесе? 3. Хоць нешта зразумееў з майго тлумачэння? 4. Чыё-небудзь рашэнне вам ужо вядомае? 5. Ці званіў мне хто-небудзь вечарам? 6. Што прывезці табе ад бабулі? 7. Ці мае паветра які-небудзь колер? 8. Што магло так узрадаваць сябра?

**399.** Разгледзьце табліцу скланення адмоўных займеннікаў. Звярніце ўвагу, як вымаўляюцца формы адмоўных займеннікаў, асабліва тыя, што ўказваюць на адсутнасць якасці і прыналежнасці.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *ніхто́* | *нішто́* | *нія́кі* | *нічы́й* |
| Р. | *ніко́га* | *нічо́га* | *нія́кага* | *нічыйго́* |
| Д. | *ніко́му* | *нічо́му* | *нія́каму* | *нічыйму́* |
| В. | *ніко́га* | *нішто́* | як Н. або Р. | як Н. або Р. |
| Т. | *нікі́м* | *нічы́м* | *нія́кім* | *нічыі́м* |
| М. | *ні пры кім* | *ні пры чым* | *ні пры я́кім* | *ні пры чыі́м* |

**400.** Складзіце і запішыце сказы, у якіх былі б словы ***няма*** і ***нельга***, а таксама адмоўныя займеннікі.

**401.** Спішыце сказы і замест кропак запішыце адмоўныя займеннікі.

1. ... з нас не мае права крыўдзіць слабейшага за сябе. 2. Хто ... не робіць, той не памыляецца. 3. Павярнуць трэба назад, бо далей няма ... праезду. 4. Паведамленне ... не зацікавіла, усе спакойна разышліся па класах. 5. ... не адгукаўся на мой голас. 6. Не рабі ліхога і не бойся ... . 7. ... іншы не ўмее так спяваць, як Вераніка.



**402.** Разгледзьце малюнкі і адкажыце на пытанні.






1. Дзе аднойчы сустрэліся двое сяброў?
2. Якія дрэўцы выбралі, каб выкапаць іх, Мікола з Васем?
3. Ці ведаеце вы, калі трэба рабіць перасадку, каб дрэва прынялося?
4. Як з часам можа змяніцца мясціна, дзе ўзведзены помнік?
5. Пра што праз гады можна будзе ўспомніць тым, хто аднойчы зрабіў карысную, пачэсную справу?

● Напішыце невялікае апавяданне, выкарыстаўшы займеннікі: асабовыя ***яны, яно***, зваротны ***сябе***, азначальныя ***самае, кожны***, няпэўны ***хто-небудзь***, а таксама спалучэнне ***ніхто іншы не***.

## § 53. Марфалагічны разбор займенніка

П а р а д а к   р а з б о р у

1. Часціна мовы. Агульнае значэнне.
2. Пачатковая форма (Н. скл., адз. л.).
3. Нязменныя марфалагічныя прыметы: разрад паводле значэння, асоба (для асабовых).
4. Зменныя марфалагічныя прыметы: склон, лік (калі ёсць), род (калі ёсць).
5. Сінтаксічная роля ў сказе.

У з о р   р а з б о р у

*Што пасееш, тое і пажнеш* (Прыказка).

### *Вусны разбор*

*Што* — займеннік, указвае на прадмет; пачатковая форма — *што*; адносны; ужыты ў форме вінавальнага склону; у сказе выконвае ролю дапаўнення.

*Тое* — займеннік, указвае на прадмет; пачатковая форма — *той*; указальны; ужыты ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку ніякага роду; у сказе выконвае ролю дапаўнення.

### *Пісьмовы разбор*

*Што* — займеннік, пач. ф. — *што*; адносны; у В. скл.; дапаўненне.

*Тое* — займеннік, пач. ф. — *той*; указальны; у В. скл., адз. л., н. р.; дапаўненне.

**403.** Выпішыце са сказаў займеннікі і зрабіце іх пісьмовы марфалагічны разбор.

1. Кожны чалавек у некім пакідае ўспамін пра сябе. Хто быў знаёмы, хто блізкі, хто любы — кожнага ў свет павяла свая дарога. Як жа не хочацца думаць, што ў чыёй-небудзь памяці мог ты пакінуць горкі след *(Я. Скрыган)*. 2. Добра знаю, што ўсёй душой любіць цябе, мой краю, мяне з маленства навучыла матчына песня *(К. Кірэенка)*.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ЗАДАННІ

1. Выпішыце з прыведзеных спалучэнняў слоў займеннікі. У дужках запішыце іх пачатковую форму.

В а р ы я н т 1. Мне прыснілася, у нас пад нагамі, нічога дрэннага, з нашага боку, ва ўсіх гарадах, адносіны да сябе, у кожным класе, паклон Вам, пра самую адказную задачу, на якім баку.

В а р ы я н т 2. Мне не давялося, здарылася ў іх, назаўсёды з табой, вазьмі з сабою, у нейкім сэнсе, самай шчаслівай на свеце, адзін са сваіх сшыткаў, якой была дарога, нішто не вечна, з павагай да Вас.

2. Вызначце разрад займеннікаў, пастаўце іх у давальным і творным склонах.

В а р ы я н т 1. Які-небудзь, яны, каторы, кожны, усякі, такі, свой, гэты, нічый, чый?, сам, нехта, сябе, хто.

В а р ы я н т 2. Якісьці, чый, мы, іншы, увесь, гэтакі, іхні, той, ніякі, які?, самы, нешта, усе, што.

3. Спішыце фразеалагізмы, уставіўшы патрэбную літару ў зваротны займеннік.

В а р ы я н т 1. Сам па с..бе, не памятаць с..бе, сам не ў с..бе, само па с..бе.

В а р ы я н т 2. Само с..бой зразумела, сам с..бе, браць праз с..бе, прыйсці ў с..бе.

4. Замяніце ўказальныя і прыналежныя займеннікі адмоўнымі.

В а р ы я н т 1. Маці не ведала пра гэта. Гэтыя парады не дапамаглі. Вартаўнік не рэагаваў на нашы просьбы.

В а р ы я н т 2. Гэты вынік іх не задаволіць. Бацькі не ведаюць пра гэта. Брыгадзір не слухаў нашых апраўданняў.

5. Спішыце, устаўце замест кропак займеннікі ***самы*** ці ***сам*** у патрэбным склоне і пастаўце націск.

В а р ы я н т 1. Каля ______ возера, не падвядзі ______ сябе, паважай ______ сябе, ______ буйны колас, дазвол ад ______ гаспадыні.

В а р ы я н т 2. Разрасліся ля ______ вады, размаўляў ______ з сабой, хоча зладзіць ______ з сабою, ______ прыгожы ўзор, почырк ______ аўтара.

6. Спішыце, раскрываючы дужкі.

В а р ы я н т 1. *(Не)* хта пакінуў, *(ні)* якая перашкода, *(ні)* кому не дагнаць, *(ні)* з кім не сустракалася.

В а р ы я н т 2. Што *(небудзь)* важнае, *(ні)* пры чым тут сябры, чыё *(сьці)* рашэнне, *(ні)* кім не цікавіўся, *(не)* каму давядзецца.

# ДЗЕЯСЛОЎ

## § 54. Дзеяслоў як часціна мовы

**404.** Прачытайце верш.

### Адыход лета

Над галавою сінява плыве.
І воблачка па-летняму бялее
ў гэтай невыказнай сіняве,
бялее, як на возеры лілея.

Ды набліжэнне іншае пары
заўважыць можна ў гэтую часіну.
Не-не і ўбачыш раптам: угары
пранесла лёгкім ветрам павуціну.

На фоне светлым, сонечным яна
мільгнула сумнаватаю прыкметай.
Табе здалося: гэта сівізна
гарачай працай стомленага лета.

*А. Вярцінскі*

#### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Назавіце словы, якія абазначаюць дзеянне.
2. На якія пытанні яны адказваюць?
3. Да якой часціны мовы належаць?
4. У якім часе ўжыты дзеясловы ў тэксце?
5. З якой часцінай мовы звычайна спалучаюцца дзеясловы ў сказе?
6. У ролі якога члена сказа выступае дзеяслоў?

**Дзеяслоў** — самастойная часціна мовы, якая абазначае дзеянне і адказвае на пытанні што рабіць? што зрабіць? (што робіць? што зробіць? што рабіў? што зрабіў? і г. д.).

Значэнне дзеяння ў граматыцы разумеецца як працэс. Адны дзеясловы абазначаюць фізічныя дзеянні *(пілаваць, касіць, жаць)*, другія — рух і стан у прасторы *(каціцца, плысці, ехаць, вісець)*, трэція называюць тое, што адбываецца ў прыродзе *(цямнее, падмарожвае, парыць)*. Вялікая група дзеясловаў характарызуе псіхічны або фізічны стан чалавека *(спаць, сумаваць, весяліцца, ганарыцца)*, яго маўленчую і разумовую дзейнасць *(меркаваць, гаварыць, думаць, разважаць, назіраць)*.

Дзеясловы змяняюцца па часах, асобах, ліках, родах.

У сказе дзеяслоў звычайна бывае выказнікам.

**405.** Прачытайце тэкст. Абгрунтуйце падзел яго на абзацы. Вызначце стыль і тып тэксту. Назавіце дзеясловы. Якія з іх маюць пераноснае значэнне? Якая іх роля ў тэксце?

У Пуцілкавічах сонца ўсходзіла з-за лесу, плыло над лесам і заходзіла за лес.

Куды ні кінь вокам — усюды сосны і елкі. Яны падступаліся да самых прыгуменняў невялічкай вёсачкі, што прытаілася на пясчаным пагорку. За гаманкой Ушачкай драбналессе адразу пераходзіла ў густы вялізны бор.

Вясною лес на ўсе лады звінеў вясёлымі галасамі птушак. Летам ён шумеў спакойна і ўрачыста, толькі перад навальніцаю заводзіў грозную і трывожную песню. Яна напаўняла ўсё наваколле, заглушала грукат вадзянога млына. Зімою елкі і хвоі прытоена драмалі пад заснежанаю посцілкаю і здаваліся казачнымі істотамі.

У гэтай лясной вёсцы прайшло дзяцінства Петруся Броўкі *(С. Александровіч)*.

● Выпішыце аднакаранёвыя дзеясловы.

**406.** Прачытайце тэкст. Абгрунтуйце, што ён належыць да мастацкага стылю. Якую ролю адыгрываюць выдзеленыя дзеясловы?

Восень — гэта вечар года. Яшчэ нядаўна вось тут шапацела, шаргацела, жаўцела, свяцілася, святкуючы свой час, лагоднае бабіна лета. Былі такія раніцы і вечары, калі нават **мроілася**, што можна **адчуць** на дотык, як кожны дзень робіцца ўсё карацейшым і карацейшым, як адыходзіць, спяшаючыся, лета. Потым пахаладала. Спахапілася восень, зацягнула хмарамі неба. А вось сёння, праз колькі халодных дзён кастрычніка, зноў раскашуецца сонца і ціхаяціхая цеплыня. **Здаецца** нават, што бабіна лета вярнулася зноў, каб адбыць у полі хоць колькі яшчэ дзён. Дрэвы, да дзіўнай надакучлівасці спакойныя, стаяць абапал дарогі ў сонечных промнях такія ціхія, што колькі ні глядзі на іх, колькі ні **напружвай** вочы, так і не **ўбачыш**, каб дзе-небудзь зварухнуўся хоць адзін лісток... *(Я. Сіпакоў).*

● У тэксце павінна быць чатыры абзацы. Вызначце іх. Чаму вы так мяркуеце?

**407.** Прачытайце. Ці зразумела, хто ўтварае дзеянне ў тых сказах, дзе апушчаны дзейнік? Якімі формамі дзеяслова ў гэтых сказах выражаны выказнік?

1. Я збіраю суніцы. Збіраю суніцы. 2. Ты добра гуляеш у валейбол. Добра гуляеш у валейбол. 3. Мы вывучаем гісторыю Беларусі. Вывучаем гісторыю Беларусі. 4. Вы многа чытаеце. Многа чытаеце.

**408.** Дакажыце, што ў сказе *Люблю свой родны край* слова *край* не з’яўляецца дзейнікам. Пастарайцеся абгрунтаваць гэта рознымі спосабамі. Для гэтага адкажыце на пытанні:

1. Якой формай дзеяслова выражаны выказнік?
2. Ці паказвае гэта форма на дзеючую асобу?
3. У форме якога склону стаіць назоўнік *край*? Як гэта праверыць?
4. Ці можа дзейнік быць выражаны назоўнікам у гэтым склоне?

**409.** Спішыце тэкст, устаўляючы замест кропак дзеясловы-выказнікі, якія перадаюць віды разумовай і маўленчай дзейнасці. Вызначце марфалагічныя прыметы дзеясловаў: час, лік, род (калі ёсць), асобу (калі ёсць).

### Вусная народная творчасць

У далёкай старажытнасці чалавек не ... многіх з'яў прыроды. Ён ..., што сонца, дрэвы, расліны — гэта жывыя істоты. А птушкі і звяры ... чалавечай мовай. Гэтыя ўяўленні чалавека адлюстраваны ў вуснай народнай творчасці. Песні, казкі, прыказкі, прымаўкі, загадкі ... найбольш таленавітымі людзьмі. На працягу стагоддзяў іх ... вусна. Змест іх мяняўся, удасканальваўся. Таму іх аўтарам ... увесь народ. А творы ... вуснымі народнымі, або фальклорам.

Д л я д а в е д к і: *разумеў, размаўляюць, думаў, перадавалі, ствараліся, называюцца, лічыцца.*

**410.** Прачытайце тэкст. Які настрой выклікае ён у вас? Якую ролю ў гэтым адыгрывае апісанне прыроды? Чаму ў апісанні прыроды выкарыстаны дзеясловы, якія звычайна перадаюць псіхічны або фізічны стан чалавека?

Да якога стылю і тыпу належыць тэкст? З якой мэтай выкарыстаны рытарычныя пытанні, адваротны парадак слоў у сказах?

Непрывычна высокі бераг.

На самым краёчку — невялікае агнішча.

Хто і калі супыняўся тут? Чыю душу сагравала кволенькае цяпельца? Якія думы цешыў жывы агонь?

Не ўведаю, відаць, ніколі.

За плячыма стогне пранізлівы вецер. Унізе раве і пеніцца растрывожаная Славечна. Па той бок ракі плачаваўчыца.

Робіцца вусцішна.

Іду да вербаў. Ля іхніх ног збіраю ламачынкі, леташняе лісце, зграбаю пажоўклую траву. І неўзабаве на старым агнішчы нараджаецца новае цяпельца.

Хутка мяне зноў пакліча дарога, і я пакіну гэты здзічэлы бераг. Засне цяпельца. Старое агнішча зраўняюць дажджы. Але мо нехта натрапіць на яго таксама. Супыніцца... Задумаецца: да Чарнобыля тое было ці пасля? І развядзе сваё цяпельца *(Я. Пархута)*.

**411.** Прачытайце тэкст. З якой мэтай ён напісаны? Каму адрасуецца? Вызначце тэму і асноўную думку. Да якога тыпу належыць тэкст? Якую ролю ў тэксце адыгрываюць пытальныя і клічныя сказы?

### Дзённік, які варта пачаць

Дарагія сябры!

Ці здаралася вам калі-небудзь чытаць старыя школьныя сачыненні? Быццам на сябе збоку глядзіш! Няўжо раней я так думаў?

Але што сачыненні! Яны ж на зададзеную тэму. Вось уласная тэма — гэта зусім іншая справа. А пачынаць трэба з дзённіка. Можа, і вашы занатоўкі стануць каштоўнымі для многіх?

Напачатку можна весці простыя запісы: што ўбачыў за дзень, што пачуў, куды хадзіў, якое было надвор’е, што чытаў, з кім і з чым не згодны. Скажыце, ці можна ўявіць чалавека, якому здаўся б нецікавым дзённік Рабінзона Круза. А размова там пра самыя звычайныя рэчы: «Скідаў пад самай скалой будан», «Пачаў будаваць агароджу», «Два апошнія дні вастрыў начынне...».

Мінуўшчына заўсёды здаецца нам цікавейшай, чым самая незвычайная сённяшняя падзея. Але як без дзённіка вы ўтрымаеце ў памяці мінулае? Ды што вас, дарагія сябры, угаворваць, як маленькіх. Вырашайце. Не пашкадуеце *(«Бярозка»)*.



**412.** Напішыце ў насценную газету нататку, у якой паразважайце аб неабходнасці выпісваць і чытаць беларускія выданні: газету «Раніца», часопісы «Вясёлка», «Бярозка». Выкарыстайце ў нататцы пытальныя і клічныя сказы, дзеясловы, якія характарызуюць маўленчую і разумовую дзейнасць.

## § 55. Правапіс *не (ня), ні* з дзеясловамі

**413.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Скажыце, як пішацца часціца ***не*** з дзеясловамі.

Віталь, Гена і Саша сядзелі сумныя. Іх мадэлі не вытрымалі выпрабавання. Віталю да слёз было шкада самалёцікаў. Яны быццам скардзіліся: з-за вас мы ледзь не загінулі.

Хлопцы маўчалі. Гаварыць не хацелася. Кожны лічыў сябе вінаватым, бо рабілі мадэлі ўсе разам. Значыць, нешта не дагледзелі, нечага не дарабілі, дзесьці паспяшаліся.

Нарэшце загаварыў Гена:

— Ведаў у нас не хапае. Трэба больш ведаць. Трэба вучыцца. І тады мадэль не падвядзе *(Паводле Г. Васілеўскай)*.

● Складзіце схему сказа з простай мовай.

**414.** Прачытайце верш. Звярніце ўвагу, як пішацца ***ні*** з дзеясловамі.

Я дамоў прыеду, калі ліўні
Адшумяць і пойдуць за сяло,
А ў зацішку поўня светлай грыўняй
Скоціцца мне проста ў далонь.
Як бы край ні вабіў невядомы,
Як бы тлум вандровак ні маніў,
Сэрца там, пакінутае дома,
Да сябе прыцягне, бы магніт.
І заўсёды ў **выраі нябліzкім**
Ёсць патрэба бачыць родны дом...
Ластаўкай перад дажджом —
Да зямлі сваёй хілюся нізка.

*В. Гардзей*

● Растлумачце, як вы разумееце выдзелены выраз.
● Назавіце складаныя сказы. Колькі ў іх асноў?

***Не*** з дзеясловамі пішацца асобна.

Разам ***не*** пішацца толькі з тымі дзеясловамі, якія не ўжываюцца без ***не***: *непакоіць, ненавідзець, недамагаць, няволіць, нездаровіцца.*

***Ні*** з дзеясловамі пішацца асобна.

**415.** Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

1. Сам *(не)* уме..ш слухаць — другога *(не)* прымус..ш. 2. Са свайго языка спусц..ш — на чужым *(не)* злов..ш. 3. Запас бяды *(не)* чын..ць. 4. Што аб тым гаварыць, што *(не)* мае быць. 5. Слухацца добрай рады *(не)* шкодзіць. 6. З мора вады *(не)* выліць, з песні слова *(не)* выкінуць. 7. Чужая старонка пірагамі *(не)* накорміць. 8. За справу бярэшся — *(не)* бойся і *(не)* хвалюйся. 9. Куды *(ні)* пайду я і дзе *(ні)* спынюся — спявае жыццё на маёй Беларусі *(П. Броўка).*

**416.** Прачытайце. Чаму неаднолькава вымаўляецца часціца ***не***?

Ніхто *(не)* любіў так бор з яго ваколіцамі, як Алёшка. Цэлымі днямі *(не)* вылазіў ён адтуль. Ніхто і *(не)* ведаў так бор, як ён. Каб быць справядлівым, трэба дадаць што ніхто *(не)* мог так спрытна ўзлазіць на любо.. дрэва, як ён. Алёшка а..чуваў сябе ў бары, як дома ў сваім са..ку або на гародз.. . І, бадай, ніводная птушка *(не)* магла пахваліцца што ёй удалося выве..ці дзяцей без Алёшкавага догл..ду. Кожна.. гняздзечка ведаў ён у бары і што ў тым гняздзечку. Але затое ніводная птушка *(не)* мела прычыны пакрыўдзіцца на Алёшку. Ён проста, як руплівы гаспадар, цікавіўся ўсім, што тварылася ў яго любімым бары, усё даследаваў, за ўсім назіраў *(Паводле А. Якімовіча).*

Спішыце, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку.



**417.** Прачытайце прыказкі. Спішыце, устаўляючы адмоўную часціцу ***не*** перад дзеясловамі.

1. Гром загрыміць — зямля адтане. 2. Колас добра спее, калі сонца грэе. 3. Вішня апала — зіма настала. 4. Кладзі паклон, калі цябе віншуюць. 5. Ты шыў, табе і пароць. 6. Паносіш мазалёў — пад'ясі пірагоў. 7. Рана ўстанеш — многа зробіш.

## § 56. Неазначальная форма дзеяслова (інфінітыў)

**418.** Прачытайце.

Добрае гэта слова — дружба. Дружыць — значыць давяраць адно аднаму, дзяліцца радасцю, думкамі, марамі, а ў цяжкія хвіліны прыйсці на дапамогу сябру. Дружыць трэба вучыцца яшчэ з дзяцінства *(«Вясёлка»)*.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія дзеясловы адказваюць на пытанні ш т о р а б і ц ь? або ш т о з р а б і ц ь?
2. Ці можна ў гэтых дзеясловах вызначыць час, лік, асобу?

**Неазначальная форма дзеяслова** — гэта яго пачатковая форма. Яна толькі называе дзеянне, але не мае формаў часу, асобы, ліку.

Дзеясловы ў неазначальнай форме канчаюцца на ***-ць, -ці, -чы*** і адказваюць на пытанні ш т о р а б і ц ь? або ш т о з р а б і ц ь?: *чытаць, несці, зберагчы*.

Калі суфікс ***-ць*** злучаецца з постфіксам ***-ся*** (***-ць*** + ***-ся***), то вымаўляецца і пішацца ***-цца***: *вучыцца, сустрэцца*.

**419.** Прачытайце. Дайце загаловак тэксту.
Спішыце, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары. У дзеясловах неазначальнай формы абазначце суфіксы і постфіксы.

Калі што ёсць найпрыгажэйшае ў свеце, то, бадай, гэта воблакі.

О, як яны збіраюцца! Як плывуць і растаюць *(у)* сіняве!

Каб час меў наглядаць і назіраць, *(не)* наглядзецца, *(не)* налюбавацца!

У бязветраны дзень яны могуць расці, вырастаць, могуць знікаць, як дым. Могуць клубіцца на адным месцы і разрастацца ўшыркі.

У ветраны дзень часцей бываюць ні..кія воблакі. Яны імчацца па неб.. на адной вышын.., як ганцы. Шпарка, без аглядкі, гуртам. Сонца між іх то выглян.., то схаваецца.

Я вучыўся разумець іх, як само жыццё *(Паводле І. Грамовіча)*.

- Знайдзіце ў тэксце антонімы.
- Растлумачце падзел тэксту на абзацы.

**420.** Спішыце сказы, ставячы дзеясловы, што ў дужках, у неазначальнай форме.

1. Каб дасканала *(вывучаю)* лес, мала толькі *(хаджу)* па ім і *(гляджу)*. Трэба *(умею)* *(назіраю)*, *(умею)* *(бачу)* *(Я. Колас)*. 2. Не *(знайду)* даражэй мне нічога за цябе, мой абветраны край *(А. Сабалеўскі)*. 3. Як хацелася мне досвіткам *(паеду)* у лес разам з бацькам і братам! *(В. Мыслівец)*. 4. Мовай паэзіі хочацца мне *(гавару)* пра лес і яго дары *(В. Мыслівец)*.

**421.** Утварыце неазначальную форму наступных дзеясловаў і запішыце.

У з о р: (ш т о з р а б л ю?) *прынясу* — (ш т о з р а б і ц ь?) *прынесці*.

Вырасту, калю, стукну, вернем, грабу, трасу, стрыгу, падрэжа, скосіць.



**422.** Складзіце сказы з наступнымі дзеясловамі.

У з о р. *Брат рыхтуецца паступаць у тэхнікум.*

Квітнець, садзіць, дапамагаць, бяліць, везці, несці.

**Неазначальная форма** дзеяслова можа быць любым членам сказа:

1. *Жыць — Радзіме служыць* (Прыказка). 2. *Алёша падаў знак падрыхтавацца* (Я. Колас). 3. *Афіцэр закамандаваў чакаць* (К. Чорны). 4. *Еду я дадому пераведаць родных, блізкіх, дарагіх* (П. Трус).

**423.** Спішыце сказы. Дзеясловы ў неазначальнай форме падкрэсліце як член сказа.

1. Тут зноў прадставіўся Сцёпку выпадак паказаць сваю вучонасць *(Я. Колас)*. 2. У Васіліны ўзнікла раптоўнае жаданне раскрыць сваю задуму *(Т. Хадкевіч)*. 3. Прыйшла пара пачынаць жніво *(К. Чорны)*. 4. Чытаць гэты твор — асалода і праца *(Я. Брыль)*. 5. Школьнікі сходзяцца паглядзець на спаборніцтва лёгкаатлетаў.

**424.** Прачытайце тэкст. Вызначце тэму і асноўную думку. Як звязаны сказы ў тэксце (паслядоўна ці паралельна)? Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце граматычныя асновы сказаў і дададныя члены сказа, якія паясняюць выказнік.

Неўзаметку прабег яшчэ адзін год. Костусь закончыў народна.. вучылішча. У яго з'явілася жаданне паступіць у Нясвіжскую с..мінарыю*. Ён многа наслухаўся пра яе. Там ёсць вяліка.. бібліятэка. С..мінарысты іграюць на скрыпцы, ладзяць пастаноўкі, выступаюць у хоры. У вачах хлопца с..мінарыя з'яўлялася святыняй. З яе людзі выходзяць з паходняй* у руках і нясуць святло непісьменнаму селяніну. Даходзілі да Костуся чуткі і пра муштру ў с..мінарыі. Але ён на гэта не зважаў. Навука хлопцу давалася лёгка *(Паводле С. Александровіча)*.

У сказах дзеясловы паясняюцца назоўнікамі, прыслоўямі і іншымі часцінамі мовы. Пры гэтым утвараюцца словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца дзеяслоў.

**425.** Прачытайце. Як звязаны сказы ў тэксце (паслядоўна, паралельна)? Якімі членамі сказа з’яўляюцца выдзеленыя словы? Назавіце дзеяслоўныя словазлучэнні, вызначце іх ролю ў тэксце.

І вось мы ў хаце лесніка Васіля Андрэевіча. **Над сталом** вісіць лямпа. Яна асвятляе прасторны пакой. Усё тут сведчыць, што гаспадар — паляўнічы. **На сценах** вісяць ласіныя і аленевыя рогі. **Пад** высокай **столлю** лунае арол. **На суку**, пры дзвярах, прымасціўся чорны, як смоль, глушэц. **На падлозе** ляжыць скура дзіка. Хата нагадвае філіял* музея лясніцтва, у якім мы пабывалі днём *(Паводле Я. Пархуты)*.

● Апішыце, які выгляд мае ваш пакой (клас). Выкарыстайце дзеяслоўныя словазлучэнні са значэннем стану дзеяння ў прасторы.

**426.** Прачытайце. Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы. Спішыце, ставячы словы ў дужках у патрэбным склоне (склон абазначце зверху). Устаўце прапушчаныя літары.

Раніца. Усталявалася пагодная восень. Дробны іней усцілаў *(з..мля, стрэхі, платы)*.

Вос..нь многа забрала ад *(прырода)*, але многа і дала *(яна)*. На нова.. жыццё адрадзіліся азімы.. палеткі. Густа.. з..лёная рунь укрыла *(яна)*. На *(..равыя палеткі)* уз..лася цубка за *(з..мля)* малада.. канюшына.

Лугі з..л..нелі *(раскошная атава)*. Прырода рыхтавалася да *(зімовы адпачынак)*. В..сной яна ўзнімецца з *(новая сіла і хараство) (Паводле А. Чарнышэвіча)*.

⊙ **427.** Перакладзіце на рускую мову. Чым адрозніваюцца формы выдзеленых беларускіх дзеяслоўных словазлучэнняў ад рускіх адпаведнікаў?

1. Таксама і **па ўнуках** трохі **замаркоціўся** дзед, асабліва па Андрэю *(Я. Колас)*. 2. **Ідуць у брусніцы** дзеўкі, маладзіцы, а Міхася цягне бор і хвайнічок *(Я. Колас)*. 3. Як тумaніцца поле раніцай, **бягу** з вёдрамі **па ваду** *(П. Трус)*. 4. Аж Міколка **падзівіўся з дзеда**, з яго незвычайнай спрыт-

насці *(М. Лынькоў)*. 5. Лясніцкі пастроіў разведчыкаў і **падзякаваў** ім за паспяховае выкананне задання *(І. Шамякін)*. 6. Прашу **выбачыць мне** за лішні клопат *(Ц. Гартны)*. 7. **Падсмейваліся** мы **з Сымонкі** для адводу вачэй *(М. Хведаровіч)*.

**428.** Прачытайце тэкст. Пра які выпадак апавядаецца ў ім? Як разгортваецца думка (паступова, паралельна)? Якую ролю ў гэтым адыгрываюць дзеясловы? У форме якога часу яны ўжыты? Якую ролю ў тэксце выконваюць дзеяслоўныя словазлучэнні?

## На крызе

Аднаго разу Мікітка гуляў каля ракі ў самы ледаход. Вось адна крыга падышла да берага. Мікітка ступіў на яе.

Хлопчык загуляўся. А крыга адсунулася ад берага і паплыла.

Вёска засталася далёка ззаду. З правага берага ішлі шырокія палі. З левага ляжалі залітыя вадою паплавы. За імі пачынаўся лес.

Мікітка заплакаў.

Хлопчыка заўважыў лётчык. Ён нізка праляцеў над самай вёскай.

Людзі павыскаквалі з хат. А лётчык развярнуўся і скінуў рукавіцу з запіскай «Хлопчык на крызе».

Людзі селі ў лодку, дагналі крыгу і выратавалі хлопчыка *(Паводле Я. Маўра)*.

У апавядальных тэкстах думка разгортваецца паступова. Дзеясловы-выказнікі звычайна ўжываюцца ў форме прошлага часу: *хлопчык* ***гуляў*** *—* ***падышла*** *крыга — хлопчык* ***ступіў*** *на крыгу — крыга* ***адплыла*** *— хлопчык* ***заплакаў*** *— хлопчыка* ***заўважыў*** *лётчык — лётчык* ***паведаміў*** *людзям пра хлопчыка — людзі* ***выратавалі*** *хлопчыка.*

Часта выкарыстоўваюцца дзеяслоўныя словазлучэнні са значэннем паслядоўнасці дзеяння, месца і часу дзеяння: *гуляў каля ракі, гуляў у самы ледаход.*



**429.** Прачытайце тэкст, у якім рака апісана як жывая істота. Для якога стылю ўласцівы такі прыём? Якую стылёвую рысу перадаюць дзеясловы і дзеяслоўныя словазлучэнні, ужытыя ў пераносным значэнні? Вызначце рэальны час, перададзены дзеясловамі. Выпішыце сказы з дзеясловамі неазначальнай формы.

Груша цвіла апошні год. Усе галіны яе былі ўсыпаны бурным бела-ружовым цветам. Яна кіпела, млела ў пчаліным звоне і распасцірала ў яго ззянні маленькія, кволыя пальцы новых парасткаў.

Аднак надыходзіла яе апошняя часіна.

Дняпро падбіраўся да яе спакваля, як разбойнік. У вечным сваім імкненні скрышыць правы бераг ён падступаў у палавень* зусім блізка да яго, гвалтоўна вырываў кавалкі берага. Потым адступаў, і трава літасціва спяшалася залячыць раны, нанесеныя Дняпром. А наступнай вясной ён вяртаўся зноў. І з часам абкружыў грушу з усіх бакоў. Гэты апошні год яна стаяла толькі сілай сваіх каранёў *(У. Караткевіч)*.

## § 57. Публіцыстычны стыль

**430.** Прачытайце тэкст. Пра што гаворыць аўтар, у чым пераконвае, да чаго заклікае? Да якога стылю належыць тэкст?

Скарына...

Імя Скарыны сёння з тымі, хто клапоціцца пра адраджэнне душы чалавечай, хто дбае пра вялікую будучыню народа.

Тая вера, што калісьці вяла яго пакутніцкім шляхам да высакароднай мэты і асвятляла яму гэту дарогу, — з намі! Тая прага тварыць дабро «людзям паспалітым», якая жывіла яго сілы, прыдавала яму мужнасці, стойкасці і цярпення, — з намі!

Будзем жа дастойнымі ў сваіх словах і справах яго памяці, яго спадчыны, яго запаветаў! *(Н. Гілевіч)*.

● Назавіце моўныя сродкі, якія надаюць тэксту ўрачыстае гучанне (словы і словазлучэнні, аднатыпны парадак слоў у сказах, паўтор адных і тых жа слоў, клічныя сказы).

Тэксты, асноўная мэта якіх — паведаміць інфармацыю, уздзейнічаць на чытача і слухача, г. зн. у нечым іх пераканаць, да нечага заклікаць, адносяцца да **публіцыстычнага стылю**. Ён выкарыстоўваецца ў газетных і часопісных артыкулах, у выступленнях на мітынгах і сходах, на радыё і тэлебачанні.

Для публіцыстычнага стылю характэрны: наяўнасць у тэксце як кніжных, так і гутарковых слоў; слоў і словазлучэнняў з ацэначным значэннем; паўтор адных і тых жа слоў; пабуджальныя і клічныя сказы; сказы са звароткамі; сказы з аднароднымі членамі.

Асноўнымі жанрамі публіцыстычнага стылю з'яўляюцца: артыкул, нарыс, інтэрв'ю, рэпартаж, фельетон, адозва, прамова.

**431.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Які асноўны тон тэксту (урачысты, пафасны, спакойны, іранічны)? З дапамогай якіх моўных сродкаў ён ствараецца?

Імёны Купалы і Коласа даўно сталі своеасаблівым паэтычным сімвалам не толькі беларускай нацыянальнай культуры, але і самой беларускай зямлі, беларускага народа. Гэта па іх імёнах, як па дзяржаўных геральдычных знаках, апазнаюць і прызнаюць нас у людзях, у свеце. Гэта іх імёны мы называем у першую чаргу там, дзе нам трэба заявіць, сказаць, сцвердзіць, што мы — ёсць і што мы — не абы-якія ў гэтай агромністай і стракатай сям'і чалавецтва, што і мы нешта далі свету і таму маем права на людскую павагу і прызнанне, на «свой пачэсны пасад між народамі» *(Н. Гілевіч)*.

**432.** Прачытайце тэкст. Да якога тыпу і стылю ён належыць? Якую праблему ставіць аўтар? З якой мэтай выкарыстаны ў ім сказы з аднароднымі членамі, сказы з адваротным парадкам слоў, паўтор слоў? Назавіце іншыя моўныя сродкі (у апошнім абзацы), з дапамогай якіх фарміруецца асноўная стылёвая рыса тэксту.

Апоўдні пайшлі скупнуцца. Стаяла летняя гарачыня. Смаліла сонца! Ветрыку аніякага.

...Стома адступала, сілы вярталіся. Прыгадалася мая родная Мутавіца, што на другім краі Палесся, на Косаўшчыне. Бывала, збярэцца дзятва з усёй вёсачкі, табунком пабяжыць на звілістыя берагі рачулкі. Там і плёсікі, і віркі. Хапала месца ўсім. Пялёскаліся, колькі хто хацеў.

Цяпер маёй Мутавіцы няма. Меліяратары праклалі ўздоўж рачулкі канал, спусцілі ваду. І зніклі плёсы, перакаты, віркі, знікла рыба, не стала траў, кудысьці падзеліся кветкі. Балацінка за вёсачкай ператварылася ў чорнае поле. Наляціць іншы раз аднекуль вецер, круціць, віруе, уздымае ў неба клубы сухога торфу, нясе на вёску чорнае воблака.

Наступ на прыроду працягваецца. Зніжаецца ўзровень грунтовых водаў. Знікае фаўна. Знікаюць многія віды флоры. Сохне лес. Пашыраецца ветравая эрозія. Але хочацца верыць, што людзі навучацца аптымальна спалучаць шляхі рашэння экалагічных і гаспадарчых праблем. Хутчэй бы! *(Я. Пархута).*

**433.** Прачытайце публіцыстычны тэкст, напісаны ў жанры нарыса. Якая яго мэта? Прывядзіце прыклады слоў і словазлучэнняў грамадска-палітычнага зместу; кніжных і гутарковых слоў. Якія яшчэ моўныя сродкі, характэрныя для публіцыстычнага стылю, вы заўважылі? Падрыхтуйце вусны пераклад на беларускую мову.

Внезапный ветер закрутил чёрную позёмку. Казалось, чьи-то невидимые злые пальцы выкручивают стебли озимины. Их тут же погребало под слоем пыли... Шесть сантиметров почвы в одно мгновение как не бывало. Тысячу лет работала природа, создавая этот плодородный слой, и нет его.

Иван Николаевич отвёл глаза в сторону и тут же заговорил как будто про себя:

— Половину Полесья осушили. Чего ждём? Назрела острая необходимость создать и внедрить новую систему земледелия в условиях мелиорации.

Я знал, что в Беларуси уже появились участки «золотой» почвы — надутые ветром пески. Да, природоохранительные мероприятия — не прихоть, а необходимость. И это хорошо понял Иван Николаевич. В его районе мелиорацию ведут не тотальную. Здесь оставляют естественные полосы дикой растительности вдоль каналов. Реконструировали также сельскохозяйственную технику. Но главное — произошёл сдвиг в сознании земледельцев. И это вселяет надежду *(По Л. Кругловой).*

С л о ў н і к:
*работала природа* — ***старалася прырода, працавала прырода***;
*как будто про себя* — ***быццам сам сабе, нібыта сам сабе***;
*внедрить систему* — ***укараніць сістэму***;
*прихоть* — ***капрыз***;
*вселяет надежду* — ***абнадзейвае***;
*в одно мгновение как не бывало* — ***як карова языком злізала, як рукой змяло.***

**434.** Пазнаёмцеся з інфармацыяй аб публіцыстычным жанры — інтэрв'ю. З другога абзаца выпішыце дзеяслоўныя словазлучэнні. Раскрыйце іх сэнс. Якой структуры назоўнікавыя словазлучэнні пераважаюць у тэксце: «прым. + наз.» ці «наз. + наз.»? Чаму?

Інтэрв'ю — гэта мэтанакіраваная гутарка журналіста з якой-небудзь асобай.

Адказы суразмоўцы на пытанні карэспандэнта складаюць змест інтэрв'ю. Але роля карэспандэнта не зводзіцца да запісу адказаў. Поспех у многім залежыць ад таго, як карэспандэнт падрыхтаваўся да гутаркі, ад яго ўмення кіраваць гутаркай. Таму карэспандэнт вывучае матэрыялы і факты, пра якія пойдзе гаворка, абдумвае пытанні, зважаючы на тэму і задачы інтэрв'ю.

У самым пачатку звычайна паведамляюцца пэўныя звесткі пра суразмоўцу і тэму гутаркі.

Інтэрв'ю мае форму дыялога: карэспандэнт задае пытанні — суразмоўца адказвае на іх... Карэспандэнт нярэдка ўстаўляе свае рэплікі, штосьці ўдакладняе, перапытвае. Але робіцца гэта тактоўна. Галоўнае — даць магчымасць выказацца таму, хто дае інтэрв'ю.

**435.** Уявіце, што вы журналіст і вам трэба ўзяць інтэрв'ю ў вядомага вучонага, які вярнуўся з экалагічнай экспедыцыі. Якія пытанні вы яму задасце? Што, на вашу думку, адкажа суразмоўца?

Пабудуйце інтэрв'ю. Што вы напішаце ва ўступе? Чым закончыце? Выкарыстайце тэксты практ. 432, 433.



**436.** Прачытайце тэкст. Растлумачце, чаму ў ім выкарыстаны пераважна асабовыя і прыналежныя займеннікі, дзеясловы прошлага часу.

Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы. Пра што расказваецца ў кожным з іх?

Дарагі дружа Лёня!

Прабач, што я затрымаўся з адказам на твой апошні ліст. Пасля летніх канікул было шмат працы ў школьным садзе і на агародзе. Потым пачаліся заняткі.

Сёлета мы вучымся ў новай школе. Новыя парты, вялікая спартыўная зала... Школа пабудавана на высокім месцы. У класах шмат сонца, бо вокны не меншыя, як дзверы.

На адкрыццё школы запрасілі і майго дзеда. Дырэктар сказаў, што кожны чалавек павінен пакінуць добры знак на зямлі. І пачаў ён з майго дзеда. Бо мой дзед — садоўнік. Ён за сваё жыццё прышчапіў і выгадаваў больш за сто тысяч яблынь і груш. Гэта ж цэлая пладовая пушча! А яшчэ дзед навучыў садовай справе многіх школьнікаў.

Такія, дарагі Лёня, нашы апошнія навіны. Яшчэ раз прашу прабачэння, што затрымаўся з адказам. Дзед даў мне за гэта добры наганяй!.. Пішы мне пра свае салігорскія навіны. Жадаю табе найлепшых поспехаў.

Твой сябра Міхась Пінчук *(М. Паслядовіч)*.

● Напішыце пісьмо свайму сябру ці родным. Выкарыстайце звароткі, асабовыя і прыналежныя займеннікі. Пры ветлівым звароце да старэйшых займеннікі ***вы, вам*** пішыце з вялікай літары.

● Прыгадайце, як правільна напісаць адрас на канверце.

## § 58. Асабовыя дзеясловы

**437.** Прачытайце ўрывак з верша «Беларуская песня» У. Караткевіча. Назавіце дзеясловы. Вызначце іх асобу, час, лік.

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць
суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяць у шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё, з першым крокам, як молат, заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.

● Якія дзеясловы ўжыты ў пераносным значэнні? Абгрунтуйце сваю думку.

Да **асабовых** належаць дзеясловы, якія паказваюць, хто ўтварае дзеянне.

П е р ш а я а с о б а паказвае, што дзеянне ўтварае сама гаворачая асоба: *развважаю, нашу.*

Д р у г а я а с о б а паказвае, што дзеянне ўтварае той, з кім гавораць: *развважаеш, носіш.*

Т р э ц я я а с о б а паказвае, што дзеянне ўтварае той, пра каго гавораць: *развважае, носіць.*

**438.** Прачытайце. Знайдзіце сказ, які перадае асноўную думку тэксту. Назавіце ў тэксце дзеясловы. Вызначце асобу і лік дзеясловаў цяперашняга часу.

Чалавек горнецца да прыгожага і выяўляе гэту сваю прагу як умее, у розныя часы па-рознаму. Земляроб заўсёды прыгожа адгортваў плугам скібу на скібу, праводзіў роўненька, як па шнуры, разоры. Загоны баранавалі, пакуль усе грудкі не стануць аднолькавыя, як пад адну мерку абточаныя. Касілі лугі, так прыціскаючы касу, каб ні «барады», ні зялінкі не засталося на пракосе.

А як заслухваліся песняю жаўранка, спыніўшы коніка з возам, як заміралі з сякерай у хмызняку, каб не спудзіць салаўя, як апускалі долу паляўнічую стрэльбу, загледзеўшыся на харашуна лася! *(М. Лужанін)*.



Па асабовых канчатках можна вызначыць асобу і лік дзеясловаў.

Асоба дзеясловаў вызначаецца ў цяперашнім і будучым часе.

**439.** Прачытайце. Вызначце час, асобу (калі ёсць), род (калі ёсць), лік дзеясловаў.

Растуць у лесе дзічкі — ігрушы і яблыні. Ідзеш-ідзеш, і раптам стомленае вока ўзрадуецца. Без усякай маскіроўкі ляжаць пад дрэвам яблыкі. Падымеш адзін, другі, пакаштуеш: то даўка-кіслы, то кісла-горкі, то салодкі з гаркатою. А ёсць такія, што можна есці ды хваліць. Сакаўныя, смачныя. Кідаю ў кошык штук колькі лясовак — пакажу дома.

Быў такі чалавек у нашым сяле — Захарка. Капаў у лесе дзічкі, у сады пераносіў, прышчэпліваў. А потым стаў па лесе хадзіць, дзе маладзенькую грушу ці яблыню ўбачыць — зрэжа, прышчэпіць. Знойдзеш цяпер такое дрэўца — як падарунак на свята. Помнік сабе чалавек зрабіў *(П. Місько)*.

● Аўтар тэксту расказвае ад свайго імя. Але толькі ў адным сказе *Кідаю ў кошык штук колькі лясовак — пакажу дома* ён ужывае дзеяслоў у форме 1-й асобы. У іншых сказах выкарыстана форма дзеясловаў 2-й асобы. З якой мэтай?

Дзеясловы 2-й асобы могуць абазначаць дзеянні любога чалавека. У такіх выпадках выказванне мае абагульненае значэнне. Напрыклад: *Рэшатам вады не наносіш* (Прыказка).

**440.** Спішыце верш, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары. Вызначце час, асобу і лік дзеясловаў. Чым адрозніваюцца выдзеленыя дзеясловы і што ў іх агульнага? З якой мэтай замест дзеясловаў 1-й асобы ў другім чатырохрадкоўі ўжыты дзеясловы 2-й асобы?

Крыніцы, ціхія крыніцы,
Як я люблю вас, як люблю!
Жывы струменьчык *(не)* вялічкі
Мне апява.. ўсю зямлю.
З пашанай схіл..шся **напіцца** —
І раптам спын..шся, замрэш:
Як быццам з гулкае зарніцы
Табе **а..кры..цца** бязмеж.

*К. Кірэенка*

● Зрабіце фанетычны запіс слоў *спынішся, схілішся.*



**441.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Абазначце канчаткі дзеясловаў.

Калі гэту зямлю ўбачыш хоць раз у жыцці — яе *(не)* забудзеш. Калі з чыстых яе крыніц вып'еш глыток вады — прыбавіцца сіл і радасці. У памяці навечна застануцца яе малюнкі. А калі нарадзіўся на гэтай зямлі, то, дзе б *(ні)* апынуўся, сэрца будзе неадступна клікаць цябе да лясных і азёрных даляў, да духмянага чабору на ўзгорку, да жытняга поля.

## § 59. Безасабовыя дзеясловы

**442.** Прачытайце сказы. Назавіце іх граматычныя асновы. Вызначце форму дзеясловаў-выказнікаў. Ці абазначаюць яны дзеючую асобу?

Бралася пад раніцу. Мне ўжо не спалася. Пахаладала. Хутчэй бы развіднела.

Безасабовыя дзеясловы абазначаюць дзеянні, якія адбываюцца самі па сабе, без дзеючай асобы (прадмета).

У сказах з безасабовымі дзеясловамі няма дзейніка. Такія сказы называюцца **безасабовымі:** *Світае. З вечара падмарозіла. Не спіцца.*

Безасабовыя дзеясловы выражаюцца формамі 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага часу і формай ніякага роду адзіночнага ліку прошлага часу.

**443.** Прачытайце сказы. Назавіце безасабовыя дзеясловы. Якія з іх перадаюць з'явы прыроды, а якія — пачуцці і перажыванні чалавека? Вызначце час дзеясловаў.

1. Вечарэла, з палёў пахла збажыной, якая даспявала, наліваласся, хілілася коласам долу *(А. Жук)*. 2. Запахла лесам — свежым дрэвам і мокрым снегам *(І. Пташнікаў)*. 3. З прычыненага акна павявала халадком *(А. Жук)*. 4. Сцямнела. Ля лесу ядрана быў відаць леташні сухі сівец *(І. Пташнікаў)*. 5. Хутчэй бы днела. Не **дачакаешся** *(І. Пташнікаў)*. 6. Як хочацца дамоў. Як хочацца жыць *(І. Пташнікаў)*. 7. Павіднела. Азвалася недзе блізка малінаўка — не спала *(І. Пташнікаў)*. 8. Падзьмуў з-за ракі вецер, пахаладнела *(І. Пташнікаў)*.

● Ці з'яўляецца безасабовым выдзелены дзеяслоў? Чаму? Зрабіце яго фанетычны запіс.

**444.** Прачытайце. Да якога тыпу належыць тэкст?

Складзіце сказы, у якіх выдзеленыя дзеясловы ў адным выпадку будуць безасабовымі, у другім — асабовымі.

Адкуль узяліся безасабовыя дзеясловы, як яны ўтварыліся? Мы ж ведаем, што без староннняй сілы ніводзін камень не ссунецца з месца. Каб лепш зразумець іх паходжанне, зробім экскурс у гісторыю вераванняў чалавека.

Першабытныя людзі не разумелі сапраўднай сутнасці нават самых звычайных з'яў прыроды. Яны атаясамлівалі

іх са шматлікімі добрымі і злымі духамі, а пазней — з багамі. У тыя часы безасабовых дзеясловаў не было, выканаўцамі дзеяння выступалі нябачныя і ўсёмагутныя духі і багі. Яны нібыта гневаліся, калі іх называлі па імені. Каб не пашкодзіць сабе, забаранялася ўспамінаць сапраўдныя імёны багоў. Пачалі гаварыць **грыміць, імжыць,** світае, **прыпякае** *(С. Цярохін)*.

**445.** Асабовыя сказы перабудуйце ў безасабовыя. Чым яны адрозніваюцца?

У з о р. *Насоўваўся вечар. — Вечарэла.*

1. Я хачу стаць мастаком. 2. Раніцай былі замаразкі. 3. Ён доўга не мог заснуць. 4. У паветры стаіць густы пах чабору.

**446.** Спішыце сказы, падкрэсліце граматычныя асновы. Вызначце від сказаў (асабовыя ці безасабовыя)? Складзіце схемы.

У з о р. *За дзень мяне прабрала ветрам, і цяпер па целе прыемна разлівалася цяпло (М. Воранаў).* [б], і [а].

1. Ноч лажыцца павольна, і доўга яшчэ гарыць неба над лесам *(К. Чорны)*. 2. Я ўспомніў старога Арцёма, і мне захацелася праведаць яго *(А. Чарнышэвіч)*. 3. Вясна скончылася, і лета запанавала на полі *(К. Чорны)*. 4. Акно было расчынена, і з двара пахла дажджом *(І. Пташнікаў)*. 5. Зноў загрымела, і па небе прабегла доўгая, як расцягнутыя лейцы, бліскавіца *(І. Пташнікаў)*.



**447.** Перабудуйце выдзеленыя часткі складаных сказаў у безасабовыя. Сказы запішыце, падкрэсліце граматычныя асновы.

У з о р. ***Я веру**, што вы станеце добрымі людзьмі. — Мне **верыцца**, што вы станеце добрымі людзьмі.*

1. **Браўся марозік**, і сонца пырскала ў вочы зіхатлівымі праменьчыкамі з кожнага снежнага крышталіка. 2. **Я хачу**

зноў сустрэцца са школьнымі сябрамі, каб прайсціся ва ўспамінах па незабыўных сцежках дзяцінства. 3. **Займаўся дзень**, і лес абуджаўся вясёлымі птушынымі галасамі.

У форме якога часу стаяць безасабовыя дзеясловы?

## § 60. Зваротныя дзеясловы

**448.** Прачытайце. Назавіце дзеясловы, якія заканчваюцца на -***ся***, -***цца***. Вызначце іх асобу, лік, час.

### Паводка

Рака выйшла з берагоў. Яна разлілася па лугах. У нізінах злучылася з ляснымі раўчукамі, балотамі. Узгоркі ператварыліся ў астраўкі. На іх ратуюцца ад вады розныя звяры.

Зваротныя дзеясловы абазначаюць дзеянні, якія накіраваны на самога ўтваральніка дзеяння: *вучуся, мыюся.* Зваротныя дзеясловы ўтвараюцца пры дапамозе постфікса -***ся***, які далучаецца да дзеяслоўнай формы. Калі постфікс -***ся*** далучаецца да інфінітыва на -***ць*** або да формаў 3-й асобы адзіночнага ці множнага ліку, то ён пераходзіць у -***ца***: *рыхтава**ць*** + -***ся*** — *рыхтава**цца**, рыхтуе**цца**, рыхтую**цца**.*

**449.** Прачытайце тэкст. Назавіце зваротныя дзеясловы. У якіх з іх нельга вызначыць час, асобу, лік? Чаму?

### Вясёлыя словы

Як радасна адчуваць усе адценні слова! Як хораша, калі яно іграе, быццам вясёлка на небе пасля дажджу! Ёсць словы, якія хочацца бясконца паўтараць. Яны самі завучваюцца, бо гэта вясёлыя словы. Іх мы любім змалку. Гэта лічылкі. З лічылак пачынаюцца нашы гульні. З лічылак

пачынаецца наша навучанне, наша авалоданне словам. Паслухайце вось хоць бы гэту:

Кацілася торба
З вялікага горба.
А ў той торбе —
Хлеб, паляніца.
З кім ты хочаш
Падзяліцца?

*В. Вітка*

● Запішыце некалькі лічылак, якія вы ведаеце. Чым яны вам падабаюцца?

**450.** Дапоўніце рады некалькімі зваротнымі дзеясловамі з наступнымі значэннямі.

1. Дзеянне накіравана на самога ўтваральніка: *абувацца*, ...
2. Узаемнасць дзеяння: *мірыцца*, ...
3. Стан чалавека, пачуцці, перажыванні: *радавацца*, ...
4. Працэсы і ўласцівасці рэчаў: *рвацца*, ...
5. Уласцівасці жывых істот: *кусацца*, ...

Для даведкі: *мыцца, хваляваца, нездаровіцца, апранацца, галіцца, сустракацца, любавацца, расцягвацца, падымацца, вучыцца, гнездавацца, адгуквацца, вітацца, непакоіцца, завіхацца.*

**451.** Ад наступных дзеясловаў утварыце зваротныя і складзіце з імі словазлучэнні.

Катаю, радую, ладзіш, вярнуў, спынілі, раіў, апрануў, бяру, вітаю, наведваў, адгукнуў.

**452.** Прачытайце і запішыце тэкст, ставячы дзеясловы, што ў дужках, у патрэбнай форме. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

*(Сабрацца)* бабуля ісці ў лес па ягады.
— Ты куды? — *(пытацца)* унучка Надзя.

— У ягады.

— Вазьмі мяне з сабой.

— Ты лепш, унучка, дома пагуляй, а я ўжо табе ягадак набяру. Ты ж маленькая яшчэ, *(заблудзіцца)*.

— Не *(заблудзіцца)*. Ты ж сама ўчора казала, што я ўжо не маленькая, што мне сорам ужо і плакаць такой вялікай.

— Дык то ж было ўчора.

— А сягоння ж я на дзень *(падцягнуцца)*, — сказала Надзя і прыўстала на дыбачках *(І. Шуцько)*.

● Назавіце дзеяслоў, у якім адбылося чаргаванне зычных. Зрабіце фанетычны запіс дзеяслова *заблудзішся*.



**453.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце зваротныя дзеясловы. Чым адрозніваюцца іх формы ў беларускай і рускай мовах? Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Шлюпка шла к берегу уверенно и быстро. Миклухо-Маклаю казалось, что берег сам наплывает на его маленькое судёнышко. Всё ближе и ближе становилась жёлтая полоса песка. Выше вырастали горы. Тёмная масса густой зелени превращалась в заросли узорчатых пальм. С прибрежных скал свешивались прямо в воду ветки растений. Ветер доносил пряный и сладкий аромат незнакомых цветов и трав. Между деревьями вдалеке поднимались тонкие струйки дыма. Там жили люди. Люди были и на берегу. Они робко жались друг к другу, молчаливо ждали приближения шлюпки. Тёмные тела блестели на солнце, как хорошо отполированное дерево. В курчавых волосах пестрели цветы. Так вот они, его товарищи, с которыми он будет жить столько времени лицом к лицу, с глазу на глаз *(А. Чумаченко)*.

С л о ў н і к:
*маленькое судёнышко* — ***маленькае судна***;
*пряный сладкий аромат* — ***вострыя салодкія пахі***;
*робко жались* — ***туліліся ад страху***;
*лицом к лицу* — ***твар у твар***;
*с глазу на глаз* — ***з вока на вока, сам-насам***;

## § 61. Трыванні дзеяслова

**454.** Прачытайце дзеясловы.

Будаваць — будую — будаваў — буду будаваць;
маляваць — малюю — маляваў — буду маляваць;
прачытаць — прачытаў — прачытаю;
наварыць — наварыў — навару;
напячы — напёк — напяку.

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія дзеясловы абазначаюць незакончанае (закончанае) дзеянне?
2. На якія пытанні яны адказваюць?

Дзеясловы бываюць незакончанага і закончанага трывання.

Дзеясловы **незакончанага трывання** абазначаюць незакончанае дзеянне і адказваюць на пытанні ш т о р а б і ц ь? ш т о р а б л ю? ш т о р а б і ў? ш т о б у д у р а б і ц ь?

Дзеясловы **закончанага трывання** абазначаюць закончанае дзеянне і адказваюць на пытанні ш т о з р а б і ц ь? ш т о з р а б і ў? ш т о з р а б л ю?

Дзеясловы закончанага трывання не маюць формы цяперашняга часу.

**455.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль. Назавіце моўныя сродкі, тыповыя для гэтага стылю.

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Абазначце дзеясловы незакончанага трывання літарай ***н***, закончанага — літарай ***з***.

Неўзабаве ў мужчын па..шла гаворка пра цэны на збожжа, пра зямлю і леснікову службу.

— Добра вам, службовым людзям, — казаў Яўхім, звяртаючыся да Міхала Амброжыка і Яся Пальчыка. — Праца,

яно, вядома, нялё..кая, але заробак ёсць пэўны, а мы, мікалаеўцы, душымся на пяску.

— Зайздросціць вельмі таксама няма чаго, — а..казаў гаспадар. — Не ўнаровіш якому чорту — пішы прапала, загоняць у яко.. балота ці зусім з торбай пусцяць. Іншая рэч сваё: хоць пясок, хоць якая зямелька, але ты сам гаспадар, сам сабе пан *(С. Александровіч)*.

**456.** Пастаўце дзеясловы ў неазначальнай форме. Абедзве формы дзеяслова (асабовая і неазначальная) павінны быць аднаго трывання.

У з о р: *сігае* (ш т о р о б і ц ь?) — (ш т о р а б і ц ь?) *сігаць; сігане* (ш т о з р о б і ц ь?) — (ш т о з р а б і ц ь?) *сігануць.*

Вяжа, звяжа; булькае, булькне; шуміць, зашуміць; расце, вырасце; будуе, пабудуе; капа́е, выкапае; скача, скокне; каратае, скаратае.

**457.** Ад наступных дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе прыставак утварыце дзеясловы закончанага трывання.

У з о р: *збіраць — назбіраць.*

Лавіць, несці, дзяліць, пячы, сеяць, шыць, ліць, думаць.

**458.** Ад дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе суфікса ***-ну-*** ўтварыце дзеясловы закончанага трывання. Абазначце суфіксы. Якія дзеясловы перадаюць аднаразовае дзеянне?

У з о р: *ныраць — ныр*^*ну*^*ць.*

Грукаць, раскісаць, ківаць, гукаць, махаць, круціць.

**459.** Ад дзеясловаў закончанага трывання ўтварыце дзеясловы незакончанага трывання. Якая частка слова змянілася? Абазначце яе.

У з о р: *паскор*^*ы*^*ць — паскар*^*а*^*ць.*

Заўважыць, асушыць, расступіцца, купіць, уключыць, ускладніць, змяніць, ператварыць, абнавіць.

**460.** Спішыце дзеясловы. Абазначце чаргаванне гукаў у каранях слоў.

У з о р: *ляцець — лячу:* [ц′]//[ч].

Рэзаць — рэжу, часаць — чашу, ездзіць — езджу, любіць — люблю, крывіць — крыўлю, карміць — кармлю, пусціць — пушчу.

У асобных дзеясловах пры змене формы адбываецца **чаргаванне (змена) гукаў,** як галосных, так і зычных. Напрыклад: *прынесці — нясу:* [э]//[а]; *хадзіць — хаджу*: [дз′]//[дж]; *купіць — куплю:* [п′]//[пл′]; *лавіць — лаўлю:* [в′]//[ўл′].

**461.** Прачытайце прыказкі пра месяцы. Растлумачце іх сэнс. Выдзеленыя дзеясловы пастаўце ў 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу.

Абазначце чаргаванне гукаў.

У з о р: *студзіць — студжу:* [дз′]//[дж].

1. Студзень хаты студзіць, рана гаспадыню **будзіць**. 2. Студзень **мяце** — ліпень залье. 3. Ліпень **косіць** і жне, доўга **спаць** не дае. 4. Што ў полі **ўродзіць**, жнівень **знаходзіць**. 5. У жніўня панамі сярпы, маруды тады не **цярпі**. 6. Кастрычнік **ходзіць** па краі і гоніць птушак з гаю.

● Якія прыказкі пра месяцы і поры года вы ведаеце? Запішыце іх.



**462.** Спішыце сказы. Устаўце прапушчаныя дзеясловы, падбярыце да іх аднакаранёвыя. Падкрэсліце гукі, якія чаргуюцца.

1. У сакавіку пачынае ... сок у бяроз. 2. Кожную вясну я ... некалькі хатак для шпакоў і сініц. 3. Творы мастацкай літаратуры ... нашы мары, развіваюць уяўленні. 4. Я кожны тыдзень ... ліст да сваёй бабулі. 5. Вечарамі густы туман ... нізіны і паплавы.

## § 62. Правапіс дзеясловаў з суфіксамі *-ава- (-ява-)*, *-ыва- (-іва-)*, *-ва-*, *-оўва- (-ёўва-)*

**463.** Прачытайце.

дaследаваць — даследую          авалодваць — авалодваю
малюваць — малюю          падтрымліваць — падтрымліваю
радаваць — радую          адыгрываць — адыгрываю
дняваць — днюю          выраўноўваць — выраўноўваю

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Калі ў неазначальнай форме пішуцца суфіксы ***-ава-*** ***(-ява-)***, а калі — ***-ва-, -іва- (-ыва-)***?

> Калі ў цяперашнім часе дзеяслоў у форме 1-й асобы канчаецца на ***-ую (-юю)***, то ў неазначальнай форме і ў прошлым часе пішацца суфікс ***-ава- (-ява-)***, калі на ***-ваю*** — то ***-ва-***. Пасля збегу зычных, апошнімі з якіх з'яўляюцца ***л, н, р,*** пішацца суфікс ***-іва- (-ыва-)***.

**464.** Запішыце дзеясловы ў неазначальнай форме. Растлумачце іх правапіс. Суфіксы абазначце.

Падтрымліваю, спісваю, дзякую, камандую, вартую, начую, частую, святкую, прываравую, падточваю, прычэсваю, высушваю.

**465.** Ад дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе суфіксаў ***-ва-, -іва- (-ыва-)*** утварыце дзеясловы незакончанага трывання і запішыце іх.

У з о р: *развязаць* → *развязваць, разыграць* → *разыгрываць.*

Падкарміць, назапасіць, выветрыць, падпісаць, закруціць, прыгадаць, нагадаць, падсаліць, падбяліць, заказаць.

**466.** Пры дапамозе прыстаўкі ***па-*** і суфіксаў ***-ва-, -іва- (-ыва-)*** утварыце новыя дзеясловы.

Узор: *бліскаць — пабліскваць.*

Шчыпаць, калыхаць, мяшаць, свістаць, драмаць, гуляць, махаць.

**467.** Ад дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе суфікса ***-оўва- (-ёўва-)*** утварыце дзеясловы незакончанага трывання.

Узор: *параўнаць — параўноўваць, абсталяваць — абсталёўваць.*

Аб'яднаць, выпрабаваць, падслухаць, выкарыстаць, падштурхнуць, ацынкаваць, адпрацаваць, выбудаваць, зашыфраваць, пасунуць, выратаваць.



**468.** Спішыце, падзяляючы тэкст на чатыры абзацы. На месцы пропускаў устаўце суфіксы ***-ва-, -іва- (-ыва-), -оўва- (-ёўва-).*** Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

## Крыніца

Рака ручай крыніца адыгр..лі важную ролю ў жыцці чалавека. Каля вады ўзнікалі паселішчы вёскі хутары. Калі чалавек знаходзіў крыніцу недзе на лясной сцяжынцы ці каля дарог ён клапатліва абносіў яе невысокім зрубам рабіў побач лаўку — каб кожны мог наталіць смагу адпачыць. Крыніца супакой..е і зачар..е. Доўга можна слухаць яе ціхае булькатанне. Крыніца прывабл..е птушак і звяроў. Каля крыніцы высвіст..юць салаўі выпраб..юць свае галасы шмат якія іншыя птушкі. Тут прыемна перашэпт..юцца вольхі і вербы. Прыслух..ецца да ўсяго гэтага чалавек і сам пачынае спяваць.

**469.** Напішыце сачыненне-апавяданне паводле пачатку і канцоўкі. Дайце загаловак.

Міця Туравец і Вадзім Піскун ішлі са школы. Яны вучыліся ў адным класе, сядзелі за адной партай, а жылі кіламетры за два адзін ад аднаго.

На скрыжаванні дарог сябры спыніліся, каб развітацца.

— Дай мне падручнік па беларускай мове. Я свой забыўся ў бабулі, калі быў на канікулах.

— Але ж я таксама не вывучу ўрока.

— Дзівак ты, я ж да вечара вывучу і прынясу. Прыйшоўшы дадому, Вадзім хуценька паабедаў, крыху адпачыў і пачаў рыхтавацца да заняткаў.

Калі ўрокі былі зроблены, на дварэ пачынала ўжо цямнець. Трэба было хутчэй аднесці Міцю падручнік. Вадзім апрануўся і выйшаў з хаты.

Неба было зацягнута шэрымі хмарамі. Мог пайсці дождж...

...Пасля заняткаў Вадзім і Міця зноў крочылі разам. Вадзім ніяк не мог пачаць размовы. Яму было сорамна. Так і ішлі моўчкі. І толькі на скрыжаванні дарог, дзе ім трэба было разыходзіцца, Вадзім сказаў: «Даруй, Міця, больш ніколі такое не паўторыцца» *(Паводле П. Рунца)*.

**470.** Прачытайце тэксты-апісанні. Да якіх стыляў яны належаць? У форме якога часу ўжыты дзеясловы? Што можна сказаць пра форму часу дзеясловаў другога тэксту? Спішыце першы тэкст. Абазначце канчаткі дзеясловаў.

1. Эх, і пагодка стаіць на Палессі! Толькі старыя людзі памятаюць такія прыгожыя дні. Цеплыня, цішыня, яснасць. У сіняй смузе песцяцца далі. Залатая чырвань лістоў нерухліва звісае на купчастых галінах высокіх дрэў. Цёмныя ночы тояць нейкі ўрачысты спакой, і неба ніжэй нахіляецца да зямлі, каб паслухаць яе адвечную скаргу. А квяцістыя зоры, бы дыяменты*, усыпаюць усё неба, дрыжаць, пераліваюцца колерамі вясёлкі, аб чымся бязмежна вялікім гамоняць тваёй душы *(Я. Колас)*.

2. **Сарока**

Сарока належыць да атрада вераб'інападобных. На Беларусі водзіцца паўсюды. Зімой вандруе невялікімі чародамі, часта трымаецца населеных пунктаў, асабліва сельскага тыпу. Селіцца ў лісцевым драбналессі, сярод балот і палёў,

у зарасніках вербняку на лугах, у поймах рэк, гаях, парках, лясных палосах уздоўж дарог, паблізу ўзлесся. Буйных глухіх лясоў пазбягае. Жыве парамі. Корміцца насякомымі, яйкамі і птушанятамі дробных птушак, мышападобнымі грызунамі. Сарока — вельмі асцярожная і кемлівая птушка *(Энцыклапедыя прыроды Беларусі)*.

У тэкстах-апісаннях інфармацыя аб прыметах прадметаў і з'яў звычайна перадаецца паралельна. Дзеясловы-выказнікі маюць адну і тую ж форму часу (часцей цяперашняга) і трывання.

У навуковых і дзелавых апісаннях дзеясловы цяперашняга часу пэўны рэальны час не перадаюць.

**471.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Што перадаюць дзеясловы цяперашняга часу ў тэксце? Вусна перадайце змест тэксту. Складзіце схемы выдзеленых словазлучэнняў.

## Пераходныя і непераходныя дзеясловы

Па адносінах дзеяння да аб'екта дзеясловы падзяляюцца на пераходныя і непераходныя.

Пераходныя дзеясловы *абазначаюць дзеянне*, што непасрэдна *пераходзіць на* які-небудзь *прадмет*, выражаны назоўнікам або займеннікам вінавальнага склону без прыназоўніка: *рашаць задачу, касіць луг, паклікаць іх*.

Назоўнік пры пераходных дзеясловах можа выражацца і формай роднага склону. У гэтым выпадку ён абазначае частку чаго-небудзь: *выпіць кавы, купіць цукру*. Калі пры пераходным дзеяслове ёсць адмоўе, то назоўнік таксама выкарыстоўваецца ў форме роднага склону: *не прачытаў кнігі, не выявіў здольнасцей*.

Непераходныя дзеясловы абазначаюць дзеянне, якое непасрэдна не накіравана на прадмет: *ісці, старэць, развáжаць, расці*.

Пераходныя дзеясловы могуць утварацца ад непераходных з дапамогай прыстаўкі: *думаць — прыдумаць* (казку), *працаваць — распрацаваць* (дзялянку).

Адзін і той жа дзеяслоў у залежнасці ад кантэксту можа быць як пераходным, так і непераходным: *У красавіку ўжо сеюць авёс. У красавіку ўжо сеюць.*

**472.** Прачытайце тэкст. Які яго асноўны тон (спакойны, афіцыйны, урачыста-ўзрушаны, іранічны, строгі)? Якія моўныя сродкі пераважаюць у тэксце: кніжныя ці гутарковыя? Чаму? З якой мэтай выкарыстаны паўтор тых жа самых слоў, сказы з аднароднымі членамі? Зрабіце вывад, у якім стылі напісаны тэкст.

Перакладзіце пісьмова тэкст на беларускую мову.

### Экзамен в Падуе

Юноша стоит перед Высокой Коллегией. Он не похож на жителя Падуи. Не похож он и на венецианца. Юноша плечист, длинноволос, ясен глазами. И хотя в них светятся ум и пытливость, члены Коллегии старейшего в Италии Падуанского университета смотрят на него с недоверием.

А Скорина мысленно уже видит свою первую книгу. Он издаст её. Издаст много книг. И тогда свет познания снизойдёт и на его многострадальную землю.

В голове его блуждают только светлые мысли. Он не предвидит ни сожжения своих книг, ни унизительных судебных процессов, ни изгнания, ни смерти на чужбине. Он думает пока о главном деле своей жизни — о книге!..

Ему задают вопросы. Он отвечает на безукоризненной латыни. Учёные удивлены: «варвар» безмерно талантлив и образован! Он не просто учёный, он гуманист, он — брат им по духу. Так Беларусь выдержала экзамен перед Европой.

А через пять лет Скорина выдержал ещё один экзамен, издав первую книгу на родном языке *(В. Короткевич)*.

С л о ў н і к:

*юноша плечист, длинноволос, ясен глазами* — ***юнак плячысты, з доўгімі валасамі і яснымі вачыма***;

*свет познания снизойдёт* — ***святло навукі прыйдзе***;

*пытливость* — ***дапытлівасць, цікаўнасць***.



**473.** Разгледзьце малюнак. Які тэкст (апавяданне ці апісанне) можна пабудаваць паводле яго? Абгрунтуйце сваю думку. Пабудуйце тэкст. Дзеясловы якога часу вы ў ім выкарыстаеце?




## § 63. Змяненне дзеясловаў. Прошлы час

**474.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Абгрунтуйце сваю думку. Назавіце дзеясловы, вызначце іх час і трыванне.

...На ніцях белай павуціны
Прывозяць восень павучкі.
Яе красёнцы, чаўначкі
У моры лесу мільганулі
І лісце ў багру апранулі:
І з кожнай лісцевай галоўкі
Глядзіць твар восені-свякроўкі.

*Я. Колас*

**475.** Разгледзьце табліцу.

| Род | Адзіночны лік | Множны лік (для ўсіх родаў) |
|---|---|---|
| Мужчынскі | *грэў*□, *мок*□, *рос*□ | *грэл*[*і*] |
| Жаночы | *грэл*[*а*], *мокл*[*а*], *расл*[*а*] | *мокл*[*і*] |
| Ніякі | *грэл*[*а*], *мокл*[*а*], *расл*[*о*] | *расл*[*і*] |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці змяняюцца дзеясловы ў прошлым часе па ліках?

2. У якім ліку дзеясловы ў прошлым часе змяняюцца па родах?

3. Якія канчаткі маюць дзеясловы адзіночнага і множнага ліку ў прошлым часе?

Дзеясловы ў прошлым часе змяняюцца па ліках, а ў адзіночным ліку — і па родах.

Прошлы час утвараецца ад асновы неазначальнай формы пры дапамозе суфікса ***-ў*** або ***-л-***: *збіраць* → *збіраў, збірала, збіралі*.

Перад суфіксамі ***-л-***, ***-ў*** пішацца тая самая галосная, што і перад ***-ць*** у неазначальнай форме: *сеяць — сеяла — сеяў, насіць — насіла — насіў*.

З а ў в а г а. Каб вызначыць аснову дзеяслова неазначальнай формы, трэба адкінуць ***-ць, -ці, -чы***.

**476.** Прачытайце верш. Ці адпавядае граматычны час дзеясловаў рэальнаму часу? Вызначце час, лік і трыванне дзеясловаў. Што перадаюць дзеясловы прошлага часу закончанага трывання? Цяперашняга часу?

### Супакой

Пралілося лісця золата,
Адляцелі жураўлі.
У палоне сцюжы-холаду
Пушчы, рэчанькі, палі.

Рэчку вольную празрыстую
Закаваў тугі мароз,
Снегу чыстага пушыстага
Снежань хуценька прынёс.

Спяць пад лёдам рыбкі, рыбачкі,
Мурашы пад снегам спяць.
Над зямлёй завеяў скрыпачкі
Мілагучныя чуваць.

Чарадзейства адбываецца.
Казачны мой край лясны.
Як, Прырода, спачываецца?
Бачыш ты якія сны?

*В. Жуковіч*

● Назавіце зваротак, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры ім.

Якое значэнне набываюць неадушаўлёныя назоўнікі, калі становяцца звароткамі?

**477.** Спішыце жартоўны дыялог і пастаўце неабходныя знакі прыпынку. Якімі правіламі вы будзеце кіравацца?

Назавіце дзеясловы, вызначце іх час, лік, род. Якія з гэтых дзеясловаў зваротныя?

## Палёт

Дзядзька Міхась ці лёталі вы на самалёце
Лятаў
А ці баяліся
Шчыра кажучы, першы раз баяўся
Ну а пазней
Пазней? Пазней я не лятаў.

**478.** Прачытайце словы. Звярніце ўвагу на націскі і канчаткі ў дзеясловах прошлага часу.

Зрабіце вывад, калі пішацца канчатак ***-о*** ў дзеясловах ніякага роду прошлага часу.

Вёў — вяла — вяло — вялі; валок — валакла — валакло — валаклі; мёў — мяла — мяло — мялі; прыняў — прыняла — прыняло — прынялі.



**479.** Ад наступных дзеясловаў утварыце дзеясловы прошлага часу. Пастаўце націскі. Абазначце канчаткі.

У з о р: *стрыгчы* — *стры́г*□ — *стры́гл*[а] — *стры́гл*[а] — *стры́гл*[і].

Пячы, цвісці, адняць, палоць, узяць, ліць, плысці, несці.

**480.** Прачытайце верш. Назавіце дзеясловы прошлага часу. Вызначце іх трыванне. Чаму ў тэксце пераважаюць дзеясловы закончанага трывання?

### Чайка-гультайка

Напілася **чайка чаю**
І заплакала з **адчаю**
І птушынай роднай мовы
Назаўжды забыла словы,
Толькі ведае «Кі-гі!».
Не пазнала берагі,
Дзе яна жыла калісьці,
Дзе ў шалёным ветру свісце
Хмару рэзала крылом,
Аж грымеў над морам гром.

*С. Грахоўскі*

● Ці з'яўляюцца аднакаранёвымі выдзеленыя словы? Абгрунтуйце свой адказ.

● Назавіце аднакаранёвыя словы. У якім з іх адбылося чаргаванне галоснага гука?

**481.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Дзеясловы цяперашняга часу замяніце, дзе мэтазгодна, на дзеясловы прошлага часу.

Сем цыбатых жураўлёў ходзяць па леташняй жытняй пожні. Яны збіраюць каменьчыкі і іншую спажыву, бо ранняй вясною корму небагата.

Птушкі не бачаць, што па мокрай разоры да іх па..крадаецца воўк. Ён усё бліжэй і бліжэй па..паўзае да жураўлёў. І калі які жораў узнімае галаву, воўк моцна прыціскаецца да зямлі. Застаецца ўжо метраў восем...

У гэты час жураўлі, а..чуўшы небяспеку, як па камандзе насцярожваюцца, падымаюць галовы.

Воўк не вытрымлівае, кідаецца на птушак. Але журавы напагатове. Яны робяць невялікую ра..бежку, у..махваюць крыламі і а..рываюцца ад зямлі *(Паводле З. Бяспалага)*.

● Раскажыце аб правапісе прыставак, якія заканчваюцца на зычны.

**482.** Прачытайце тэкст. Спішыце яго, падзяляючы на абзацы. Дзеясловы, што ў дужках, пастаўце ў прошлым часе. Зверху абазначце трыванне.

### Максім Багдановіч

Кароткі *(быць)* жыццёвы век у беларускага паэта Максіма Багдановіча. Ён *(пражыць)* усяго дваццаць пяць гадоў. З іх толькі пяць гадоў *(жыць)* на Беларусі. Астатняе жыццё *(прайсці)* па-за яе межамі. Таму родную мову *(вучыць)* па кнігах. Шмат часу *(мінуць)* з той пары. Шмат новых імён *(заззяць)* на небасхіле беларускай літаратуры. Шырокай магутнай хваляй б'ецца яна не толькі ў родныя берагі. І гэта таксама вынік той працы, якую вельмі хараша *(здзейсніць)* вечна малады Максім Багдановіч. Створанае ім і сёння здзіўляе сваім хараством увесь славянскі свет. Жыццё Максіма Багдановіча *(быць)* узорам высокага служэння роднай літаратуры, роднаму народу. Гэтым ён будзе таксама радаваць, вабіць і здзіўляць нас *(Паводле А. Бачылы)*.

● Падбярыце сінонімы да слоў *здзейсніць, вабіць*.

Значэнне роду ўласціва дзеясловам прошлага часу. Пры назоўніках, якія абазначаюць прафесіі, пасады, званні, форма роду дзеяслова залежыць ад полу асобы, на што ўказваюць уласныя імёны: *Да нас* ***выйшла*** *старшыня калгаса, дэпутат абласнога Савета, ардэнаносец Алена Мінаўна Рунец* (С. Грахоўскі); *Старшыня калгаса Іван Андрэевіч* ***выйшаў*** *з машыны.*

**483.** Спішыце. Дзеясловы пастаўце ў форме прошлага часу мужчынскага або жаночага роду.

1. Прафесар Святлана Іванаўна Царык *(прачытаць)* лекцыю. 2. Рэдактар Васіль Мікалаевіч *(выехаць)* у камандзіроўку. 3. Галоўны інжынер завода Антон Міхайлавіч *(уручыць)* узнагароды рацыяналізатарам. 4. Дырэктар школы Вера Рыгораўна Крывец *(павіншаваць)* вучняў з пачаткам новага навучальнага года. 5. Стараста класа Ніна Бялевіч *(вывесіць)* аб'яву. 6. Бібліятэкар Марыя Уладзіміраўна Дубчык *(падрыхтаваць)* выстаўку новых кніг.



**484.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце апавяданне. Дзеясловы якога часу вы выкарыстаеце ў ім?









## § 64. Цяперашні і будучы час

**485.** Разгледзьце табліцу. Які вывад можна зрабіць?

| Асоба | Адзіночны лік | | |
|---|---|---|---|
| 1-я | ***я*** | (ш т о р а б л ю?) | *чыта* ю |
| | | (ш т о з р а б л ю?) | *прачыта* ю |
| 2-я | ***ты*** | (ш т о р о б і ш?) | *чыта* еш |
| | | (ш т о з р о б і ш?) | *прачыта* еш |
| 3-я | ***ён*** | (ш т о р о б і ц ь?) | *чыта* е |
| | | (ш т о з р о б і ц ь?) | *прачыта* е |

| Асоба | Множны лік | | |
|---|---|---|---|
| 1-я | ***мы*** | (ш т о р о б і м?) | *чыта* ем |
| | | (ш т о з р о б і м?) | *прачыта* ем |
| 2-я | ***вы*** | (ш т о р о б і ц е?) | *чыта* еце |
| | | (ш т о з р о б і ц е?) | *прачыта* еце |
| 3-я | ***яны*** | (ш т о р о б я ц ь?) | *чыта* юць |
| | | (ш т о з р о б я ц ь?) | *прачыта* юць |

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Колькі формаў часу ўтвараюць дзеясловы?
2. Якая форма часу паказвае, што дзеянне адбываецца ў момант гутаркі аб ім?
3. На што паказвае форма будучага часу?
4. Як змяняюцца дзеясловы цяперашняга і будучага часу?



Дзеясловы цяперашняга і будучага часу змяняюцца па асобах і ліках.

Будучы час дзеяслова бывае простым і складаным.

**Просты** будучы час утвараецца ад дзеясловаў закончанага трывання *(пасадзіць — пасаджу)*, **складаны** — ад дзеясловаў незакончанага трывання *(садзіць — буду садзіць)*.

**486.** Прачытайце верш. Выпішыце з верша спачатку дзеясловы будучага простага часу, потым — будучага складанага. Абазначце трыванне.

На Палессі восень...
Гусі белыя
Выскублі мядовую траву.
І вятры, ад сцюжы ашалелыя,
То журботна **свішчуць**[ф],
То равуць.
Смех і кветкі,
Вы куды падзеліся?
Навакол стагі, стагі, стагі...
Чым жа ты цяпер са мной падзелішся,
Прыпяць, пачарнелая з тугі?
Ліст пажоўклы да плашча **прыколеш**[ф]?
Ці на момант **вернеш**[ф] мне ізноў
Каснічок зары,
Світальны колер
Тапалёў, буслоў і туманоў?
А сама **замкнешся**[ф] ў лядоўні,
Лета ў стагі паклаўшы спаць...
Будуць коні сніць лугі мядовыя
І, як людзі, цяжка ўздыхаць.

*П. Панчанка*

● Растлумачце правапіс канчаткаў выдзеленых дзеясловаў.

**487.** Пастаўце наступныя дзеясловы ў будучым часе, вызначце трыванне.

У з о р: *казаць, сказаць — буду казаць* (н.), *скажу* (з.).

Думаць, падумаць; вячэраць, павячэраць; дзяліць, выдзеліць; бегчы, пабегчы.

**488.** Прачытайце тэкст. Да якога тыпу ён належыць? Вызначце асноўную думку. Дзеясловы якога часу пераважаюць у ім? Чаму? Растлумачце падзел тэксту на абзацы.

## Кропелька

Аднойчы на кончыку ледзяша з'явілася Кропелька. Зірнула туды, зірнула сюды і здзівілася: вясна не за гарамі, а Рачулка закавана ў ледзяныя аковы!

І рашыла Кропелька дапамагчы Рачулцы — саскочыла на дол. За ёю з пастрэшша саскочыла яшчэ адна Кропелька, потым другая, трэцяя... Узяліся яны за рукі, і атрымалася Ручаінка.

Бяжыць Ручаінка, пазвоньвае, а прыбегла да Рачулкі — жахнулася: тая ледзь жывая! Хоча скінуць з сябе зімовыя аковы, а не можа. І тады Кропелька, што першая саскочыла на зямлю, адшукала трэшчынку ў лёдзе і — туды. За ёю ў Рачулку ўліліся іншыя кропелькі.

Пабеглі ўсе разам на лёд, і не вытрымалі зімовыя аковы, раскалоліся. Вызваленая Рачулка пабегла туды, дзе віднелася Вялікая Рака, яшчэ ўкрытая тоўстым лёдам.

Жаваранак на ўсё гэта пазіраў з-пад сонца і весела вызваньваў:

— Вось што значыць у дружбе жыць!

— Вось што значыць адну справу рабіць! *(Я. Пархута).*

● Назавіце аднакаранёвыя словы. Чым адрозніваюцца іх лексічныя значэнні?

⊙ Складзіце казку пра якую-небудзь прыродную з'яву.

**489.** Прачытайце тэкст. Дзеясловы якіх часоў выкарыстаны ў ім? Чаму першы і апошні сказы вынесены ў асобныя абзацы? Падзяліце тэкст на тры часткі і дайце ім загалоўкі. Вусна перадайце змест тэксту ад 3-й асобы, выкарыстоўваючы дзеясловы ўсіх трох часоў.

## Адуванчыкі

У садку растуць адуванчыкі.

Гэта вельмі цікавыя кветкі. Ноччу яны адпачываюць — сціскаюцца ў тугія пупышкі. Раніцай запальваюць свае

жоўтыя сонейкі. Надвячоркам зноў спаць кладуцца. Закрываюць вяночкі і перад дажджом. Затое ў добрае надвор'е жаўцеюць увесь дзень.

Аднойчы раніцай я глянуў на кветкі ў садку і вачам не паверыў. З учарашніх жоўтых сонейкаў утварыліся круглыя белыя пухоўкі. І ўсе былі на высокіх тонкіх ножках, а не пры зямлі, як раней. Быццам іх нехта невядомы ноччу з травы павыцягваў.

— Чаму адуванчыкі так раптоўна ўгору падняліся? — пацікавіўся я ў дзеда Нічыпара.

— Паспелі ўжо. Цяпер ім вышыня патрэбна. Чым далей насенне адуванчыкаў разляціцца, тым болей на зямлі жоўтых сонейкаў успыхне.

Я толькі падзівіўся мудрасці жоўтых адуванчыкаў *(Р. Ігнаценка).*

● Як у вашай мясцовасці называюць адуванчык?

**490.** Напішыце пра птушку, якая вас некалі ўразіла. Калі гэта было? Якое ў яе апярэнне? Ці мае яна сваю песню? Што вы даведаліся пра яе пазней (яе звычкі, дзе гняздзіцца, куды адлятае на зіму, калі пералётная, у які час вяртаецца на радзіму і інш.)? Якім будзе тып тэксту? Калі мэтазгодна ўжыць дзеясловы прошлага часу, а калі — цяперашняга?

**491.** Прачытайце тэкст. У чым, на вашу думку, асаблівасць аўтарскай манеры выкладу інфармацыі? Ці адпавядае граматычны час дзеясловаў рэальнаму часу? Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы. Складзіце яго план. Вусна перадайце змест тэксту.

## Дзяды

Сёння Дзяды. На акне прывітальны белы ручнік расхінула маці. Быццам дарогу дамоў для Дзядоў разаслала. Прыходзьце, ляціце! Насцеж і дзверы, і вокны расчынены — душам насустрач. Розных прысмакаў на стале багата. І каўбаса, і вяндліна, і рыба, і верашчака з блінамі.

Але вячэру дзядоўскую з куцці* пачынаюць. Кожнаму трэба куцці зачарпнуць на памін свайго роду, што караніўся і жыў на зямельцы сумленна. Тут і Дзяды прычасцяцца

да страў сямейных. Посуд паставілі ім — як гасцям найпачэсным.

Ціша над светам. Дзяды прыляцелі, як зоркі, селі за стол і чакаюць вячэры. Мы іх не бачым. Ды адчуваем: тут яны, побач, за нашым сталом. Свечку запальвае бацька. Дзядоў запрашае разам з радзінаю зладзіць спатканне-ўспамінак.

Потым ужо распачнецца гамонка-бяседа. Будуць узгадваць продкаў сваіх — і нядаўніх, і дужа далёкіх. І галасы ўваскрэснуць. І вочы здалёку ўгледзяцца ў нашы дні з прыхаванай журбою.

А толькі расстанне, падступіць і страпянецца, як сэрца, стамлёная свечка — птахамі душы над хатай пакружаць, пакружаць і палятуць туды, дзе ўспыхваюць зоркі. Маці вады зачарпне малітоўна ў кубак, хлеб на ручнік пакладзе беражліва. Выйдзе ўслед за Дзядамі і сумна прамовіць: «З Богам ідзіце, Дзяды! Да наступнай сустрэчы» *(А. Хатэнка)*.

● А як у вас спраўляюць (спраўлялі) Дзяды? Распытайце пра гэта ў старэйшых. Запішыце. Чым хвалюе вас гэтае свята?

У апавяданні пра мінулае могуць ужывацца дзеясловы не толькі прошлага, але цяперашняга і будучага часу. Цяперашні час ужываецца таксама і ў значэнні будучага. Гэта дазваляе больш выразна ўявіць падзеі, падкрэсліць іх паўтаральнасць.



**492.** Прачытайце тэкст. Спішыце, падкрэсліце дзеясловы цяперашняга і будучага часу, ужытыя ў значэнні прошлага.

Віталік глядзеў у акно. За шклом было відаць, як затрымцела пад ветрам галінка вішні, тонкая і голая. Яшчэ нядаўна на ёй ляжаў снег, белы, пушысты. Віталік здзіўляўся тады, што снег не падае, а трымаецца. Або апранецца ноччу ўсё дрэва ў іней, кожная самая тоненькая галінка ну быццам бы абмакнецца ў белую фарбу. І такім прыгожым, такім далікатным адразу робіцца, нібы хто карункі на яго накідаў.

Цяпер галінка пасвятлела, стала гнуткай, значыць, пацяклі ў ёй жывыя сокі, і хутка яна ўпрыгожыцца зялёнымі лісточкамі *(Г. Васілеўская)*.

● Раскажыце пра якую-небудзь падзею з жыцця класа. Выкарыстайце замену аднаго часу на другі.

## § 65. Спражэнне дзеясловаў

Змяненне дзеясловаў па асобах і ліках называецца **спражэннем.**

Паводле асабовых канчаткаў дзеясловы дзеляцца на першае (I) і другое (II) спражэнне.

Дзеясловы I спражэння маюць канчаткі: ***-у (-ю), -еш (-эш, -аш), -е (-э, -а), -ём (-ем, -ом, -ам), -еце (-яце, -аце), -уць (-юць).***

Дзеясловы II спражэння маюць канчаткі: ***-у (-ю), -іш (-ыш), -іць (-ыць), -ім (-ым), -іце (-ыце), -аць (-яць).***

**493.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Падкрэсліце дзеясловы, абазначце спражэнне.

***па́свіць***
***па́свяць***
***пасці́***
***па́сціць***

Шчэ не пачаліся вятры
Але **шклянее** неба ранкам
І клён **барвеніць** угары
Над прахалодна-чэрствым ганкам.

І нам нагадвае тады
Сваёй задумнасцю глыбокай
Спакой крыштальнае вады
У шклянцы поўнай, быццам вока.

Не зварухні, не закрані!
Няхай халодна грані граюць
Пакуль кляновыя агні
Красой апошняю палаюць!

*М. Стральцоў*

● Растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

**494.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. У дзеясловах цяперашняга часу пастаўце націск і абазначце канчаткі.

## Кнігі дзяцінства

Беларуская дзіцячая кніга сё..я вельмі прыгожая. А робяць яе такой каляровай і прывабнай мастакі — кніжныя графікі.

Адзін з сучасных беларускіх мастакоў, які мае сваю манеру малява..я і шмат працуе над афармле..ем кніг для дзяцей, — Мікола Селяшчук. Яго малюнкі не паўтараюць тэксту. Яны — нібыта новая кніга, са сваім зместам. Тая ж казка, але ра..казаная другім чалавекам. Усе дэталі малюнкаў вельмі рэальныя, бачаныя намі ў штодзё..ым жы..і. Сваёй рэальнасцю яны прымушаюць нас паверыць у казачнае іх спалучэ..е. Г..роі, дэталі пераходзяць з малюнка ў малюнак, знітоўваюць асобныя старонкі ў кні..ку, а кні..ку ператвараюць у цэлы казачны свет *(«Бярозка»)*.

**495.** Прачытайце дзеясловы, вызначце ў іх месца націску.

Прывітаюць, мараць, свецяць, высушваюць, скосяць, аруць, працуюць, малююць.

Як вымаўляюцца ненаціскныя канчаткі?

Спражэнне дзеясловаў з **ненаціскнымі** канчаткамі вызначаецца па неазначальнай форме.

Да II спражэння належаць:

- усе дзеясловы на ***-ыць (-іць)***, акрамя аднаскладовых (*віць, мыць, шыць* і інш.) і ўтвораных ад іх *(навіць, зашыць, памыць)*;
- дзеясловы *ненавідзець, цярпець, вярцець, спаць, залежаць, гнаць, стаяць, баяцца.*

Усе астатнія дзеясловы належаць да I спражэння.

**496.** Пастаўце дзеясловы ў 1, 2, 3-й асобах адзіночнага і множнага ліку цяперашняга часу.

Узор: *будавацца — будуюся — будуемся, будуешся — будуецеся, будуецца — будуюцца.*

Збірацца, вітацца, апранацца, катацца, вяртацца, спадзявацца.

**497.** Утварыце дзеясловы з дапамогай прыставак. Абазначце спражэнне. Звярніце ўвагу, што дзеясловы з прыстаўкамі адносяцца да таго спражэння, што і без прыстаўкі.

I — I

У з о р: *вядзём — выведзем.*

Глядзім, грабём, ляцім, стаім, жывём, сячом, кладзём, бярэш, пячом, п'еш, прадзём, тчэш.

**498.** Пастаўце дзеясловы ў неазначальную форму і ўтварыце 2-ю асобу адзіночнага і 3-ю асобу множнага ліку. Вызначце спражэнне і канчаткі.

У з о р: *накручу — накруціць (на* ***-іць****, II спр.) — накруціш — накруцяць; накручваю — накручваць (на* ***-аць****, I спр.) — накручваеш, накручваюць.*

Растлумачу, растлумачваю; развешу, развешваю; прывару, прыварваю; перасялю, перасяляю; выдзелю, выдзяляю.



**499.** Вызначце спражэнне дзеясловаў. Запішыце іх у форме 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку.

У з о р: *маляваць (на* ***-аць****, I спр.) — малюе, малююць.*

Насіць, выкручваць, складаць, залежаць, выбіраць, накрыць, зжаць, замясіць, выжыць, збірацца, спячы.

**500.** Прачытайце. Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

## Кнігаўка

Добрая ў балотнай і вадзяной жыўнасці варта. *(Не)* хаваецца і *(не)* уцякае ад *(не)* бяспекі а кідаецца насустрач

ёй і галасна дапытваецца Чый ты? Чый ты? З дабром ідзеш — *(не)* пакрыўдз..шся на чуйных кнігавак-вартаўніц. Намер зламысны затаіў — балотныя насельнікі ўжо веда..ць: блізка чужак, трэба хавацца.

З выраю кнігаўкі вярта..цца ранняю вясною калі на палетках і балотах яшчэ ляжаць шэрыя лапікі снегу. Гнёзды свае ладз..ць проста на купінах.

Кнігаўкі клапатлівыя і смелыя бацькі. Я неаднаразова бачыў іхнія паветраныя бойкі з нахабнымі варонамі. А вось сабаку кнігаўкі перамага..ць хітрасцю. Living..ць блізенька назаля..ць яму вымуша..ць даганяць сябе. І ўсё далей адводз..ць ад птушанят.

Ад **золку** і да змяркання вартуе балота кнігаўка *(У. Ягоўдзік)*.

Раскажыце, як пішуцца часціцы ***не, ні*** з дзеясловамі.

● Падбярыце сінонімы да выдзеленага слова.

**501.** Спішыце прыказкі, ставячы дзеясловы, што ў дужках, у 2-й ці 3-й асобе адзіночнага ліку. Вусна вызначце час, трыванне і спражэнне дзеясловаў.

1. Летні дзень зіму *(карміць)*. 2. Летам *(прызапасіць)* — зімою *(знайсці)*. 3. Хто полю *(гадзіць)*, у таго жыта *(радзіць)*. 4. Хто старанна *(касіць)*, той зімою сена не *(прасіць)*. 5. Як *(скроіць)*, так і *(пашыць)*. 6. Добра *(працаваць)* — павагу *(мець)*. 7. Пакармі птушку зімою — яна *(адплаціць)* вясною.

**502.** Падбярыце да назоўнікаў дзеясловы, каб атрымаліся словазлучэнні. Словазлучэнні запішыце. Абазначце спражэнне і канчаткі дзеясловаў.

У з о р: *лапатай капа* [юць] — *(капаць, I спр.)*.

Камбайнам ..., касой ..., трактарам ..., грузавіком ..., мячом ..., невадам ..., сякерай ..., віламі ..., граблямі ..., насілкамі ..., лейкай ..., нажніцамі ... .

**503.** Спішыце, дапісваючы канчаткі дзеясловаў 3-й асобы множнага ліку. Зверху абазначце спражэнне дзеясловаў. Пастаўце, дзе трэба, коскі.

Багата дзікімі жывёламі Беларусь. Бега.. у гушчары стройныя алені асілкі-ласі скач.. **шустрыя** вавёркі ціку.. ваўкі хава..ца куніцы даўгавухія зайцы і дзікі. А на берагах вадаёмаў шныра.. **юркія** норкі працу.. непаваротлівыя бабры лов.. здабычу драпежныя выдры. У рэках і азёрах гуля.. рыбы: шчупакі і судакі акуні і язі ляшчы і галаўні.

Уся зямля карысныя выкапні лес рэкі азёры звяры птушкі і рыбы належ.. народу *(«Родная прырода»)*.

● Да якой часціны мовы належаць выдзеленыя словы? Што яшчэ можна сказаць пра іх? Што вы скажаце пра іх лексічнае значэнне? Як называюцца такія словы?

**504.** Спішыце, ставячы дзеясловы, што ў дужках, у цяперашнім часе. Абазначце трыванне і спражэнне дзеясловаў.

На лістах вішняку *(вісець)* буйныя кроплі начных туманаў. На платах і стрэхах *(ляжаць)* яшчэ вільгаць. За сялом густа і тучна *(зеляніцца)* поле. Загоны *(перасякаюцца)* то тонкімі, то шырокімі звілінамі дарог. На пагорку *(стаяць)* і яшчэ *(драмаць)* вятрак, але, *(здавацца)*, ён ужо сіліўся ўзмахнуць паднятымі крыламі. *(Узыходзіць)* сонца. Яно паволі і баязліва *(паказвацца)* з-за гарызонту, першыя прамяні яго *(класціся)* шырока густым і нібы цягучым золатам. Над стрэхамі хат *(вывівацца)* лёгкія празрыстыя дымкі *(Я. Скрыган)*.



**505.** Вызначце, па якіх марфалагічных прыметах супастаўлены дадзеныя формы дзеясловаў. Спішыце. Абазначце прыстаўкі, суфіксы, канчаткі, з дапамогай якіх выражаны марфалагічныя прыметы.

Кашу — косім; кашу — косіш; кашу — касіў; кашу — скашу.

**506.** Прачытайце тэкст. Абгрунтуйце, што ён належыць да мастацкага стылю. З якой мэтай замест дзеясловаў 1-й асобы ўжыта форма 2-й асобы? У значэнні якога часу выкарыстаны дзеясловы будучага часу? Чаму?

Спішыце першыя чатыры абзацы, устаўляючы прапушчаныя літары. Зверху над дзеясловамі абазначце спражэнне.

## Зіма

Звычайна гэта бывае так.

Спачатку вецер — такі пругкі, што яго нават можна, адчува..ш, узяць у жменю, паабтраса.. апошнія лісты з мокрых дрэў, павыдзіма.. халодную ваду з лужын, падсуш..ць раскоўзаную дарогу. Потым бадзёры марозік падмароз..ць поле, дзе прыгожа зеляне.. азіміна.

І потым надыходз..ць ужо той ціхі час, калі паветра робіцца звонкім, ядраным. Бразн.. нехта вядром ля калодзежа — і гэты звон доўга не аціха.. на вуліцы, зойдз.. як не ў кожны дом.

Тады **роб..шся** нібы сам не свой, ходз..ш задумлівы, з нейкім дзіўным пачуццём. Ходз..ш і ўсё чагосьці чака..ш. Выйдз..ш на двор, паглядз..ш на неба, паходз..ш, патупа..ш па вуліцы і зноў вярта..шся ў цёплую хату. Але і ў хаце тады, зразумела, не сядзіцца.

Ну дзе ж ён? Ну калі ж ён?

І вось — нарэшце! У ніякаватай і ўрачыстай цішыні раптам пацямнее неба, і адтуль абваліцца на луг, на поле, на вёску белая радасць *(Я. Сіпакоў)*.

● Зрабіце фанетычны запіс выдзеленага слова.

**507.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Спішыце, дапісваючы канчаткі дзеясловаў.

1. Сівыя бараны ў небе плава.. . 2. Адзін з трубою ўсіх цягн.. за сабою. 3. Мяне ўсе прос.. , мяне ўсе чака.. , а як толькі з'яўлюся, хавацца пачына.. . 4. На агні не гар.. , у вадзе не тон.. . 5. Вясна прыгрэ.. — футра надзен.. , зіма наступа.. — футра скіда.. . 6. Глян.. — заплач.. , а ўсе яму рады.

А д г а д к і: *сонца, дождж, паравоз, воблакі, лёд, лес.*

**508.** Ад наступных дзеясловаў утварыце дзеясловы 1, 2, 3-й асобы адзіночнага ліку будучага часу. Абазначце прыстаўкі ў дзеясловах.

У з о р: *складці — складу — складзеш — складзе.*

Надрукаваць, выводзіць, абходзіць, распяваць, замяніць, авалодаць.

**509.** Аднавіце аўтарскі тэкст, паставіўшы дзеясловы, што ў дужках, у 2-й або 3-й асобе адзіночнага ліку будучага часу. Якія з іх адрозніваюцца ад неазначальнай формы толькі націскам? Запішыце адноўлены тэкст, падзяляючы яго на абзацы.

Пуня не замыкаецца. Сярод цемры, хоць выкалі вока, вобмацкам *(ступіць)* некалькі крокаў, *(знайсці)* драбінку, *(узгрэбціся)* пад самы вільчык, *(улегчыся)*. Праз шчыліну ў сцяне *(убачыць)*, як з сянец, з акенца будзе слупам падаць на гладкі падворак святло. *(Пачуць)* тупат і бразганне. Гэта *(пачаць)* упраўляцца маці. Але неўзабаве лямпачка *(пагаснуць)*, замруць крокі. *(Павярнуцца)* ямчэй. Пад табой *(зашумець)* сена, *(затрашчаць)* густа, глуха. Нарэшце *(хрупнуць)* апошняя былінка. *(Наступіць)* цішыня, і табе зробіцца спакойна... Апошнім, што яшчэ *(улавіць)* паміж яваю і забыццём тваё вуха, будзе гук шпокнуўшага вобзем пераспелага яблыка *(Л. Калодзежны)*.

● Абгрунтуйце, што тэкст належыць да мастацкага стылю.

**510.** Прачытайце тэкст. Да якога тыпу мовы ён належыць? Назавіце сродкі сувязі сказаў у першым абзацы.

## Яблынька пры дарозе

На старым селішчы, каля дарогі, *(расці)* яблыня. Ця..кая *(выпасці)* ёй доля. Асабліва *(даставацца)* у верасні, калі *(паспяваць)* плады. Хто не *(ісці)*, *(звярнуць)* да яе. За камень ці палку — і ну збіваць яблыкі. *(Збіваць)* з лісцем, з галінкамі. Але наступнай восенню яблыня зноў *(гнуцца)* ад сало..кіх, ружовых пладоў. І яблыня *(перамагчы)*. *(Перамагчы)* людзей сваёй самаадданай дабратой.

Сталі яны даглядаць дрэўца. *(Абгарадзіць)*, *(замазаць)* дупло глінай. Побач *(паставіць)* лавачку, каб а..пачыць у цяньку можна было. Летнімі вечарамі яна ніколі не *(пуставаць)* *(М. Янчанка)*.

Пры спісванні падзяліце тэкст на тры абзацы, устаўце прапушчаныя літары. Дзеясловы, што ў дужках, пастаўце ў патрэбным часе.

● Растлумачце правапіс слоў з прапушчанымі літарамі.



**511.** Прачытайце тэкст. Спішыце першыя тры абзацы, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Пастаўце, дзе трэба, коскі паміж аднароднымі членамі сказа. Абазначце час, спражэнне, трыванне дзеясловаў у другім і трэцім абзацах. Якія з іх зваротныя?

Доўга стаю на месцы і *(не)* магу адарваць вачэй ад гэтага дзіўнага смешнага стварэння. І яно таксама ўтаропілася ў мяне пыта..цца без слоў: «А як цябе зваць?» Раптам чую, як з грудзей, нібы з клеткі, ірвецца пырха.. на волю смех.

Карова шумна ўздыха.., ёй, мусіць, *(не)* падабаецца мой рогат. Яна марудна выгіна..цца і чырвоным языком, што далонню, супакойва.. **гладзіць** цялятка.

Я падбягаю бліжэй, і цялятку таксама *(не)* ляжыцца, яно спрабу.. устаць на ногі. Як смешна нясkладна падніма..цца! Заднія ногі трыма..ць добра, а пярэднія падгіна..цца трымцяць. Мне хоч..цца памагчы яму, ды я баюся каровы. Яна адным вокам так і ціку.. за мною.

Усё-такі адважваюся, нясмела працягваю руку да мокрай аблізанай пыскі. А цялятка, не зважаючы на мяне, церабілася, шаргацела ў саломе і раптам, як падкінутае спружынаю, падхопліваецца на ногі. Няўклюдна пераставіла колькі разоў ногі-палкі, спынілася, пахінулася да сцяны.

— Асцярожна, дурненькае! — спалохаўся я і кінуўся да яго, схапіў за шыю і прытуліў да сябе *(У. Ягоўдзік)*.

У чым асаблівасць формы выдзеленага дзеяслова?

● Падбярыце сінонімы да дзеяслова *цікуе*.

● У апошнім сказе ёсць зваротак. Што можна сказаць пра яго?

● Паводле тэксту дайце вусную характарыстыку хлопчыку. Кім ён можа стаць? Паразважайце.

## § 66. Спражэнне дзеясловаў *бегчы, есці, даць*

**512.** Разгледзьце, як спрагаецца дзеяслоў *бегчы.* Чаму ён называецца рознаспрагальным?

| | | | |
|---|---|---|---|
| **я** | *бягу* | **мы** | *бяжым* |
| **ты** | *бяжыш* | **вы** | *бежыце* |
| **ён** | *бяжыць* | **яны** | *бягуць* |



Калі ў 2-й асобе адзіночнага ліку канчатак націскны, то ў 2-й асобе множнага ліку націск пераходзіць на канец слова: *ты нясе́ш, бярэ́ш, вы несяце́, бераце́.*

**513.** Спішыце загадкі, устаўляючы прапушчаныя літары. У дужках абазначце час, асобу, лік, трыванне дзеяслова *бегчы* (і вытворных ад яго).

1. Бяж..ць — скрыпіць, стаіць — маўчыць. 2. Адзін кажа: пабяж..м; другі кажа: паляжым; трэці — паківаемся. 3. Бегла свінка, залатая спінка, ільняны хвосцік. 4. Два браты пабеглі ў рэчку купацца.

А д г а д к і: *новы бот; іголка; рака, бераг, чарот; вёдры.*



Адметна спрагаюцца дзеясловы *есці, даць* і ўтвораныя ад іх *з'есці, аддаць* і інш.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **я** | *ем, дам* | **мы** | *ядзім (ямо), дадзім (дамо)* |
| **ты** | *ясі, дасі* | **вы** | *ясце́, дасце́* |
| **ён** | *есць, дасць* | **яны** | *ядуць, дадуць* |

**514.** Спішыце загадкі, раскрываючы дужкі. Пасля дзеяслова *есці* ў дужках абазначце яго час, асобу, лік, трыванне.

1. Увесь свет корміць, а сам не есць. 2. Галаву ядуць, цела выкідаюць, а скуру носяць. 3. *(Не)* разаб'еш гаршчок,

то *(не)* з'ясі і кашы. 4. Кіну *(не)* палку, заб'ю *(не)* галку, скубу *(не)* пер'е, ем *(не)* мяса. 5. *(Не)* піў, *(не)* еў, а крычыць, як ашалеў.

А д г а д к і: *плуг, арэх, школьны званок, лён, рыба.*



**515.** Чым адрозніваюцца формы *даць* і *даваць*? Праспрагайце апошняе слова. Параўнайце спражэнне абедзвюх формаў. Зрабіце вывад.

**516.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю і тыпу ён належыць? Назавіце моўныя сродкі з тэксту, характэрныя для гэтага стылю. Вусна перадайце змест тэксту.

## Графіка

Графіка — гэта спосаб перадачы жывой мовы пісьмовымі знакамі. Асноўныя графічныя сродкі — гэта літары, пунктуацыйныя знакі, знак націску, злучок, апостраф, знакі для абазначэння параграфаў. Графічны сэнс маюць і прамежкі паміж словамі і часткамі тэксту.

Наша пісьмо гукавое. У гэтых адносінах ідэальнай была б такая графіка, у якой кожнаму гуку адпавядае асобная літара. Але гукаў многа — і таму пісьмо будзе неэканомным, перадача інфармацыі вельмі ўскладніцца. А прызначэнне пісьма якраз у тым, каб перадаваць сэнс у самым шырокім значэнні гэтага слова. Напрыклад, пісьмо іерогліфамі ўвогуле не перадае гучанне слова, а толькі значэнне. І наша графіка не поўнасцю перадае гукавы лад, а найбольш важныя адзінкі, якімі словы адрозніваюцца па сваіх значэннях.

### ЯК ЗРАБІЦЬ СЦІСЛЫ ПЕРАКАЗ

1. Прачытайце тэкст, высветліце значэнне незразумелых слоў.

2. Вызначце тэму і падтэмы, асноўную думку тэксту, яго стыль і тып маўлення, мэтанакіраванасць.

3. Вызначце галоўнае і другараднае ў тэксце. Галоўная (істотная) інфармацыя адбіраецца з улікам мэты выказвання.

4. Вызначце, якая інфармацыя сціскаецца спосабам апускання матэрыялу, а якая — спосабам абагульнення (змест абзаца, дыялога перадаецца адным-двума сказамі).

5. Помніце, што задача пераказу — сцісла, коратка ў адпаведнасці з асноўнай думкай перадаць змест тэксту, захаваўшы пры гэтым істотныя моўныя сродкі, ключавыя словы і выразы.

6. Складзіце план пераказу. Колькасць пунктаў плана можа быць меншай, чым колькасць падтэм у тэксце.

**517.** Прачытайце. Да якога стылю належыць тэкст? Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Што перадае загаловак (тэму, асноўную думку ці тое і другое)?

## Добрая чараўніца

Каля пад’езда ў крэсле сядзеў хлопчык і сумна пазіраў на дзяцей, што весела забаўляліся ў двары. Хлопчык не мог хадзіць, у яго былі хворыя ногі.

Маці раніцай ставіла ў двары крэсла, потым выносіла на руках сына, і ён падоўгу сядзеў, пазіраў то на белыя воблакі, то на кляновыя лісткі, якія варушыў вецер. А найбольш пазіраў на дзяцей, лавіў іх звонкія галасы.

Хлопчык быў бы вельмі рады, калі б хто-небудзь пагаварыў з ім. Ён многа чытаў, ведаў казкі і розныя цікавыя гісторыі і мог бы расказаць іх дзецям. Але тыя не падыходзілі да яго. І вочы ў хлопчыка былі сумныя, а твар не ведаў усмешкі.

Аднойчы ў двары з’явілася новая дзяўчынка.

— Ідзі да нас гуляць! — паклікаў адзін.

— Мы прымаем і дзяўчынак! — дадаў другі.

Але дзяўчынка спынілася каля хлопчыка, які сядзеў у крэсле.

— Скажы, чаму ты не гуляеш з дзецьмі?

У мяне хворыя ногі. Я не магу хадзіць.

— А з кім ты сябруеш? — працягвала дзяўчынка.

— У мяне няма сяброў. Са мной ніхто не хоча сябраваць.

— Я буду з табой сябраваць.

— Праўда?! — і на твары хлопчыка з'явілася ўсмешка.

Дзяўчынка таксама ўсміхнулася свайму новаму сябру і прапанавала:

— А давай паспрабуем хадзіць!

— Не, не змагу, — уздыхнуў хлопчык.

— Зможаш! Трэба толькі моцна захацець. Я табе памагу. Дай руку.

І здарыўся цуд. Хлопчык стаў на ногі.

Потым зрабіў адзін крок, другі.

Падбеглі дзеці. Яны глядзелі на ўсё гэта, як на дзіва.

Адзін хлопчык кінуўся ў пад'езд, да кватэры хлопчыкавай маці.

— Цёця! Ваш Віцька ходзіць!

Віцева маці выбегла на двор і, не верачы сваім вачам, глядзела на сына. А хлопчык усміхнуўся маці і, трымаючыся за руку дзяўчынкі, рабіў нясмелыя крокі.

— Ты чараўніца? — пыталіся ў дзяўчынкі хлопчыкі.

— Не-а... Я Іра.

Не ведалі хлопчыкі, што добрае слова дапамагае часам, як чароўныя лекі *(Паводле Л. Арабей)*.

● Вусна перадайце змест тэксту па складаным плане.

П л а н

I. Хлопчык у крэсле.
   1. Хлопчык не можа хадзіць.
   2. Заўсёды адзін.
II. Сябры.
   1. Дзяўчынка гутарыць з хлопчыкам.
   2. Прапанова дзяўчынкі.
III. «І здарыўся цуд».
   1. Паверыў.
   2. Першыя крокі.
   3. Хлопчыкі дзівяцца.
IV. Чаго не ведалі хлопчыкі?

**518.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тып. Якую ролю ў ім адыгрывае апісанне? Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Складзіце план і напішыце сціслы пераказ.

## Шэф Алік

Алік хутка знайшоў дом падшэфнай. Дзверы адчыніла хударлявая жанчына ў спартыўным касцюме.

— Вам хто трэба, малады чалавек? — спытала яна.

Збіваючыся, Алік пачаў тлумачыць, што рашэннем класнага сходу ён прызначаны да яе шэфам.

— Вельмі прыемна, шэф Алік! — сказала Ксенія Феакцістаўна і запрасіла ў пакой.

Уздоўж сцяны стаяў стэлаж з мноствам кніг. Усюды быў строгі парадак, нічога лішняга. На падлозе ў кутку ляжалі маленькія гантэлі, крыху вышэй вісела тэнісная ракетка, а побач — спружынны эспандэр* і масажор.

«Ну чым я дапамагу ёй»? — сумна падумаў Алік.

...Тут жанчына пачала сеанс ёгі і... запрасіла Аліка прыняць удзел. Яна лёгка прысела і прыняла позу «лотас». Між іншым, запытала, чым Алік займаецца, якія ў яго адзнакі па матэматыцы... Пачуўшы адказ, жанчына цяжка ўздыхнула: «Значыцца, пачынаем заняткі. Тры разы на тыдзень».

Якія толькі задачы не прыдумвала Ксенія Феакцістаўна. Яна знарок не давала поўнай умовы задачы, а калі Алік гэта заўважаў, радасна гаварыла:

— Цудоўна! Ключ да рашэння ты ўжо знайшоў... Праз нейкі час Ксенія Феакцістаўна віншавала Аліка з выдатнай адзнакай. Настрой яе ўзняўся. Ціха напяваючы, яна пайшла на кухню, паставіла чайнік на пліту і вярнулася.

— Ну што, будзем замацоўваць, шэф Алік, занятыя пазіцыі?

Алік кіўнуў галавой *(Паводле Э. Луканскага)*.

## § 67. Лады дзеяслова. Абвесны лад

Лад дзеяслова выражае адносіны дзеяння да рэчаіснасці. Дзеянне можа ўспрымацца як рэальнае *(я збіраю грыбы)*, як пажаданне *(я збіраў бы грыбы)*, як заклік (запрашэнне) рабіць што-небудзь *(збірай грыбы)*.

Дзеяслоў мае тры лады: а б в е с н ы, у м о ў н ы, з а г а д н ы.

Дзеясловы **абвеснага ладу** абазначаюць дзеянні, якія сапраўды адбываліся, адбываюцца або будуць адбывацца: *будую, будаваў, пабудую*.

Дзеясловы абвеснага ладу змяняюцца па часах, асобах і ліках.

**519.** Прачытайце верш. У дзеясловах абвеснага ладу вызначце час, трыванне.

### Зіма і лета

Сустрэлася з Летам Зіма:
— Нідзе ў цябе ладу няма!
Як толькі з'явілася ты,
Ўсе мкнуцца ў цянёк, пад кусты.
А ходзяць — нага за нагу!
Я нават глядзець не магу!
Вось я калі стану ізноў,
Не ўседзіць ніхто ля кустоў!
Трушком пабягуць і дзяды,
Не горш, чым які маладны.
Для моладзі будзе размах:
На лыжах бяжы, на каньках.
Згадзіся ты, Лета, са мной:
Мілей жыць на свеце зімой!
Смяялася Лета ў адказ:
— Не знаю, мілейшы хто з нас!
Ніяк зразумець не магу:
Чаму ад цябе ўсе бягуць.

*У. Дубоўка*

**520.** Прачытайце тэкст. З чаго відаць, што прыродную з'яву — усход сонца — аўтар назіраў у мінулым?

Запішыце тэкст так, быццам аўтар цяпер назірае прыродную з'яву. Замяняйце, дзе мэтазгодна, дзеясловы прошлага часу дзеясловамі цяперашняга часу.

Устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі.

## Усход сонца

Спярша схіл неба заружавеў ву..кай палоскай. Раптам імклівы прам..нь шугнуў з*(?)*пад небакр.. і ра*(сс/с)*ыпаўся на дробныя пырскі. Чырвань згусцілася і ахапіла паўнеба. Але трывала нядоўга і адразу ж сцьмела. Тады спакваля выкацілася яно вяліка.., рахмана.., яшчэ сонна.. і бездапаможна.. . І пакуль ра..катурхалася, я доўга глядзеў на яго, не зводзячы вачэй. Але тут сонца прачнулася, ажыло, разварушылася і набрала такой сілы, што цяпер ужо ўвесь свет здзівіўся яго характву.

Сонца іграла! *(В. Вітка).*

**521.** Апішыце заход сонца. Апісанне падайце ад 1-й асобы ў цяперашнім часе. Выкарыстайце пры неабходнасці ключавыя словы і словазлучэнні: *канец дня, стомленае сонца, чырвоны шар, доўгія цені, захад, небасхіл, ліловыя воблакі, цьмяная зеляніна, луг, палі, вісіць над лесам, садзіцца за лес, вячэрнія гукі, развітальнае святло, вячэрняя свежасць, цішыня.*



**522.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Вызначце спражэнне дзеясловаў.

Канец летняга дня. Усюды цені. Яркія сонечныя праменні асвятля..ць і пабудовы, і дрэвы, і жыта ў полі. Жаваранак апуска..цца з вышыні, яшчэ трапеч..цца трохі нізка над паласою, а тады імкліва падае збоч дарогі ля жыта.

За ракою ўжо рыка..ць каровы, вярта..цца з пашы. Шуміць параход, і шум гэты ўвесь час набліжа..цца, мацнее. Неба цямнее.

А ноч надыходз..ць, цені гусце..ць, сонца ўжо на добрую чвэртку схавалася за небасхіл і цяпер шле апошняе развітальнае святло.

Усё рыхту..цца да сну: і далёкі лес, і луг, і людзі.

Спакой і змрок апуска..цца на дварэ. Сонца спяша..цца. Вось яно зусім знікае за небасхілам, і адразу між зямлёй і зарывам кладз..цца цень.

Высока ў небе загарэлася, заміргала зорка...

Усё, дзень скончыўся *(Паводле М. Лупсякова)*.

## § 68. Умоўны лад

Дзеясловы **ўмоўнага ладу** абазначаюць дзеянне, якое можа адбывацца толькі пры нейкай умове: 1. *Каб на хмель не мароз, ён бы і тын перарос* (Прыказка). 2. *І выйшаў бы з яго [Міколкі] машыніст на славу* (М. Лынькоў).

**523.** Разгледзьце табліцу.

| Абвесны лад | Умоўны лад |
|---|---|
| *набраў* | *набраў бы* |
| *пакаталася* | *пакаталася б* |
| *пасадзілі* | *пасадзілі б* |
| *аднёс* | *аднёс бы* |
| *прыйшло* | *прыйшло б* |

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ад дзеясловаў якога часу ўтвараецца ўмоўны лад?
2. Пры дапамозе якога слова ўтвараецца ўмоўны лад?
3. У якім родзе і ліку стаяць дзеясловы ўмоўнага ладу?
4. Пасля якіх літар (галосных ці зычных) ужываецца часціца ***бы***, а пасля якіх — ***б***?

Дзеясловы ўмоўнага ладу ўтвараюцца шляхам далучэння да дзеясловаў прошлага часу часціцы ***бы (б)***.

Часціца ***бы*** ўжываецца пасля слоў, якія канчаюцца на зычны, а часціца ***б*** — на галосны: *Я быў бы шчаслівы бязмерна, калі б удалося мне здзейсніць надзеі маіх незабыўных настаўнікаў і сяброў* (М. Танк).

Умоўны лад не мае формаў часу і асобы, але змяняецца па ліках і родах.

**524.** Прачытайце верш. Пра які час гаворыцца ў ім? Аб чым марыць селянін? Назавіце дзеясловы ўмоўнага ладу. Якую ролю яны адыгрываюць у вершы? Якога яны трывання, роду і ліку? Звярніце ўвагу на месца часціцы ***б***.

Я мужык-беларус...
Пан сахі і касы;
Цёмен сам, белы вус,
Пядзі дзве валасы.

З цяжкай працы маёй
Карыстаюцца ўсе,
Толькі мне за яе
Няма дзякуй нідзе.

Эх, каб цёмен не быў,
Чытаць кніжкі умеў, —
Я б і долю здабыў,
Я б і песенькі пеў!

Я б патрапіў сказаць,
Што і я — чалавек,
Што і мне гараваць
Надаела ўвесь век.

*Я. Купала*



Часціца ***бы (б)*** у сказе можа стаяць і не пры дзеяслове.

**525.** Спішыце тэкст, замяняючы дзеясловы ў неазначальнай форме дзеясловамі ўмоўнага ладу. Абазначце іх трыванне і лік. Вусна растлумачце, чаму пры адных дзеясловах вы пісалі часціцу ***бы***, а пры другіх — ***б***.

Сонца ўжо зайшло, але яшчэ цэлую гадзіну трымаўся шэры змрок. Над возерам са свістам пралятапі качкі, спяшаліся на начлег. Уверсе пачуўся жураўліны крык.

— Вось добра *(быць)*, каб які-небудзь журавель ці гусь сеў нам на галаву! — прамовіў Віктар.

— Што ты з ім *(рабіць)* без агню? — уздыхнуў Мірон.

— *(З'есці)* сырога.

Мірон перавярнуўся на спіну, зірнуў на зоркі. Яны так прыгожа зіхацелі! Ласкава шапталіся верхавіны дрэў. Мусіць, дома цешацца цяпер добрым веснавым надвор'ем, а яны...

— Вось да чаго даводзіць свавольства! — нібы сам сабе прамовіў Мірон. — Каб мы папрасілі човен у гаспадара, дык цяпер людзі *(ведаць)* дзе мы і *(прыехаць)* па нас...

— Мірон змоўк. Усё роўна справы не паправіш *(Я. Маўр)*.

● Як хлопцы апынуліся на востраве, як разгортваліся падзеі далей, вы даведаецеся, калі прачытаеце прыгодніцкую аповесць Я. Маўра «Палескія рабінзоны».

## § 69. Загадны лад

**526.** Прачытайце выразна вершы, перадаючы голасам пабуджэнне да дзеяння. У якой асобе і ліку стаяць выдзеленыя дзеясловы?

Як птушка на зары спявае,
**Паслухай. Не перашкаджай.**
Яна ж не славу здабывае,
А будзіць прыцішэлы гай.
*П. Пранузa*

Без маці Беларусі,
Без беларускай мовы
Вы будзеце сіротамі,
Вам стануць сцежкі вузкімі.

І ў радасці, і ў скрусе
**Гарніце** ў сэрцы словы,
**Расціце** беларусамі,
Расціце беларускамі.
*Р. Барадулін*

Дзеясловы загаднага ладу выражаюць пабуджэнне да дзеяння, просьбу, загад, пажаданне, заклік. Яны не змяняюцца па часах. *Не тапчы травіцы, беражы яе, хадзі сцежкай* (У. Дубоўка).

**527.** Разгледзьце табліцу.

| Дзеясловы абвеснага ладу | Дзеясловы загаднага ладу | |
|---|---|---|
| | адзіночны лік | множны лік |
| *нос|яць|* | *насі□* | *насіце* |
| *піш|уць|* | *пішы□* | *пішыце* |
| *правер|у|* | *правер□* | *праверце* |
| *кін|у|* | *кінь□* | *кіньце* |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ад асновы дзеясловаў якіх часоў утвараюцца дзеясловы загаднага ладу?
2. Пры дапамозе якіх суфіксаў утвараюцца дзеясловы загаднага ладу?

Дзеясловы **загаднага ладу** ўтвараюцца ад асновы цяперашняга або будучага часу пры дапамозе суфіксаў ***-і, -ы*** ці без суфіксаў.

Форма адзіночнага ліку мае нулявы канчатак, а множнага ліку — постфікс ***-це***.

У дзеясловах на мяккі зычны перад ***-це*** пішацца мяккі знак: *глянь — гляньце, сядзь — сядзьце*.

З а ў в а г а. Аснова цяперашняга часу — гэта частка дзеяслова 3-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу без канчаткаў ***-уць (-юць), -аць (-яць)***: *нясуць, гавораць*.

**528.** Прачытайце верш. Назавіце дзеясловы загаднага ладу. У якіх сказах па мэце выказвання яны ўжыты?

Несціхана шуміце,
Веснавыя патокі,
Раскрывайцеся далі,
У свет нязнаны, шырокі!

Не спыняйцеся, ногі,
На пад'ёмах і схілах,
Углядайцеся, вочы,
У новыя небасхілы!

*М. Танк*

● Растлумачце, калі пішацца апостраф. Прывядзіце прыклад з тэксту.
● Як ставяцца знакі прыпынку пры зваротку?
● Як выдзяляецца зваротак на пісьме?

Зваротныя дзеясловы загаднага ладу маюць постфікс ***-ся***: *збірайся, вярніся, прыгледзься.*

Пабуджэнне да дзеяння можа выражацца дзеясловамі 3-й асобы адзіночнага або множнага ліку ў спалучэнні з часціцай ***няхай (хай)***, а таксама дзеясловамі 1-й асобы множнага ліку: *няхай ідзе, хадзем, бярэм.*

Такія формы могуць утварацца пры дапамозе часціцы ***давай (давайце)*** і формы будучага простага часу: *давай пачытаем, давайце патанцуем.*

**529.** Прачытайце верш. У якой асобе і ліку стаяць выдзеленыя дзеясловы? Якія з іх мае форму загаднага ладу? Абгрунтуйце сваю думку.

Пазычу колеры ў вясёлкі,
Цяпло пазычу ў агню.
Пасля ў прынёманскім пасёлку
**Закалыхаю** цішыню.
Закалыхаю песняй новай,
Прайдуся па былых слядах.
**...Няхай** у сэрцы **спеюць** словы,
Як **спеюць** яблыкі ў садах.

*У. Мазго*

● Назавіце дзеясловы, якія ў тэксце маюць пераноснае значэнне.



Выказванне набывае экспрэсіўнасць, калі дзеясловы аднаго ладу ўжываюцца ў значэнні другога.

**530.** Прачытайце верш. Назавіце дзеясловы абвеснага ладу, якія ўжыты ў значэнні загаднага.

## Навагоднія пажаданні

На свеце многа ёсць турбот
І спраў, мае сябры.
Хай прынясе вам Новы год
Найлепшыя дары!
Каб вы заўжды, з малых гадоў
Шчаслівымі былі.
Расцілі шчырую любоў
Да роднае зямлі.
Да сціплай кветкі палявой,
Да рэк яе, крыніц,
Да шатаў дрэў над галавой
І паху медуніц.
Хай будзе светлы ваш узлёт
Да новых спраў, сябры!

*А. Грачанікаў*

**531.** Складзіце сказы, ужываючы словы і выразы: *будзьце ласкавыя; выбачайце, калі ласка; скажыце, калі ласка; зрабіце ласку*.

**532.** Парайце таварышу, як трэба паводзіць сябе ў музеі ці тэатры. Выкарыстайце дзеясловы загаднага ладу.

**533.** Прачытайце пісьмо Я. Коласа, у якім ён віншуе сваіх сыноў з Новым годам. Што зычыць Я. Колас сваім родным?

26/XII 1950 г.

Мае дарагія сыны, Данік і Міхась!

Сягоння я ўжо пісьма адказаць не патраплю, пашлю заўтра — сягоння позна. Можа, к Новаму году маё пісьмо

і дойдзе да вас. Дык дазвольце ж абняць вас усіх, прыгарнуць да сэрца, моцна-моцна пацалаваць ды павіншаваць вас ад усёй душы з Новым годам, з добрымі падзеямі.

Жадаю вам радасці, шчасця, міру ў вашых сэрцах і міру для ўсіх людзей.

Жывіце так, каб сэрца маё радавалася.

*Ваш бацька.*



**534.** Павіншуйце вы сваіх родных (сяброў) з якім-небудзь святам ці добрай падзеяй у іх жыцці. Выкарыстайце дзеясловы загаднага ладу.

**535.** Спішыце верш, ставячы дзеясловы ў 2-й асобе адзіночнага ліку загаднага ладу. Як яны ўтвораны? Падкрэсліце дзеясловы закончанага трывання.

### Дзесяць запаведзяў

Мову родную *(берагчы)*.
Мовай родна́ю *(даражыць)*.
Мову родную *(шанаваць)*.
Мовай роднаю не *(гандляваць)*.
Мову родную *(любіць)*.
Мову ў сэрцы не *(губіць)*.
Мовы роднай не *(кідаць)*.
Мову дзецям *(перадаць)*.
Мовы не *(аддаць)* на здзек.
Толькі з ёю жыцьмеш век.

*В. Швед*

Як пішацца ***не*** *з* дзеясловамі?

**536.** Прачытайце пісьмо гераіні аповесці Я. Коласа «На прасторах жыцця» Алены Гарнашкі да свайго сябра Сцяпана Баруты. Што піша дзяўчынка пра сябе? Якія пачуцці выклікаў у яе ліст Сцяпана Баруты? Чым заканчваецца пісьмо? Назавіце дзеясловы загаднага ладу. Што кожны з іх выражае?

Мілы, дарагі і слаўны Сцёпачка!

Не гневайся на мяне, што не адразу адпісала табе ліст. Цяпер я зноў у Загор'і. У нас тут злажыўся краязнаўчы

гурток. У гэтым гуртку і я працую. Запісала шмат песень, прыказак, сабрала многа ўзораў тканін. Ёсць у нас і свой краязнаўчы музей... Вельмі цікавая работа ў краязнаўчым гуртку.

Да канца заняткаў засталося два месяцы, а там залікі, і — бывай, школа. Мне нейк і шкада, што скора прыйдзецца развітацца са школаю. Куды я потым дзенуся, сама не ведаю. А хацелася б яшчэ павучыцца, прабіцца ў вышэйшую школу, пажыць у горадзе. А ці ўдасца гэта, сказаць трудна. Маці здаецца, што я і так ужо вучоная.

Я так рада, Сцёпка, што ты свайго дабіўся, жывеш і вучышся ў горадзе. Дзе ты будзеш летам? Прыязджай да бацькоў, яны будуць рады, калі ты прыедзеш. І мне хацелася б пабачыць цябе, якім ты стаў цяпер. Напішы мне, як ты жывеш там, ты гэта абяцаў у сваім пісьме. Я вельмі была рада, калі прыйшоў ліст ад цябе.

Ну, бывай здаровы. Усяго табе найлепшага. Ды не смейся з майго ліста. Хацелася напісаць і больш, і лепш. Ну, але няхай на гэтым будзе канец і застаецца так, як напісалася.

*Алена Гарнашка*

**537.** Прачытайце. Чым узрушыў Сцёпку ліст ад Аленкі? Што вырашыў напісаць Сцёпка ў адказ? Як мог выглядаць ліст?

Прачытаў Сцёпка ліст і задумаўся. Шкада нейк стала Аленкі. І такою блізкаю, роднаю ўвайшла яна ў яго сэрца.

Сцёпка акуратненька злажыў Аленчын ліст і схаваў. Устаў, прайшоўся па кватэры раз, другі. Вобразы дзяцінства і яго вёскі ўсплылі перад ім так яскрава, як бы яны былі намаляваны перад яго вачыма. Хадзіў Сцёпка і разважаў. Перш за ўсё ён Аленцы напіша, напіша безадкладна, сёння ж. У Сцёпкавай галаве пачаў складвацца ліст да Аленкі *(Я. Колас)*.

● Як бы вы напісалі гэты ліст? Паспрабуйце даць адказ Аленцы. Выкарыстайце дзеясловы загаднага ладу.

**538.** Напішыце падрабязны пераказ. Дайце ацэнку ўчынкам абодвух хлопчыкаў. Ці можна так выпрабоўваць сяброў, як гэта зрабіў Міша?

## Выпадак на рэчцы

Пра Мішу і Гену кажуць, што іх вадой не разальеш. Такія сябры. І дня не пройдзе, каб не сустрэліся: то Міша бяжыць да Гены, то Гена да Мішы. І бацькі іх сябруюць.

Аднаго разу, у нядзелю, паехалі яны з бацькамі за горад. Стаяў цёплы, сонечны дзень. Дарослыя ўладкаваліся ў цяньку на лузе, а Міша і Гена пабеглі да рэчкі.

Гена боўтаецца ў вадзе каля самага берага, дзе мяльчэй. Цікава сачыць за хуткімі, як сонечныя промні, рыбкамі. А Міша ўсё далей і далей адыходзіцца ўніз па рацэ.

Раптам адтуль, дзе знаходзіцца Міша, далятае крык:

— Ратуйце!

Гена на нейкі міг замірае разгублены, а потым выскаквае на бераг. Лётам ляціць туды, дзе адпачываюць бацькі.

— Там... Міша топіцца!

Усе разам, абганяючы адзін аднаго, бягуць да рэчкі. І з палёгкай уздыхаюць: на беразе, боўтаючы нагамі ў вадзе, сядзіць Міша.

Бацька дакорліва глядзіць на Гену:

— Ці ж так можна жартаваць?

— Дык ён жа тапіўся, крычаў «Ратуйце!»

— Табе падалося. Калі б я тапіўся, ты кінуўся б мяне ратаваць, — усміхаецца Міша.

Гена чырванее і апускае галаву *(А. Фомчанка)*.

**539.** Прачытайце ўрывак з беларускай народнай казкі «Залаты птах».

Спішыце, замяняючы дзеясловы неазначальнай формы дзеясловамі загаднага або абвеснага ладу. Устаўце прапушчаныя літары, пастаўце знакі прыпынку. Растлумачце, як пішацца ***не (ня)*** з дзеясловамі.

Пераплылі мора Іван і Ваўчыха. Бачыць Іван — стаіць на беразе мора залаты палац.

Ваўчыха кажа

*(Ісці)* у гэты палац. Толькі паціхусеньку-памалюсеньку, каб нідзе і *(не шархнуць)* бо гэта зачараваны палац: у ім усё спіць. Але калі ты неасцярожна *(дакрануцца)* да чаго то ўсё абудзіцца і тады жывым табе а..туль не выбрацца. Як *(увайсці)* у браму *(убачыць)* там двух сабак. Яны на жалезных ланцугах да слупоў прыкуты. *(Глядзець)* ж *(не пабудзіць)* іх бо як забрэшуць яны то ўвесь палац на ногі ўздымуць. *(Мінуць)* гэтак браму *(увайсці)* у першы пакой. Там вісіць меч бразгучы. Ён залаты, але ты яго *(не чапаць)* а *(ісці)* проста ў трэці пакой. У ім *(убачыць)* залатую клетку а ў той клетцы і сядзіць залаты птах. *(Вынясць)* яго асцярожна з клеткі і сам цішком *(варочацца)* да мяне.



**540.** Складзіце тэкст на тэму «Я — экскурсавод». Што і як вы будзеце распавядаць пра сваю школу (школьны музей), вёску (мікраараён горада)? Як будзеце запрашаць экскурсантаў прайсці ў суседні пакой (пайсці з вамі), звярнуць увагу на штосьці (стэнд, фотакартку, будынак)? Якімі выразамі вы будзеце карыстацца, калі з'явіцца патрэба зрабіць экскурс у мінулае?

## § 70. Марфалагічны разбор дзеяслова

Парадак разбору

1. Часціна мовы. Агульнае значэнне.
2. Пачатковая форма (неазначальная).
3. Зваротны ці незваротны.
4. Трыванне.
5. Спражэнне.
6. Лад.
7. Лік.
8. Час (калі ёсць).
9. Асоба (калі ёсць).
10. Род (калі ёсць).
11. Сінтаксічная роля.

Узор разбору

*Вярніся зноў, вясновы звонкі вецер* (Л. Геніюш).

**Вусны разбор**

*Вярніся* — дзеяслоў; пачатковая форма — *вярнуцца*; зваротны; закончанага трывання; I спражэння; загаднага ладу; адзіночнага ліку; 2-й асобы; у сказе — выказнік.

**Пісьмовы разбор**

*Вярніся* — дзеяслоў; *вярнуцца*; зв.; зак. трыв.; I спр.; заг. л.; адз. л.; 2-й ас.; выказнік.

**541.** Прачытайце верш. Вызначце асноўную думку. Назавіце дзеясловы з пераносным значэннем. Якую ролю яны адыгрываюць?

Вось і снег...
Пабялела зямля,
І стаілася ўсё навакола.
І ляціць, і ляціць ён здаля,
Быццам пыл з-пад шырокага кола.
Абарвалася тонкая ніць
Паміж рознымі порамі года.
На бярозах ці іней звініць,
Ці надзея твая, ці самота?
Вераб'ёў пазганяла з галля,
І шпакоўні нікім не заняты.
Цішыня.
Пасмялела зямля,
Што не зойдуцца ў сцюжы зярняты.
Вось і снег. **Перайначыўся** свет.
Завіруха **мяце** навакола.
Толькі б мне не пакінуць свой след,
Быццам пыл з-пад імклівага кола.

*С. Гаўрусёў*

● Зрабіце пісьмовы марфалагічны разбор выдзеленых дзеясловаў.

## § 71. Спосабы ўтварэння дзеясловаў

Дзеясловы ўтвараюцца:

**прыставачным спосабам** ад дзеясловаў: ***касіць*** → *накасіць, выкасіць, скасіць, прыкасіць, укасіць, абкасіць*;

**суфіксальным** — ад назоўнікаў і прыметнікаў: ***фарба*** → *фарбаваць;* ***жоўты*** → *жаўцець*;

**прыставачна-суфіксальным** — ад розных часцін мовы: ***палатно*** → *спалатнець;* ***круглы*** → *закругліць.*

**542.** Выпішыце асобна дзеясловы, утвораныя прыставачным, суфіксальным, прыставачна-суфіксальным спосабамі.

У з о р: *абмераць* ← *мераць, ...; пілаваць* ← *піла, ...; расквеціць* ← *кветка.*

Вапнаваць, начаваць, выбеліць, выпрастаць, абскакаць, паднавіць, прызямліць, рассунуць, гаспадарыць.

**543.** Пры дапамозе названых прыставак утварыце новыя дзеясловы.

| | | |
|---|---|---|
| ***пры-,*** | ***пера-*** | несці, капаць, важыць, рэзаць, |
| ***вы-,*** | ***па-*** | мераць, класці, будаваць, |
| ***ад-,*** | ***аб-*** | дзяліць, гнаць |
| ***раз-,*** | ***на-*** | |



**544.** Ад наступных слоў утварыце дзеясловы пры дапамозе суфіксаў або прыставак і суфіксаў.

Праўда, дбае, дзірван, зіма, дзень, чысты, здаровы, вясёлы, багаты.

Дзеясловы запішыце ў неазначальнай форме. Прыстаўкі і суфіксы абазначце.

**545.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю і тыпу ён належыць? Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы. Складзіце план і зрабіце пісьмовы пераказ зместу.

## Ліпа цвіце

Пасярод вёскі стаіць высозная, на два абхваты, ліпа...

Калі яе вецце пакрывалася залацістым цветам, то з усяго наваколля сюды зляталіся пчолы і гулі ў лістоце ажно да самага вечара. Вечарам пчол змяняла вясковая дзятва. І, пакуль не набіваліся ліпавым цветам іх зрэбныя торбачкі, дрэва гаманіла на ўсе галасы.

Любілі і дзядзькі святочнымі днямі збірацца пад ліпай. Пасядуць, бывала, у цяньку, перабіраюць вясковыя навіны.

Грымнула вайна, і ліпу таксама не абмінула бяда. Счарнелая ад агню, яна каторы год стаяла пасярод апусцелай вуліцы і здавалася нежывой. І ні пчалінага гоману, ні дзіцячых галасоў не чуваць было ў яе парадзелай лістоце.

Але ліпа ўсё-такі зацвіла. Першы год неяк нерашуча, нібы раздумваючы. А пасля буйным шчодрым цветам. І зноў з усяго наваколля злятаюцца сюды пчолы. Зноў пад вечар у ліпавым голлі гамоніць дзятва. А выхаднымі днямі збіраюцца сюды пагутарыць дзядзькі. Бо як жа іначай? Ліпа ж цвіце! *(Я. Пархута)*.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Прачытайце сказы. Вызначце дзеясловы неазначальнай формы. Падкрэсліце іх як члены сказа. Абазначце трыванне.

Варыянт 1. Прыходзілі ўначы пажывіцца горкай крушынай асцярожныя зайцы *(Э. Самуйлёнак)*.

Варыянт 2. Жаданне вучыцца заўсёды трэба вітаць *(Я. Колас)*.

2. Падкрэсліце ў сказе безасабовыя дзеясловы. Вызначце іх час.

Варыянт 1. Хацелася павярнуць каня і ехаць назад у вёску *(І. Шамякін)*.

Варыянт 2. З вечара хутка цямнее *(Т. Хадкевіч)*.

3. Колькі ладоў мае дзеяслоў? Што абазначае кожны з іх? Вызначце лад дзеясловаў у сказах і іх граматычныя формы.

В а р ы я н т 1. І пакуль ты яшчэ малы ці малады задужа, сядай за парты і сталы і навучайся, дружа *(П. Глебка)*.

В а р ы я н т 2. Я Чорнае мора зялёным назваў бы, як толькі заціхнуць і бура і шторм *(С. Грахоўскі)*.

4. Як утвараецца форма ўмоўнага ладу? Прывядзіце прыклады (в а р ы я н т 1).

Як утвараецца форма загаднага ладу? Прывядзіце прыклады (в а р ы я н т 2).

5. Якія дзеясловы належаць да І спражэння? Праспрагайце адзін дзеяслоў.

Якія дзеясловы належаць да ІІ спражэння? Праспрагайце адзін дзеяслоў.

6. Якія дзеясловы належаць да рознаспрагальных? Чаму яны так называюцца?

В а р ы я н т 1. Праспрагайце дзеяслоў *есці*.

В а р ы я н т 2. Праспрагайце дзеяслоў *даць*.

7. Якімі спосабамі ўтвараюцца дзеясловы? Прывядзіце прыклады.

8. Калі ў неазначальнай форме і ў прошлым часе пішацца суфікс ***-ава- (-ява-)***, а калі — суфіксы ***-ва-, -іва- (-ыва-)***?

В а р ы я н т 1. Запішыце дзеясловы ў неазначальнай форме: *даследую, наведваю, узорваю, прычэсваю, дзякую, камандзірую, абгортваю*.

В а р ы я н т 2. Запішыце дзеясловы ў неазначальнай форме: *падтрымліваю, камандую, нагадваю, падточваю, расказваю.*

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

**546.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Вызначце фразеалагізмы. Якую асноўную рысу гэтага стылю яны перадаюць? Назавіце іншыя моўныя сродкі, характэрныя для тэкстаў гэтага стылю.

У канцы жніва Міхал сказаў жонцы:

— Як ты ведаеш, маці, рашыўся я сёлета дажынкі справіць. Людзі нам памагалі, цурацца іх нельга... Ды ўрэшце яно — цалюткі год гаруеш, гаруеш, а продыху няма. Хоць разгавецца крыху...

І вось у бліжэйшую нядзелю пачалі з'язджацца сваякі.

Першы прыкаціў у размаляваных драбінах дзед Юрка з бабаю Крысяю. Затым Міхалавы старэйшыя браты з жонкамі. Потым ляснік Амброжык Дземідовіч. Апошнім прыплёўся на сваім дэрашы Карусь Дзівак з Магдаю.

— Што ж гэта вы позніцеся? — запытаў Міхал.

— Хіба ты не ведаеш майго нязгрэбу, — адказала сястра Магда. — Часам, як з прывязі сарваўшыся, першым прыпрэцца, а сёння хоць аглобляй падважвай...

За сталом рэй вёў дзед Юрка:

— Дай божа гаспадару і гаспадыні шчасце, долю і хлеба ўволю.

— Ешце, госцейкі, бярыце і мачайце, а на большае выбачайце, — прыгаворвала гаспадыня.

Неўзабаве ў мужчын пайшла гаворка пра цэны на збожжа, пра зямлю і лесніковую службу.

— Добра вам, службовым людзям, — казаў Яўхім. — А мы душымся на пяску.

— Зайздросціць вельмі таксама няма чаго, — адказаў гаспадар. — Не ўнаровіш якому чорту, заганяць у якое балота ці зусім з торбаю пусцяць... Іншая рэч сваё: хоць

пясок, хоць якая зямля, але ты сам гаспадар, сам сабе пан. Кепска, калі сядзіш на чужым суку... Часам той хлеб упоперак горла становіцца *(С. Александровіч)*.

**547.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Якая асноўная рыса гэтага стылю?

Нацыянальная беларуская мова — гэта мова беларускай нацыі. Ёй уласціва ўся сукупнасць моўных сродкаў, якімі карыстаецца нацыя для зносін паміж людзьмі, што яе складаюць. Да нацыянальнай мовы належаць тэрытарыяльныя гаворкі (або дыялекты) і літаратурная мова. Дыялекты ўтвараюць аснову нацыянальнай мовы, без якой яна існаваць не можа.

Дыялекты распаўсюджаны на пэўнай тэрыторыі і служаць для зносін людзей, якія жывуць на ёй, а таксама ў сферы паўсядзённых патрэб, звязаных з вытворчасцю і побытам, культурай мясцовага насельніцтва. Яны, як правіла, існуюць у вуснай форме. На розных тэрыторыях дыялекты адрозніваюцца ў галіне лексікі, фанетыкі, граматыкі.

**Літаратурная мова — унармаваная мова.** Яна з'яўляецца сродкам зносін людзей на ўсёй тэрыторыі нацыі ва ўсіх сферах жыцця, сродкам агульнанацыянальнай культуры. Яна існуе ў вуснай і пісьмовай формах.

**Літаратурная мова ўзаемадзейнічае з дыялектамі, пастаянна адчувае іх уплыў.**

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Што такое нацыянальная мова?
2. Што складае аснову нацыянальнай мовы?
3. Чым адрозніваюцца тэрытарыяльныя гаворкі і літаратурная мова?
4. Як вы разумееце сэнс выдзеленых сказаў?

**548.** Прачытайце. Дайце загаловак тэксту. Спішыце, раскрываючы дужкі, ставячы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце фразеалагізмы. Растлумачце правапіс часціц ***не, ні***.

...Яшчэ *(не)* забыліся людзі пра неўрадлівы пазалеташні год як зноў выдалася сухое і спякотлівае лета. Як прай-

шоў пасля Юр'я спорны веснавы дождж дык пасля ўсё лета *(не)* упала з неба *(ні)* кропелькі. Увечары на даляглядзе з'яўлялася нібыта смуга, ноччу ц*(?)*мяныя зарніцы раз-пораз праразалі неба, але дажджу і повідам *(не)* было відаць.

Без дажджу ўсё прападала ў полі і ў агародзе. Праўда, жыта парасло *(ні)* што але на ўмалот *(ні)* хто вельмі *(не)* спадзяваўся. Ярыну зусім запякло і яна без пары пажоўкла. У той год бульбу *(не)* абганялі: кволы бульбоўнік пусціў некалькі лісточкаў, і тыя адразу пачалі жаўцець.

У гародзе ўсё даўно ляжала аблогаю агурочнік мак цыбуля. Спачатку дзядзька з хлопцамі яшчэ палівалі грады але пасля махнулі на ўсё рукой. Ці ты наносішся столькі вады?

Ратуйце! Майце літасць! Вады, вады! Нібы крычала ўсё жывое і *(не)* жывое.

Але неба было *(ня)* умольнае і бязлітаснае на ім па-ранейшаму *(не)* было *(ні)* хмурынкі *(С. Александровіч)*.

**549.** Разгледзьце табліцу. Чым падобна напісанне прыметнікаў і назоўнікаў з ***не*** і напісанне ***не*** з дзеясловамі, чым адрозніваецца?

| Часціны мовы | Словы, якія не ўжываюцца без ***не*** | | |
|---|---|---|---|
| | ***Не*** — прыстаўка | | ***Не*** — адмоўная часціца |
| | ***Не*** з назоўнікамі, прыметнікамі, дзеясловамі | Словы, якія з ***не*** ўтвараюць новыя словы | |
| Назоўнік | *незнаёмец* | *незацікаўленасць* | *не зацікаўленасць, а абыякавасць* |
| Прыметнік | *невыносны* | *немалады* | *не малады, а стары* |
| Дзеяслоў | *непакоіць* | — | *не прывыкаць* |

Запішыце па два прыклады, калі ***не*** з назоўнікамі, прыметнікамі і дзеясловамі пішацца разам і асобна.

**550.** Прачытайце верш. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Растлумачце правапіс ***не*** са словамі.

## Прывітальнае

Спявайце, юныя паэты!
Спяліце ў бурах пачуцця
Неўтаймаваны боль планеты,
Непераможны крык жыцця!
Магчыма, вам якраз і здзейсніць
Дзядоў вялікіх запавет:
Узняцца так на кryллях песні,
Каб чуў і бачыў цэлы свет!
Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець —
Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў — не анямець!

*Н. Гілевіч*

**551.** Прачытайце.

Псуюць мову даслоўныя пераклады і так званыя канцылярызмы, калі і само слова і канструкцыя сказа неўласцівыя беларускай мове.

Вось некалькі прыкладаў:

«Ён перажываў, таму што сярод партызан доўга яму не было даверу. Яго правяралі доўга, ужывалі для гэтага розныя метады».

«Многія з іх трымаюць намер паступіць у школу».

«Жанчына павярнула на сцежку, відаць, мела намер прайсці нацянькі».

«Знаёмцеся, наш сын, — прадставіў яго Сцяпан Раманавіч».

«Калі немцам удасца хоць трошкі наблізіцца, адыход Мікалая стане зусім немагчымым».

«Ён страціў зрок у выніку захворвання два гады назад. Як толькі палепшыўся стан здароўя, ён пайшоў на работу».

⊙ А як бы вы напісалі гэтыя сказы?

**552.** Разгледзьце табліцу. На яе аснове раскажыце пра іншыя часціны мовы, якія вы вывучалі ў VI класе.

| Часціна мовы | Агульнае значэнне, пытанне | Марфалагічныя прыметы | | Сінтаксічныя прыметы | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | пастаянныя | непастаянныя | роля ў сказе | роля ў словазлучэнні |
| Назоўнік | абазначае прадмет х т о? ш т о? | род, скланенне | лік, склон | дзейнік, азначэнне, акалічнасць, дапаўненне, зваротак | «прым. +наз.», «дзеясл. + наз.» |

**553.** Спішыце, дапісваючы канчаткі назоўнікаў, ставячы прапушчаныя коскі.

## Полацк

Старажытныя кнігі (летапісы) няшмат захавалі звестак пра Полацк. І ўсё ж мы ведаем пра першага полацкага князя Рагвалода і яго дачку Рагнеду. А сыны і ўнукі Рагнеды сталі пачынальнікамі многіх славутых княжацкіх родаў, якія правілі пазней і ў Полацк.. і ў Ноўгарадз.. і ў Кіев.. .

Свайго найбольшага росквіт.. горад дасягнуў у XI стагоддзі пры княз.. Усяслав.. . Яго празвалі ў народз.. Чарадзеем. Гэта Усяслаў Чарадзей збудаваў у Полацк.. вялікую царкву — Сафію. Такія цэрквы існавалі толькі ў Канстанцінопал.. Кіев.. Ноўгарадз.. . А гэта азначала, што Полацк ставіўся з імі побач, як роўны. Пры Усяслав.. быў збудаваны княжацкі замак — Вышні. Яго абнеслі магутнымі драўлянымі сценамі глыбокім ровам. Тут знаходзіўся церам самога княз.. сядзібы ягоных ваяроў заможных гандляроў рамеснікаў. Слава аб Полацк.. разнеслася па ўсім свец.. . Рэдка хто адважваўся ў той час пайсці на яго вайною з ім шукалі згоды і мір.. *(С. Тарасаў).*

**554.** Прачытайце. Вызначце разрад лічэбнікаў. Выпішыце з тэксту словазлучэнні «наз. + ліч.».

У 1440 годзе немец Ёган Гутэнберг вынайшаў друкарскі станок. Кнігадрукаванне хутка распаўсюдзілася ў Еўропе, і ўжо ў 1517 годзе беларускі першадрукар і асветнік Францыск Скарына выпусціў у Празе першую друкаваную кнігу ўсходніх славян — «Псалтыр». Потым ім былі надрукаваны яшчэ 22 кнігі, а ў пачатку 20-х гадоў у Вільні Францыск Скарына адкрыў першую на тэрыторыі ўсходніх славян друкарню.

Справу вялікага Скарыны працягвалі Пётр Мсціславец і Сымон Будны.

## ВІКТАРЫНА

1. Як вы дапасуеце назоўнікі *суткі, дзверы* да лічэбнікаў 22, 23, 24?

2. Усе вы ведаеце байку Крылова «Квартэт». Як бы называлася байка, калі б музыкаў у ёй было 3? 5? 6?

3. Мы гаворым *абодва хлопчыкі, абодвух хлопчыкаў, абедзве дзяўчынкі, абедзвюх дзяўчынак.* А чаму нельга сказаць: *абодвух нажніц* ці *абедзвюх нажніц*?

4. Запішыце лічэбнікі, якія ў творным склоне маюць чатыры *ц*.

5. Ці можна так сказаць: *Апошняя палавіна ліпеня была дажджлівая*?

6. Як напісаць: *па сямі, па пятнаццаці старонак* ці *па сем, па пятнаццаць старонак*?

**555.** Прачытайце. На якія дзве часткі падзяляецца тэкст? Пра што гаворыцца ў кожнай з іх? Спішыце, раскрываючы дужкі, ставячы прапушчаныя знакі прыпынку. У складаных сказах падкрэсліце граматычныя асновы. Растлумачце правапіс складаных прыметнікаў. Якая іх роля ў тэксце?

З гасцініцы запаведніка добра праглядваюцца лясныя астраўкі сярод балот. Бліжэйшыя — цёмна*(?)*зялёныя далейшыя — блакітна*(?)*сінія. Яны зусім зліваюцца з га-

рызонтам. Калі на балота апускаецца туман, з белай заслоны тырчаць в..рхавіны лясістых узгоркаў.

Бярэзінскія балоты гэта в..лізарныя плошчы журавві*(н/нн)*іку магутныя запасы прэснай вады. На белаватых або бледна*(?)*зялёных мохавых падушках ляжаць тонкія плеці з крывава*(?)*чырвонымі плямамі ягад. А калі выпадзе ўра*(ж/дж)*айны год, усё балота **чырванее** ад іх.

Да якой часціны мовы належыць выдзеленае слова? Абгрунтуйце сваю думку.

**556.** Прачытайце тэкст. Вызначце час дзеясловаў. Якую ролю ў апісанні вясны выконваюць дзеясловы прошлага і будучага часу? Спішыце тэкст, ставячы прапушчаныя знакі прыпынку.

Варушыць пальцамі сухімі сад мокраю карою дыхціць*. Падсыхае тужэе зямля. Пад узгоркамі ніжэй апала рэчка высокімі пасталі берагі. Плешчацца па краях вада жвірынкі маленькія вылівае гладзіць прыхарошвае пясок. Смешныя далікатныя павыскоквалі зялёныя парасткі. Забыліся некалі ў рэчку сплысці — асталіся на поплаве лужынкі. Галоўкі жоўтыя зараз там парашчэпвае лопух. З вербаў паздзімае вецер каткі. Вокам сплюшчаным задрэмле рэчка, перакінуўшы ў дне кавалак неба.

Свежы густы шугае вецер.

Мкнуцца за лес валакном лёгкія хмаркі.

Сопкая пахне зямля.

Вясна *(Я. Сіпакоў)*.

У апошніх чатырох сказах назавіце словы, ужытыя ў пераносным значэнні. Скажыце, чаму менавіта гэтыя словы выкарыстаў пісьменнік. Прамы ці адваротны парадак слоў у сказах? Якую стылістычную прымету тэксту ён узмацняе?

**557.** Прачытайце. Пра якое слова гаворыцца ў вершы? Вызначце асноўную думку.

Якую ролю ў раскрыцці асноўнай думкі адыгрываюць прыметнікі?

Да якіх разрадаў яны належаць?
З якой мэтай выкарыстаны параўнанні?

Адкрываю,
як свет,
нанова
беларускае
роднае слова,
пералівістае —
як каменьчык,
вясёлкавае —
як ручэй,
цёплае — як агеньчык
добрых тваіх вачэй,
светлае —
як маланка,
гнеўнае —
як пярун,
ціхае —
як калыханка,
вечнае —
як Беларусь.

*А. Канапелька*

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чаму словы *цёмна-русы* і *цёмна-каштанавы* пішуцца праз дэфіс, а *цёмнавалосы* разам?
2. Якое слова «выпадае» з дадзенага рада: *жоўты, жаўтаваты, залаты, залацісты*?
3. Якой часткай слова выражана значэнне прыметы ў словах *сінька, сінява, сінь, сінець*? Чаму гэтыя словы не з'яўляюцца прыметнікамі, калі іх карані маюць значэнне прыметы?
4. Словы *розум, лянота, талент, воля* абазначаюць уласцівасць характару. Чаму іх адносяць не да прыметнікаў, а да назоўнікаў?
5. Як вы дапасуеце назоўнікі *суткі, дзверы* да лічэбнікаў 22, 23, 24?
6. Ці можна так сказаць: *Апошняя палавіна ліпеня была дажджлівая*?
7. Як напісаць: *па сямі, па пятнаццаці старонак* ці *па сем, па пятнаццаць старонак*?

**Абе́чак,** -чка, *м.* Абадок.

**Абло́жны,** -ая, -ае. Які пакрывае ўсё неба.

**Адмысло́вы,** -ая, -ае. Адметны, выдатны, цудоўны.

**Азяро́д,** -а, *м.* Прыстасаванне з жэрдак на слупах для дасушвання збажыны, канюшыны і пад.

**Аксамі́тны,** -ая, -ае. Шаўкавісты.

**Апрышча́ць,** -аю. Пакрываць прышчамі.

**Асво́йтацца,** -аюся. Прывыкнуць да чаго-небудзь.

**Асо́т,** -у, *м.* Калючая расліна, пустазелле.

**Буршты́навы,** -ая, -ае. Колерам падобны да бурштыну.

**Вапнава́ць,** -ную. Уносіць у глебу вапну.

**Варшта́т,** -а, *м.* 1. Спецыяльна абсталяваны стол для ручной сталярнай, слясарнай і іншай работы. 2. Стан для красён.

**Верашча́ка,** -і, *ж.* Рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі прыправамі.

**Ве́снічкі,** -чак. Вузкія дзверцы ў плоце; варотцы.

**Ві́льчык,** -а, *м.* Верхні стык двух бакоў страхі; канёк.

**Вы́брукаваць,** -ую. Укласці каменнем (вуліцы, плошчы).

**Вэ́люм,** -у, *м.* Кавалак тонкай празрыстай тканіны, прымацаванай да вянка або жаночага капелюша.

**Вяндлі́на,** -ы, *ж.* Вэнджанае прасоленае мяса, сала.

**Гарэ́за,** -ы, *аг.* Весялун, непаседа.

**Глушэ́ц,** -шца, *м.* Вялікая лясная птушка.

**Го́ні,** -ей. *Уст.* Ніва, зямля.

**Го́нта,** -ы, *ж.* Дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак.

**Дайні́ца,** -ы, *ж.* Пасудзіна, у якую дояць малако.

**Дба́нне,** -я, *н.* Старанне, руплівасць.

**Драбі́нка,** -і, *ж.* Драўляная прыстаўная лесвічка.

**Дра́нка,** -і, *ж.* Тонкая драўляная дошчачка для крыцця даху або для абівання сцен пад тынкоўку.

**Дрыгвяні́сты,** -ая, -ае. Топкі.

**Дыза́йнер,** -а, *м.* Мастак, спецыяліст па канструяванні прадметаў, машын, інтэр’ераў.

**Дыхце́ць,** -ціць. *Абл.* Павяваць, дыхаць.

**Дыяме́нт,** -у, *м.* Алмаз, брыльянт.

**Дэкараты́ўны,** -ая, -ае. Які служыць для ўпрыгожвання.

**Дэмагра́фія,** -і, *ж.* Навука, якая даследуе склад, колькасць, змяненне насельніцтва.

**Дэ́раш,** -а, *м.* Конь шэрай масці з прымессю іншага колеру.

**Ёўня,** -і, *ж.* Прыбудоўка да тока, у якой сушаць снапы.

**Жвіры́нка,** -і, *ж.* Жоўтая пясчынка.

**Жы́жаль,** -я, *м.* У беларускай міфалогіі Бог агню.

**Заго́н,** -а і -у, *м.* 1. Паласа, участак ворнай зямлі, поля. 2. Агароджанае пад адкрытым небам месца для жывёлы.

**Зажу́раны,** -ая, -ае. Засмучаны, маркотны.

**Зёлка,** -і, *ж.* Лекавая расліна.

**Зрэ́бны,** -ая, -ае. Зроблены з грубага палатна.

**Зы́ркі,** -ая, -ае. Яркі, асляпляльны.

**Зэ́длік,** -а, *м.* Невялікая лаўка на ножках.

**Каланча́,** -ы, *ж. Уст.* Дазорная вышка пажарнай часці.

**Калаўро́т,** -а, *м.* Прыстасаванне для падымання грузаў: вал з ручкай, на які намотваецца трос, ланцуг.

**Калча́н,** -а, *м. Уст.* Скураная сумка, чахол для стрэл.

**Канюшы́нішча,** -а, *н.* Поле, з якога сабралі канюшыну.

**Кара́лі,** -яў, *адз.* караля, *ж.* Пацеркі з каралавага або іншага каштоўнага камяня.

**Касніч́о́к,** -чка, *м.* Вузкая палоска; істужка.

**Кафля́нка,** -і, *ж.* Печ, абліцаваная кафлямі.

**Кро́сны,** кросен. Ручны ткацкі станок.

**Крысо́,** -а, *н.* Ніжняя частка адзежыны, палавіны якой спераду расхінаюцца; пала.

**Кужаль,** -ю, *м.* Палатно з нітак ачэсанага лёну.

**Куко́ль**[1], -ю, *м.* Аднагадовая травяністая расліна; пустазелле, якое расце сярод злакаў.

**Куко́ль**[2], -я, *м.* Манаскі галаўны ўбор у выглядзе капюшона.

**Курасле́п,** -у, *м.* Травяністая расліна з жоўтымі кветкамі.

**Куцця́,** -і, *ж.* 1. Урачыстая вячэра напярэдадні Каляд. 2. Каша з ячных або іншых круп як традыцыйная абрадавая яда.

**Лама́чынка,** -і, *ж.* Абламаная сухая галінка дрэва, што валяецца ў лесе.

**Лексіко́граф,** -а, *м.* Той, хто складае слоўнікі.

**Лібрэ́та,** нескл., *н.* Слоўны тэкст вялікага музычна-вакальнага твора (оперы, аперэты і пад.).

**Ліло́вы,** -ая, -ае. Колеру бэзу ці фіялкі; фіялетавы.

**Маку́лінка,** -і, *ж.* Крупінка, драбніца.

**Ма́рыва,** -а, *н.* Слой цёплага паветра каля паверхні зямлі, які трымціць у гарачае надвор'е.

**Мі́сія,** -і, *ж.* 1. Адказная роля, высокае прызначэнне каго-небудзь. 2. Заданне, даручэнне.

**Му́ляр,** -а, *м.* Рабочы, які будуе што-небудзь з каменя або цэглы.

**Набрыня́ць,** -яе. Павялічыцца ў аб'ёме ад вільгаці.

**Назаля́ць,** -яю. Часта дакучаць каму-небудзь.

**Неспадзе́ўкі,** *прысл.* Нечакана; раптоўна.

**Палаве́нь,** тое, што і паводка.

**Палю́ддзе,** -я, *н.* Збор даніны.

**Пантэо́н,** -а, *м.* Старажытны грэчаскі або рымскі храм, прысвечаны многім багам. Спецыяльнае архітэктурнае збудаванне для пахавання выдатных дзеячаў.

**Пастару́нак,** -нка, *м.* Мясцовае аддзяленне паліцыі ў Заходняй Беларусі да 1939 года.

**Пахо́дня,** -і, *ж.* Пераносная свяцільня ў выглядзе ліхтара на доўгай палцы або наматанага на канец палкі прасмаленага пакулля; факел.

**Пацвялі́цца,** -цвялюся. Падражніцца, пажартаваць.

**По́сцілка,** -і, *ж.* Лёгкая саматканая коўдра або прасціна.

**Прыпо́лік,** -у, *м.* Ніжні пярэдні край сукенкі, кашулі і пад.

**Пу́ня,** -і, *ж.* Вялікая халодная будыніна для захоўвання сена, адрына.

**Пустадо́мак,** -нка, *м. Разм.* Чалавек, які не мае гаспадаркі; дрэнны, нядбайны гаспадар.

**Пухна́ты,** -ая, -ае. Пушысты, мяккі.

**Разгаве́цца,** -еюся. Пасля посту паесці смачнай малочнай і мясной ежы.

**Ралля́,** -і, *ж.* Узаранае поле, узараная глеба.

**Рахма́ны,** -ая, -ае. Ручны, свойскі; які не баіцца чалавека.

**Ро́шчына,** -ы, *ж.* Негустое цеста на дражджах, якое замешваюць.

**Рэ́чыва,** -а, *н.* Тое, з чаго складаецца фізічнае цела.

**Самацве́ты,** -у, *м.* Каштоўныя мінералы з бляскам, з прыгожай прыроднай афарбоўкай.

**Семіна́рыя,** -і, *ж.* Назва некаторых спецыяльнах сярэдніх навучальных устаноў.

**Скна́ра,** -ы, *аг.* Вельмі скупы чалавек.

**Слата́,** -ы, *ж.* Сырое надвор'е з дажджом і мокрым снегам.

**Смуга́,** -і, *ж.* Дымка, туман.

**Со́ла,** нескл., *н.* Музычны твор або асобная партыя, прызначаная для выканання адным музыкантам, спеваком або танцорам.

**Спакваля́,** *прысл.* Павольна, паступова.

**Суверэ́нны,** -ая, -ае. 1. Які валодае суверынітэтам. 2. Які ажыццяўляе вярхоўную ўладу.

**Су́пкі,** -ая, -ае. Які лёгка разварваецца; рассыпісты.

**Сці́рта,** -ы, *ж.* Вялікі і высокі стог прадаўгаватай формы.

**Сядзі́ба,** -ы, *ж.* Жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам і агародам.

**Сяўня́,** -і, *ж.* Кораб з кары ліпы, вязу для ручной сяўбы.

**Тастаме́нт,** -а, *м.* Завяшчанне.

**Тэмбр,** -а, *м.* Афарбоўка гучання інструмента ці голасу, якая дазваляе адрозніваць гукі аднолькавай вышыні пры выкананні на розных інструментах ці рознымі галасамі.

**Фенамена́льны,** -ая, -ае. Выключны, незвычайны; выдатны па сваіх якасцях.

**Філало́гія,** -і, *ж.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць духоўную культуру народа, выражаную ў мове і літаратурнай творчасці.

**Філатэлі́ст,** -а, *м.* Чалавек, які займаецца калекцыяніраваннем марак.

**Філія́л,** -а, *м.* Аддзяленне буйнога прадпрыемства, установы ці арганізацыі.

**Цу́бка**, *прысл.* Цвёрда, моцна.

**Цэп,** -а, *м.* Прылада ў выглядзе доўгай палкі з прымацаваным да яе драўляным бічом для малацьбы збожжа ручным спосабам.

**Штыке́ты,** -аў. Вузкія драўляныя планкі, з якіх робяць плот.

**Шы́галле,** -я, *зб.* Ігліца.

**Эспа́ндэр,** -а, *м.* Спартыўны снарад, які звычайна складаецца з дзвюх ручак, злучаных некалькімі рызінавымі шнурамі або спружынамі, для развіцця мышцаў рук, грудзей і спіны.

**Э́тыка,** -і, *ж.* Сукупнасць нормаў паводзін, мараль.

**Ядло́вец,** -у, *м.* Хваёвы куст.

**Я́драны,** -ая, -ае. Буйны і спелы.

**Ягры́цца,** -уся. Вылучацца выразначцю фарбаў.

# ЗМЕСТ

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА



## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў V КЛАСЕ



## МАРФАЛОГІЯ І АРФАГРАФІЯ



## НАЗОЎНІК

## ПРЫМЕТНІК



## ЛІЧЭБНІК

## ЗАЙМЕННІК



## ДЗЕЯСЛОЎ

